*“... бо яна наступіла нагамі сваімі на змяіную галаву*
*гэтага злога раба і працістаяла дзёрзкасці яго акаяннай...”*

**Аповесць жыцця і смерці святой і блажэннай і найпадобнейшай Еўфрасінні, ігуменні манастыра Святога Спаса і Найсвяцейшай Ягонай Маці, што ў горадзе Полацку. Благаславі, Ойча!**

# Кніга першая

# Крыж Ігуменні

## Ад аўтара

Распачаць стварэнне рамана-жыцця, прысвечанага не проста незвычайнай жанчыне свету, а святой Апякунцы цэлага народа, падзвігла мяне, думаецца, найперш шматгадовая праца ў Міжнародным жаночым фондзе святой Еўфрасінні Полацкай. Аднак узяцца за пісьменніцкае пяро насмелілася я толькі пасля неардынарнай падзеі - начнога аб'яўлення мне самой Еўфрасінні. Прыбачыўся якраз той момант, калі найпадобнейшая ігумення з Полацка разам з іншымі паломнікамі праходзіла праз пяскі грознай Іудзейскай пустыні, пэўна, кіруючыся ў горад свае запаветнае мроі — Ерусалім. У тую ж незабыўную ноч былі напісаны і першыя часткі рамана, што далі штуршок роздумам пра агульны змест і развіццё характару галоўнай гераіні. Затым пачаліся няўтомныя пошукі факталагічнага матэрыялу, што ўключылі і летапісныя звесткі, і зборы «Живописной России», гістарычныя фаліянты М. Карамзіна, даследаванні М. Мікалаева, вядомыя царкоўныя жыція ігуменні, кнігі тыпу «Очерки по истории русской святости» (1991), «Палестина и места, освященные учением и страданиями Апостолов...» (1838), працы А. Мельнікава, Г. Запартыкі, У. Арлова, іншых даследчыкаў, шматтомныя даведнікі і энцыклапедыі. Пры гэтым на першым месцы, вядома, адзначу важнасць

пастаяннага чытання Новага Запавету і Псалтыра. Асабліва важныя звесткі прыйшлі да мяне таксама пры знаёмстве з працамі не толькі такіх вядомых нашаму сучасніку святароў, як Аляксандр Мень, але таксама філосафаў і выбітных тэолагаў XII стагоддзя, з якімі знаёмілася я падчас наведвання бібліятэкі Свята-Петрапаўлаўскага сабора Мінска. У гэтай сувязі хачу выказаць асаблівую падзяку за дзейсную падтрымку настаяцелю гэтага сабора Георгію Латушку.

Разумею — сама святасць назаўжды застанецца таямніцай — неспасцігальнай таямніцай Бога і чалавечай душы, якую можна прыняць верай, але немагчыма адлюстраваць мастацкімі сродкамі... Менавіта пра гэта гаварылася падчас нашай сустрэчы са святаром Свята-Петрапаўлаўскага сабора Мінска, іерэем Юрыем Залогам. Аднак мяне як аўтара цешыць наступнае меркаванне святара, выказанае ім пасля прачытання рукапісу рамана-жыція «Пакліканыя»: «...узяты чыста ў мастацкім плане, раман, як падаецца, схоплівае істотную праўду ў гісторыі святасці, а менавіта «супрацiўленне матэрыялу» чалавечага, моманты барацьбы і выбару, адступніцтва і навяртання...» Навяртання да веры.

## *ЗАМЕСТ УСТУПУ*

*Расхістаная камяністаю дарогаю павозка з паломнікамі паволі праязджала праз мігатлівае святло іх першага вечара на Святой Зямлі. І раптам вечаровы прасцяг расцяў глухі ўскрык:*

*– Лепей бы мне тое куфі атрутнае выпіць!*

*Малады кніжнік, не зважаючы на ўстрывожаных спадарожнікаў, нечакана зляцеў з павозкі і пабег у бок барханаў. Пабег, нават не азіраючыся. Першым апамятаўся Асан. Саскочыўшы на дарогу, рынуўся следам і вось ужо вяртаўся, прытрымліваючы кніжніка за плечы, да Еўфрасінні.Той адразу ж упаў на калені. Усе астатнія зніякавела пасталі зводдаль.*

*– Спавядай мяне!*

*– Не маю такое…*

*– Споведзі прашу! Малю споведзі! Грэшны, грэшны, грэшны я, ігумення! І целам, і словам, і думкамі! Грэшны, грэшны! Як толькі ўбачыў яе! Як толькі пачуў яе! Яшчэ ў Царгорадзе, калі вы ўсе ў бібліятэку зайшлі…*

*– Супакойся, Коста. Гасподзь заўсёды пачуе.*

*– Цяпер хачу.*

*– І цяпер чуе, Коста. Падыміся.*

*– Ты мяне з Міхалам у Бізантыю паслала. Каб я вучыўся. А я ж… Не сказаў табе нічога тады!*

*— Цяпер скажаш, забудзі благое. Забудзі, Коста! Збяры гарошыны памяці чорнай, высып у гэты бархан, няхай зусім высахнуць.*

*– А цяпер за грахі жарсця такая. Не магу болей трываць!*

*— Моцны дух у цябе, Коста. Ведай пра гэта.*

*— Ты думаеш, у палацы імператарскім я толькі кніжкі чытаў?!*

*– Чытай Евангелле, Коста. Не распінай сэрца сваё на вятры-сухавеі. У душы праўды пытай. Усе мы, людзі, грахамі спакушаныя. Кожны па-свойму. І пра ўсё гэта, Коста, у Запаветах Божых згадана.*

*Зараз павернем за камяні, і жарсця твая з сэрца паплыве, як дым.*

*– У галаве маёй цёмны дым, ігумення.*

*– Вазьмі шчыт веры, захіліся і патушы ім распаленыя стрэлы.( Прыпаў да яе сухарлявай рукі, адчуўшы саланаваты след слязы):*

*– У роце ў мяне ад пажады горка. Плячом яе крануся, а ўсё цела гарыць. Жаданая такая яна.*

*– Сказана: “Любоў не бушуе, не шукае свайго, не раздражняецца, не замышляе ліха... Цешыцца з ісціны. Усё пакрывае, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё пераносіць.”*

*— Лепей бы мне таго куфі выпіць!*

*– Любоў ніколі не мінаецца, Коста.*

*— Не вытрымаю, ігуменння. Я азіраўся і бачыў толькі пустэльню. Калі змеціў у яе вачах чужасць, так спалохаўся, пачуўся такім парожнім, як сярод поля, дзе няма ні лекара, ні мечніка, каб спынілі пакуты. Усё, што было да вашага прыходу ў бібліятэку, рассеялася, як чад. Адным яе позіркам.*

*– Сядай побач з Асанам, Коста. Да споведзі – ужо ў Ерузаліме.*

*— І не стала ні другаў для мяне, ні настаўнікаў, ні сваякоў. Адна толькі яна, гаспадыня, была. І я толькі адзін застаўся, слуга сярод слуг.*

*– Паперадзе сядай, Коста. Там і чытаць зможаш.*

*– Змагу. Там чытаць, і праўда, можна.*

*– І памятай: самы большы грэх – жадаць гвалтоўнай смерці.*

*... Які рэзкі ён, сухавей пустыні. У недасяжнай вышыні ўсё яшчэ кружыў птах, быццам падвязаны да паднеб’я пурпуровым вісонным шнурочкам. Наперадзе быў новы паварот за скалы, і позірк адразу ж выхапіў з жоўтага марыва велічны будынак. У тую ж хвіліну ўсе на павозцы, якую няшчадна трэсла на камяністай дарозе, быццам ачомаліся. Усміхнуўся, павярнуўшыся да падарожнікаў, і возны Асан. Але прамаўчаў, ведаючы, што да блізкага, як усім здавалася, манастыра, яшчэ далекавата. Праз колькі часу зноў прыпыніліся і светлатварая красуня, саскочыўшы, шчыльней падвязала свой важкі хітон, пачакала блізу павозкі. Кідала спацярожлівыя позіркі на ігуменню; тая таксама сыходзіла на зямлю, пацягнуўшы за сабою астатніх. Нарэшце ўвесь ланцужок паломнікаў з Полацка заспяшаўся ўздоўж дарогі і ліпкі пясок барханаў, асеўшы на доўгія полы хламід, зашаргацеў, зашахаў пры хадзе ( ... ш-ша ш-шах! Ш-шах! Ш-шах!) А ігуменння ўжо ўзіралася ў глыбіню галілейскага ечара, быццам імкнулася разгледзець у яго сяйве запаветнае. Успомніць і разгадаць блізкае і далёкае.*

*Прыспешвала хаду...*

## З гісторыі біярмійскага скарбу

Прыбярэжнае марыва туману блізу паўночнай дзяржавы Біярміі, адкуль у сівую непрагляднасць вечара ўжо даляталі гарлавыя крыкі боцмана і рыпенне уключын сціху выпускала вялікія караблі нарвежскіх купцоў. Але вось, патрапіўшы ў паласу нечакана яркага месяцовага промня, агромністыя марскія пасудзіны застылі 'і адразу ж, наўздзіў лёгка разагнаўшы апошнія тумановыя пасмы, над узбярэжжам Гольмгарда ўспыхнула зыркасць. Ад караблёў, імкліва слізгаючы па марской слюдзе, тут жа аддзяліліся вялікія, асветленыя водбліскамі маяка і ліхтароў ладдзі. Нарэшце шумная грамада прыбылых гасцей, мінуўшы гольмгардскі цвінтар і загадзя распытаўшы мясцовую варту, дзе можна выпіць добрага віна і падсілкавацца, заспяшалася праз устрывожанае места.

Дзверы самай вялікай таверны ў Гольмгардзе шырока расчыніліся, і ў бляклы помарак піўніцы шумным збоем увайшліся познія наведнікі - вікінгі, гандляры, маракі. Уварваліся разам з імі і згукі халоднага мора - на плашчах яшчэ паблісквалі кроплі, з капелюшоў сцякалі струменьчыкі ледзяной вады.

А вікінгі, сядаючы за шырокі, застаўлены талерамі з ежай стол пасярод таверны, адразу ж запатрабавалі пітва і з віннымі жбанамі ў руках адразу ж забегалі падавальнікі.

Гучныя выкрыкі гаманлівых гасцей, сярод якіх, у акружэнні мясцовых прыгажуняў, высіліся праслаўшы Карл і Торэр, перакрывалі нават дружны стук драўляных келіхаў аб сталешніцу. Вясёлыя і схмялелыя: «Няхай доўжацца леты караля нашага Олафа! Налівай усім, гаспадар...» Госці нават не падазравалі, што некаторыя з мясцовых жыхароў, разам з кметамі маладога запалоцкага князя Барыслава, што прыбылі сюды колькі дзён таму, адразу пераапрануліся ў загадзя прыпасеныя плашчы вікінгаў. Паімчалі на конях у супрацьлеглы ад таверны бок і праз нейкі час ужо прыпыніліся перад варотамі старога біярмійскага цвінтара, які цяпер ніхто не вартаваў. Увесь Гольмгард гарланіў песні ў сваёй вялікай, прасмуроджанай віном і смажанай рыбай таверне.

...Кінуўшы на шырокія цвінтарныя вароты за Гольмгардам цэлую жменю халоднага бляску, поўня прымарудзіла рух. Вастрыё жоўтага промня высвеціла ўпрыгожаную істужкамі, рыбнымі чучаламі і звярынымі хвастамі фігуру ідала Ёмелы, павярнулася блішчастым люстэркам да хаўрусні рабаўнікоў. Праз рэдкія зубы драўлянага боства на гэтым біярмійскім цвінтары ў святле паходняў зіхацелі каштоўныя камяні, залатыя і сярэбраныя манеты, жаночыя бранзалеты — усё,

што было ахвяравана ў скарбонку горада падчас усяго летняга гандлю. Зграя рабаўнікоў, упэўненая ў тым, што баяцца няма каго, нават не азіралася. У таверне цяпер шумелі не толькі прыезджыя купцы... Адно ваяўнічыя памагатыя купца-жмудзіна Кірыка, што спыніліся ў Гольмгардзе па дарозе ў Полацак з Эльблонга, наводзіліся нязвыкла: толькі выпіўшы віна і сціху перамовіўшыся са старым уладальнікам таверны, таксама заспяшаліся ў бок цвінтарных варотаў, за якімі і дапраўды было наўздзіў ажыўлена і людна. Некалькі смялейшых і сквапных рабаўнікоў, прыхапіўшы з сабою рыдлёўкі, даўно прыступілі да работа. Паўсюль зеўралі чорныя ямкі раскапаных магіл, з якіх рабаўнікі, не баючыся граху, выграбалі ўсё дараванае нябожчыкам пры пахаванні.

У руках многіх рабаўнікоў бліскалі доўгія баявыя цапы, у тым дзікунскім гоне за здабычай, падступіўшыся да Ёмелы, людзі, здавалася, захмялелі, і малады важак, злосна бліснуўшы вялікімі чорнымі вачмі, шырокім узмахам мяча нарэшце адцяў гольмгардскаму боству галаву, тая, грымнуўшыся аб зямлю, разбілася напал. Астуджваючы хаўруснікаў грознымі вокрыкамі, важак тым часам порстка зграбаў у скураную суму біярмійскія скарбы. Кінуўся, не чакаючы падмогі, да цвінтарнага склепа, адкуль ужо выбягалі, таксама наладаваўшы торбы, іншыя. У руках аднаго з рабаўнікоў ажно свяціліся вялізныя бурштынавыя каралі, што ў месячным святле нагадвалі залацістую змяю. Рэзкі гарлавы ўскрык — і дзівосныя каралі таксама апынуліся ў сумцы важака.

...Спяшаюцца, прыслухоўваючыся да валтузні на цвінтары, спадарожнікі Кірыкея. Грозна падняўшы жалезныя цапы, лоб у лоб нарэшце сутыкаюцца з рабаўнікамі і ўжо не саступаюць. Не адступае, падняўшы супроць суайчыннікаў бердышы, і разгарачаная хаўрусня. ...Бліскаюць, пазвоньваючы, цапы, чуюцца стогны. Самы дужы з гурту, жмудзінскі купец Кірыкей, нарэшце сыходзіцца ў бойцы з важаком рабаўнікоў і, неўспадзеў убачыўшы на грудзях у таго вялікую пячатку, здзіўлена ўскрыквае:

— Ці не князь запалоцкі?

Не адказвае маладзей, а, скарыстаўшы замінку, подла б'е мячом нечаканага цвінтарнага заступніка. Бліскавічна адхітнуўшыся, той, аднак, тут жа злосна вырывае з рук супраціўніка адну з кайстраў, паверсе якой жаўцеюць бурштынавыя каралі.

— Дзякуй скажы, што пячатку ўбачыў... Іначай...

Храпуць коні. Імчыць ад горада, высока падымаючы паходні, схмялелая гольмгардская варта. Прыспешвае, вінаватая ў залішняй даверлівасці, коней. Але важак рабаўнікоў, змеціўшы варту і ў

апошнім рыўку адкінуўшы ад сябе настырнага жмудзіна, не чакае. Не чакае і Кірыкей. Затуліўшы чорнай хламідай торбу з таямнічымі каралямі, знікае ў поўначы. А гольмгардская варта, адно зірнуўшы на абезгалоўленага Ёмелу і абрабаваны прыстанак нябожчыкаў, імгненна паварочвае коней і, на чале са сваім дзесяцкім, імчыцца ў пагоню за ўцекачамі. Але тых даўно агарнула густая ноч.

Носіцца варта, крычыць, б'е капытамі ўзбярэжжа, на якое з нізкага неба пачынае цадзіцца няўцешная раніца. Нарэшце ўрываецца ў таверну, дзе спяць схмялелыя, ні ў чым не вінаватыя купцы.

— Смерць купцам!

— Смерць нарвегам!

Адбіваючы першае сонечнае праменне, у руках гольмгардскіх катаў грозна блішчаць доўгія мечы. Сплываюць струмені крыві з наспех збудаваных памостаў, звалакаюць бясцямных пасля бяссоннай ночы гасцей. І вось ужо, як толькі прачытана зычным голасам судовая абвестка, коцяцца пад ухвальныя крыкі гольмгардскага галавасека, ці не пад ногі раз'ятраных месцічау, скрываўленыя галавы купцоў. Толькі стараста горада, падняўшы позірк, нечакана змеціў караблі з напятымі паветрам ветразямі. Закрычаў загады, паказваючы рукою у той бок.

...Зноў заспяшалася, паімчала да берага варта; пачалі таропка адплываць ад прыстані баявыя ладдзі, даганяючы ўцекачоў. Аднак купецкія караблі, знікаючы у марской смузе, былі ўжо недасягальнымі.

След біярмійскіх скарбаў стапнеў у халоднай сівой далечы.

* * *

...Запалоцкая сядзіба княжага палаца, якая па ўсім прасцягу даволі вялікай забалаці была акружана пушчанскімі лавамі, суседзіла з зялёнымі астраўкамі. Малады Запатоцкі князь Барыслаў, акружаны схмялелымі кметамі, імчаўся па лясной дарозе, нават не азіраючыся. Пры сядле ягоным блішчалі скуранымі падвязкамі кайстры з біярмійскім скарбам. Вяртаючыся ў Запалоцце з далёкай паездкі, кметы ўжо не стрымлівалі коней, і гожая маладзіца, што неўспадзеў сустрэла іх на дарозе, не чакаючы такога шалёнага гону, ледзьве паспела адступіцца ўбок Кметы, вымушаныя прыпыніцца, па знаку гаспадара апусцілі скураныя плёткі на плечы жанчыны, якая так недарэчы апынулася на гэтай сціснутай пракаветнымі дрэвамі дарозе. Тая, угнуўшы плечы, спалохана хавала ад удараў укручанае ў радно гадавалае хлапчаня. Нарэшце выпрасталася і кінула ўслед:

— Пашто сына б'еш? На сына глянь, князь!

Соцкі, павярнуўшыся, з усяе сілы сцёбнуў маладзіцу па руках, стараючыся дастаць хлапчанё, што ўжо захліпалася плачам.

— Няма сына ў князя! Няма!

...Імчыцца дружына за Барыславам. Запаўняе лясную глухату вясёлым гіканнем і крыкамі.

— Няма прыплода ніякага! Прэч, кроў чорная!

— А ў самога якая?! — Пасылае маладзіца ўслед верхаўцам грэблівы, поўны нянавісці рогат. Убачыўшы, як бліснула нешта ў гразюцы, падымае з растоўчанай дарогі металічную пячатку на ланцужку.

— Шчаслівы ты, прыплод! Гэта табе. Ад бацькі! - Злосна ўсхліпвае: — Насі!

...Прапахлая сасноваю ігліцаю раніца, у якой ужо адчувалася набліжэнне зімы, нечакана адазвалася да здарожанага верхаўца крыкам варання.

Да Полацка заставалася не меней як паўдня дарогі, і вершнік з кайстраю пры сядле ўжо нічога не чуў: пільна ўзіраючыся ў рэдкія прасветы паміж дрэвамі пушчы, спяшаўся ў бездараж па апалым лісці.

— Не адолееш! Не дагоніш мяне, іспра рагаты...

Забубнеў сам сабе пад нос пагрозы нячысціку і зноў падняў плётку. Не ўбачыў, як наперадзе мільганула бабаўнянай накідкай маладзіца з дзіцем на руках:

— Няма малака ў мяне! Вялікі ты ўжо.

...Спяшаецца верхавец па ледзь бачнай сцяжыне якраз туды, дзе ў сарцавіне густога лесу, блізу хаўтурнай яміны-камы з гаручымі смалякамі, затаіўся абшыты сасновымі голлямі будан. Падганяе каня, не змеціўшы, што каля будана ўжо спынілася здарожаная маладзіца з сынам на руках. Старожка вызіраючы з-за дрэў, дачакалася нарэшце, як з будана выйшаў яшчэ малады доўгавалосы вяшчун Вікула ў воўчай накідцы. Крутнулася да ўвахода ў жытло і адразу, адно пакінуўшы дзіця за дзвярыма, быццам злілася ценем з ранішняй смугою. А вяшчун, праз хвілю выносячы з бліжэйшага хлеўчука, адкуль неслася казінае мэканне, глечык з малаком, ужо вярнуўся ў сваё спрэс завешанае падсохлымі зёлкамі пушчанскае прыстанішча. Наліўшы малака ў драўляную місу, прысеў на ўсланы мядзведжаю шкураю тапчан, паставіў місу на зямлю каля каменнага, з выраўненым верхам стала; да сябе падсунуў талеру з праснакамі і дзічынай, падняў гляк з пітвом.

— І нічога я ім не раблю — Звяртаючыся да ўяўнага субяседніка, нават уздыхнуў: - Я песні спяваю, я з небам і зямлёю, з дрэвамі і

птушкамі гаманю... Чым перашкаджаю ім? - Здаецца, перамаўляўся ўжо з тоўстымі вужакамі, што, выпаўзаючы з кутоў будана, звыкла апусцілі галовы ў місу з малаком.— Ударыць яшчэ. Ударыць іх Пярун. А вы ўсё не спіце? Пара! - Толькі цяпер і ўбачыў, здаецца,
голае хлапчанё ў пісягах ад бізуна.

— Падкіданец, бач! Гэта ж трэба на зіму такое... — Здзівіўся яшчэ болей, убачыўшы, што малы, падпаўзаючы да місы з малаком, ручанятамі адпіхаў убок вужакаў.

— Валодшам будзеш, калі такі. Вешчуном зраблю.

Засмяяўся: малы, нахіліўшы галаву, неяк па-кацячы хлябтаў з місы малако.

— Не пракармлю такога ненаежнага.

Ужо масціў спінку дзіцёнка травяным золівам, але той, не зважаючы на боль, нават не румзаў.

— Будуць грошы, будзе і хлеб, падкіданец. Не будзе - не бойся. На смерць галодную не пакіну. Калі такі цярплівы, сам заб'ю.

Зняўшы з грудзей малога пячатку на вяровачцы, падняў яе ўверх.

— Бач ты! - Здзіўлены, зноў павесіў яе на ранейшае месца - Барыславаў!

* * *

...Наўздзіў нечаканая бойка - ці ад нейкага неасцярожнага слова, ці ад аднае толькі ўспышкі ў каме - усчалася якраз недалёка ад гэтай хаўтурнай яміны. І гэтак жа імгненна, ледзьве не зваліўшыся ў вогненную прорву, абодва, і верхавец у пацёртай манаскай апратцы, і вяшчун Вікула, апамяталіся і астылі.

— Табе чаго, купец? - недаверліва зіркаючы на нязванага госця, Вікула ўжо
міралюбна прыпальваў таму вугельчыкамі раны.

— Чаго?.. Заблудзіўся. Гляджу — не пазнаю. Старых дарог ані знаку.

— Паспяшаеш ты надта, купец. Перуна не баішся. Нешта важнае вязеш?

— А табе што? Наказаў князь Чарадзеюшка: што, Кірыкей, у дарозе здабудзеш, палову — Полацку!

— Няма ўжо Чарадзея, князя твайго любімага. Захварэў раптоўна.

— А я ж яшчэ ў паходзе на Новагорад сказаў... — Кірыкей адно ўздыхнуў і сумна схіліў галаву — Не бяры, княжанька Усяслаў, чужыя панікадзілы і званы! — Задумаўся. — Аднак жа Сафію ў тыя леты будавалі!

— Бачу, зусім ты белы, Кірыкей. Іншым цябе памятаю...

— І Барыслаў, маладзён запалоцкі, каля гальца круціцца?

— Шаснаццаць летаў толькі, а тры ладдзі дворных у Дзвіне ўтапіў. Уласнай воляю.

— Як жа Полацак цяпер, Вікула?

— Вазмяташася быў Давыд-князь, у хаўрусе з кіеўцамі, на Менск.

— Ніяк браты не падзеляць вотчыну!

— Толькі Глеб перамог і дружыну сваю кінуў на Друцак, Копысь, Воршу... На Слуцак нават напаў.

— Кіеўская зямля то!

— І я кажу — Кіеўская. Манамах — на Менск з дружынамі пайдзе ў адказ. Абгаліў бяшэ цэрквы вашы ўсе.

— Нахадзіўся я, Вікула. І цяжэй за ўсё бачыць, кажу, як людзі ў душу атрутных чарвей пускаюць — пыху, хцівасць, хлусню...

— А ці не сумуеш ты па бляску храмаў далёкіх, купец?

— Думаю вось, а на каго падае той бляск? Ці ж на крывавыя раны Хрыстовы? Ой-я. Не дзеля такога ішоў Уладар Нябесны на крыж свой...

— Сам пашто далёка так апынуўся?

— Князя Барыса дачку адвозіў. Звеніславу. Начамі крыкам крычала. А там лекі нейкія... Пасля пра купцоў каралеўскіх дачуўся. Падумаў, паеду, пра гандаль дамоўлюся *(уздыхнуўшы)*. Ледзь за каралі гэтыя ды золата жывот не паклаў.

— Нічога... З багаццем нашы князі добра ўпраўляюцца.

— На сэрцы нейк цяжка.

— Дамоў ідзі! Сына жонка гадуе.

— Кірыка?! — Радасна падхапіўшыся на ногі, Кірыкей ужо ледзь не танцаваў, але над буданом нечакана грозна грымнула, прымусіўшы яго зноў спалохана сесці.

— Бушуе Зюзя!

— Каторы дзень ужо! А перад тым — знаменне было... Якраз перад тваім прыходам. На маёй памяці...

— Знак, скажу!

— Можа, і знак. У князя Святаслава жонка, што з харомаў Яраслава кіеўскага ў Відбеск узята, хутка дзіця народзіць.

— Добра, што нехта родзіцца...

— Падсілкуйся хоць... Зіма з неба пазірае.

— Медавуха ёсць?

— Ёсць, калі грыўну дасі.

— Грыўну? — Госць ужо садзіўся на калодку блізу стала, з палёгкай выпрастаўшы ногі ў старых ботах — Няма грыўнаў!

— І за «няма» ёсць! Ёсць... Толькі настоеная на травах — Вяшчун разліваў пітво ў два каўшы і тут жа адступіўся.

— Якая трава, дзік лясны?! Хутка мы цябе выкурым адсюль. І з гадаўём. І з травою тваёй!

— Пі, купец.

— Схаваўся, бач! — Кірыкей насцярожана пазірае на вешчуна, і той нетароп- ка п'е з каўша.

— З-пад хвастоў конскіх гной збіраць у мяне будзеш! Іншая цяпер вера ідзе! Хрысціянская.

— Можна і да коней, купец — Валодша, сціху ўсміхнуўшыся, адно назірае, як Кірыкей таропка п'е і адразу, акругліўшы вочы, падае з пенаю на вуснах.

— А як жа гэта? — хрыпіць здзіўлена. — Яшчэ ж скарбу не завёз. Не паспеў я. *(Б'е пена з горла.)* Сыну!

— Старая ў нас вера, купец. Была і будзе. Свая... вера! — Зазірае ў кайстру — Ой-я! А гэта адкуль? - Зноў смяецца — Грыўну пашкадаваў Кірыкей, а ў самога кайстра набітая. Ой-а, людзі! За грыўну... І не думаў я труціць — З цяжкасцю здымае з нябожчыка боты і разам з пергаменам, які таксама выняў з кайстры, кідае ў кут. Нахіляецца да немаўляці.— Да гэтых траваў гадзюшных толькі адзін я даўно звык- Перасыпае ў далонях манеты і з цікавасцю ўзіраецца ў бурштынавыя каралі — А вы нядобрыя. Гожыя. Ярылавы. А крыві прагнеце — Паварочваецца да нерухомага Кірыкея — Ты не думай. Мне б толькі жменю багацця якога - Бярэ немаўля на рукі — І нічога мне, акром ветру ды сонца, не патрэбна. А вось яму хлеба — паболей. Малака — Пазірае на нябожчыка. — Палову сыну твайму, як папрасіў, занясу. Занясу, Кірыкей. Не сумнявайся. А Полацак... Ой-я! — Няўмела поіць малаком немаўля - Удачлівы ты, падкіданец. Малако пасля вужоў засталося.

Здымае з шыі малога пячатку на вяровачцы, паварочвае галаву. Прыслухоўваецца да ўжо зімовага падвывання завеі і аддаленага царкоўнага звону:

— Бач ты, звоняць. У харомах Святаслававых дзіця нараджаецца.

Адхінуўшы ўцепленыя ачаротам дзверы, вызірае ў ноч — неба зноў зацягнуў
цёмнымі хмарамі, з якіх белай завесай ужо злятаў густы снег.

— Зіма позняя... — Уздыхае.

## З гісторыі хрысціянства

...Такая шчодрая для гасцей, такая міласэрная да ўсяго народа свайго, Візантыя ў тое лета нібыта здранцвела, як ад укусу жоўтай мядзянай змяі, што нападае з расколін прыбярэжных скалаў. Аднак гэтая «змяя» — ажно дзвесце варожых караблёў - прыплыла з боку магутнага паганскага краю, што грозна раскінуўся па Дняпры і Сажы да самых варагаў.

У цэрквах пачаліся ахоўныя службы, але толькі пасля доўгае малітвы самога патрыярха Фоція, калі рызу Улахернскай Маці Божай усклалі на прыбярэжныя хвалі, мора быццам звар'яцела: за адну толькі ноч несціханы смерч патапіў большую частку абложнага флоту, і цэлыя лавы драўлян і радзімічаў, дрыгавічоў і валынцаў знайшлі свой апошні прытулак на марскім дне. А тыя, што апынуліся на беразе, устрашаныя імператарскай конніцай, былі дагнаны, як расказвалі потым бывальцы, каля балгарскае Варны — людзінаў каля васьмісот на чале з князем Вышатаю. Вернутыя палонніцам збоем у Канстанцінопаль, усе разам, і простыя ратнікі, і Князевы сыны, званыя тутархонгамі, былі тут няшчадна бітыя і ўрэшце — аслепленыя. Але тая страшная вайна русічаў з грэкамі, дзякаваць Богу, сталася апошняю. У Васпор заходзілі адно караблі гандляроў. Тады ж распачаў імператар новы хрысціянскі паход дзесяці настаўнікаў архірэя Ігнація, што павезлі ажно да крывіцкага княства вялікую сяўбу верніцтва. З-пад струн салодкагалосых баянаў узносіліся звонкія, як плёскат Дняпра і Дзвіны, былі. Спявалі сівыя старцы і пра Ізяслава Полацкага, які даў жыццё князю Брачыславу; той урэшце спамогся ўзяць пад апеку новыя гарады, успадчаныя пасля сынам ягоным Усяславам, званым у народзе Чарадзеем. Вялікі сын умацаваў полацкі сталец яшчэ болей, сведчаннем чаму стала велічная Сафія над Дзвіною.

Штораніцы гэтая гожая царква біла ў званы, пасылаючы свой голас найслаўнейшым Усяслававым нашчадкам: Барысу, Рагвалоду, Давыду, Глебу, Раману, Расціславу, Святаславу-Георгію...

Стары вяшчун Вікула помніў яшчэ і тое, як пасля смерці Чарадзея і закладання Уладзімірам Манамахам смаленскае царквы Святой Багародзіцы, а яшчэ пасля таго, як нейкая няшчасная маладзіца падкінула ў лясны будан немаўля — цяпер адзінага сына ягонага Валодшу, убачылі палачане ў месяцы просецы страшнае знаменне: усё неба ахапілі такія вогненныя зараніцы, што праз усю ноч у Са- фійцы кленчылі, узносячы да Маці Божай малітву аб літасці. Бо яшчэ трымала памяць вернікаў нядаўняе — землі тутэйшыя скавалі чуткі аб

прыходзе д'ябла. Іспра пачаў аб'яўляцца начамі, стогнучы і ловячы людзей, аб чым запісана было ў галубцы чарняцом-кніжнікам: «І хто з дому выйдзе, жадаючы тое ўбачыць, будзе там уязвёны нябачнаю д'яблавай язваю і ад таго памрэ». Ці не шукаў тады паганы цмок сярод люду крывіцкага нейкае незвычайнае дзіця?! Вікула нават уважлівей агледзеў свайго падкіданы і, папраўдзе, жахнуўся ўбачанаму. Аднак тут жа ўразумеў, што Валодша - не той, каго прагнуў знайсці князь апраметнай.

Але калі ў гэты ж час у малодшага брата полацкіх валадароў нарадзілася дачка, названая Прадславаю, вяшчун ад нечаканай здагадкі адмахнуўся. Бо хіба можа ўстрашыць д'ябла слабасілая жаночая плоць?!

Іспра, аднак, не адступаўся, штоночы расцінаючы барвовымі бліскавіцамі важкае, забранае хмарамі неба, што вылівала на зямлю патокі цёмнага, перамешанага з градам дажджу.

І ўсё ж, нягледзячы на благія знакі, полацкі сталец заставаўся паранейшаму моцным, хоць усім было зразумела, што кіеўскія князі так лёгка ад яго не адступяцца. З другога канца княства хціва падціскалі суседзі, смаляне і наўгародцы. Не драмалі і дазорныя варты заходніх межаў, усё часцей прыносячы весткі аб тым, што тамтэйшыя каралеўскія дарадцы таксама не абмінаюць увагаю яшчэ зусім маладую, амаль напалову паганскую суседнюю дзяржаву.

І праз увесь гэты час першыя хрысціянскія святары, добра засвоіўшы падвойную запаведзь, што вынікае з Духу Хрыстовага,- «маліцца і працаваць», азіраючыся на Візантыю, не прыпынялі вялікае працы ва ўлонні веры, аддаючыся ўпакорлівай малітве, каб узносіцца на тую вяршыню дрэва, дзе толькі птушкі нябесныя знаходзяць прытулак.

Але чым болей мацнела хрысціянская вера, тым большы размах набывала крывавая барацьба паміж Полацкам, Ноўгарадам і Кіевам за вярхоўную княжую ўладу, што была так густа Паліта бязвіннай крывёю ў гэтым новым, яшчэ крыху палахлівым, але ўжо суровым дванаццатым стагоддзі, якое пачыналася трывожна і неміласэрна.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## Імем Духа Святага

### РАЗДЗЕЛ 1.

Шырока расхінуўшы полы сваёй вогненна-карычневай гімацііі, вецер Хамсін наляцеў на Міжземнае мора, як смерч. У берагавую заслону базальтавых скалаў з усяго маху ўдарыла грозная пясчаная лава, і мора ад нечаканасці ўздрыгнула. Але ў той жа міг чорная, паднятая з самага дна махіна з грукатам абрынулася на крохкае рыбацкае жытло і адразу ж, але ўжо з абломкамі дошак, патрушчанымі смоквамі і парванымі сецямі, зашыпела і спаўзла з берага назад, важка ўдарыўшы ў такую ж шалёную сустрэчную сцяну. Агромністыя слупы спечанай гліны і шурпатай вапны віхрамі закружылі па бязмежнай прасторы, нізка навіслае неба хлынула ў марскія правалы патокамі бруднага густога ліўня. І ўсе адразу зразумелі, што пачынаецца нечуваны дасюль на ўсёй Галілеі страшны шторм. Хвалі ўзнесліся дзевятым валам, вецер асмягла хапаў пенныя глыбы, са свістам укручваўся ў глыбокія, як ідумейскія ўпадзіны, марскія варонкі. Лёгкія трырэмы рыбакоў, што не паспелі спусціць якары, вокамгненна расшпурляла па ўсім уздыбленым міжзем'ї, не пакідаючы людзям аніякіх надзей на ўратаванне. І вось ужо ніхто не заўважыў, як мінуў дзень і пачаўся другі. Мора змяшалася з берагам. Але калі Маці Божая ў гэтую грозную раніцу азірнула землі, на якіх ніколі не ачахнуць сляды Яе Сына, і позірк крануўся жорсткай марской стыхіі, то змеціла Яна, як пасярод няшчаднага шторму на тонкай ніціне паміж жыццём і смерцю ажно ўздрыгвае і трашчыць па ўсіх швах, але ўсё яшчэ трымаецца вялікі кесараўскі карабель з Канстанцінопаля, які то высока падкідвала, тузаючы ў розныя бакі, то зноў апускала ўніз, як шчэпку. У штармавым грукаце патаналі і каманды капітана, і матроскія крыкі, і адчайныя падвыванні хананейскіх жрацоў Ваала ў ніжніх каютах. Але праз несціханы свіст ветру пачула Апякунка і ціхія словы малітвы, што ўзляталі над марскім пеклам белымі чаіцамі. Гэта маліліся, расцягваючы акруглыя славянскія гукі, пакліканыя з таго далёкага крывіцкага краю, дзе і сёння ў сечы братазабойчай лілася кроў і так мала яшчэ душаў навярнулася да Збаўцы. Д'ябальскі шабас, што смуроднымі клубкамі і енкам ляцеў у неба з іх паганскіх капішчаў, быў такі ж грымотны, як і гэты марскі шторм. Але пазнала

Маці і вылучыла з усяго сусветнага галасу мальбы той, якую даўно змеціла і да чыіх ранаў некалі, у далёкай Полаччыне, ужо дакраналася персцямі.

“Ойча наш, Сэрцазнаўца, адзіны ў Святой Тройцы… ачысці нас, няўдзячных рабоў Тваіх, збаў ад усялякіх брыдотаў, плоцкіх і душэўных, і асвяці Прасвятым Тваім Духам, калі, адышоўшы ад імглы нячыстых прывідаў, спадобімся чыстым сумленнем адверсці грэшныя вусны і ўславіць Усесвятое Імя Тваё…”

Не паспеўшы спусціцца ў каюту, ігуменння кленчыла пры левым борціку і моцна трымалася за канат. Ледзь змагаючы рэзкія парывы ветру, сціху касілася на мажнага суседа, аблічча якога было цалкам заслонена вялізным каптуром. Нарэшце яна падняла галаў і адразу ж рэзка адхінулася ад удару: па вачах з усяго маху шарганула калючая марская шурпа. Неўспадзеў балюча і злосна, бы крапіўная валасяніца. Тады яшчэ шчыльней прыціснулася ілбом да каната і змярцвела ад страшнай здагадкі, што, пэўна, вось тут, пасярод гэтай звар’яцелай марской стыхіі, можа завяршыцца яе жыццё. А разам з ім перарвецца шлях да Жаніха, распазнаны яшчэ ў полацкай Сафіі над Дзвіною, дзе яна, дачка крывіцкага князя Прадслава, толькі пачынала служэнне. Усё цела ігуменні калацілася. Блізка ад яе ледзь трымаліся яшчэ двое; каржакаваты вотрак крысом хламіды заклапочана ахінаў плечы залатавокай и светлатварай красуні, якая ўжо не хавала роспачных слёз: “Божа міласэрны, пашто гэтак караеш?” У грымотныя галасы раз’ятранага мора нечакана ўліліся тоны жывога, такога любага спеву, які светлатварая красуня пазнала адразу ж — над шумам ветру, як некалі ў далёкай маладосці, уладарыў гарлавы розгалас: Ай-а-а... лада мая...” Вырынуў з жарала гэтай страшнай, такой далёкай ад яе роднай Меншчыны, прорвы, затрос плечы рыданнямі: “ Ой-а-а...” Ужо не зважала ні на ўстрывожанага вотрака, ні на шаравокую суседку, што таксама спалохана кідала вакол сябе няўцямныя позіркі, неўспадзеў змеціўшы ва ўздыбленых марскіх хвалях пакручаста ўзвітыя космы вялізных вогнішчаў. Відзеж вырынуў ці не з самага доння памяці і раптам нагадаў тыя страшныя сны маленства, калі яна, бедная сіраціна Даля, прачыналася з балючымі апёкамі на руках і жываце. Глядзець на тыя таямнічыя знакі, прыхапіўшы дубовы адвар, сыходзіліся амаль усе чарніцы. Але цяпер ніхто з паломнікаў не спяшаўся ёй дапамагчы. Хмарападобныя хвалі са свістам падалі на палубу, і перад пагрозаю смерці ўсе сямёра пасталі шчыльным шэрагам. Заклапочана скасілася адно чалядніца Еўпраксія, усё яшчэ, не зважаючы на сталы ўзрост, цемнавокая і чарнабровая. Не прыпыняючы пакаяльнага трапару, у

самыя пагрозлівыя моманты хапала гожа акрэсленымі вуснамі салёныя кроплі і здаўлена хрыпела: “Барыслаў!..” Але тут жа зніякавела апускала голаў. Мора дыбілася да самага неба, палуба была спрэс у сівой пене і патрушчаных абломках, і з гурту паломнікаў, уподзіў для ўсіх, узляцеў мужчынскі бас, аддаючы марской далечы і сваё: за нябачны гарызонт у прорву ляцела горка-балючае “Віста-а-а. Віста... Госпадзі, даруй.” Асіплыя каманды капітана і крыкі матросаў ужо амаль зліліся з пранізлівымі енкамі пачварнай стыхіі, і ніхто нават не змеціў, што знямоглая ігумення схілілася плячмі да насцілу палубы, усё ніжэй апускаючы голаў у сваю пякучую памяць. “ Грахі і правіны мае! Наўмысныя і ненаўмысныя... Цягнеце ўніз валунамі, не адпускаеце...” Сціснутыя на канаце пальцы бялелі, як касцяныя. “Маці літасцівая, Маці Багародзіца, даруй і блаславі. Прымі, Міласэрная...” За плячмі паломніцы ўжо засталіся кіеўскія лаўры і святыя пячоры Бізантыі, запаветная мроя пра Ерузалім, здавалася, была толькі ў некалькіх кроках ад яе шляху.

Ігумення няўпынна шаптала малітвы, ужо не зважаючы, што шурпатая хламіда абдзірае плечы, і ўсё ўзіралася ў пачварныя валы і нізкія ўсклочаныя хмары, нібыта намагалася ў смяротнай кудасе нарэшце разгледзець і разгадаць тое спрадвечнае, да чаго так доўга, праз усё сваё жыццё, яна гэтак адчайна спяшалася.

* * *

*“...**Т**акая шчодрая для гасцей, такая міласэрная да ўсяго народа свайго, Бізантыя ў тое лета нібыта адзеравянела, як ад укусу жоўтай мядзянай змяі, што нападае з расколінаў прыбярэжных скал. Аднак гэтая змяя — ажно дзвесце варожых караблёў — прыплыла з боку магутнага паганскага краю, што грозна раскінуўся па Дняпры і Сожы да самых варагаў. У цэрквах пачаліся ахоўныя службы, але толькі пасля доўгае малітвы самога патрыярха Фоція, калі рызу Улахернскай Маці Божай усклалі на прыбярэжныя хвалі, мора быццам звар’яцела: за адну толькі ноч несціханы смерч патапіў большую частку асаднага флоту, і цэлыя лавы драўлян і радзімічаў, дрыгавічоў і валынцаў знайшлі свой апошні прытулак на марскім дне. А тыя, што апынуліся на беразе, гнаныя імператарскай конніцай, былі насцігнуты, як расказвалі потым бывальцы, каля балгарскае Варны — людзінаў каля васьмісот на чале з князем Вышатаю. Вернутыя палонніцкім збоем у Канстанцінопаль, усе разам, і простыя ратнікі, і князевы сыны, званыя тутархонгамі, былі тут няшчадна бітыя і ўрэшце — аслеплены. Але тая страшная вайна русічаў з грэкамі, дзякаваць Богу, сталася апошняю. УВаспор*

*заходзілі адно караблі гандляроў. Тады ж распачаў імператар новы хрысціянскі паход дзесяці настаўнікаў архірэя Ігнація, што павезлі з Бізантыі, кіруючыся ажно да крывіцкага княства, вялікую сяўбу верніцтва. З-пад струн салодкагалосых баянаў узносіліся звонкія, як плёскат Дняпра і Дзвіны, былі. Спявалі сівыя старцы і пра Ізяслава Полацкага, які даў жыццё князю Брачыславу; той урэшце спамогся ўзяць пад апеку новыя гарады, успадчаныя апасля сынам ягоным Усяславам, званым у народзе Чарадзеем. Вялікі сын умацаваў полацкі сталец яшчэ болей, сведчаннем чаму стала велічная Сафія над Дзвіною. Штораніцы гэтая гожая беласценная царква біла ў званы, пасылаючы свой голас найслаўнейшым Усяслававым нашчадкам: Барысу, Рагвалоду, Давыду, Глебу, Раману, Расціславу, Святаславу-Георгію.*

*Стары вяшчун Вікула помніў яшчэ і тое, як пасля смерці Чарадзея і адначаснага закладання Уладзімірам Манамахам смаленскае царквы Святой Багародзіцы, а яшчэ пасля таго, як нейкая няшчасная маладзіца падкінула яму ў лясны будан немаўля – цяпер адзінага сына ягонага Валодшу, убачылі палачане ў месяцы просінцы страшнае знаменне: ад усходу да захаду і ад поўдня да поўначы ўсё неба ахапілі такія вогненныя зараніцы, што праз усю ноч у Сафійцы кленчылі, узносячы да Маці Божай малітву аб літасці. Бо яшчэ трымала памяць вернікаў нядаўні жах — землі тутэйшыя скавалі чуткі аб прыходзе д'ябла. Іспра пачаў аб'яўляцца начамі, стогнучы і ловячы людзей, аб чым запісана было ў галубцы чарняцом-кніжнікам: "І хто з дому выйдзе, жадаючы тое ўбачыць, будзе там уязвёны нябачнаю д'яблавай язваю і ад таго памрэ."*

*Ці не шукаў тады паганы цмок сярод люду крывіцкага нейкага незвычайнага навародка?! Вікула нават уважлівей агледзеў свайго падкіданца і, па-праўдзе, жахнуўся ўбачанаму. Аднак тут жа ўразумеў, што Валодша – не той, каго прагнуў знайсці князь апраметнай. Але калі ў гэты ж час у малодшага брата слынных полацкіх валадароў нарадзілася дачка, названая Прадславаю, вяшчун ад нечаканай здагадкі адмахнуўся. Бо хіба можа ўстрашыць д'ябла слабасілая жаночая плоць?! Іспра, аднак, не адступаўся, штоночы расцінаючы пякельна-барвовымі бліскавіцамі важкае, забранае хмарамі неба, што выплівала на зямлю цэлыя патокі цёмнага, перамешанага з градам, дажджу."*

І ўсё ж, нягледзячы на благія знакі, полацкі сталец заставаўся па-ранейшаму моцным, хаця ўсім было зразумела, што кіеўскія князі так лёгка ад яго не адступяцца. З другога канца княства хціва падціскалі смаляне і ноўгародцы. Не драмалі і дазорныя варты

заходніх межаў, усё часцей прыносячы весткі аб тым, што тамтэйшыя каралеўскія дарадцы таксама не абмінаюць увагаю яшчэ зусім маладую, амаль напалову паганскую суседнюю дзяржаву. І праз увесь гэты час першыя хрысціянскія святары, добра засвоіўшы падвойную запаведзь, што вынікае з Духу Хрыстовага, — “маліцца і працаваць”, азіраючыся на Бізантыю, не прыпынялі вялікае працы ва ўлонні веры, аддаючыся ўпакорлівай малітве, каб узносіцца на тую вяршыню дрэва, дзе толькі птушкі нябесныя знаходзяць прытулак. Але чым болей мацнела хрысціянская вера, тым большы размах набывала крывавая барацьба паміж Полацкам, Ноўгарадам і Кіевам за вярхоўную княжую ўладу, што была так густа паліта бязвіннай крывёю ў гэтым новым, яшчэ крыху палахлівым, але ўжо суровым дванаццатым стагоддзі, якое пачыналася трывожна і неміласэрна.

* * *

— Прадслава-а!.. — Быццам жывая тканка, ад аднаго гэтага покліччу ў думкі паломніцы раптам уварвалася рачное бязмежжа, і ў прарэсе раз’ятранага шторму імгненна ўспыхнуў сонечны дзень і той прапахлы аерам бераг Свіслачы, дзе яна, яшчэ зусім юніца, схілялася над чыстаю, бліскучай, як слюда, вадой. З таямнічай глыбіні насустрач зірнулі вялізныя, на паўтвару, і глыбокія, як гэтае рачное прадонне, вочы. Тады весела засмяялася, бо гэта былі яе ўласныя вочы. Пацягнулася да белай ліліі на хрусткім, як аблітым воскам, круглым лісце, але не ўтрымалася. З піскам паляцела ў раку, намачыўшы кужэльную сукню і хустку, што акрывала доўгія, сплеценыя колцамі да самага пояса, светлыя валасы.

— Прадслава!.. — праз імгненне ў ваду боўтнуўся высокі, мажны княжыч са Смаленска, які з самай зімы разам з іншымі авалодваў навукаю ў школе слыннага пісца Данілы. Буйныя кучары Дабраслава мокрымі жгутамі падалі на лоб. Смалянін, які ўжо даўно ўпраўляўся з бердышам, цяпер шырока расплюшчваў ад страху вочы і, схапіўшы ўпартую князёўну за руку, цягнуў да берага: — Не гняві раку, Прадслава! Віры аж кіпяць!

Аднак зноў рассмяялася. І тут жа пачула яшчэ адзін, басісты, рогат. Зусім блізка стаяў малады валацужны лучнік, відно, з-за нейкай правіны прагнаны з княжай дружыны — увесь у падраным зрэб’і і старых дашчаных бронях. Не думаючы доўга, адразу ж скочыў з берага ў ваду.

— А лада ж мая салодкая! — Аброслы злямчанай барадою, прасіпеў:

— Калі дзядзька твой менскі, трасцу яму ў вочы і кала ў бок, не пашкадаваў Кажадуба, то ты, лада...

– Прэч, смерд!

– А я ж яму ўсе ханскія пасланні расчытваў, лада.

Зноў упарта сціснула вусны і адхітнулася. Але лучнік, не зважаючы на гнеўныя позіркі юніцы, зарагатаў яшчэ мацней. Нечакана, падступіўшыся, так груба шарганув рукою, што каўнерык сукні з трэскам разарваўся. Аднак смалянін, на якога гвалтаўнік нават не звяртаў увагі, імгненна кінуўся таму наперарэз, і праз хвілю, вырынуўшы з вады, нахаба ажно ўзвыў ад бяссілай ярасці:

– А трасцу табе ў бок! — Тут жа спешна кінуўся за чараты: з боку манастыра па прыбярэжнай круцізне бегма спускаліся іншыя Данілавы навучэнцы — услед за самым старэйшым, барадатым маўчуном-жмудзінам Кірыкам, рылі нагамі жоўты пясок сын баярына з Бельчыцаў Міхал і находнік без роду-племені Валодша, што, як ні дзіўна, умеў чытаць яшчэ да з'яўлення ў Данілавай школе.

— Вернемся, князёўна! Даніла кліча.— Дабраслаў зноў працягнуў руку і нечакана лагодна ўсміхнуўся. Акінуўшы позіркам бераг да самых падлескавых ачаротаў, тая нарэшце згодна кіўнула: нахабнага лучніка ўжо нідзе не было.

... Да Свіслачы Прадслава прыйшла толькі перад самым ад'ездам дахаты. Заняткі ў манастырскай школе завяршыліся, і яна штораніцы нецярпліва чакала бацькавых возных, але тыя пазніліся, даючы магчымасць сваёй князёўне развітацца і з сівабародым негаваркім майстрам, і з цёткай-ігуменняй, і з хуткаплыннай ракою. Высокае сонца, разлівала свой густы воск па густым прыбярэжным дыване і па-ранейшаму цікаўна сачыла за вузкакрылымі сінімі стракозамі, што пераляталі з лазовых шатаў на зялёнае клінне аеру. Торгаючыся ў палёце, апускаліся да самай вады на сакавітыя стаўбункі лотаці. Паўсюль млосна патыхала збуцвелым глеем. Падступаў надвячорак, і абшар поўніўся развітальным шолахам падсохлага чароту. А Прадслава хадзіла па яркай раскошы пругкай травы і кураслепу, слухала раку. Часам міжволі азіралася, баючыся ўбачыць за спіною нахабнага лучніка, які пасля тае прыгоды пачаў з'яўляцца ў снах, цягнучы з рачнога прадоння чорныя прагавітыя рукі. Тады ўпоплечкі з ёю зноў паўставалі ў суровым маўчанні і Кірык з бердышам у руках, і негаваркі насцярожаны Валодша, і светлавокі Міхалка з Бельчыцаў, і яшчэ – гожы смалянін Дабраслаў з залацістымі, па ўсіх плячах, кучарамі.

Ша-ша-ссу… Крылцы стракозаў няўпынна шалясцелі між густых лазовых шатаў, і гэтак таямніча і пагрозліва перашэптваліся, набягаючы на бераг, рачныя хвалі. Быццам засцерагалі яе ад жыццёвых бедаў.

… Прывязаўшы да адсырэлай карчавіны вёрткі чаўнок, на якім яна ў мірг вока апынулася на супроцьлеглым плёсе, Прадслава міжволі азірнулася: над ракой пачыналі ружавець першыя цені. Тады пабегла ў бок чубатага лесу, што, здаецца, паклікаў. Уляцеўшы пад густыя сасновыя шаты, заспяшалася ў нетру, з радасцю пазнаючы знаёмыя мясціны. І адразу ж пачула даўкі пах дыму. Пасярод невялікай бялявіны разгаралася вогнішча, да якога ўжо сыходзілася ўзрушаная моладзь. Але сама яна сцішана стаяла збоку, адзінока назіраючы за бясцямным людскім шалам: у аслепленых яркім полымем вачах мільгалі зыркія сполахі. Нечакана пачулася нязвыкла дарослай і чамусьціезабароннай.

Даўжэзныя языкі залацістага агню весела шугалі за сасновыя вяршаліны, падхопленае дымам шыгаллё імкліва злятала на раскрыленыя світкі і раскручаныя віскатлівым танцам спадніцы. Адно яловы пярун, цемнатвары і суровы, моўчкі назіраў за ярым танцам сваіх смердаў, што зліліся, шалеючы ад абдоймаў і пацалункаў, у адно вялікае кола жарсці, ужо не зважаючы на прыціхлую юніцу. І раптам нехта груба, уцягваючы яе ў гарачы вір, тузануў за рукаво. Міжволі ўскрыкнула. Незнаёмы, які рэзка вылучаўся з усёй зборні — быў не ў лазовых хадачках, а ў ботах і лёгкім шоламе з брамніцаю, з-пад якой вызірала сіваватая барада, — раптам зноў схапіў яе за расшытую залатымі ніцямі накідку і рыўком штурхнуў да агню: іскры пагрозліва пырснулі проста ў аблічча.

– Ох, якая ж гожая! То чыя будзеш? Ці не князёўна? — Так здзекліва зарагатаў, што міжволі адхітнулася.

— Пашто ведаць чужынцу? – Горда падняла галаву, але незнаёмы нечакана зноў схапіў яе за рукі і, нягледзячы на спробы вырвацца, не адпускаў.

*“Шша-су… Табе, можа, скажуць, што я поўны ўсялякае хітрыны і ўсякага зладзейства, сын д’яблаў і вораг усякае праўды, і не перастаю зводзіць з роўных дарог... – не вер!”*

З вачэй, што пазіралі з проразяў брамніцы, нечакана палыхнула такім пякучым і паджадлівым агнём, што яна ўпершыню ў сваім, яшчэ кароткім і такім бесклапотным, жыцці, падумала пра д’ябальскія спакусы, якімі ўсё часцей палохала чарнарызіца-нянька Еўлампія. Проста ў сэрца ўлівалася невядомая яшчэ, але быццам бы і

знаёмая аднекуль дарослая таямніца. Тады рэзка адштурхнула чужака і кінулася прэч. Услед адразу ж забухалі важкія боты. Нават крык: —“ Не ўцячэш!”— пачула ледзь не за самай спінаю. Прыткія ногі ледзь краналіся пакручастай сцяжыны, вочы звыкла выхоплівалі з шарасці прасветы паміж дрэвамі. З грудзей раз-пораз вырываўся здаўлены крык. Нарэшце, выбіўшыся з сіл, яна спынілася і рэзка павярнулася да крыўдзіцеля. Незнаёмы ў шаломе таксама сіпла аддыхваўся. Ад здаўлена-хрыплага мужчынскага смяшку шэрхла ўсё цела. Стаяла, не зводзячы з чужынца гнеўнага, поўнага пагарды, позірку. Той таксама маўчаў. Але нечакана, калі на яе вочы ўжо набягалі едкія слёзы, здзіўлена гмыкнуў і адступіў:

– А, можа, ведзьма якая пушчанская? Нездарма – красуня! — Зноў груба шахнуў яе па грудзях. Тады, роспачна азірнуўшыся, закрычала. І тут жа з-за шчыльна сплеценых карчоў воўчага ягадніку пагрозліва выбегла даволі шматлікая, распаленая гонам гуртоўня мясцовага вешчуна ў лісінай масцы. Чужынец, убачыўшы столькі нечаканых заступнікаў, спасцярожліва адступіў, аднак з другога канца дарогі ўжо вылятала павозка, акружаная вершнікамі ў сініх кафтанах. Выхапіўшы на ляту кароткія мячы, вершнікі пагрозліва гікнулі, і вешчунова грамадка быццам растапнела за тоўстымі пракаветнымі соснамі. Наблізіўшыся да незнаёмага ў шаломе, адзін з вершнікаў пачціва падвёў таму гнедага лашака. Здзіўлена зірнуў на Прадславу і моўчкі, запрашаючы, паказаў на павозку.

... Яна вярнулася ў сваю келійку зацемна і спярша гарэзліва ўсміхнулася, але тут жа вінавата апусціла вочы.

— Што мяне не шкадуеш, — даўно так! — Збялелая ад трывогі нянька ўсхліпвала: — Сам Даніла шукаў. Князь Барыслаў, – змеціўшы, як юніца звяла бровы, таксама незадаволена ўздыхнула: — ... князь запалоцкі з вознымі прыехаў! У шлях зваротны возьмуць...

– Бачыла князя... Ой-я, нянька!

– Ехаць жа ўсё роўна трэба, князюнечка. – Трэба.

* * *

— Прадслава-а!.. — Яе зноў і зноў настойліва клікалі, шукалі нават пасярод гэтага звар’яцелага мора на паўдарозе да Святой Зямлі, вярталі ў далёкую маладосць. Мокрая паломніцкая хламіда важка звісала з плячэй, вецер усё біў і біў у аблічча, пальцы быццам зліліся з цвёрдым канатам. Грозны віхор расцінаў хвалі, тузаючы кесараўскі карабель усё мацней, чайкі крычалі надрыўней і жаласлівей. Нізкае неба спрэс быццам зацвярдзела, важка навісаючы

над разгайданаю прорвай, уздоўж якой узляталі шалёныя слупы. Хмарападобная марская кудаса грозна ўзвывала і сілы нешматлікай каманды, здавалася, былі на сыходзе.

Яшчэ роспачней загрымеўшы з усіх бакоў, уздыбленая махіна з аглушальным сіпеннем пачала ўкручваць карабель у сваю глыбозную варонку, і да паломнікаў адразу ж кінуўся высокі, дужы тлумач Асан, што дасюль дапамагаў карабельнікам. Засланіў ігуменню ад едкай шурпы. Тая нечакана выпрастала плечы і прыўзнялася:

— Маці Багародзіца, прымі душы грэшныя, не пакідай у скрусе. Блаславі. — Не зважаючы на ўдары ўспененага смерчу, ужо не адчувала, здаецца, рэальнасці і, застыўшы, узіралася ў смяротна кублістую шарасць. Варонка, круцячы карабель, грымела, як раз'ятраная пачвара — крышыла д'ябальскімі жгутамі і высокія мачты, і надзейныя ратавальныя шлюпы пры борце.

Пачыналася трэцяя, самая грозная, раніца смерчу. Ігуменння, таропка ўпаўшы на калені перад новай малітвай і няўмела захіляючыся ад няўпыннага вадаспаду здранцвелымі ад холаду рукамі, здавалася, адчула гэта: растуліўшы пасінелыя неслухмяныя вусны, горача зашаптала: " Ойча наш..." І ў той жа момант з глыбіні ранішняга мораку, калі ўсе амаль страцілі надзею на ўратаванне, праз увесь шалёны шторм несціханым шквалам раптам праляцеў, прасвістаў востры, як ятаган, струмень з Пірэяў; з лёту ўдарыў сваім чорным вастрыём па пругкім нябесным паддоне, імгненна ўспароўшы здранцвелыя хмары. Неба над морам тут жа закрывяніла ярка-пунсовай прадранішняй зарою і нарэшце, пагрукваючы магутнымі плячмі, расхінулася.

Тады два Анёлы-ахоўнікі няўзнак паўсталі ў бляску яркага прамення. Шырока ўсміхнуўшыся, пратрубілі ў свае звонкія салодкагалосыя горны: паўсюль наступіла цішыня і запеніла лёгкае пер'е серабрыстых воблакаў зыркага рання. Тады ўсе загайданыя штормам да паўсмерці, і бывалыя марскія ваўкі, і маладзенькія юнгі, і ацалелыя пасажыры з Канстанцінопаля, адчуўшы Боскую літасць, нібыта апрытомнелі. Падняўшыся наверх, здзіўлена ўбачылі на палубе ігуменню з паднесеным насустрач ветру аблічам, упоплечкі з якою стаялі іншыя падарожнікі з Полацка. У сваіх вялізных мокрых хламідах з каптурамі, усе яны яшчэ моцна трымаліся за канат уздоўж палубы і, не звяртаючы ні на каго ўвагі, маліліся.

Шторм блізу берагоў Галілеі сапраўды пачаў супакойвацца. Капітан ужо вызначыў, куды іх урэшце прыбіла. І хоць гэта была не Газа, а далекаватая ад Ерузаліма Дора, суцяшала тое, што піратаў і падводных рыфаў тут амаль не сустракалася. Цёмныя марскія воды

яшчэ выкідвалі са свае глыбіні сярэбраныя чародкі лятучых рыб, але гарызонт рабіўся празрыстым, праменне над дрогкімі хвалямі лагодна-зыркім, мора спакойным. Паўсюль узнікалі абрысы ацалелых караблёў; і вось ужо цэлы караван галеонаў у суправаджэнні белых птушак і спічастых скалаў спусціў катвагі каля берагоў старой гавані. Тады ўсіх, хто выйшаў з гэтага жудаснага шторму жывым і прыбыў да Святой Зямлі, Галілея сустрэла, як пакутнікаў, — ласкавым праменнем і затоена радасным ветрыкам. Паветра было густое, над лазурковаю вадою падымаліся ледзь бачныя змейкі трымтлівага марыва, бераг спрэс заваліла гарой абломкаў і зялёнай рудаватай цінаю. Едка пацягнула свежай рыбаю і марской цвіллю.

Карабель нарэшце стомлена заціх і апусціў трап. І першымі на прыстань сышлі слугі, воіны і гандляры, потым, за імі, — тыя самыя сямёра. У сваіх доўгіх шырачэзных хламідах, што пагойдваліся складкамі важкіх успамінаў і развярэджаных штормам думак, яны няўклюдна, асепленыя яркім сонцам, сыходзілі на камяністую зямлю. Спяшаліся ўслед за немаладой, нетаропкай ігуменняй у чорным, якая лагодна прытрымлівала на грудзях прыгожа аздоблены сапфірамі крыж на сярэбраным ланцужку. Цёмныя бровы ігуменні, яе гнутка акрэсленыя, строга складзеныя вусны і ўсё яшчэ не абпаленае праменнем бледнае аблічча затворніцы былі заценены паўкруглым брылём каптура. Вялікія, з цёмнай, арэхавага колеру, глыбінёю вочы пазіралі адкрыта і спакойна, не выдаючы аніякага здзіўлення ці страху, і цяжка было зразумець, што ўсё ж прыцягвае хоць якую яе ўвагу ў гэтым марскім порце. Не зразумець было і таго, што папраўдзе тоіцца ў наўздзіў спагадным і мудрым позірку Еўфрасінні з Полацку. Такой па-нябеснаму светлалікай, яшчэ гожай і ў сталым веку, але як бы адсутнай, чужой нават уласнаму хараству. Прыгледзеўшыся, наўкруг вачэй, што ў рэдкія імгненні калюча насцярожваліся, можна было ўбачыць маршчыны, якія выдавалі перажытыя пакуты і ўжо доўгае і даволі клопатнае жыццё. За ігуменняй на бераг сыходзілі астатнія. Аднак ўсе яны так нізка апускалі на аблічча свае цёмныя каптуры, што ўвагу прыцягваў адно смуглатвары, але з блакітнымі вачмі і русымі кучаравымі валасамі праваднік-тлумач са смарагдавым кудменем на грудзях. Ахоўваючы падарожнікаў, ён ішоў, высозны і мускулісты, крыху збоку, прытрымліваючы рукой крывы ятаган паверх шырокіх шараваraў.

Паломнікі так рэзка адрозніваліся ад мясцовых жыхароў сваім воблікам і нязвыклымі паводзінамі, што адразу ж трапілі ў акружэнне жабракоў. Ратуючыся ад крыклівых мянялаў, пачалі шукаць хоць якое заценёнае месца для адпачынку. Усе яны яшчэ моцна хісталіся

пры хадзе, нібыта пад нагамі быў не камяністы бераг Галілеі, а разгайданая доўгім штормам палуба. Старэйшая паперадзе раптам ціхенька ўскрыкнула — ледзь не каля самых яе ног праслізнула і тут жа знікла ў каменнай крушні бліскучая змейка. Астатнія крыху спалохана азіраліся, аглушаныя крыкам і стракатасцю тлумнай прыстані, што служыла адначасна рынкам і была цяпер занята гандлярамі і дарожнымі людзьмі. Асабліва нахабна паводзілі сябе зазывалы-егіпцяне з гліністымі фігуркамі жукоў-скарабееў у руках; стаялі тут і насупленыя пастухі-качэўнікі ў гімацыях, іх прыслужніцы ў белых накідках, рабы ў грубай апратцы з вярблюджага воласу, бессаромныя жанчыны пэўнага занятку і агорнутыя таямнічасцю паляўнічыя з жоўта-рудымі плямістымі звярынымі шкурамі на плячах.

Ад неміласэрнага сонца ўсіх гэтых да чарнаты абпаленых пустыняю людзей ратавалі найбольш доўгія шалі-таліты паверх шапачак, абвязаных наўкруг лоба бавоўнянымі пасамі. І чым вышэй падымалася сонца, тым весялей бегалі, шнуруючы натоўп, гарластыя падлеткі з пучкамі пахкай травы і хлябамі. Ішоў бойкі гандаль. Быццам і не было ніякага шторму, і не праходзілі праз прыстань, б'ючы сябе кулакамі ў грудзі, надрыўныя плакальшчыцы з абсыпанымі попелам галовамі. Высахлыя да абцягнутых карычневай скураю касцей хананеі — "...О, магутная маці Ашэра, злітуйся!..." — нахабна хапалі і тузалі за полы хламід, але тут жа, змеціўшы пад крысом у адной з маладзейшых паломніц унушальны меч у похвах, адхітваліся.

Разам са здаўленым бляяннем ахвярных баранчыкаў праз пыл несліся рэзкія aсліныя крыкі, і бясконцы галас абрынуўся на аглушаных паломнікаў так нечакана, што ўсе міжволі застылі. Адно Асан, звыкла азіраючы тлумную прыстань, быў спакойны і, не зважаючы на штурханіну, адразу ж заняўся цюком з рэчамі. Напытваў і ціхі прытулак нанач — Дора была перапоўнена цэлай арміяй валацужных рабаўнікоў, ад якіх мала каму шэнціла ўратавацца. Зрэшты, найлепей было скарыстаць параду патрыярха Лукі і звярнуцца па дапамогу да дзеваў шпіталя святой Алены. Да таго ж, часу ў пасланніка было мала: як мага хутчэй памяняўшы парваныя на караблі ветразі, Асан мусіў вяртацца праз Салонікі да свайго імператара ў балгарскія землі, дзе ў самы першы сакавіцкі дзень, толькі пачаўшы свой паход на уграў, Мануіл Комнін сустрэў гэтых прышлых з Полаччыны — таго самага далёкага княства, што залатымі ніцямі лучыла арабскі Халіфат і хазараў з краем славян і нават з суроваю скандынаўскаю зямлёю.

Сустрэча з полацкімі паломнікамі была сапраўдным цудам. Ашаломлены імператар, дзівячыся незвычайнай праяве Боскай волі, ветліва прыняў ігуменню Еўфрасінню ў сваім вялікім, акружаным двума ланцугамі ахоўнікаў, паходным шатры, аднак затрымлівацца не мог і пры развітанні перадаў палачан пад апеку вернага і надзейнага слугі Асана. Той з атрадам аховы без асаблівых прыгодаў правёў падапечных спачатку да святых мошчаў на Лімнас, потым, ужо ў Канстанцінопалі, клапаціўся пра паломнікаў у Іллахернскай царкве і святой Ай-Сафіі, дзе дапамог Еўфрасінні набыць дары для Ерузаліма. Нарэшце аснасціў карабель у Святую Зямлю; сын турка і паланянкі з берагоў Дняпра, ён добра разумеў мову палачан і быў адначасна праваднікам і тлумачом.

Тут, у Галілеі, Асан адразу ж напытаў, чый караван ідзе ў Ерузалім, потым купіў там для сваіх падапечных надзейныя месцы і без цяжкасцяў набыў у дарогу добры харч і бурдзюкі з вадою, адправіўшы іх разам з іншым скарбам да старэйшага бедуіна. Паломнікі ўжо крыху звыкліся з берагавым гармідарам і нават абышлі ўвесь рынак, аднак наперадзе чакала ноч і трэба было спяшацца: манастыр святой Алены, блізу якога праходзілі амаль усе гандлёвыя шляхі, знаходзіўся недзе за Дораю. Менавіта там полацкіх паломнікаў праз некалькі дзён і павінен быў забраць іх караван.

... Асан урэшце падагнаў павозку, і ўсе з радасцю паселі на прыкрытыя вярблюджаю коўдраю дошкі. Заўсміхаліся, яшчэ не ведаючы, якая цяжкая камяністая дарога наперадзе. Галілея моўчкі прыглядвалася да гэтых дзіўных падарожнікаў, кратала іх пяшчотныя аблічча пальцамі мяккага вечаровага прамення, казытала павевамі ветрыку, зазірала ў вочы цёмнымі зрэнкамі невысокіх скалаў, што засяроджана брылі ўслед за імі ўздоўж дарогі. Высока ў небе паўставаў нерухомы нябесны купал, і ружаватае воблака трымала на нябачнай нітачцы раскрыленага птаха, які то ўзмываў угору, то зноў спускаўся павольнымі кругамі ўніз, нібыта сачыў за гэтай адзінокай сярод камяністай пустыні павозкай. Вецер ані дыхаў. Галілея суцішвалася.

Асан міжволі азірнуўся. Папераздзе, за яго спіною, сядзеў чарнабароды, з адкрытым светлым позіркам князь Давыд; за ім – ціхмяны вотрак, што праз усю дарогу нясмела туліўся плячом да светлатварай красуні, з другога боку ад якое ўздрыгвала амаль няўцямная ад перажытага чарніца Даля. З непрыхаваным жахам назірала за тым, як яе рашучая суседка, прыжмурваючы вочы цёмна-залацістага колеру, час ад часу развязвае матузкі хламіды і правярае

касцяныя похвы з мячом, прытарочаныя да скуранога пояса паверх доўгай вуземкавай безрукаўкі:

– Мы ж ідзем да Госпада, Вольга. — Красуня, заценіўшы павекамі неспакойныя, з залацістымі іскрынкамі, вочы, не адказала, і Даля спыніла запытальны позірк на маладым кніжніку:

– Няўжо зброя спатрэбіцца, Коста? — Той замест адказу паціснуў плячмі, паказваючы, што дарога ўсё-ткі няблізкая.

Устрывожаны памацнелым ветрам, Асан усё часцей азіраўся і заклапочана перамаўляўся з князем Давыдам, малодшым братам самой ігуменні, які ахвотна падтрымліваў гаворку. На другой палове павозкі месціліся старэйшыя: упоплечкі з густабародым насупленым маўчуном, бельчыцкім ігуменам Міхалам, сядзела, стомлена апусціўшы плечы, чалядніца Еўпраксія, што ўвесь час насцярожана пакусвала свае гожа акрэсленыя вусны і стойвалася нават ад ціхага скавытання сухавею. Нарэшце не вытрымала:

– Міхал, праўда, што тут страшныя цмокі водзяцца?

Успыхнула, падняўшы на барадатага суседа вусцішны позірк, але той адно адвярнуўся і няўпэўнена гмыкнуў у кулак.

...Дарога тым часам стала раўнейшаю, павозка памякчэла, і паломнікі скупна задрамалі. Толькі самая паважная, ігуменя Еўфрасіння, седзячы пазадзе, не магла нават прыплюшчыць павекі і сачыла то за купкамі серабрыстых смакоўніц удалечыні, то за адзінокім птахам пад ружавата-крышталёвым нябесным парасонам, то за грувасткім статкам шэрых скалаў уздоўж дарогі, пазначанай калючымі церневымі кустамі. Слухаючы шоргат колаў: “Шша-шу… шах…”, усё часцей і часцей яна падстаўляла твар вечаровай свежасці і азіралася: “Божа, Сэрцазнаўца, Адзіны ў Святой Тройцы, дазволь. І пусці кола памяці праз жыццёвы круг, калі ўжо той завяршаецца.” Пачула на шчацэ пякучую слязу: “… бо ўжо гатова сэрца маё.”

Пругка пагойдваючы яе даўкія думкі, павозка шаргатліва намотвала на колы пустынны галілейскі шлях, аднак манашка нават не змыкала павекаў. Быццам хацела ўбачыць праз рэдзенькі пыл гэтай дарогі па Святой Зямлі нешта такое, аб чым, здавалася, ужо даўно забыла, што ўжо даўно, здавалася, прамінула і адышло ў нябыт. Але ж …

## РАЗДЗЕЛ 2.

Згадваючы пры бляску сваіх начных вогнішчаў багатыя землі крывічоў, ваяводы вялікага кіеўскага князя хапаліся за мячы нават пры выпадковым напаміне пра полацкі сталец. Стольны горад

непакорнага княства ўрэшце вырашыў заручыцца падтрымкай Смаленска: у князя Святаслава ўбіралася ў леты прыгажуня дачка, дзеля якой у Відбеск яшчэ зімой прыязджаў смаленскі княжыч. Але Прадславу на тую сустрэчу паклікалі толькі перад самым ягоным ад'ездам. Затым, як і патрабавалі таго надзвычай важныя і таемныя змовіны, Відбеск і Смаленск на апэўны час прымоўклі. Аднак мала хто з імянітых мужоў Полацка ведаў, што, дазнаўшыся пра змовіны, да Святаслава на згоне зімы прыязджаў запалоцкі князь Барыслаў, просячы аддаць юніцу яму, і пасля тае начной сустрэчы князі, відно, не змовіўшыся, сталі адкрыта варагаваць.

Пра тое гаварылі адны. Іншыя ж сведчылі супроцьлеглае. Быццам бы вырашылі абодва, асцерагаючыся смалян, спачатку пашукаць падтрымкі ў самога Уладзіміра Манамаха і толькі потым аб'явіць пра канчатковы выбар. Бальшыня месцічаў, праўда, схілялася на карысць сына смаленскага Яраполка, што прыўзыходзіў іншых багаццем і ўладаю. Усё княства насцярожана прыціхла.

... Да полацкіх весяў, гонячы па небе статкі ўскалочаных хмараў, тым часам падступаўся месяц беразазол, і ў адну з шарых раніц веснавога посту Прадслава, атрымаўшы дазвол епіскапа Міны, перабралася ў галубец Сафіі. Але нечаканна заняпала: апантана перапісваючы грэцкія рукапісы, ужо зусім змаглася і адчувала невераемную знясіленасць: грудзі юніцы сушыла мацней, чым за ўсе доўгія халодныя тыдні. Урэшце, неяк на золку закончыўшы перапісваць Евангелле, яна ціха спусцілася з келлі ў двор і вузкая сцяжына павяла па круцізне да крыніцы: глыток сцюдзёнай вады адразу ж прынёс палёгку. У цэўках аголеных вербалозін ціха пасвістваў вецер, нізкія зоркі з ледзь чутным перазвонам прыветна падміргвалі, але холад ужо сціскаў плечы. На вусначкі набеглі слёзы: жыццё здалося непрыветна-жорсткім і няўмольным. Але пашто гэтак спешна хочуць бацькі адпрэчыць яе ў нейкі невядомы, чужы край, дзе, можа, няма ні пергамінаў, ні найкаштоўнейшых, з Царгорада прысланых, кніжак? Ужо вярнуўшыся ў храм і амаль не чуючы задубелымі нагамі падлогі, яна пайшла наверх, і калі да галубца заставалася зусім блізка, адчайна хапаючыся рукамі за шурпатую сцяну, асунулася на каменную падлогу. Міжволі прыслухалася і — замерла.

... Шырока раскрыленыя і белыя, яны мякка ляцелі праз абсыпанае зоркавым зернем неба і, пасылаючы ёй гарлавае “Коурлы”, клікалі за сабой. Урэшце паплылі так блізка, што пачула, як па шчоках струменяць узмахі вялікіх крылаў. Нечакана для сябе самой нават апынулася ўнутры гэтага птушынага ланцужка: пальцы

краналіся і тут жа саслізгвалі з бліскучых, як навошчаных, жураўліных бакоў. Зоркі пазвоньвалі зусім побач. Тады ўсім разгарачаным целам адчула хрусткасць і бязважкасць гэтай сцюдзёнай вышыні: радасная, узіралася ў россып залацістых агнёў, але раптам пругкая нябесная тканка быццам разатнулася і нечакана выпусціла яе з сябе. Неба, якое раней так моцна трымала, у адно імгненне выцягнулася ў бясконцы горні прасцяг, і юніца з жахам адчула, што падае. Колкае паветра балюча абшморгвала расхінутыя ў бакі рукі. Ахопленая адчаем, сапраўды ўзмахнула імі, але, відно, так няўмела, што пачала падаць яшчэ імклівей: у вочы забіла полымя, наўкол закружылі цэлыя віры асляпляльна яркіх зорак, што таксама, услед за ёю, ляцелі ўніз. Тады пачала крычаць. І адразу ж апрытомнела і адплюшчыла павекі: ляжала цяпер перад самым уваходам у галубіцу. Нясцерпна горача балелі локці. Усю спіну таксама, здаецца, раскрышыла. Ледзь змагаючы боль, азірнулася: на вострых прыступках замест рук на кароткую хвілю прыбачыла тонкае сухажылле і белае, ажно серабрыстае, пер’е крылаў. Але відзеж тут жа засланіла мярэжай, у сяйве якой яна быццам бы ішла ўгору па нахіленай крызе, знутры якой струменіла нязвыкла сліпучае святло. Блізілася да высокага крыжа, што віднеўся ў блакітнай далечыні на полацкім погарбе. Заўважыла раптам, што ступае па замерзлай Дзвіне ці нават моры Варажскім босымі нагамі. Тады яе зноў паклікалі. Такакім працяглым і ласкавым “ коўр...лы....” Сэрца затрымцела ад новага адчування ўзлёту. Паднялася ўжо так высока, што ўбачыла зверху на снезе яркую, як надломленая бліскавіца, дарогу. Змеціла на ёй і сябе. Да слыху зноў даляцеў жураўліны покліч. Але перш чым ачуняць, змеціла, як на дарогу перад ёй ці не з самага верху капае густая і важкая кроў, расцякаецца па наледзі вялізнымі пачварнымі плямінамі. Тады ад жаху ачуцілася. Урэшце, падняўшыся на дрогкіх нагах і трымаючыся за сцяну, рушыла ў келлю.

На сталешніцы перад абразом Маці Божай мігцелі свечкі, ляжала некалькі пергамінаў з вершамі Іаана Дамаскіна, над якімі яна адразу ж, кінуўшы на плечы хламідку, схілілася. Нечакана моцна забалелі плечы, але ўсё роўна, сеўшы за стол, узяла ў рукі пяро.

* * *

— Я яшчэ не ведаю яшчэ цябе, але адчуваю тваё дыханне.

– Калі нябёсы болей не трымаюць чалавека, ён зноў нараджаецца.

— Ці не ты, казаў мне пра тых жанчын, якія, прыняўшы моцу мужчынскую, адсеклі ад сябе грахі і слодычы зямныя мячом?

— Але не з жалеза, а з моцнага духу!

– Што значыць – з моцнага духу?

— … І імёны іх з тых даўніх летаў напісанныя на нябёсах.

— Але ж так баюся.

– У закон Божы стань і будзеш, як дрэва, над плынямі водаў пасаджанае, ліст якога не жухне…

— Але ж ручкі яшчэ нямоцныя. Ледзь пяро трымаюць.

– Моцу духу трымай, юніца. Не так тыя бязбожнікі…

– Толькі ж усе цяпер…

Быццам пыл, ветрам падняты.

– Яшчэ не бачыла цябе. Толькі крылы кранула.

— Убачыш.

– Але ж нехта стаіць побач з табою. Як прымара.

— Не бойся. Бо Гэта любоў твая будучая. Тая, што прылятае здалёк. Звысоку, з-за небакраю….

*“ Любоў – шата твая з правай рукі твае.*
*Удзень сонца не заб’е цябе, ані месяц – уночы.*
*Любоў будзе ахоўвацьТвой выхад і ўваход. Ад сёння і вечна.*
*Пахвалі ж любоў чалавечую гукам трубным.*
*Пахвалі яе струнамі і кімваламі гучнагалосымі.”*

* * *

— Прадслава! – Гучны голас Еўлампіі, даляцеўшы знізу, адразу ж абудзіў: таропка азірнулася — па келійцы рассейвалася блакітнаватае святло раніцы. Тады, гнуткая і лёгенькая, што былінка, імкліва зашалясцела хадачкамі па лесвіцы. Выбегла ў двор і вось ужо, лоўка прымасціўшыся на сядзенні побач з фурманам, задаволена рассмялася. Пачала распытваць, ці дапраўды многа кніг прыслалі ад імператара з Бізантыі, аб чым прагаварылася сама ігумення, але фурман нечакана ліха тузануў за лейцы і з таямнічым пакашліваннем адвярнуўся. Нянька, падаўшы князёўне прасначок, непрыкметна кінула на прыкрытыя толькі тонкай хламідай плечукі настаўняну накідку і таксама сонна заціхла. Адно коні, звыкла адольваючы выбоістую дарогу да Відбеска, пазвоньвалі прывязанымі да хамута бомамі.

… Уехаўшы ў княжы падворак, фурманка нарэшце спынілася, і Прадслава, нават не зазірнуўшы да маці, з усіх ног кінулася ў святліцу. І ледзь не задыхнулася: на шырокай лаве каля акна сапраўды ляжала з дзесятак новых тоўстых фаліянтаў. Узрушаная, адразу ж села за стол, пачала таропка гартаць першы, які трапіў у рукі. Паглыбілася ў чытанне. Але тут жа нечакана адчула блізкую

прысутнасць нейкай чужой, нядобрай сілы. Тады міжволі падхапілася на ногі, аднак павярнуць голаў не паспела: грубыя абдоймы, чэпка сціснуўшы яе за плечы, не давалі нават варухнуцца. Пачула, як па шыі распаўзаецца гідкае гарачае дыханне. У адчаі зноў пасілілася, убачыўшы сівиватую бараду і золатам шыты сіні каўнер нязванага госця. Гэта быў запалоцкі князь Барыслаў. Адчайна ірвануўшыся, пачула, як на плячах трашчыць сукня. А князь, задыхаючыся, нешта гарачкава шаптаў, усё мацней сціскаючы яе за плечы. Груба кінуў на ложа, упаўшы зверху. З усяе сілы выкручвалася з цвёрдых, як жалезныя ланцугі, рук, аднак чужое дыханне зноў прыкра апекла шчаку:

— Хочаш, куфры ўсе перад табою адчыню!? Князем вялікім стану! — Цвёрдыя пазюры шахалі па спіне і грудзях. – Калі не маёю – нічыёй не станеш, лада!

Горла сціснулася і не давала клікнуць на дапамогу.

— Прадслава! — Нецярплівы бацькаў голас уварваўся ў святліцу, як выратавальны гром, і задыханы госць, дрогнуўшы ад нечаканасці, нарэшце апамятаўся: напаследак, выбягаючы, крыкнуў яшчэ нешта прыкра-абразлівае, але Прадслава ўжо спехам нацягвала выхапленую з куфра новую вопратку. У святліцу ляцела збялелая нянька.

— Прадслава! – Гнеўны бацька, відно, страчваў цярпенне. Тады паслухмяна кінулася да дзвярэй, каб паскардзіцца яму на запалачаніна, і тут жа, для сябе самой нечакана, так весела і гучна рассмяялася, што адразу ж забыла і пра агідныя княжыя шэпты, і пра парваную сукню, і вось ужо, імкліва мінуўшы прасторныя сенцы, бегма ляцела ў вялікую залу па кіліме з мяккіх мядзведжых шкур. Спяша лася міма ўсмешлівых лучнікаў і ўрачыстых грыдняў з пікамі, упрыгожанымі расфарбаванымі воўчымі хвастамі. Рэзка спыніўшыся каля схіленых у паклоне баяраў, ажно прытупнула кароткім боцікам: княгіня Сафія незадаволена прыўзняла бровы, ушчуваючы дачку за легкадумства. А тая гарэзліва азірнулася, і тут жа зніякавела, убачыўшы яшчэ аднаго госця, які сядзеў за прысценным бізантыйскім столікам з гнутымі ножкамі — у белай, залатымі ніцямі расшытай, сарочцы. Валасы і барада таксама адлівалі золатам. Гэта быў Дабраслаў. Увесь гэты час не мог адвесці ад яе захопленых вачэй. Адчуўшы, што чырванее, заўпарцілася. Бацька з пацямнелым тварам і сурова зведзенымі бровамі, хітнуў высокай, атарочанай серабрыстым пухам, шапкаю і пачаў нешта тлумачыць. Асуджальна гмыкнуў. Але яна маўчала. Бацька, аднак, зноў строга кашлянуў:

— Нягожа дачцы нашай, падобна шэрым перапісчыкам, вочы сляпіць! – Ледзь аваладвала трымтлівымі пальцамі, але князь завяршыў строгім і рашучым тонам:

— Досыць бегаць па келлях, князёўна! Час пра іншае памысліць!

З надзеяй глянула на даўгавідую, цемнабровую княгіню Сафію: выпрастаўшы атуленыя футравай накідкай, плечы, маці паважна, як і належыла дачцы вялікага кіеўскага князя Яраслава Мудрага, сядзела ў крэсле з высокаю, разьбянай спінкаю і была наўздзіў стрыманай. Быццам і не змеціла даччыное разгубленасці.

На сталешніцы шырокага стала блізу сярэбраных колтаў з зялёнымі вочкамі і караляў з гладкіх чырвоных камянёў, стаялі заморскія банечкі з пахучымі арафамамі. Усё, што звычайна прывозяць у падарунак нарачоным. Смалянін, перахапіўшы яе позірк, ветла ўсміхнуўся і схіліў галаву. Села па бацькавым знаку насупраць госця, заспяшалася:

— Святы Пётра, калі адчуў голад, узышоў на дах дома памаліцца, пакуль згатуюць ежу…— Бацька, не чакаючы ад юніцы такой дзёрзкасці, строга перабіў: — Дачка наша…

Ахопленая роспаччу, успыхнула: — … але пакуль гатавалі, найшло на яго захапленне, і ўбачыў святы Пётра адчыненае неба і вялікае палатно, спусканае на зямлю… — Русабароды мажны святар, які прыехаў разам з Дабраславам і якраз выходзіў з бакавых дзвярэй, працягваючы: — … і былі ў ім усялякія чатырногі зямныя, звяры, плазуны, птушкі нябесныя, — ад здзіўлення нават прыпыніўся:

— Быў голас тады яму… — Паволі абвёў насмешлівым позіркам баяр і нечакана грымнуў:

– Устань, Пётра, закалі і еж!

Бацька-князь весела засмяяўся. Рогатам выбухнула і ўся стракатая зала: гаспадар, ледзь стрымліваючы смех, ужо наказваў старэйшаму чалядніку несці пачастунак. Насупіўшы бровы, падняўся і Дабраслаў. Відно, зразумеў, пра які голад Пётры яна гаварыла. З дзядзінца данеслася конскае іржанне і стук капытоў аб гладкі, толькі што пакладзены ў гонар госця, дубовы насціл. Але князёўна нечакана моцна, ажно напалохала ўсіх, ускрыкнула і, лоўка абмінаючы чэлядзь, што ўжо разносіла па сталах місы з гарачай ежаю, кінулася прэч у сваю святліцу. Ляцела, амаль не дакранаючыся нагамі да падлогі.

І раптам, ужо наважыўшыся пераступіць парог, пачула: — Прадслава-а!

Не зважаючы на недаўменныя позіркі прысутных, смалянін таксама сарваўся з месца і вось ужо дагнаў яе каля самых дзвярэй, прыцігаючы складзеныя крыжам рукі да грудзей:

— Хіба не абяцаў я прыехаць? — Голас княжыча панізіўся да глухога шэпту, аднак юніца, яшчэ ахопленая адчаем, нечакана спынілася. І, сама сябе не разумеючы, як не разумеючы да канца ўсяго, што адбываецца, пачула яго:

— Ідзем, Прадслава! Не магу вярнуцца прысаромлены.

— Хочаш узяць, чаго не клаў, і пажаць, чаго не сеяў?

— Пашто ганьбіш, князёўна?!

— Хіба вечна жылі роды чалавечыя, Дабраслаў?!

Здзіўлена падступіў да яе бліжэй. Зачырванеўшы, спяшалася:

— Жыццё — хуткацечнае, Дабраслаў. Багацце, як прах. Горай павуціны ліпкай.

— Казаў жа, — як страла, у маім сэрцы любасць да цябе! Ці, можа, болей да мыслі князь запалоцкі?

Відно, змеціўшы ў яе вачах непрыхаваныя здзіўленне і агіду, сумеўся:

— Хіба не ведала, што запалоцкі таксама? – Уздыхнуў.

— ... Важны князь!

— Веліч зямная, быццам попел, рассейваецца! – Абыякава адвяла позірк.

– Не чуеш мяне зусім, Прадслава.

Вусны смаляніна затрымцелі. Успыхнула і сама:

— Хутка ж забыў ты наказы Данілавы.

— А, можа, прышоў зыскаць і выратаваць, што можа загінуць?

— Не памятаеш, як у Заслаўі Слову кляліся?

— Памятаю, лада мая. Усё памятаю. Але цяпер, калі вярнуся без дамовы, пральецца такая кроў!.. А будуць змовіны – на цэлае лета прыціхнуць.

– На цэлае лета...

Бацька ўшчуваў і клікаў вярнуцца, баяры са Смаленска таксама шумна абураліся, але смалянін, узяўшы Прадславу за руку, ужо важна выходзіў на ганак. І ў той жа момант распаленая нецярпеннем дружына, згрудзіўшыся пад самымі вокнамі палаца, сустрэла маладых такім радасным гікам, што Прадслава ажно заплюшчыла вочы.

— Слава!... Відбеску!.. І Смаленску! Слава! Слав-ва!..

Яркае сонечнае святло перапоўніла наваколле: адплюшчыўшы павекі, нарэшце зірнула на смаляніна з залатой хваляю густых валасоў на плячах. Усё было так нязвыкла. І тут жа сцішылася, замерла. Бо яшчэ ніхто не бачыў... Ні бацька з маці, ні смаленскі святар, ні баяры, што, ціха перамаўляючыся, паўкругам пасталі на ганку. Яшчэ ніхто, акрамя Прадславы, не бачыў Яе... Гэтую тонкую, чырванадзюбую, такую звонкую стралу, што раптам вылецела з

глыбіні двара з-за спін чэлядзі, і вось ужо, імкліва набіраючы моцы і працінаючы радасны смех грыдняў, блізілася да ўсіх, хто стаяў на высокім княжым ганку. Тады міжволі ўскрыкнула. Страла, пасланая рукой забойцы-найміта, быццам адштурхнутая моцным ударам ветру, што раптам шугануў праз падворак, на імгненне змяніла свой накірунак, і вось ужо, са свістам парваўшы святочную сарочку смаляніна, ударыла сваёй вострай дзюбаю ў ягоныя развінутыя ад шчасця грудзі, прабіла наскрозь сэрца. У густым паветры, гучна шахаючы "шша-шшах" чорнымі крыламі, над княжычам нечакана праляцела вялікая птушка, і той, ледзь варухнуўшы скрываўленымі вуснамі, прашаптаў: — Прадслава…

Так рэзка павярнуўся, што хвост стралы балюча шаргануў яе па грудзях.

І пачаў падаць.

Амаль непрытомная, кінуўшыся яму на дапамогу, у кароткае імгненне паспела разгледзець надломленае брыво і крывую ўсмешку запалоцкага князя Барыслава. Быццам працятая тым пажадлівым позіркам, што апёк да самага нутра, паволі апусцілася побач са смалянінам, над якім ужо схіляўся святар. Паплыла ў недасяжна-поклічнае "коурлы…"

– Прадслава...

## РАЗДЗЕЛ 3.

— Але чаму без пары гінуць невінаватыя?

– Як смерць праз чалавека, так праз чалавека ўваскрасенне з мёртвых.

– Але ж нехта зноў стаіць побач з табою. Быццам прымара...

– Гэта любоў твая. Тая, што прылятае здалёк. Звысоку; з-за небакраю.

*" Хваляць любоў на зямлі вялікія рыбы і ўсе прадонні,*
*Агонь і град, снег і туман, буйны вецер, які напаўняе*
*Слова Гасподняе. Хваляць горы і ўсе пагоркі, дрэвы*
*плодныя і ўсе кедры,звяры і ўсялякая жывёла, паўзуны*
*і птушкі крылатыя. Цары магутныя і ўсе народы*
*князі і суддзі зямныя, вотракі і юніцы, старцы і падлеткі..*
*Хваляць усе любоў..."*

* * *

З таго часу, як яе, ахопленую гарачкаю, прывезлі ў ціхую келлю Заслаўскага манастыра, даўно прамінула восень і за каплічнымі сценамі скавытала лютаўская непагадзь. Аднак такога шалёнага ветру з наўздзіў пранізлівым свістам, што гнаў усцяж вузкіх вулачак і пакрытай лёдам Свіслачы клочча растурзаных стажкоў, на Меншчыне даўно не памяталі. Толькі пагадаваўшы скаціну, людзі спяшаліся са сваіх двароў з першай шарасцю: у капліцу, нягледзячы на холад, увесь час заходзілі, і Прадслава міжволі лавіла на сабе цікаўна-здзіўленыя позіркі. Пасля ранішняй малітвы паўсюль расцякалася прапахлая ладанам цішыня. І раптам у капліцы зашапацела так моцна, што яна ледзь стрымалася, каб не крыкнуць. Не ў стане вытрываць з'едлівы рогат, што ў мірг вока абрынуўся на галаву аднекуль з вышыні, пачула, што абліваецца гарачай, як тлеючая аўчына, нямогласцю. Над дзвярыма патрэсквала лучына ў жалезных, убітых у сцяну, шчыпцах. Памкнулася затуліць вушы і сцішылася, выцягнуўшы перад сабою рукі. ..., але страла, пушчаная забойцам-наймітам, ужо ляцела, адразаючы ад яе нават вогнікі свечак. Павярнуўшыся да дзвярэй, зрабіла крок да выхаду, аднак у апошняе імгненне змеціла, што ступае ў чорную бяздонную прорву, ад якой адразу ж рэзка адхітнулася. Пабуджаныя цеплынёй чалавечых дыханняў матылі недзе высока шукалі выхаду і біліся крылцамі аб слюду акна.

Нарэшце, акружаная чародкай сёстраў, яна замерла і вусцішна прыслухалася, доўга ўзіраючыся ў каплічны купал. А той нечакана дрогнуў, пайшоў шырокімі хвалямі, закружыўся, і вось ужо зашумеў, імкліва ўцягнуты ў карычневую варонку, дно якой было недзе ў захмар'і. Яркія сполахі раз-пораз выхоплівалі з глыбіні каплічнага паўзмроку то суровы позірк улюбёнай бізантыйскай святой Еўфрасінні, то залатыя колцы валасоў, якія падалі на плечы смаляніна, то крывавыя плямы на ягонай святочнай сарочцы... "Прадслава-а!" Узяўшыся за рукі, яны зноў і зноў выходзілі да дружыны, але сонца было чамусьці шарае і мёртвае: твару ўвесь час краналіся колкія павевы ветру, да слыху даносілася поклічнае: " Коур-лы." Часам рыпелі дзверы і ў капліцу заходзілі новыя вернікі. Краем вока юніца змеціла ігуменню і каля яе – збялелую маці ў доўгай цёмнай альпадзе. Слых кранулі прыглушаныя шэпты.

— Праз усе месяцы гарачка князёўну тваю паліла. Памыслі, святлейшая. І са святаром яна ўжо раду мела. *(... шшу-ша...* )

— Нельга без дазволу бацькавага, ігуменне!( *... агонь на лучыне замігцеў...* ).

— Бачылі князя твайго з кіеўскім Мсціславам.Рабуюць зроднікі Менск, святлейшая. Рэкі крыві плывуць да Свіслачы. Але моцны князь

наш Глеб, пераможа і ў Заслаўі хутка будзе. ( *... людзі наўкруга хавалі азяблыя рукі ў глыбокія кішэні...* ) Ці пашкадуе юніцу тваю, святлейшая?

– Але ж пляменніца гэта...

— Толькі сцены манастыра і абароняць... Вер мне!

— Яраполкава раць таксама каля мяжы. Так патрэбна яе замужжа, ігумення!

— Як толькі возьмеце дачку, рушаць і навагародцы, і смаляне. ( *... сёстры ў шарых покрывах адступілі да самай сцяны...)*

– Знарачыта прыехала сюды, ігумення.

– Адведаеш дачку, святлейшая.

— Святаслаў вернецца хутка, а ў гневе страшны ён, ігумення.

— Што можа быць страшней гневу Гаспода нашага, княгіня? Не забірай дачку. (... *дзверы ўпусцілі разам з людзьмі белаватыя змейкі пазёмкі...*)

— Царква заўжды рупілася пра справы дзяржаўныя! Вярні Прадславу!

— Аб тым цяпер толькі ў самой князёўны трэба пытаць, святлейшая. І ў Таго, Чые рукі трымаюць нітку яе жыцця.

З падворку даляцеў галас растрывожанага людскога збою, у які нечакана ўварвалася гучная звяга скамарошых званочкаў. Здзіўленая, юніца зірнула на ігуменню, і тая нахіліла галаву:

– Яны таксама моляцца за цябе, Прадслава. Хоць і па-свойму. — Наблізілася і, пільна ўзіраючыся ў яе хвараватае аблічча, яшчэ раз ціха запытала:

— Ты гатова, князёўна? — Згодна кіўнуўшы ў адказ, тая адно прыплюшчыла павекі і прыслухалася да рыпення дзвярэй, што прапускалі ў капліцу яшчэ адзін людскі збой. На манастырскі падворак сыходзіліся самыя аддаленыя весі, хаця ні настаяцельніца, ні святар не маглі зразумець, якім чынам гэтая самотная і, здавалася, зусім не знаная тут князёўна, якая адно праседжвала дні і ночы за пергамінамі, здолела сабраць да сябе цэлую хмару самых розных людзей. Перад капліцай стаяла крытая тоўстым радном валацужная скамарошая фура, якую не чапала нават варта вялікага князя: унутры капліцы была сама княгіня Сафія.

— Ты гатова!?

Яна падняла вочы, пільна ўзіраючыся ў асветлены свечкамі абраз Божай Маці: знерухомела гэтак надоўга, што кволае цела, спакутаванае ад няшчаднага бяссоння, нечакана страсянулася і пачало… адчыняцца. У адно імгненне расшчапілася, адкрытае ўсяму зямному і нябеснаму: угору шуганулі і ажно тройчы ўдарылі,

перасягнуўшы праз столю, тры агромністыя вогненныя слупы. Выплескі гарачага і іскрыстага полымя шугалі, асляпляючы, з-пад самага сэрца, анямелага горла і дарэшты ўсмылелай спіны.

Снапы распаленых вугольчыкаў ярка ўспыхвалі ў вачах і білі над Прадславаю да самых аблокаў. Аднак ні ігумення, ні сёстры-манашкі не прамовілі ні слова. Тады зразумела, што толькі яна адна і бачыць у сабе тыя грозныя віхры. А вогненныя слупы, злучаючы юніцу з высокім небам, усё яшчэ іскрыліся. Стракатым карагодам закружыліся зоркі: хлынулі раптам з нябеснага каўша ў яе нутро, сціснулі грудзі. Дзявочая існасць адкрывалася вышыні так балюча, што, укленчаная, не была ў стане нават варухнуцца альбо вымавіць слова. Сёстры прасцiралі над князёўнаю рукі, але адразу ж, нібы апёкшыся нябачным агнём, дзьмухалі на далоні. Запальвалі і ставілі свечкі перад абразамі Збавіцеля і Святога Панцеляймона. Святар не адрываў позірку ад амаль празрыстага тварыку юніцы: задыхаючыся, ледзь рухала пашэрхлымі вуснамі. Тады, ні на хвілю не забываючы пра іх нядаўнюю размову, згодна кіўнуў ігуменні і з гатоўнасцю адкрыў Евангелле. Манастыр замёр.

...Той, каго Прадслава так доўга чакала, паўстаў у промнях. Неспадзеў уладна ступіў у яе чуйны відзеж. Высокі, з прасветлена-празрыстым прадаўгаватым тварам, у шаўкавістай апратцы, адразу ж павёў яе па глухіх радаводных спратах: блізу маўклівага гурту маладзіц з дзецьмі ў куце, міма цемнавокага і суровага князя ў акружэнні воінаў з лукамі і рамесных людзей з работным рыштункам. Але калі яны ўрэшце ўвайшлі ў асветленую нябачнымі свечкамі келлю, дзе над пергамінам схілялася немаладая манашка ў расшытых серабром шатах, князёўна нават адступіла, пачуўшы ў сэрцы моцны штуршок: “Рагнеда!” А пракаветная суродзічка, ветла ўсміхнуўшыся, працягнула ёй залаты крыж, які адразу ж зліўся з падушачкамі пальцаў. Анёл, чые тонка згорнутыя крылы паблісквалі зусім блізка, чакаў. Тады ступіла ў ягоны бок, і перыйкі ў серабрыстых крылах ціха зашалясцелі. Да слыху даляцела разгайданае шчыльным чалавечым збоем: “Святы Божа, Святы Моцны, Святы Несмяротны.”

— Ужо гатова сэрца маё, Ойча... Гатова!

У яе абуджаную свядомасць нечакана ўлілося прамяністае захмар’е і разам з ім пяшчотны водгалас царкоўнага звону:

— І прымае пострыг сястра Еўфрасіння!

— Да Цябе прыцякаю ад жывата маці маёй.

Ішла, не прыпыняючыся, за крыламі анёла, пакуль над галавою не разляцеліся, бы раструшчаныя залатым жэзлам, дзверы: з-за

недасяжных аблокаў у развярэджанае сэрца адразу ж ударыла такая зыркасць, што пачулася нязвыкла празрыстай.

— Я спяшаюся, Ойча! — Прастуючы пасярод серабрыстага ззяння па ледзь бачных прыступках, яна ўпарта падалася ўверх. Да слыху раптам данесліся дзіўныя гукі – надзвычай рэзкі бразгат зброі і конскае іржанне, ад якога на імгненне нават хітнулася. Аднекуль з прадоння явы заклубіўся бляклы сіваваты туман, што адразу ж засланіў прыступкі нябеснай лесвіцы.

– Ты – Бог мой, што пажадаеш, тое і спраўдзіш са мной, рабой Тваёю.

...Бразгат зброі на падворку, хаця юніца гэтага ўжо не чула, не аціхаў і па знаку святара каплічныя дзверы падперлі важкай прысценнай лавай.

– Не пралівай крыві, Рымша!

– Забыла Карфагенскі сабор, ігумення?

Па капліцы, лёгка крануўшы вогнікі свечак, прашугаў здзіўлены шэпт.

— Ці для Заслаўя няма святых законаў? А правіла сто саракавое забыла?

З падворка даносіліся гнеўныя крыкі, але заслаўская ігумення, азірнуўшы прысутных, ужо ўзнесла галаву:

– Усім ведама вера князёўны, і шчырасць яе, і дабрамудрасць, і пажаданне толькі Госпаду служыць!

... Ішла, усхвалявана прасціраючы рукі ў густое серабрыста-мігатлівае ззянне бязмежнага паднеб'я:

— Я так спяшаюся да Цябе, Божа!"

— Князю запалоцкаму Прадслава абяцана!

...Не спынялася, і аснежаны туман пачаў скочвацца па празрыстай лесвіцы з-пад яе ног некуды ўніз, адразу ж рассейваючыся.

— Няма для нас твайго загаду, Рымша.

— І прымае пострыг князёўна Полацкая.

Праз капліцу: — У імя Айца... — праляталі прасветленыя свечкамі словы малітвы: – ... і Сына, і Святога Духа!

— Нам Прадслава абяцана, ігумення, і нашаю будзе!

Віскатлівае конскае іржанне раскройвала яву. Бразгат зброі падаў на ледзь бачныя нябесныя прыступкі, разбіваючыся ў дробныя аскалабкі. Сумелася: пранізлівыя дудачкі жалейнікаў нечакана заліліся так весела і дружна, што яна на імгненне нават разгубілася. Праз частыя вочкі відзежу раптам убачыла манастырскі падворак: вартавыя кметы вялікага князя, ашчаціеўшыся дзідамі, загароджвалі

ўваход у капліцу, аднак соцкі Рымша з Запалоцця так ірвануў вуздэчку, што мышасты конь, падымаючы капытамі цэлую хмару снегавой сечкі, узвіўся ледзь не да самага ланцуга аховы. Бомы скамарохаў залівaліся аднaчасна весела і роспачна. Грозны навальнічны гром таксама ўдарыў аднекуль з вышыні так гнеўна, што адразу ж змусіў распаленых бойкаю і медавухай вояў прыпыніцца: запавольваючы мячы, усе здзіўлена паднялі позіркі, але на сівым ад холаду небе, адкуль ракатала пагроза, не было ні хмурынкі.

...Яна нарэшце спынілася, зразумеўшы, перад Чыім Прастолам стаіць. Аслепленая, ледзь змеціла тонкую Мацерыну руку з крыжам, што, наблізіўшыся, крануўся яе невыносна балючых ранаў: такой глыбокай і калючай — у сэрцы, такой торгаючай — на горле, такой даўкай са спіны. Усюдыісны боль ужо зліваўся са зладжаным капліЧным спевам.

— І прымае пострыг князёўна полацкая Прадслава, у імя Айца...

– Наша князёўна! — У дзверы зноў гахнулі бервяном.

– І Сына... І Святага Духа.

Святар схіліўся: — І прымае прычасце сястра Еўфрасіння.

Вусны апекла гарачай кропляю, вочы шырока расплюшчыліся. У капліцы было так многа людзей, што яна, цяпер ужо сястра Еўфрасіння, міжволі азірнулася на зачыненыя дзверы, з-за якіх усё яшчэ даносіліся крыкі. Свечка міргала. Белая, што сцяна, прасветленая слязьмі маці, стоячы каля ігуменні, апусціла галаў. Ззянне ўжо заліло ўсё навокал, аднак адчула, як набліжаюцца, адбіраючы вочы бляскам, два найярчэйшыя прамяні, пасланыя ёй ад Таго, Хто быў на вяршыні. Стаяла пад абразом Збаўцы, утапіўшыся позіркам у яркай хвалі, праз якую значыўся Яго цярновы, з вострымі скрываўленымі шыпулямі, вянец.

“І на рабоў Маіх і рабыняў у тыя дні вылью ад Духа Майго, і будуць прарочыць і ацаляць, упакорлівыя, як толькі прасцірацьмуць руку на гаенне і на тварэнне імем Духа Святага.”

— І Ты, Матухна Баганосная, побач. Прыкладваеш персці свае да майго сэрца і дыхання, вуснаў і вачэй. Ратуеш і клічаш. — Нечакана адчула ў сабе такі моцны боль, што нават устрашылася. Бо гэты новы і зусім чужы боль ўліваўся ў яе адчыненыя раны, сыходзячы ад прысутных манашак. У адно імгненне ўведала: Антонія пакутуе ад страшнай рэзі ў жываце, у сястры Еўдакіі ные пад правай рабрынай, у Пііпы ажно ўгіналіся ад вузлаватых саляных наростаў худзенькія плечы. Падняўшыся, пацягнулася да гэтых плячэй далонямі, што адразу ж прысталі да цвёрдых наростаў: праз трымтлівыя

пальцы ў чужую хворасць пругкімі штуршкамі пацекла гаючая сіла. Было, аднак, так горача самой, што падзьмухала на далоні.

...Гром грыміць, хаця на вуліцы люты мароз. Вецер прадзімае худы частакол. Мечы рагочуць. Ускрык параненага. Ступіла да дзвярэй і перад ёй нехаця аднялі важкую дубовую лаўку, адчынілі дзверы. У капліцу тут жа асунуўся, падаючы спінай на аснежаны парожак, яшчэ зусім малады скамарох з бразготкамі па ўсіх грудзях. Ляжачы, застагнаў. З раны ў баку цекла, распаўзаючыся па снезе яркай плямінаю, кроў. Тады схілілася, і запалоцкія грыдні, што пры яе з'яўленні пераможна пераглянуліся, міжволі адступілі. Падняла рукі і застыла над параненым. Рымша, у цёплым жупане і падбітым лісіным футрам шаломе, хітнуўся на сваім грозным кані. Выпусціў вуздэчку. А яна, прыклаўшы да раны абедзьве далоні, пачала, суцішваючы кроў, малітву. Над падворкам запалегла цішыня.

Княгіня Сафія, усведамляючы, што дачка ўжо ніколі не вернецца ў дзявочую святліцу, сумна адвярнулася: моцны ўдар нанесены быў цяпер бацьку-князю і ўсяму полацкаму крылу Ізяславававу. Пасля даччынога пострыгу, які ўжо не дасць Святаславу ні слаўнага зяця, ні жаданых унукаў, даўнія мроі відбескага валадара пра вялікакняжы сталец сплывалі, як дым згасаючага вогнішча. Манашка Еўфрасіння — гэта ўжо не толькі ягоная дачка.

Святар няспешна выйшаў з царквы, і ў суправаджэнні дзячка, мінаючы насцярожаных запалоцкіх вершнікаў, скіраваўся да сваёй павозкі. На хаду дабраслаўляў усіх, хто ў гэты лютаўскі дзень, не зважаючы на пагрозу ўласнаму жывату, заставаўся ў падворку, баронячы абіцель.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## Вогань сызпеклы

### РАЗДЗЕЛ 1.

Рэдкія вясновыя адлігі ў годзе ад Нараджэння Божага адна тысяча сто дваццаць сёмым былі надзвычай кароткімі, ледзь паспяваючы закідваць гразюкаю і без таго растоўчаныя капытамі і коламі дарогі. Па-зімоваму холадна, гразка было і на душы ў месцічаў: варажнеча паміж запалоцкім валадаром і вялікім князем Барысам навальнічна ўзрастала. Ці не таму гадзюкамі папаўзлі па весях нядобрыя чуткі пра таемныя перамовы кіеўскага Мсціслава з дрыгавіцкімі і палянскімі князямі?! Аднак толькі пасля таго, як дазорныя кметы прынеслі нечаканую навіну пра нахабныя ханскія атрады, што бліскавічна наляцелі на прадуктовыя схароны, пакінуўшы за сабою пажары і смерць дзесяткаў крывічоў, увесь край нібыта прачнуўся. Спешна набіраліся новыя дружыны. Кузні, не аціхаючы, шугалі агнём нават начамі. Новыя суліцы і мячы вывозілі ў весі цэлымі падводамі. Віхрам пралятаючы ўздоўж Дзвіны і зубчатых межавых лясоў, за дзяржаўным спакоем няўпынна сачылі падвоеныя атрады кметаў. Але хан Баняк нечакана адступіў. Мінуў тыдзень і Полацк усцешыўся даносамі віжоў пра тое, што варожыя лавы наўздзіў спешна рушылі на далёкую жмудзь.

Не было спакою толькі княжай каморы вышуку: у глухіх пушчах, пэўна, пакінуў хан таемныя стойбішчы, гатовыя прыняць новых паланянак. На звязаных недзе ў дзвінскіх затоках плытах самых гожых юніц, упалоненых ці скрадзеных, глухімі начамі адпраўлялі праз Кіеў на страшныя ўсходнія рынкі. Некаторыя з тых таемных нявольніцкіх плытоў пераймала варта з дазорных прыстаняў блізу Полацка. Аднак большасць так і знікала ў неварацi. Толькі ці не было якой іншай прычыны сыходу з Полаччыны хітрага Баняка? Можа, зусім і не хлусілі находныя са Смаленшчыны жалейнікі, расказваючы пра страшны мор у тамтэйшых землях?

Аднак жа, як імкліва мінаюць леты жыцця. Быцам тая страла, што праляцела праз яе дзявоцтва. Быццам зорка світання, што так часта хавалася ад сваёй князёўны ў хвалях Дзвіны, калі яна надоўга пасялілася ў вузкі, асветлены толькі свечкамі, манастырскі галубец Сафіі. Цяпер, закалыханая гэтай рыпучай галілейскай павозкаю, ужо такая немаладая полацкая падарожніца, узіраючыся ў сваё колішняе,

Еўфрасіння нечакана адчула, што гэтак жа балюча, бы ў далёкай маладосці, зудзіць зашорганая цяжкай хламідаю спіна. Мільыя зроднікі, прыціскаючыся плячмі адно да аднаго, драмалі і раз-пораз уздрыгвалі, відно, згадваючы нядаўні марскі шторм. Але павекі ігуменні толькі прыплюшчваліся і трымцелі ад мяккага дыхання ветрыку, што так лёгка перагортваў манускрыпты яе ўласнага, гэткага доўгага і няпростага жыцця. Расхінаючы амаль забытыя мярэжы ў галілейскі прасцяг нечакана ўплыў далёкі тонкі спеў:

*“І закоўвала любоў мяне ў путы жалезныя. І меч двухсечны — у руцэ любові.*

*І заціскала, пяшчотнае, у кайданы сэрца маё, і клявала, вастрадзюбае,*

*пячонку маю. І хваляць любоў усе анёлы. Хваляць усе войскі Госпада.*

*Хваляць нябёсы нябёсаў, і воды, якія вышэй за неба....”*

... Растурзаная павозка нечакана мацней звычайнага тарганулася: кола наляцела на сур’ёзную перашкоду і Асан нешта незадаволена прабурчаў. На дарогу тут жа саскочыў мажны барадаты маўчун.

— І праўда, падмажы, Міхале, — задаволена кіўнула ігуменне: той з лёгкасцю падняў адно з колаў і выбіў з-пад яго камень. Вярнуўся на звыклае месца, урынаючы ў сваю бясконцую балючую памяць.

* * *

... Амаль усё сваё жыццё ён, малодшы сын баярына з Бельчыцаў Міхал, слухаўся разумных парад і трымаўся звыклага шляху. Пакуль не сустрэў тую чарнавалосую... Пакуль не ажаніўся на ёй, дачцы простага медніка Веранііі, нават не здагадваючыся, што ўпала яна ў вока і запалоцкаму Барыславу.

Значна пазней, калі Веранію пасля таемнае змовы Барыслава з Міхалавым бацькам ужо звезлі з двара, аднойчы сярэдначы прынёс яму нейкі страшны смерд у скрываўленай сарочцы пярсцёнак з чырвоным вочкам. Але Міхал, знячэўку ўстрашаны дзіўным госцем, упершыню не прызнаўся, што ведае яго ўладальніцу. Адцураўся і ад любай жонкі, і ад яе пасланца, якога, па-праўдзе, праз імгненне пазнаў. Але дружа шкалярскага вотрацтва жмудзін Кірык, хітравата ўсміхнуўшыся, ужо знік у ранішнім тумане, пакінуўшы пярсцёнак на Міхалавай далоні. Той пярсцёнак з чырвоным вочкам ён усё-роўна пазней згубіў. Але начная сустрэча з даўнім сябрам балюча

развярэдзіла згадкі. Заўсёды вось так нечакана ўзнікаў і сыходзіў ён, гэты Кірык. Часам называў сябе чамусьці Кірыкусам. Такі падобны да крывічоў жмудзін, што яшчэ ў Данілавай школе здзіўляў усіх сваімі адчайнымі дзівацтвамі. Пазней, зрэшты, таксама. Калі замацярэў і пачаў вадзіць па Полаччыне, наганяючы жах на самыя моцныя двары, сваю буяную хаўрусню рабаўнікоў і падпальшчыкаў.

Гойсаў штоночы наўпоперак задзвінскага прасцягу, не баючыся нават вар'ятаў соцкага Рымшы...

## РАЗДЗЕЛ 2.

Запалоцкі князь Барыслаў у шоўкам расшытай керэі паверх простай сарочкі ўсміхнуўся ў чорную, з сіваватымі космамі, бараду. Спыніў на начным суразмоўцы пагрозлівы позірк:

— Ты адмаўляешся памагчы мне, Кірык?

– Не казаў такое князю.

— Казаць – не казаў. А думаеш па-свойму.

... Князь Барыслаў, самы малодшы, як сведчылі злыя чуткі, сын Усяслава Чарадзея, прыжыты ім з гожай запалоцкай ключніцай, быў вельмі падобны на маці і да зроднікаў адносіўся заўжды насцярожана: ледзь не прылюдна знаўся з тацямі-находнікамі і ханскімі хаўруснікамі, аднак нічога не баяўся, бо меў надзейную падтрымку вялікіх князёў Давыда і Барыса. Даволі часта варагуючы між сабою, абодва валадары адносіліся да зводнага брата з аднолькавай цярплівасцю. Але апошняе – прагнае незразумелае ўзлакненне запалачанінам маладое князёўны Прадславы, што ўжо і так надоўга парушыла выгадныя дамовы Полацка са смалянамі, адвярнула ад яго амаль усіх сваякоў. Урэшце, калі князь Святаслаў, варагуючы з магутным Яраполкам, увачавідкі паслабеў, малады Рагвалод у запале гневу ўпершыню назваў Барыслава "запалоцкім кукушонам." Мянушка ў асяроддзі месцічаў адразу ж прыжылася: запалоцкае падвор'е было акружана агромністымі, перапоўненымі зязюліным куваннем, лукамі. Тады ўпершыню і сталі для ўсяго полацкага веча відочнымі таемныя пасягненні "кукушона" на вялікакняжы сталец. Барыслаў, аднак, ужо не звяртаў на кпіны аніякай увагі, паспеўшы займець не толькі самую моцную ў княстве баявую дружыну, але і не менш унушальную казну з серабром.

Расчырванелы ад духаты князь гучна кашлянуў, нібы змушаючы госця падняць вялікую цемнавалосую галаву.

— Усё, што ты прывёз, я ханскім прыслужнікам уранні перадам. Заўтра ж прывядуць красуню тваю з ляснога схарону. Толькі і мне службу саслужы.

У невялікай гасцёўні палаца насупраць князя Барыслава, моцна трымаючыся за сталешніцу знямелымі пальцамі, сядзеў сын жмудзінскага купца Кірык. Князь увесь час падсоўваў маладому госцю жалезны коўш з медавухай, паказваючы на гліняны спод з вялікай копчанай дрофай. Але жмудзін нават не пазіраў на стол.

— Я сабраў усё, што хан хацеў! Усе трыста вавёрыц белых! Мяшок футра! Ці чуеш? Скажы ханскім прыслужнікам, княжа, няхай адпускаюць Алму!

— Ці ж я не скажу!?Але чаму медавухі маёй не п’еш, Кірыкас? – Засмяяўся здзекліва:

— Ой, не ўмееш ты... Не ўмеееш! Ні піва піць, ні....

Кірык здзіўлена гмыкнуў, але Барыслаў, адпіўшы з бліскучага, падобнага на чалавечы чэрап, каўша, толькі ўсміхнуўся.

— Хутка, мо, і сам князем станеш. А мы медавуху ўмеем піць. Пітво такое саладзейшае за жонку! Праўда, Рымша?!

Соцкі Рымша, якраз уваходзячы ў пакой, адно згодна прытупнуў казлінымі прабашнямі і засмяяўся.

– Гожая маладзіца на рынку ўдвая даражэй.

Кірык імкліва падскочыў з лавы: — На якім рынку!? — Але мажныя грыдні, што стаялі каля сцяны, адразу ж ткнулі яму коп’ямі пад лапаткі.

— Сядай. – Князь Барыслаў, падсунуўшы госцю шкляніцу цёмнага піва, крыва ўсміхаўся:

— Усё, што ты прывёз, я перадам. Не сумнявайся. Вернуць табе тваю Алму. Ханскія найміты паслухаюць.

Калючым позіркам паласнуў па стале:

— Толькі і ты мне ласку зрабі.

– Не магу я, князь. Яшчэ столькі ж вавёрыц прывязу... — Кірык, шахнуўшы па барадзе пяцярнёй, рашуча адсунуў ад сябе пергамін.

— Казаў ужо тваім: не паверыць мне Прадслава.

– Яна ўжо Еўфрасіння!

Князь Барыслаў так моцна ўдарыў па сталешніцы рукою, што Кірык ад нечаканасці ўздрыгнуў.

– Не ладзілі мы ў Заслаўі, князь. Чужымі былі. Гордая Прадслава. Дзікая, хоць і з роду княжага...

Барыслаў, недаверліва скасавурыўшыся, рыўком сцягнуў з галавы атарочаную вавёрчыным пухам шапку і зноў нядобра ўсміхнуўся.

— Гэта нічога. Лятункі маладыя ўсё роўна вочы засцяць! Хіба па сабе не ведаеш? Бяры пяро і пішы, калі хочаш жонку ўбачыць! І не бойся, не аспіды мы. Не варнакі няхрышчаныя, як тваё племя вужына! Толькі пагаварым і адразу ж адпусцім служку Божую.

На плячо Кірыка легла важкая рукавіца соцкага і той, падняўшы позірк, ажно сумеўся: перад сталом, здалося, высіўся яго заслаўскі дружа-шкаляр Міхалка. Не стрымаўшыся, запытаў:

— А брата Міхала ў цябе няма часам, соцкі? Міхала з Бельчыцаў?

Чарнавалосая пакаёўка, што якраз несла паднос з вінным глякам, зачапілася за вугал стала, і віно пад агульныя незадаволеныя крыкі пачало разлівацца па падлозе сярод патрушчаных гліняных чарапкоў. Тым часам, падняўшы вочы, Кірык сустрэў ледзяны позірк.

– Пішы лепей, жмудзін.

– Тады прывязі Алму на падворак да Сафіі. Туды, дзе з Прадславай сустрэнемся.

— Прывязу, жмудзін! А брата Міхала ў мяне даўно няма.

– Пакажы яму, Рымша. — Барыслаў зарагатаў і Рымша, урэшце выманіўшы Кірыка з-за стала, шырока расчыніў дзверы ў бакавы пакой, адкуль даносіліся п’яныя крыкі і разбэшчаны жаночы смех.

– Ідзі, жмудзін. Весяліся!

...Апоўначы некалькі грыдняў усцягнулі вялізнага, што мядзедзь, але бясцямнага госця на нізкі тапчан. Маладая чарнавокая пакаёўка, акрываючы Кірыка коўдраю, нечакана нахілілася і ледзь чутна прашаптала: “Ды вывезлі ўжо тваю Алму, бедалага. Так ціха вывезлі, што нават лось сахаты не бачыў.” Але схмялелы Кірык у адказ толькі сонна выпрастаўся і заціх да наступнага вечара. Прачнуўшыся занадта позна, схапіўся рукамі за галаву і яшчэ раз паўтарыў: да Сафіі, куды ўжо настала пара ісці на сусрэчу з Еўфрасінняй, кметы павінны прывезці і яго Алму. Выходзячы з гасцёўні, шаргануў рукою ў кішэні жупана і пальцы адразу ж нешта намацалі. Гэта былі сонечныя бурштынавыя пацеркі, якія ён некалі зрабіў і падараваў Алме на вяселлі. Каралі былі ўкручаны ў шоўкавую скрываўленую хусцінку. І ці не ўпершыню ў жыцці рука Кірыка здрадліва дрогнула. Але Рымша, акружаны ўзброенымі кметамі, ужо падводзіў яму грудастага, з падкурчаным хвастом, каня.

## РАЗДЗЕЛ 3.

— Я не ведаю цябе, але адчуваю тваё дыханне.

– Гасподзь шчыт перад усімі і слава, і падымае голаў. За любоў сваю цяпер прасі, юніца. Час ужо!

– Не ведаю, прасіць аб чым....

Прасі, юніца неразумная. Бо нічога не ўзрастае на зямлі гэтай без любові. Так прасі, паўтараючы за мною:

— Госпадзе, Спасе наш...

– Госпадзе, Спасе наш...

— Ратуй любоў маю ад вуснаў ілжывых...

– Ратуй любоў маю ад вуснаў ілжывых...

— ... ад языка падступнага, што дае вострыя стрэлы з жарам ад ядлоўцу.

—... ад языка падступнага, што дае вострыя стрэлы з жарам ад ядлоўцу.

— Ратуй, Госпадзе, любоў жыцця майго.

— Ратуй, Госпадзе, любоў жыцця майго.

* * *

... У тыя халодныя веснавыя ночы манашка Еўфрасіння, ужо набраўшы незвычайнае красы, — з вялікімі вачыма і пунсовымі вуснамі – змогшыся ад перапісвання Евангелля, некалькі дзён запар бачыла адзін і той жа відзеж. Праз бляклае сяйво паўставалі высокія сцены харомаў, за сталом пасярэдзіне важна сядзелі два суразмоўцы, у якіх змагла пазнаць кіеўскага Мсціслава і запалоцкага “кукушона”. Відзеж быў настолькі нечаканы, што, прачнуўшыся, юніца не насмелілася нават згадваць прыбачанае. Страшыла іншае: тая вялікая жоўтая вада, што са змяіным шыпеннем нечакана ўрывалася ў яе сны, тут жа змываючы бруднымі хвалямі і белыя харомы, і грознага кіеўляніна, і ягонага суразмоўцу. Успенены бруд з сіпеннем ляцеў па гарадскіх вуліцах, несучы ў невядомы працяг хатнія рэчы, друз пачарнелых жэрдак і нават разбухлыя дзіцячыя цельцы, змеціўшы якія, яна ад жаху прачыналася. Напалоханая, малілася, аднак відзеж зноў і зноў вяртаўся.

Тады ў адну з бяссоных шарых раніц, зняможаная тым жа малюнкам, яна надоўга знерухомела перад укрыжаваннем. Лёгкія пёркі хмараў ледзь краналіся залачонага крыжа, зазіралі праз вузкія слюдзяныя акенцы ўсярэдзіну, дзе ад запаленых свечак было ўрачыста і светла, а рэха пад высокім купалам дрогка паўтарала: “ Злітуйся.” Праз кожнае слова малітвы прабягала сляза, якую краналі жывыя вогнікі свечак.

“ І жывы ў ласцы Усявышняга, такі міласэрны і бязгрэшны, Заступнік мой і Ахова, Бог мой, прыйдзі, Збаўца ад сетак лоўчых і

словаў паганых. І пад крылом Тваім спадзяюся, што зброяю ахоўнай будзе гэтая ісціна Твая...”

Яна пачынала шаптаць словы вялікай ісціны, і царква таксама чула іх, уздрыгваючы ад даччыное трывогі і моцнага, яшчэ па-зімоваму шурпатага, ветру, што, здаецца, ужо таксама працягваў:”...ды не ўстрашся ад жаху начнога і ад стралы, што ляціць удзень, і ад дзеі, што творыцца ў цемры, і ад д’ябла паўдзённага. І няхай упадзе ад волі твае тысяча, і змрок не наблізіцца, і не настане зло, і рана абыдзе цела тваё, калі Анёлам сваім звястую аберагаць. На руках узнясуць цябе, і не торкнешся нагой аб камень, на аспіда і васіліска не наступіш, але пасароміш ільва і змія.” — Неба адзывалася да юніцы ўсім святлом блакітных ранішніх зорак: “ Калі спадзяешся на Мяне, збаўлю, ахіну, уратую, адно спавядай імя Маё з вераю.” Царква на адкрытым сцюдзёнаму ветру погарбе лагодна свяцілася сваім тонкім абрысам. Свечкі пад абразамі, як назіраючы за інакіняй, гарэлі роўна і спакойна. Тады паціху праслізнула за дзверы, нават не пабудзіўшы няньку, якой удзень прынеслі пергамін ад Кірыка. Былы Данілаў вучань прасіў Еўфрасінню аб сустрэчы, але чамусьці ночаю каля ракі. Дапісаў унізе, быццам ад той размовы залежыць жывот ягонай сям’і. Здзівілася, але ведала, што на сустрэчу абавязкова пойдзе.

... Царкоўны двор быў услany заінелым бітым каменем, тонкія пальчыкі начной свежасці колка краналіся шыі і шчокаў; падняўшы вочы, маладая манашка доўга ўзіралася ў вышыню, дзе ў заваленым хмарамі небе нарэшце ярка ўспыхнула вялікая лагодная зорка. Гэта быў доўгачаканы знак. Тады пачала асцярожна спускацца па крутой заінелай сцежцы. Ішла, кіруючыся ў бок ракі, і вось ужо наблізілася да вялікага валуна, што патыхаў адсырэлым мохам. Здалёк было відна, як па нерухомай, усё яшчэ акаванай лёдам рачной прасторы міргае і шоўкавымі пасмамі цягнецца ў невядомасць такая ж, як заўсёды, ільністая поўня. Тады ласкава правяла рукою па камені, і неба з ледзь чутным стогнам пасвятлела, частыя зоркі імгненна апусціліся ніжэй: вось-вось, здавалася, дакрануцца і да гэтых хрусткіх вербалозаў, і да набухлай веснавою сілай ракі. І да гэтага жывога валуна, які так надзейна ахоўваў крывіцкае княства. Побач вуркатліва бруілася крынічка. Нагнуўшыся, зачэрпнула з яе жменяй, ачышчаючы глытком дыханне:

“Тады ўратуе ён, камень, пагарджаны намі, будаўнікамі, бо ён зрабіўся галавою вугла, і няма ні ў кім іншым ратунку.”

Вакольнае жыццё сапраўды азвалася да яе гатовымі вось-вось распукнуцца пупышкамі; дрогнула, рыпнуўшы пругкім коранем аеру, што за доўгія леты прыбярэжнага жыцця, адно змагаючы важкія

чорныя пласты, пакрыўся закарэлай бранёю. Цвёрды, як жэрдка, гэты пракаветны корань цягнуўся ўздоўж усёй Дзвіны, уздрыгваючы ад уласнае сілы, і яму адгукалася лона полацкай зямлі. Водар жыцця і любові запоўніў кожную жылку навакольнага свету: і высока ўскінуты зорны пас у небе, да якога ўвесь час цягнуўся позірк, і гэтае сухое ад інею паветра. Ледзь стрымліваючы лекаценне, яна ўрэшце абаперлася аб камень, але па вачах так моцна шарганула чырвоным радном, што ажно хітнулася. Бачыла: быццам звітыя з жылаў тоўстыя ногі полаўцаў у кароткіх ботах лупілі ў твары палеглых у крывавай сечы крывіцкіх ратнікаў, прашчнікаў і лучнікаў. І кожны раз яна таксама адхінілася, як ад удараў. Зрабіла колькі крокаў наўкруг валуна: слухала моцныя штуршкі вялізнага каменнага сэрца, перапоўненага назапашаным за доўгія леты сонечным цяплом. “Аднак, было тое ці мо будзе яшчэ ў Полацку? Толькі навошта пасылаеш Ты мне, Госпадзі, гэтая ўявы? Як жа часта сёння падаюць зоркі-знічкі, саслізгваючы з пальцаў Тваіх." З боку Дзвіны, куды трэба было спусціцца на сустрэчу з Кірыкам, прыбег цікаўны ветрык, сціснуў свежасцю тонкія плечы, палашчыў аблічча. Засвістаў, заскуголіў, зарагатаў, бавячыся.

– Прадслава!

Ад нечаканасці дрогнула і павярнулася да амаль нябачнай ракі на знаёмы голас; позірк адразу ж патануў у  невераемна глыбокім пагрозлівым мораку.

– Асцерагайся! — Начную цемру нечакана распаролі агні ліхтароў, з глыбокай берагавой цемрадзі данесліся злосная лаянка і бразгат зброі.

– Бяжы адсюль! Асада! Бяжы!

Крыкі імкліва набліжаліся…

— Бяжы, Прадслава!

Задыхаючыся ад страху і абдзіраючы рукі аб лазнякі, і сама ўжо кінулася па круцізне пад’ёму ўверх.

Бегла, пакуль не апынулася за важкімі дзвярыма царквы, тут жа гулка зачыненымі за яе спінаю амаль няўцямнай Еўлампіяй.

— Я чула іх, нянька…

– Не плач!

— Пашто ж Кірык…?!

– Супакойся. Маліся – і ўведаеш.

– Усе мы — вучні Данілавы. Цяпер аднаго з нас, Дабраслава, няма. З-за мяне!

— Не грызі сябе так…

— З-за мяне адной! Кірык таксама клікаў. А я…

— Папярэдзіў ён цябе. У Запалоцці толькі адзін гаспадар ёсць. Князь Барыслаў. І ўсе пергаміны толькі ягонай рукою пішуцца, князёўна мая.

—Кажаш, што і пра пергамін ведаў?

– Ці не сам і напісаў, князёўна мая!

Тая, насцярожана прыслухаўшыся, нават затаіла дыханне, аднак на царкоўным падворку было наўздзіў ціха. Тады, перажагнаўшыся, падалася ў келлю.

* * *

*“ Інакіні Еўфрасінні ў абіцель манастыра ад пісца епіскапскага. Запытанне.*

*І ведама табе, князёўна святлейшая, як вясна ў краі нашым запазнілася, ведама табе, што смерды з навакольных весяў пачалі абдзіраць з бяроз кару і збіраць з-пад наледзі сівы мох. І ёсць ужо няшчасныя памерлыя. Пасылае князь апраметны у весі крыўскія валацужных сабак-людаедаў і хмары варання…”*

На хвілю задумалася. Ці ж магла яна пра ўсё напісанае не ведаць!? Ведае і пра тое, што дазорцы, выстаўленыя вялікім князем па ўсіх скрыжаваннях, няшчадна, у небе і на зямлі, знішчаюць нечаканых найміта ў смерці, але тыя, збіўшыся ў нахабныя зграі, блізіліся да жылых аселіц, нападаючы нават на людзей. Начамі па полацкіх вуліцах прабягалі, важка гупаючы лапамі па дашчаных насцілах, цэлыя зборні псоў-забойцаў, і пабуджаныя гараджане ў жаху сцішваліся ажно да раніцы, пакуль не пачынаўся абход варты, аб чым гучна абвяшчалі ўдары ў жалезныя біты. Следам парыпвала няўклюдная, абцягнутыя радном, хаўтурныя фура на вялікіх драўляных колах. Доўга валюхалася па асветленых ліхтарамі вуліцах і, падабраўшы начныя ахвяры, паволі знікала за гарадскім валам.

*“ Адначасна па ўсёй Полацкай зямлі, святлейшая, разляцелася вестка пра з’яўленне вялізнай гуртоўні рабаўнікоў, якіх па баярскіх дворышчах водзіць незнаёмы, бязлітасны і жорсткі, жмудзін. Вялікі князь нават падвоіў колькасць ахоўных раз’ездаў, аднак пішу табе з трывогаю, бо і д’ябальскія псовыя зграі, і збоі гнюсаў тых аб’яўляюцца ў самых нечаканых месцах. Ці не ведама табе, інакіня Еўфрасіння, дзе могуць хавацца тацi тыя, што ўсю зямлю нашу крывёю залілі? Бо казаў князь запалоцкі Барыслаў, якому не заўсёды ўладыка наш веры дае, аднак жа, казаў запалачанін, што водзій зладзейскі Кірык з табою разам у заслаўскай школе навучаўся і цяпер можа ў любы час*

*блізу храма аб'явіцца. З нагоды тае просім цябе, князёўна святлейшая, варту сваю памацніць, для чаго і пасылаем з ловамі навучанага вартаванню Агменя. Яшчэ просім паведамляць нам усё, што да таця Кірыка лучыцца. Панежэ казанае запалачанінам не толькі супроць цябе ўчыняецца, але і на нас усіх зламысным падазрэннем падае."*

...Божа міласэрны, але хіба ж не прарочыў гэтыя няшчасці Полацку чарнец Ілля, наказваючы ўсім адно маліцца?! Толькі чаму ж не піша служка ігуменскі пра свавольствы запалоцкіх кметаў? Зграі псовыя і прышлыя таці зрэдзьчасу адно месцічаў страшаць. Не тое – запалоцкія! Штодня, штоночы крояць па жывым зямлю крыўскую. Пашто ж не плача аб тым пісец ігуменскі!?

Думае – розум у яе дзіцячы, недамысльны. Забыў няўжо? — той, хто Вечную Кнігу шматкроць перапісаў, дзесяткі летаў да сваіх дадаць можа.

## РАЗДЗЕЛ 4.

... Іх, відно, чакалі. Кірык зразумеў гэта адразу ж, як толькі з бакавых дзвярэй палаца ўслед за Рымшаю ў падворак хлынулі слугі з яркімі паходнямі і ліхтарамі ў руках. Крыкнуў гуртоўні, каб усе разбягаліся, але з байніц каменнай агароджы смяротнай хмарай сыпанулі стрэлы. Каля сцен у міргвока палеглі дзесяткі забітых. Святло ліхтароў высвечвала на світах яркія чырвоныя пляміны крыві. Зрэдзьчасу даносіліся балесныя стогны. Ніхто з гуртаўнікоў, відаць, не ўцалеў. Нават той, хто данёс, што яны, пакінуўшы коней у стойбішчы, прыдуць сёння пеша.

– Я садзіў цябе за свой стол! — Да Кірыка, рукі якога былі моцна звязаны за спінаю, ушчыльную падступаўся сам князь Барыслаў.

– Дзіды ты мне пад рэбры ткнуў.

– Я з табою мёд піў! Я склепы піўныя табе адчыніў.

– І вавёрыцы мае сабе забраў!

— Я табе самы мяккі ложак аддаў! — Раз'ятраны, князь ужо, здаецца, распырскваў сліну: — Я дворных дзевак пад цябе ўсіх кінуў. А цяпер на мяне жалуешся?

— Алму маю ты ў ложак чужы кінуў, княжа! Хлус нікчэмны ты, князь запалоцкі! Рукі ад страху звязаў мне...

Нехта з вартавых па князем знаку імгнення рассек вяроўку і ўжо ўзмахнуў над Кірыкавай галавой сякіраю, але князь нечакана забегаў па падворку і заверашчаў, як паранены дзік:

— Не будзе табе смерці лёгкай, жмудзін!Прэч усе! Не чапаць! Яшчэ ніхто не смеў гэтак са мною! У вужоўню аспіда, да суроднікаў! Жоўцю сплывеш там, лыч жмудзінскі!

Падскочыўшы, з сілаю грымнуў Кірыка ў грудзі, быццам падаў знак Рымшу і слугам начнога, нязванага госця ўжо не шкадаваць.

* * *

...Глыбокая, але з жоўтым пяшчаным днішчам яма з нішамі ў сценах была пругка і густа абвітая сырой, нават з клейкімі, пахучымі лісточкамі лазою.

Упаўшы на даволі мяккі пясок, Кірык усё роўна закрычаў ад болю: збітае нутро адазвалася на ўдар гарачаю ўспышкай увачччу, усе косці былі спрэс патрушчаны. Падняў голаў — на тоўстыя жалезныя краты тут жа, закрыўшы ад яго зоркі, упала нешта важкае і глухое. Не адрываючы позірку ад той высокай чарнаты, Кірык пачаў прыслухоўвацца да цемры яміны, і нечакана ўсцешыўся, пачуўшы скрыгатлівую, з самага маленства любую песню цвыркуна. Праз імгненне, праўда, з горыччу ўсвядоміў, што гэта яму прычулася. Правёў рукою па лазовай пругкай агароджы і зморана заплюшчыў вочы. У адным з кутоў ямы яшчэ мігцела вуголле астываючага вогнішча.Тады сеў, абхапіўшы рукамі калені, на якія апусціў важкую галаву. Чакаў, калі ўрэшце сагрэецца. Мармытаў напоўзабытую матчыну песню без слоў і ўсміхаўся.

...Кірык заснуў так моцна, так надоўга праваліўся ў свой адчай, што, калі нарэшце адплюшчыў павекі, ужо не ведаў, колькі прамінула часу. Едкая халодная сырасць паказвала, што блізіцца раніца. Як ні дзіўна, вогнішча зноў весела іграла язычкамі агню і патрэсквала ад смалякоў. Тады конча ачуціўся ад нейкага пагрозлівага шархацення і свісту, апраз якія зверху цадзіўся шараваты пылок. Блізу адкрытых ужо кратаў, пакашліваючы, паходжваў вартавы.

Кірык міжволі прыслухаўся, злавіўшы асобныя словы гаворкі паміж жанчынаю і мужчынам, крыкнуў:

– Прынясіце хоць вады!

Але ніхто яму не адказаў. Вартавы, праўда, рассмяяўся і весела засвістаў, наблізіўшыся да самага краю яміны. Раз-пораз закрываў ад Кірыка бляклыя прадранішнія зоркі. Аднак да свісту і шахання крокаў вартавога нечакана далучыўся нейкі іншы, знаёмы і ўсё ж пакуль не пазнаны ім гук. Тады насцярожыў памяць і застыў. Гэта было тое густое пагрозлівае сіпенне, ад якога ў Кірыка адразу ж перасохлі вусны. Павольна падняўшыся на ногі, ён ступіў да сцяны. І адразу ж зразумеў, што зрабіў не тое. Ледзь не каля самых ягоных

рук, расхінаючы лісце лазняку, на плечы пругка узваліліся ліпкія і гнуткія вяроўкі, што адразу ж крануліся рук і шыі. Гэта былі вялізныя пушчанскія карчавыя гадзюкі, што звычайна гняздзіліся ў пнішчах, не падпускаючы да сябе анікога.

Ён стаяў на анямелых нагах нават не шалохнуўшы пальцам, і гадаўё, якое чуў ён цяпер не толькі слыхам, імгненна абвіло ўсё цела, запаўзаючы нават пад парваную сарочку. Гадзюкі масцілі збітыя грудзі і спіну сваім ліпкім клеем, але ўсё-ткі не джалілі. Ці не былі завароржаныя тым лясным духам ягонай бабаўнянай світкі, у якой начамі Кірыку так цёпла спалася каля пушчанскіх вогнішчаў. Ды і ўвесь ён быў цяпер забраны тым едкім пахам разапрэлага сасновага шыгалля, тым калючым лясным водарам папараці і смалы, па якім, відно, сумавалася нават гэтым, упалоненым людзьмі, паўзучым гадам. Атрутныя пачвары нечакана прызналі Кірыка сваім і не чапалі.

– І я сумую. Па Алме сваёй. І я... — Кірык ледзь стрымліваў слёзы, але ціхае, насцярожанае сіпенне гадаўя нагадвала аб паўсюднай прысутнасці смерці. І яшчэ аб далёкай Кірыкавай вотчыне, той густой пушчы, блізу чарналесся якой высілася новая бацькава даміна, пабудаваная адмысловымі хвалынскімі цеслямі. Цэлая палова даміны, бліжэй да лесу, была аддадзена Кірыку з Алмаю, і халоднымі начамі ў сенцы, бывала, запаўзалі гэткія ж вялізныя пушчанскія гадзюкі: звісалі са сцен і грэліся. Раніцаю, праўда, знікалі, нікога не пакрыўдзіўшы.

Потым, калі паміж ім, старэйшым братам і нават бацькам пачаліся сваркі, Кірык, хаваючы сваю прыгажуню Алму ад іх пажадлівых позіркаў, таемнымі сцежкамі збег у глухія нетры. Дахаты зазіраў толькі на кароткія сустрэчы з маці. Пакуль не натрапіў на ханскіх наймітаў. ... Зверху зноў даляцела таропкая гаворка і ціхі жаночы смяшок. Праз хвіліну ўніз на вяроўцы пачало спускацца важкае вядро, з якога на сыраваты пясок выплёсквалася нешта белае. Гэта было малако. Вядро асцярожна спусцілі на зямлю ў супрацьлеглым ад Кірыка кутку, і гадзюкі па ўжо астылым вуголлі тут жа заслізгалі ў бок пачастунку. Праз нейкі час, насыціўшыся, зніклі ў лазовых сценах. Вяроўка зманліва пагойдвалася. Працягнуўшы руку, Кірык міжволі намацаў і моцна тузануў за яе, адразу зразумеўшы, што вяроўка ўверсе за нешта прывязана. Прыслухаўся. Ні крокаў, ні пакашлівання вартавога не чулася. Але там, наверсе, усё ж нехта быў. Здавалася, ён нават пачуў здаўленае дыханне. Счакаўшы хвіліну, зноў тузануў за вяроўку. І тады, напяўшыся ўсім вялікім, дужым целам, рашыўся. Нарэшце, пасля доўгіх упартых намаганняў, усё-ткі падцягнуўся на моцных руках да самага аброжку ямы; ужо не

думаючы пра магчымую небяспеку, упаў на пасунутыя ўбок тоўстыя жалезныя краты, за якія і была прывязана вяроўка. Тут жа, выпрастаўшы доўгія ногі, ляжаў вартавы.

– Не бойся. Адвару аднаго моцнага выпіў. Падымецца! А во з гэтай прорвы, — жанчына кіўнула на змяіную яму, — яшчэ ніхто жывым не падымаўся.

Ён адразу ж пазнаў тую самую чарнавалосую пакаёўку, што прыслужвала ў палацы яшчэ пры яго першай сустрэчы з князем Барыславам.

– Чым аддзячу табе?

Хоць сам выжыві, жмудзін. І сама лепей, гэта занясі. — Пакаёўка таропка паклала ў яго ладонь пярсцёнак з бліскучым каменьчыкам-вочкам.

– Знайдзі Міхала, сына баярскага з Бельчыцаў.

– Ведаю яго. Ці не ты Алміны пацеркі мне ў кішэню паклала?

— Яны тваю Алму адразу ж адаслалі. На першым жа плыце з самымі гожымі.

Ледзьве змогшы гарачую хвалю ў горле, прыслухаўся да ўсхваляванага шэпту:

—Таці Барыслава кроў, бы квас, разліваюць, а віна ўся на цябе, жмудзін, падае.

– Дачакаюцца яшчэ!

— Аддай вочка, скажы, каб не чакаў мяне... – Заплакала.

– Усё іншае сам бачыў. – Усё яшчэ спасцярожліва не павышала голасу. — Няма мне адсюль дарогі. У тым баку – паказала рукою накірунак. — Пад арабінкамі ў сцяне лаз ёсць.

– Як жа цябе завуць?

– Забыла. Раней – Веранія. А цяпер забыла. І ты мяне забудзь. Толькі Міхалу персцянёк аддай. Кажуць, Вістачка наша зусім слабенькая.

Зноў апусціўшы галаву, заплакала, аднак Міхал ужо знікаў у малочна-белай пене ранішняга туману.

З боку палаца нечакана гучна і злосна завылі псы.

## РАЗДЗЕЛ 4.

*“Шша-ссу... Хто скажа табе, што я не шчыры верны слуга прайды – не вер таму! І хто скажа, што я вязаў і аддаваў у цямніцы мужчын і жанчын, паслядоўнікаў Хрыстовых – таксама не вер! І калі скажуць, што шпурляў я вопратку і кідаў пясок у паветра толькі пры імені Божым – не вер!”*

— Еўфрасіння! – Ледзь аддаліўшыся ад пагрозлівага таямнічага шэпту, маладая манашка нарэшце прачнулася; слых улавіў гучны тупат. З царквы пасля службы выходзіла, ціха пазвоньваючы латамі, княжая дружына. Нахіліўшыся за коўшыкам з вадою, задаволена парухала анямелымі плячмі. На стале ляжаў амаль да канца спісаны пергамін. Нехта з паслушніц паспеў непрыкметна пакласці на ўслон, засланы тонкім палатном, аўсяны хлеб і сухую рыбіну. Усё выразней чула, што дружына нечым узбуджана. Тады, успомніўшы грозны начны відзеж, сарвалася з месца і кінулася з галубца ў двор, аднак за вершнікамі ўжо заклубілася лёгкая шарасць, а да царквы адусюль сцякаліся схуднелыя просталюдзіны. Унурана бліскалі бялкамі вялікіх, паўпадалых ад доўгага галадання, вачэй. Кланяючыся сваёй князёўне, нават не ўсміхаліся. Тады зразумела, што сапраўды нешта здарылася і хуткім крокам пайшла з двара ў бок набухлай паводкаю ракі, улілася ў шчыльны людскі збой.

І адразу ж, у адзін момант, па ўсім наваколлі расцёкся, быццам злучаны з манашкай, якая амаль усю ноч перапісвала Святую Кнігу, салодкі звон святога Спаса, паплыў, абганяючы людскі галас, да самага берага, ударыў у панцыр ярка-чырвонага сонца. Важкія бомы несціхана падалі на скаваныя сцюдзёнасцю шаргатліва-крохкія крыгі. Нібыта за вяроўкі, як званар, тузаў сам, ужо ахутаны дымам, поўдзень. Надарыўся пругкі вецер, зашоргаў зямлю космамі сівое, сплеценай з ахраслых ад холаду вербалозін, барады. Над сіваватай вадою падымалася ледзь бачная пара: запозненая вясна ўсё ж брала сваё. Тады, абмінаючы рэха гэтага жыватворнага звону Сафіі, на Дзвіну чорнаю хмараю нечакана наляцела чарада крыклівага чорнага варання, і пачварная пляміна тлустай жывой смалы распаўзлася па ўсім супроцьлеглым беразе блізу самай вады. І тут жа з-за павароту пад здзіўленыя выкрыкі месцічаў на быстру стромы шырокім папярэчным ланцугом нечакана вырваліся, загойдаліся крывава-грознымі лавамі пасланцы ханскіх наймітаў — анічым не прыкрытыя вялізныя плыты, што неслі Полацку пасечаных мячамі і працятых дзідамі вояў у яркіх скрываўленых сарочках. Гнеўныя крыкі ашаломленых людзей дакаціліся нават да супроцьлеглага берага. Бо хто насмеліўся пусціць па жывароднай вадзе гэтыя смяротныя каўчэгі?! Нехта крыкнуў, што некалькі атрадаў хана з наўгародцамі падышлі амаль да самага Відбеска, і бераг азваўся гневам. Тады вараннё, зашумеўшы крыламі, сарвалася і з агідным карканнем згрудзілася ў небе ў чаканні спажывы. Але вось ужо цэлыя хмары стрэл, што ўзляцелі з боку княжых лучнікаў і атрадаў аховы, пачалі

нанізваць на вострыя наканечнікі лятучую брыду. Немае карканне адразу ж захліпнулася, перарванае дружным крыкам ухвалы, які падхапілі і тыя, што сабраліся на беразе, — смерды і рамеснікі з гарадскога таржышча, цівуны і манахі ў чорным, што клалі крыжы на мёртвы шэраг, і хто яшчэ толькі збягаў, праступаючы вузкімі вулкамі да вады, і ўвесь іншы людскі збой, што стоена сачыў з-за каменных зубцоў вонкавай сцяны горада. Усе ведалі, што гэтыя стругі з мерцвякамі, да якіх адно траціна палёту суліцы, вяшчуюць палачанам нядобры час. І раптам з-за крутога выхілку ракі, нібы праўваўшы нябачны тут заслон дзвінскіх парогаў з наўздзіў ласкавымі імёнамі, у сівы прасцяг паўнаводнай ракі пачалі імкліва ўплываць іншыя, але гэткія ж вялізныя ладдзі пад дзіравымі бруднымі вятрыламі, што яшчэ раніцаю, адна ці дзве, з'явіліся перад горадам. Але вось, шчыльна прыбліжаныя адна да аднае, а часам і сутыкаючыся краямі, ужо плылі і плылі, важка напаўзаючы на пацямнелыя крыгі. З'явіліся і прасмоленыя дубовыя чаўны без весляроў: як непаваротлівыя валы, пад гучнае чаўканне глыбокіх віроў, высока нагружаныя мёртвымі зямянамі, важка і паволі сплывалі ў неварацць міма Полацка, гатовыя ў любы момант пайсці на дно.

З-пад грубых дзяруг-покрываў былі бачны то ссінелыя цэўкі босых ног, то аблыселыя чарапы з пустымі, ужо выпітымі вараннём, вачніцамі. Наляцеў вецер, сарваў дзяружкі, і тады вачам палачан адкрыліся цёмна-шызыя пляміны, што густа ўкрывалі жываты і грудзі нябожчыкаў. Гэта былі пасланцы лютай жоўтай смерці.

Полацк анямеў. Еўфрасіння падалася бліжэй да ракі, і перад ёю адразу ж утварылі праход: утрапёна назіраючы, як па цёмнай гладзі плыве цень чумы, устрашана першагналася. Але ўсе ўжо сачылі за тым, як з боку княжага палаца спускаюцца на конях трое мажных, прыкрытых яркімі чырвонымі плашчамі вершнікаў. І следам за імі увесь левы бераг пачалі залівацць маўклівыя маладыя грыдні з запаленымі паходнямі. ...

Чарнагаловы, магутны, як звіты з каранёў, князь Рагвалод, адно ў лёгкай аксамітавай сарочцы пад латамі, трымаўся побач з бацькам — такім жа плячыстым, з кароткай сівою барадою, вялікім князем Барысам. Той, наблізіўшыся да Дзвіны, нарэшце спыніў каня блізу сходаў у вялікі струг. Краем вока змеціў блізка ад сябе Еўфрасінню, пасвятлеў тварам. За спіною храплі, месячы гліністы бераг, коні верхаўцаў. Але яшчэ ніхто з палачан не ведаў, куды сабраліся ратнікі і навошта сам вялікі князь Барыс разам з Равалодам прыйшлі да ракі. І чаму так злосна варочае бялкамі сваіх вачэй запалоцкі князь Барыслаў, які, перадаўшы вуздэчку слузе, моўчкі мінуў дружыну

Барыса і вось ужо наблізіўся да Рагвалода, які гарою ўзвышаўся над сходамі: цёмныя валасы князя кратаў дзвінскі халодны вецер.

І раптам Барыслаў, які быў зусім блізка ад Рагвалода, прыпыніўся — проста пад ногі яму з шарай вышыні ўпаў, ударыўшыся вобзем, прашыты стралой воран, забіў здаровым крылом па вадзе, апырскаў брудам князеў бот. Еўфрасіння замерла. Знямеў і ўвесь бераг. Застыла конніца. Гэта быў дрэнны знак. Запалоцкі князь спалатнеў, падняўшы вочы на спахмурнелага Рагвалода. І тут жа з дзікім лямантам да вады скочыў чорны, высахлы да касцей смерд, у мірг вока апынуўся перад Барыславам, выхапіў з-пад яго нагі ворана і, таропка вышмаргнуўшы стралу, разарваў птушку напал. Не зважаючы на бруд, што пацёк яму на рукі, скубянуў чорнае тоўстае пер'е і адразу ж упіўся зубамі ў блакітную прасветліну птушынага мяса, аднак у тую ж хвілю востры Рагвалодаў меч знес няшчаснаму галаву. Труп, падхоплены грознай ракой, імгненна знік у яе чорнай глыбіні. Бераг ахнуў. Міма, па Дзвіне, так блізка, усё яшчэ праплывалі мёртвыя плыты. Малады князь нарэшце схіліўся, падхапіў мячом злямчанага ворана і, прылаўчыўшыся, з усяе сілы шпурнуў знявечаную, але такую страшную для людзей, чумную птушку на бліжэйшую крыгу. Бераг застыў у суровым маўчанні. Быццам адчуўшы агульны жах, вялікі князь Барыс адвярнуўся ад ракі, падняў меч і зычным голасам крыкнуў:

— Чуйце! Бо спынены ўжо другамі нашымі хаўруснікі паганага Шалудзяка, Смаленскам нацкаваныя. І прысаромлены Ноўгарад! Але ведайце яшчэ пра адну вялікую перамогу: да радасці нашай не так даўно тры тысячы хрысціянаў у Зямлі Святой пабілі паганых аспідаў усяго люду хрысціянскага, чыслом у сорак тысячаў. У чым і ўхвала Госпаду!

Князь высока ўзмахнуў мячом і пакланіўся. Бераг выбухнуў крыкам:

— Ухвала! ... Хвал...ла! — Лучнікі, узрушаныя словамі князя, ускінулі ўверх стрэлы, ледзь стрымліваючы іх на трымтлівай напятай цеціве.

— Сівымі летамі сваімі кланяюся ўсім, браці. Бо спяшаемся, каб паспець золакам на перамовы з Кіевам, пакідаючы статак князю запалоцкаму Барыславу.

Полацк ад нечаканасці сцішыўся: усе ведалі, што запалачанін быў зняможаны невядомай нікому хворасцю. Але Барыс і Рагвалод ужо насунулі на галовы шаломы, з-пад якіх выбіліся доўгія космы. Верная дружына стракацела белымі і чырвонымі паскамі, грозна пагойдвала воўчымі і лісінымі хвастамі, прытарочанымі да нацэленых

у неба дзідаў. Абодва валадары ўскінулі, як развітваючыся, мячы. Коні грымнулі капытамі ў бераг, і той адразу наструніўся: унутры, зусім блізка ад вады, задрыжаў тоўсты, як алешына, аеравы корань, які нават праз цвёрдую зямлю з наледдзю адчуваў і хаду дзесяткаў гараджан, і ўдары вострых конскіх капытоў. Барыс нарэшце выпрастаўся, кінуў меч у абцягнутыя скураю похвы, падаў знак Рагвалоду. Імкліва сарваўшыся з месца, абодва віхрам паляцелі па беразе. Падтрымаўшы валадароў дружным гіканнем, следам заспяшалася, развеяла над шаломамі воўчыя і лісіныя хвасты бойкая дружына. Тады гараджане нібыта апрытомнелі і нарэшце кінуліся ад праплылай па рацэ смерці за сцены знешняга горада. Нарэшце ўсё-ткі зразумелі, што страшная хвароба зусім недалёка. Не за ракою зусім, як спярша здалося. Не на супроцьлеглым беразе, а вось жа… Толькі працягні руку…

Дзвіна, як залітая крывёю, трымцела, і Еўфрасіння насцярожана азірнулася. Вялікі струг з князем Барыславам і светлабародым маладым святаром з Бельчыцаў ужо гайдануўся адплываць, але яна, для сябе самой нечакана, так рашуча іўранулася наперад, што нават не зразумела, як апынулася ў чаўне, які тут жа быў падхоплены і знесены імклівым цячэннем да самай сярэдзіны ракі. Тады, не падымаючы вачэй на агаломшанага князя, ціхенька прымасцілася на днішчы. Атуліўшы калені цёплым покрывам, сціху агледзелася. У струзе, акрамя князя, было яшчэ шасцёра — весляры і лучнікі з добра прасмоленымі паходнямі. Агорнутая сцюдзёнасцю, адразу ж пачула ледзяное дыханне і плёскат вады. Настылае праменне над ракою згусцела, і яго раз-пораз рассякалі моцныя ўзмахі вёслаў.

Але ўсе ўжо назіралі за тым, як па ўзбярэжжы Дзвіны бясконца імчаць ашалелыя ад жаху коннікі. Бясконцай чарадою, у акружэнні грыдняў, цягнуліся, валюхаючыся, даверху гружаныя хатнім скарбам павозкі: і найбольш заможныя месцічы Полацка, і рамеснікі з прыткімі гандлярамі спяшаліся — ехалі, ішлі, беглі цэлымі сем'ямі, пакідалі, нават не азіраючыся, родны горад, што ўжо ахутваўся горкім ад палыну, чорным дымам. Адзінаю, бадай, абаронаю ад чорнай смерці. Забраны трывожнымі думкамі, Барыслаў нават не змеціў, што на лясістым узлобку левага берага выраслі ўзброеныя вершнікі. Але гэта, дзякуй Богу, была княжая варта.

Пастаўшы на берагавой круцізне шчыльным частаколам, вершнікі гучна, ажно праз усю раку заекатала, ударылі ў абшытыя меддзю драўляныя шчыты. Князь тут жа ўзмахнуў у адказ жаўтаватым ад ужо нізкага сонца кароткім мячом. Весляры заспяшаліся, і струг, адганяючы дзідамі вострыя, што бабровыя разакі, крыгі, павярнуў

улева, прыстаючы да берага з воямі. Важка шаргануў па краю сціснутай тоўстым карэннем гарушкі, з якой і пачыналася старое капішча.

## РАЗДЗЕЛ 6.

...Які ўсё-ткі няшчадны і калючы гэты галілейскі сухавей! Быццам трава-разак, што хлёстала ў далёкім дзявоцтве па нагах, калі летняй раніцаю выбягала яна, яшчэ князёўна-юніца Прадслава, да ракі. Старэйшыя сёстры хмурыліся: нягожа дачцы Святаслававай упадабляцца дворным дзеўкам. А яна ўсё роўна, хоць з цягам часу і не так часта, спускалася да рачнога берага, доўга назіраючы за плывучасцю магутнай стромы.

...Галілейская павозка, дзярката рыпнуўшы, нарэшце спынілася, і ўсе адразу ж з палёгкаю выпрасталі плечы.

— Перадых. — Асан першым саскочыў на камяністы лапік выпетранай зямлі з сям'ёй напоўпрыгнутых кедраў і аліў, што ахоўвалі невысокія сцены акружанага каменнымі глыбамі калодзежа. Па ўсім было відно, як цяжка дрэвам працівіцца ветру пустыні: адкінутыя імі цені былі тут наўздзіў празрыстымі.

Паломнікі, тым часам крыху размяўшы ногі, ужо хуценька вярталіся, сасмягла назіраючы, як Асан і барадаты маўчун пояць вала, выліваючы ваду з бурдзюка ў пашчэрбленыя ночвы.

– Раней тут быў добры калодзеж. А цяпер ні кроплі. Суха!

Як просячы прабачэння, Асан вінавата зірнуў на ігуменню, якая сядзела пад аліваю з Евангеллем у руках, і цяжка ўздыхнуў.

– Так хутка ўсё мяняецца. Бурдзюкі даўно ў караване. Вады няма.

– А ў мяне ёсць! — Расхваляваны кніжнік, устрасянуўшы светлымі віхрамі, імгненна сашмаргнуў з пляча дарожную кайстру, выцягнуўшы з яе скураную бутэльку. Падляцеў да маладой залатавокай ваяркі, што якраз здымала важкую хламіду, застаўшыся ў шчыльна сплеценай з тонкіх канапляных ніцей-вяровачак кальчузе. Выняўшы з похваў меч, папраўляла скураны пояс.

– Ёсць пітво! – Падступіўся да яе кніжнік. — На рынку купіў. Для цябе.

Усе адразу ж заўсміхаліся, але Асан, нечакана падскочыўшы, патрабавальна працягнуў руку. Кніжнік незадаволена ўспыхнуў, аднак паслухаўся. А Асан, адкаркаваўшы бутэльку, пачаў асцярожна прынюхвацца да яе нутра. І тут жа шпурнуў бутэльку на зямлю. Усе

агаломшана пазіралі, як на камяністай глебе пузырыцца жаўтаватая вадкасць.

— Куфі! – Са страхам выгукнуўшы незразумелае слова, Асан так ярасна апусціў на бутэльку скураны бот, што падарожнікі вусцішна адступілі.

— Ад апіда Куфі не прачынаюцца! Ніхто.

Азірнуўшыся, ігумення ўбачыла, што малады кніжнік стаіць перад расчаўленай бутэлькай з апушчанай галавою. Незадаволена, спалохана зіркаў на Асана, які ўжо клікаў да павозкі.

– Толькі не здымайце хламіды. Пасля нашага сонца і ветру, бывае, кавалкі цела адвальваюцца.

— І прашу ад гэтага дня, падзякаваўшы Госпаду за ўратаванне, харчавацца толькі разам і не піць нідзе нічога без нашага дазволу.

Ігумення таксама спяшалася і таропка заняла сваё звыклае месца. Уздрыгнула, быццам яе нехта паклікаў, азірнулася. Праз хвілю і дапраўды пачула прыглухлы спеў, што далятаў, здаецца, з яе вусцішнай маладосці.

– Гэта ты, Любове мая?

Зноў шчымлівы, такі знаёмы, голас...

*“ Над рэкамі Вавілона, там, сядзела, з плачам, любові любоў.*
*Бо руйнуюць любоў ужо. На вебах павесіла я арфы свае.*
*А тыя, што мяне паланілі, і песняў, і весялосці патрабавалі.*
*Як жа спяваць мне,скажы, калі ў сэрца атруту здрады і*
*хлуслівасці ўлілі?   Няхай жа прыліпне язык мой да нёба,*
*калі помніць цябе не буду...Калі ж пайду сярод нелюдзяў,*
*Ты ажывіш мяне, пашлеш на здрайцаў руку моцную.*
*І ўратуе мяне правіца... Чулі пра Любоў у Эфраме.*
*Знайшлі яе на палях Ярыма...Святары Любові твае*
*Апранаюццаў праўды праменне.”*

Асан, кіруючы павозку на раўнейшую дарогу, што свяцілася россыпам блішчастага друзу, азірнуўся: за спіною, уроплечкі з князем Давыдам, па-ранейшаму сядзеў, заплюшчыўшы вочы, сівабароды, маўклівы ад бясконцых успамінаў, ігумен Міхал.

* * *

...Ці гэта пясок так жаласна свішча пад вухам, ці зноў, з усяго маху, шчакі кранаецца востры язык у тры сполкі плеценага кунчука? А ён, старэйшы баярскі сын, бацькам адрынуты за непачцівасць, усё яшчэ таропка аціраецца ад крыві і адварочваецца ад брата свайго

малодшага, соцкага запалоцкай варты, Рымшы. Просіць аб спагадзе. Аднак маладзён, напорысты і наўздзіў жорсткі, не адступаецца і зноў злосна і балюча тыцкае Міхалу ў зубы ялаўцоваю цэўкай:

— Хіба забыў ты, што бацька наш, няхай памагае яму ў цяжкай хваробе і Пярун, і святы Пётра, перадаў увесь скарб у мае рукі — і збажыну, і мёд?! Грэбуеш законамі?

– Але ж Віста мая памірае.

— Усе памром, і Віста, і мы з табою. Мой гэта пограб! Забыў? І гарох мой. І мёд. Калі сам не пойдзеш, у поруб кіну, згнаю!

– Але ж Вістачка..

Назаўтра, прыцягнуўшы дахаты куль бобу, пазычанага яму Прадславаю, Міхал радасна кінуўся ў курную зямлянку і закляк. Маленькая дачушка Віста, як вавёрыца, ляжала на прыкрытай воўнаю лаве і пазірала блакітнымі вачамі ў нізкую столю. Халодная, як снег. Спярша думаў, што дапраўды не паспеў. Потым суседзі, якія ўжо таропка ладавалі на падводы свой сціплы скарб, сказалі, што Вісту, наздзекаваўшыся, пэўна, задушылі лютыя запалоцкія кметы. Бо раніцаю былі тут, шукаючы нейкага беглага жмудзіна-рабаўніка. Пыталі і пра Міхала. Так што і самому пара ўцякаць у пушчанскія нетры. Запалоцкія звычайна вяртаюцца. А калі ўсё-ткі — не паспеў? Усё жыццё потым ён пакутаваў ад той страшнай памылкі — што пайшоў з просьбаю спярша да зродніка, пасаромеўшыся прасіць манашак.

Калі вярнуўся, Віста ўжо ляжала пасярод зямлянкі з пашэрхлымі вуснамі, пазірала ўверх чыстым блакітам расплюшчаных вачэй. Гэткіх жа спакойных, як і гэтая бязмежная, перапоўненая нежывым святлом, пустыня.

... Юніца трынаццаці летаў, цемнавалосая Віста была настолькі падобнай да маці Вераніі, даўно звезенай у палац князя Барыслава, што Міхал стагнаў праз усю ноч. І сам у тую страшную раніцу абмыў, скрываўленую, убраў у новы покрыў, павесіўшы на даччыны грудзі яркія каралі, якія некалі падарыў Вераніі. І адзін маліўся над дачкою, ажно мокрым ад слёз стаў і ручнік, і шоўкавымі ніцямі расшыты покрыў: “Вось зіма ўжо прамінула: дождж прайшоў, перастаў, кветкі з’явіліся на зямлі, час песні наступіў, і голас горлінкі чутны ў краі нашым; смакоўніцы распусцілі пупышкі свае і вінаградная лаза, расцвітаючы, водар пасылае. Устань, любая, дзівосная, выйдзі! Галубка мая ў расшчэпліне скалы пад кручаю, пакажы мне аблічча сваё, дай мне пачуць голас твой, таму што голас твой салодкі. Заклінаю вас, дочкі Ерузалімскія,сернамі ці палявымі ланямі — не

бяжыце, не будзіце і не трывожце яе, Вісту маю.” Ён занёс Вісту да капішча на руках. Паклаў у хаўтурнае радно любімага даччынога саламянага ваўчка, з якім тая заўсёды засынала. Толькі сам хіба спаў ён пасля таго пахавання?! Але ж ты, любая, спі, і не згадвай нічога… І забудзь, забудзь, як гладзіў, даўшы волю гарачым рукам, ногі твае. Жыватoк і грудзі, ужо халодныя. Усё забудзь. Забудзь....” Пасля ён пайшоў да Валодшы ў будан і, перш чым выпіць кубак з мядовым напоем, доўга расціраў далоні, ад якіх цягнула жвірам і задымленай грэшнай жарсцёю. Паспрабавалі згадаць, як разам весела, дружна вучыліся ў Заслаўскай школе.

Ужо вяртаючыся дахаты, як шалёны, ляцеў ён уздоўж ападаючай паводкі па кручы левабярэжжа і раптам убачыў, як з-за купкі ўцалелых дрэў на рэбрах узбуранай плыні з’явіўся вёрткі чаўнок, у якім, як здалося, сядзеў бацька. Стары нешта крычаў, просячы запозненага прабачэння, цягнуў да Міхала рукі і няўмела адхіляўся ад ветру, што кубліў уверх сівыя валасы. Міхал нават тузануўся наперад, але круча была вельмі высокай, а ад берага патыхала хаўтурным жвірам камы і ягонай, Міхалавай, нязбытнай крыўдаю. Значна пазней, калі ў Полацк прыйшоў грозны Мсціслаў, ён сам кінуўся кіеўцу ў ногі з просьбаю адаслаць яго хоць на нявольніцкі рынак. Але ўгневаны князь ледзь не знёс мечам апушчаную галаву: потым, адтапнеўшы сэрцам, паслаў Міхала да Еўфрасінні. І ён, сын баярына, адрынуты зроднікамі, стаў верным парабкам абіцелі. Быццам просты смерд, з самай раніцы цягаў бярвенні і плінфы на будоўлі новае царквы Святога Спаса, прастойваў пад нячшадным ветрам, габлюючы дошкі для манастыра і грабарні ў Бельчыцах. Адмольваў у працы і жорсткім посце свой вялікі грэх. Сваю Вісту…

Упершыню ў яго паверыла сама ігуменння, неяк адправіўшы з мяшэчкам залатых і сярэбраных манет у майстэрню да Богшы, дзе штукавалі кіёт абраза Найсвяцейшае Тройцы. Потым, калі Міхал ужо вызнаўся найпершым у манаскай цноце і начных малітвах, калі першым усклаў на сябе на тры тыдні вярыгі з кузні самога Рамана, Еўфрасіння даверыла яму галоўнае — ігуменства ў мужчынскім манастыры і тую вялікую пасольскую дарогу ў Канстанцінопаль за Адзігітрыяй, дзякуючы якой прайшоў Міхал спярша гразкія дарогі кіеўскіх вотчын, потым — зямлю грэкаў. Аднаго толькі не распавёў ён Еўфрасінні. Што на Чарнігаўшчыне сустрэў падобную да Вісты, гэтак жа званую дачку баярына, якая завабіла, адняла ў яго розум, не адпускала дахаты цэлыя тры месяцы. Але тое было даўно, яшчэ ў тую страшную пару, калі Полаччыну так часта трэсла немарач: то страшныя паводкі, то напады хана і жудасная чорная смерць, то

вар'яцтва запалоцкага князя Барыслава з адзічалымі кметамі, што назаўсёды забралі ў яго Веранію і Вісту.

## РАЗДЗЕЛ 7.

– Раджуся з табою, бо косіць усё жывое пошасць. Зямля полацкая нішчыцца і галее.

– Усе маеце паўнату ў Госпадзе. І калі былі пахаваныя з Ім у хрышчэнні, у Ім і ўваскрэслі з вераю ў сілу Бога, які ўваскрэсіў Яго з мёртвых, дараваўшы ўсе грахі.

— Але ж нехта стаіць побач з табою. Быццам прымара!

– Гэта любоў твая. Тая, што прылятае здалёк, звысоку, з-за небакраю. Якая магла быць і будзе, князёўна:

"*Кідае на мяне град свой каханне кавалкамі.*

Перад марозам яго хто выстаіць? О, любове!

*Пашле слова сваё любоў на зямлю,— так хутка цячэ*

*слова агністае.*

*Вочы любові сустракаюць ранішнюю варту,*

*глыбляцца ў слова Господняе.*"

"*О, любове! Апрамень рабыню тваю святлом аблічча свайго...*

*О, любове, ты маё покрыва і шчыт мой, на слова твае спадзяюся.*

*Падтрымай мяне, любове, і ўратуюся і ў прорве пякельнай.*

*Умацуй мяне Словам, і буду жыць. Не пасаромі мяне ў надзеі маёй.*"

* * *

Нізкія хмары над Полаччынай штораніцы цягнулі за сабою гарлавы спеў маладога вешчуновага сына Валодшы, зацемнены густымі барвовымі клубкамі ахоўнага дыму, што ўжо завалок смуродам усё наваколле. Але нічога не дапамагала: чорная смерць перасягнула праз усе абярогі і гарадскія сцены, штодня прыносячы жыхарам ваколіц, — і смердам, і больш заможным гаспадарам, — смерць родных людзей. Нябожчыкаў прыбывала, і амаль забытае капішча за Ваўчыным логам неўпрыкмет ажыло. Вяшчун Вікула, яго стары гаспадар, у радаснай надзеі, што вяртаецца даўняя вера, пачаў распальваць на месцы ранейшай ка́мы хаўтурныя вогнішчы. Правілі службы і ў Полацкай Сафіі. Аднак чума не адступала. Тады ўсе забыліся пра наказы вялікага князя і па старому звычаю пачалі ўскладваць нябожчыкаў на кастры, тут жа аддаючы агню і самыя патрэбныя ім рэчы: гліняныя прасліцы памерлых жонак, даччыныя

драўляныя і шкляныя пацеркі, якія яшчэ захоўвалі жывое цяпло, — кручаныя з саломы ці злепленыя з гліны дзіцячыя цацкі. Але ўсё часцей ляцелі ў яміны з галавешкамі жалезныя коп'і, булавы і сякеры, баявы рыштунак мужчын, паляўнічых ці вояў, якія так і не адужалі самага сташнага ворага. Абмазваючы перуна смярдзючым барсучыным тлушчам, стары Вікула рабіў сваю справу пры маўклівай згодзе зроднікаў памерлых, тоячы ў душы надзею, што гэтае зацятае, набрынялае слязьмі, маўчанне прарвецца навальніцай гневу і ўрэшце змые з полацкай зямлі прынесеную чужынцамі новую веру ў распятага і ўваскрослага Бога: раструшчыць і прыдарожныя крыжы, і царкву над Дзвіною. Усё тое, што, як казалі, так апантана прыняла ў Полацку новая манашка-князёўна — праўнучка вялікага Усяслава. Таго самага князя, якога яшчэ дзяды звалі Чарадзеем і які быў гаспадаром бацькі самога Вікулы.

У рэдкія хвіліны адпачынку вяшчун плазам падаў на мяккія, высока накладзеныя сасновыя лапы,назіраючы, як зыркія праменьчыкі ніколі не астываючай камы адбіваюцца на бліскучым перуне. Стрымліваючы дрогкасць выпетраных рук, вартаўнік капішча да самага падбародка нацягваў мяккую мядзведжую коўдру і, сагрэўшыся, з асалодаю прыплюшчваў павекі. Гэткі ж стары, як і ён, капішчанскі вецер ціха лагодзіў твар свайго гаспадара, які спалохана ўздрыгваў усім целам і праз сон кашляў. Тады адзывалася яшчэ прамерзлая зямля, парыпвала да яго тоўстымі цвёрдымі каранямі сасновай варты. Слых урэшце лавіў шаргаценне колаў: да капішча блізілася новая паклажа нябожчыкаў, якіх пачалі прывозіць з самага просінца. Да спраў далучыўся нават неслух Валодша.

... Але вось гэтыя, нікому не вядомыя, вылаўленыя, разам з ладдзямі і чаўнамі, з апаганенай наўем ракі, пакутнікі, што шчыльнымі кладзямі ляжалі цяпер на рыпучых дрогах, сотнямі расплюшчаных, ашклянелых вачэй з маўклівым адчаем узіраліся ў шараватую вышыню хмурага дня. І ні ад кага ўжо не чакалі нават спагады. Тады, падмеціўшы незадаволенасць князя Барыслава, старэйшы кмет ірвануўся наперад, і адразу ж, у адначассе, хрыплыя і пісклявыя, як гэтыя колы, нямоцныя жаночыя галасы заенчылі, завылі, загаласілі. Сілаю сагнаныя сюды з вакольных весяў, прымерзлыя плакальшчыцы завялі спеў так няўцешна, быццам намотвалі на колы ўсе свае хворасці і злыбяды. Суравыя ніткі шэрага поўдня, нацягнутыя паміж небам і берагам Дзвіны, раптам нібыта парваліся: *“А брацюхна мой міленькі, а на каго ж мяне, бедную, пакінуў, а саколік жа ты мой ясненькі, а галубок шызакрыленькі, а чаму ж ні слоўка не скажаш? А-а-а… У-у-у…”* Надрыўны плач так балесна вырываўся з размякчаных слязьмі жаночых сэрцаў, што тут

жа абняў скрухаю ўсіх прысутных, — і ўпрэжаных у аглоблі смердаў з блізкіх весяў, і тых, хто ішоў узбоч колаў, узяўшы на плечы тоўстыя вяроўкі для раўнавагі.

Аднак нешта адбылося, нешта змянілася, стала зусім іншым на гэтай страшнай бялявіне. Быццам дарэшты расчуленыя людзі толькі цяпер зразумелі, што вось гэтыя палеглыя воі, вольныя ці пад'ярэмныя, яшчэ зусім нядаўна былі проста нечымі ўлюбёнымі мужамі і сынамі, а значыць, недзе ў далёкіх дварах няўцешныя жанчыны, не ведаючы нічога, марна чакаюць іх вяртання дахаты. Па выцягнутых лапах соснаў пошапкі прабегся скразняк, прыглушыў напуджанае фырканне кметавых коней. Князь Барыслаў паклікаў святара, працяўшы Еўфрасінню прыкра-пажадлівым позіркам, шырокімі замашыстымі крокамі заспяшаўся наперад. Тады і сама пайшла ўсцяж хаўтурнага абозу, але нечакана зачапілася чабаткам за вытыркнуты пянёк і, быццам падштурхнутая ў плечы, ледзь не ўпала. Аднак нехта падхапіў яе пад руку. Падняла вочы: побач стаяў князь Барыслаў. Быў так блізка, што чула яго хрыплае дыханне:

— Такая воля наша, каб вярнулася ты, князёўна, у човен і адплыла адсюль як хутчэй! — Апусціўшы галаву, нават не адказала яму і агаломшаны такой непавагаю, запалачанін зноў успыхнуў; шэры попел, лёгшы на лоб і шчокі, зліваўся з дымчымі нітачкамі ў барадзе. Вочы ў чорных кругах палалі.

– Ні сябе, ні іншых не шкадуеш, манашка! Прыйдзе жоўтая смерць – і не адмолішся! Ні любові, ні ласкі чалавечае не спазнаеш... Глядзі на іх!

Паказаў рукою на кладзі з нябожчыкамі і глуха закашляўся:

— Чума лютая гэта, манашка! — Таропка, па-сапраўднаму ўстрашаная, заспяшалася далей, і князь, пераганяючы, зноў не стрымаўся, амаль крычучы ёй услед: — Паедзеш са мною — жыць застанешся. Любіць будзеш! — Змагаючы наступ задухі, грозна паклікаў да сябе старэйшага кмета, адрывіста аддаючы загады. Аднак яна ўжо не чакала:

— Гнеў няўцямны адолей, княжа-дзядзечка! І не зачэпіць каса ліхая, і праўда, — падняла Евангелле, — пойдзе перад табою. Паклічаш — і Гасподзь пачуе...

— Але чаму сама не чуеш?! Не бачыш хіба, крывёю кашляю без ласкі тваё? – Нечакана дапраўды рэзка закашлянуў. Угнуўшыся, зірнуў на яе цёмнымі, як веснавыя віры, вачыма: — Ці, думаеш, можа, крыж ад кашчавай заслоніць!?

Нібыта не пачуўшы перарывісты ад грахоўнае жарсці шэпт, ад пострасу адвярнулася, прагнучы адно схавацца, засланіцца ад гэтага

барадатага, чужога і злоснага, дарослага чалавека, які так нахабна, робячы яе таксама дарослаю, уварваўся ў жыццё; прынёс незразумелую і такую неспазнаную прагу агіднай юрлівасці.

— Толькі да ракі спусціся хоць раз... — Зніякавелая, закрыла твар амаль заледзянелымі рукамі. Але князь ужо не сунімаўся:

— Не займець табе спакою, чарнарызая! — Распаляючыся, падступіўся яшчэ бліжэй: — З-за цябе, ведай, адправілі на рынак жонку друга твайго жмудзіна! Кірыка! З-за пыхі твае сляпой! За цэлай зграяй рабаўнікоў цяпер ганяюцца... А ўсё ў тваіх руках! Толькі слова скажы...

Па-змоўніцку схіліўся да самага аблічча; зашаптаў, абпаліўшы шчаку гарачым дыханнем:

— Ці не бачыш — ехаць адсюль пара!Уцякаць час! Яны ж... – кіўнуў на смердаў і кметаў варты, — яшчэ нічога не ўцямілі. Але ж ты – ведаеш!

— Зноў голас падымаеш на мяне, слабасілую, княжа. — Глянула проста ў чорныя глыбокія вочы, ледзь адольваючы прыкрую чырвань, ад якой, здаецца, уся запалала: – Гаворыш абра́зы мне... А хочаш, дзядзечка, і святло ўзыдзе ў змроку тваім, як поўдзень? А хочаш літасць Боская асветліць усё?

Пазіраў на яе з такім гнеўным здзіўленнем, што пашэрхлыя вусны ледзьве варухнуліся:

— А хочаш, і ацаленне тваё, князь, узрасце!? Душа загоіцца. Дзядзечка князь...

Барыслаў пабялеў, але яна ўжо скрушна апусціла вочы:

— Дазволь і мне памаліцца за дзядзьку нашага князя.

— Ведзьма чарнарызая! — Нарэшце, нібыта апрытомнеўшы, князь злосна бразнуў мячом аб латы, і вусаты кмет тут жа бегма падвёў яму каня. Адно торкнуўшы ў неба запаленай паходняй, запалачанін гучна, каб чулі ўсе, абвясціў, што вяртаецца ў палац, і адразу ж, махнуўшы перад сабою палаючай паходняй, разам з дружынаю падаўся ў той бок, дзе за соснамі пачыналася добра ўбітая сцежка. А яна, моўчкі назіраючы, як за сасновымі шатамі знікае апошні вершнік, стоена ўздыхнула. Урэшце зразумела, што засталася тут адна – адна ад усяго княскага роду. Перахапіўшы спагадную ўсмешку бельчыцкага святара, заспяшалася пасярэдзіне мёртвага шэрагу; моўчкі пазірала на тых, каго дасюль ніколі не сустракала; не ведала. Ні на хвілю не адводзіла ад іх позірку, нібыта хацела запомніць гэтыя першыя ў яе жыцці смяротна пабялелыя твары. І раптам згледзела тое, ад чаго знячэўку спатыкнулася. Зусім, здаецца, і не высока, адно над вяршалінамі капішчанскіх соснаў, але *яны ўсе*

сабраліся ў адно вялікае трапяткое воблака. Усе, чые целы з баявымі ранамі ці чорнымі дзірамі д'яблавай чумы ляжалі цяпер на колах. І гэты агромністы збой быў у адначассе і над ёю — як адно вялізнае, недасяжнае для людскіх вачэй падхмарнае княства. Усе мёртвыя сталі цяпер такімі відучымі, з такім абвостраным слыхам, што, ведала, бачаць і чуюць зверху ўсё і ўсіх.

Вось толькі ад чаго так дрыжыць, так калоціцца ў жаху гэтая трымтлівая рака спакутаваных душаў? Але кожная з іх цяпер была знітавана з яе думкамі так моцна, што, неверагодна стомленая, аціхла пасярод халоднай бялявіны.

* * *

— Заўжды побач ты, калі цяжка...
– Пакліч любоў сваю, юніца.

*“ Без любові як хваля ты, якую вецер*
*гоніць, распырсквае. Без любові*
*спакушана будзеш страсцю-пажадаю,*
*а пажада, зачаўшы, родзіць грэх.*
*Ці на неба чалавек узыйдзе – і там любоў.*
*І ў апраметную рыне – любоў знойдзе.*
*Ці возьмеш крылы зары і перасялішся на край неба*
*– любоў сустрэнеш там.*

Адчай яшчэ не адляцелых ад зямлі душаў кратаў вяршаліны дрэў, запаліўшы знутры ствалы, і тыя нібыта ўспыхвалі. Памяць нядаўніх кавалёў, меднікаў, пчаляроў, прашчнікаў, ганчарных майстроў і ворнікаў яшчэ ўтрымлівала зямныя ўявы, якія перадаваліся цяпер і ёй. Раз-пораз успыхвалі высока ўскінутыя мечы, па якіх тут жа плыла чырвоная густая кроў. Храплі коні, барадатыя вершнікі сыходзіліся ў сечы, налягалі, грымаючы адзін аднаго шырокімі, у сталёвых латах, грудзьмі.

*Уладжана любоў і ў вантробы твае.*
*Выткала любоў цябе ў чэраве маці тваёй.*
*Зародак чалавечы бачылі вочы любові.*
*Не схаваны былі ад любові косткі*
*чалавечыя, калі іх у таямніцы стваралі,*
*калі складалі іх з глыбіні нутрыны.”*

*“ Сколькі жыццяў, любове, апладняеш ты!*
*Ці ж палічыць можна, калі болей іх,*

*чым лістоты ў ліпцавым кветніку;*
*Ці ж палічыць можна, калі болей іх,*
*чым пясчынак у жвіры хаўтурным...”*

... Ішлі праз гоні і зямяне з нарогамі, а яшчэ — збіралі збожжа, сыпалі зерне ў жароны, пеклі пахучы хлеб, смажылі на кастрах аляніну, круцілі круглыя дубовыя споды, падымаючы ўверх шыйкі дзівоснага хараства глечыкаў.

Закашлялася: з-за аброжку далёкага зямнога абрысу, куды зрок ужо амаль не сягаў, узвіваліся і білі ў нябесны паддон агромністыя чырвона-чорныя языкі полымя. Крыху далей, за трымтлівымі клубкамі дыму, убачыла і таго, хто, стаўшы ў поўны рост, узвысіўся за аблокі. На грудзях анёла-ахоўніка паблісквалі жалезныя пласціны сарочкі; з-пад гэткіх жа, але амаль да каленяў, пласцінак ваярскай спадніцы ў зямлю ўпіраліся дужыя ногі. Вартавы вой быў гэтак падобны да святога Юры. Праз рэдкія прасветліны ў дыме разгледзела і дрэўка яго грознай нябеснай дзіды. Але ж як лекацяць, як нема крычаць ахопленыя жахам душы нябожчыкаў. Абоз блізіўся да камы. Засяшалася следам. І тут жа, уздрыгнуўшы ад дзікага рогату, што даносіўся з боку капішча, з жахам адчула пякельнае дыханне агню.

— Памяні, Госпадзі, і пачуй усе надзеі на жыццё вечнае. Памяні памерлыя айцы і брацію нашы. — Бельчыцкі святар падняў над абозам бліскучы жалезны крыж.

Сухастоіны, пастаўленыя над ямінаю высокім конусам, гарэлі так ярка, так моцна апякалі аблічча, штоЕўфрасіння нават прыплюшчыла вочы. Проста перад ёю разверзлася глыбокая вогненная прорва. Падняўшы над галавою ўласнаручна ўпарадкаванае ў залацісты аклад Евангелле, ступіла да першых павозак: слых тут жа ўлавіў шархаценне драўляных колаў па жвіровым пяску. І яшчэ — развярэджаны стогн параненай зямлі і нават ціньканне нябачных зорак, што ўжо сыпаліся з нізкага неба ў прагнную, як сама апраметная, каму. Але сіла моцнага зямнога ўлоння накочвалася і біла цяпер ёй у спіну. Тады, як адчуўшы смяротную небяспеку, рэзка павярнулася і тут жа хітнулася назад: проста перад ёю стаяў раз’ятраны вяшчун. У апраметную глыбіню камы, відно, увесь час зграбалі вуголле з кастроў, і цяпер адтуль патыхнула такім невераемным жарам, што зразумела: вяшчун ужо не адступіцца.

— Бо сказана ў тваёй кнізе, — моргаючы хворымі ад бяссоння вачмі, Вікула і сапраўды ваяўніча дыхнуў ёй у твар старымі вантробамі, ткнуў пальцам у Евангелле: —"Ужо і сякера ля кораня дрэў ляжыць: кожнае дрэва, якое не дае плоду, ссякаюць і кідаюць у

агонь!..” І бясплодныя гэтыя людзі, — паказаў на колы з нябожчыкамі, — і бясплодны край, што іх нарадзіў. А ты хіба не бачыш сякеры, манашка!?

Чырвоныя водбліскі агню пабеглі па сівой затлушчанай барадзе.

— Нехта блудзіць плоццю, а ты — словам! Прэч — іменем Госпада, які стварыў гэтую зямлю і даў жыццё, і судзіць нас Ён адзін будзе. Але ім, — паказала на мёртвых, — цяпер патрэбна толькі малітва і ласка Духа Святога. Бо сказана: не збірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе моль і іржа атрутная…

Падняла Евангелле. На цёмным і спрэс абвітым пачварнымі маршчынамі твары старога адбіваўся агонь, з-пад доўгай хламіды з каструбаватыхваўчыных шкур бачыліся палатняныя нагавіцы, ногі былі ў вялізных, таксама з воўчых шкур, хадачках.

Аднак усю яе абліло жахам з-за іншага: звіваючыся і зблытаўшыся з доўгімі валасамі, з плячэй вешчуна звісалі, водзячы наўкруг пляскатымі галовамі, амаль белыя ад старасці пачвары. Ужо даўно пагубляўшы ў лясной траве свае атрутныя зубы, змеі, тры ці нават чатыры, тыцкаліся ў розныя бакі і гучна сіпелі. Перапалоханыя плакальшчыцы адразу ж змоўклі. Смерды, у худых радняных світках і злямчаных шапках, стаялі шчыльным збоем і нядобра бліскалі вачмі. Падняла позірк і міжволі адхітнулася: насупраць стаяў чорнабароды, з вялізнымі, ледзь прыкрытымі світаю, плячамі, паляўнічы. Над лісіным стаўбуном волата блішчалі трохзубыя вілы. “Кірык!

“*Ой, адпусці ж нас, Пярун, на вольную волю, ой, дай жа нам дужыя рукі-мясіцы, ой, як у лясной аляніцы!*”

Гэта быў сапраўды Кірык. Але пазнаць яго, цяпер такога выпетранага і наўздзіў пастарэлага, было няпроста. Міжволі азірнулася: кола смердаў, пабраўшыся за рукі, шчыльным перавяслам сціскала яе ўжо з усіх бакоў.

“ *Ой, аддаем жа табе князёўну найпершу, Пяруне, ой, за ўсіх прыгажэйшу, ой!*”

Збой, пагрозліва падштурхоўваючы яе да агню, ужо разгойдваўся:

“ *Ой, дай жа нам, Пяруне, моцныя давілы, як у дуба Гаўрылы-ы-ы! Ой, дай жа нам, Пяруне, у жывот і на сліны, а мы табе цэлы воз саланіны, ой!..*”

Хаўтурнікі падвозілі колы з нябожчыкамі да самага краю яміны, спярша скідваючы з іх у агонь сасновыя лапы, і бельчыцкі святар пачаў таропка прамаўляць малітвы. Падняў крыж, але яго тут жа адцерлі ўбок. Усе нарэшце ўбачылі не толькі крывавыя раны ад мечаў, але і тыя жахлівыя зялёна-шызыя пляміны на жыватах

нябожчыкаў, што выклікалі гнеўныя і спалоханыя крыкі. Тады рашуча ступіла да камы, і Евангелле, прыціснутае да грудзей, засцерагальна паслала ў сэрца трывожны праменьчык. Тоўстыя змеі Вікулы падымаючы галовы, завадзілі імі ва ўсе бакі, засыкалі яшчэ пагрозлівей.

– Паглядзіце, і кропелькі Усяслававы пазбірала.

Вяшчун нечакана здзекліва зарагатаў, ткнуўшы ў яе бок чорным ад копаці вялізным пальцам:

— Табе хто-небудзь казаў, чарніца, што падобна на дзеда свайго Усяслава!? То чаму ад веры яго адцуралася?

Кіўнуў на нябожчыкаў:

— Гэта чуманька! Ідзе... Ідзе-брыдзе, ненажэрная. Усіх паб’е! Адступнікаў, адваротнікаў, адшчыпеннікаў. У світах, у чорных клабуках, у жупанах баярскіх. Яны... — паказаў на смердаў, — яшчэ не ўразумелі. Ужо забылі, як сем летаў таму касіла смертухна жоўтая. Касіла...

– Адзін толькі Бог у нас! Шчыт наш і ахова наша. Ісус!

– Еўфрасіння, заступіся! — Скаваныя жахам і быццам падштурхнутыя рогатам вешчуна, смерды раптам калыхнуліся да яе так блізка, што на хвілю пачулася безабароннай. Аднак вяшчун ужо не адступаў:

– Хіба не бачыш тых плямінаў шызых, манашка дурная? Дзе вочы пакінула? І Бога твайго яны не пашкадуюць, і Яго сваёй атрутай згнояць! Сляпая! А Усяслаў, дзед твой, усё бачыў, усё чуў! Усё разумеў.

Людскі збой, набліжаючыся, зладжана пахітваўся, аднак нечакана-зацятае маўчанне, у якім тоіліся адначасна і страх, і няўцямная надзея на яшчэ невядомую і незразумелую тут нікому малітву, нечакана парвалася, трэснула, як сухастоіна, перапыненая наўздзіў тонкім і жаласлівым дзявочым галаском:

*“Ой, не гневайся, чуманька! Ой, не сварыся, жоўта цётанька, ой-а, не чапай жа ды нас ручкай касцявенькай, ой, не цалуй жа ды цэпікам ласкавенькім, ой-а. Ой жа даруем ды табе ахвяру-дзявіцу ...Ой, дзявіцу-зараніцу.”*

Над людзьмі, што яшчэ нядаўна прасілі ў маладзенькай манашкі заступніцтва, палыхала такая непрыхавана грозная рашучасць, што пасмялелы Вікула, уладна акінуўшы вачмі шчыльны збой, нечакана выпрастаўся і з усяе сілы крыкнуў, паказваючы ў яе бок рукою:

— На калы кроў Чарадзееву! Пяруну!

Людскі рой адазваўся да яго рашучым рэхам:

— Ахвяру!.. Ахвару...— Вострыя, што дзіды, рагаціны — і адкуль толькі ўзяліся? — тут жа хрустка праткнулі нізкае цёмнае неба, і

адтуль сыпанула дробным калючым дажджом. Пад узбуджаныя крыкі з камы ўзвіўся цэлы стог зыркіх іскраў. Побач з Кірыкам, які не зводзіў з князёны ўстрывожанага позірку, вырасла мажная постаць белагаловага смерда, падобнага на Валодшу. Людское кола не адступала, з адчайнай нянавісцю паўтараючы: “ Пяруну!” Аднак напасці асмеліўся толькі Вікула. Падняўшы ўверх белых гадзючын, нечакана кінуўся наперад: “ На калы!” І, пэўна, змог бы…

Але яна, беспрытомная, ужо ўкленчыла на зямлю. Крыху пазней, ачуняўшы, згадвала, як бельчыцкі святар, імгненнна апынуўшыся побач, рэзка павярнуўся да Вікулы, і той з непрыхаванай люццю шпурнуў у яго раз’ятраных гадаў. Аднак, заблізка ступіўшы да глiністага краю камы, так рэзка і шырока махнуў рукамі, што сам не ўтрымаўся і, спалохаўшы ўсіх адчайным енкам, нечакана паляцеў спінаю ў полымя яміны, над якай адразу ж шугануў цэлы сноп зыркіх іскраў.

... Яна запомніла і бляск высока паднятага перад агнём крыжа, і перакошаныя твары смердаў. І яшчэ нясцерпную гарачыню, бо пацягнулася ў каму ратаваць вешчуна, і агонь порстка ўчапіўся за шырокія рукавы чорнага покрыва, якія адразу ж нехта пачаў тушыць. Міжволі дакранулася да патыліцы: адчуўшы востры боль, адняла руку. На пальцах цямнелі крывавыя пляміны. Нехта паспеў яе ўсё ж ударыць. Хістаючыся, пайшла ад вогнішча. І раптам рана ў галаве так моцна тарганула, што, не змогшы нават паклікаць на дапамогу, асунулася на сасновыя голлі.

* * *

— Як прабіць шчыт чорны, калі душы людскія не бялей?

– Не адступайся – і пойдзеш.

– Браты ненавідзяць братоў.

– Не згінай духу – і знойдзеш.

– І бацькі – проці бацькоў.

– Не адхіляйся – і зможаш.

... Нехта побач, зусім блізка, клікаў. Гэтак тоненька і ціха, як можа клікаць адно жвірына з капішча. Ад прыстылага дыхання калола ў грудзях. Рукі здранцвелі. Даляцеў ценькі перазвон срэбнай расы. Але вось ціўкнула адна, другая птушачка. Лес падступаўся ўсё шчыльней, і Еўфрасіння ўжо не ведала, ці гэта ява, ці працягваецца сон, але ад высокага, абвітага густым туманам крыжа, што падымаўся над засыпанай камаю, лёгка ступаючы па першых промнях святла і сам выпраменьваючы незвычайную зыркасць, да бялявіны блізіўся анёл, якога яна бачыла яшчэ пры пострыгу. Працягнуўшы да яе абпаленых пальцаў кончыкі сваіх крылаў, пяшчотна гаіў. Але тут жа пачулася важкае, уладнае:

— Ідзі ў Сяльцо, сястра. І збудуй там дом Уладара нашага. І зрабі прытулак для абранніц Яго! І будзь ім сэрцам і розумам. І ўціхамірвай люд свой, і не дай кроплям крыві ракою стаць. І наступі на галаву злога раба і працістой дзёрзкасці яго акаяннай!

Паднятыя крылы шчыльна самкнуліся над яе галавою і былі такія гарачыя, так адчувальна, але ж і гаюча краналіся раны, што, канчаткова прачнуўшыся, азірнулася.

Паволі, як нехаця, наступала раніца, белымі клубкамі туману плыла з боку патухлага вогнішча, на месцы якога ўжо зажаўцела кургановая спудзельніца з высокім, амаль цалкам утопленым у густым марыве, крыжам.

І раптам, шырока расплюшчыўшы вочы, яна ўскочыла на ногі і пабегла да насыпу, не верачы таму, што ўбачыла здалёк. У доўгіх, што даставалі да жоўтага жвіру, скрываўленых рызах, з нізка апушчанаю на грудзі галавою і расхінутымі ў бакі рукамі да новага крыжа быў прывязаны маладзенькі бельчыцкі святар з ядлоўцавым вянком над ілбом. З-пад іголак на смяротна ссінелыя шчокі збягалі цёмныя, ужо засохлыя за ноч шнарочкі крыві. Застыла, не ў змозе паверыць вачам: чацвёра месцічаў пачалі здымаць упакутаванага на зямлю. Адступіўшы ад пустых колаў, наўкруг мёртвага святара згрудзіліся здзіўленыя смерды, быццам і самі не разумелі, як такое магло адбыцца. Тады паволі, не прамовіўшы ні слова папроку, нібы чуючы віну за начное бяспамяцтва, яна разгарнула Евангелле. Людзі на бялявіне падступаліся бліжэй і, здавалася, не адчувалі ні голаду, ні сцюдзёнага дыхання набрынялай паводкаю ракі, злучаныя агульным адчуваннем страшнай віны.

— Шчаслівыя ўбогія духам, бо іхняе ёсць Царства нябеснае.

Кірык, збялеўшы, стаяў насупраць не падымаючы галавы. Вобруч на рацэ напяўся так моцна, што нечакана ўлавіла грознае патрэскванне; крыж на погарбе слухаў мальбы ўсіх, каго нарэшце ахінуў крыламі.

— Шчаслівыя тыя, што плачуць, бо яны ўцешацца...— Праз кожнае слова малітвы ў горле прыбывала гаркота, але Еўфрасіння не спынялася. Не зводзячы вачэй з укрыжаванага святара, ледзь чутна шаптала:

— Шчаслівыя ціхія, бо яны ўспадчаць зямлю...

З-за соснаў, прашытых ранішнімі промнямі, нечакана вылецелі дзве фурманкі і атрад кметаў. Змеціўшы князёўну, верхаўцы радасна гікнулі, але тут жа, убачыўшы на зямлі мёртвага святара, рэзка нацягнулі павады і грозна бразнулі мячамі ў шчыты. Тады закрычала,

каб нікога не чапалі, але кметы ўжо сціскалі коньмі бялявіну, адцясняючы людзей да ракі. Падняла грозны позірк на старэйшага:

— Па волі Божай будзе!

Крыху здзіўлена, але згодна, той схіліў галаву і даў знак служылым.

…Прыгрэўшыся на аўчынах фурманкі, Еўфрасіння расплюшчыла вочы ад страшнага грукату — фурман гнаў ашалелых коней з усяе пугі.

Змушаная моцна ўчапіцца за бакавыя драбіны, у нейкую хвіліну азірнулася: уздыбленая, перамешаная з ледзяной шурпою, раскідаўшы, як шчэпкі, павыдзіраныя з каранямі дрэвы, рака ўрэшце скрышыла берагі і вось ужо шырокай лаваю абрынулася на польныя разлогі. Круцячы ў варонках трупы ласёў і коней, рознай птушыны і нават людзей, грозна пенілася перад Полацкам; грымотна, быццам дзікая жывёліна, імчалася да ахоўнага рову, даганяючы на вузенькай дарозе адзінокую павозку. Але тая, акружаная коннай вартай, ужо імкліва ўз'язджала на мост, што адразу ж, як толькі павозка пранеслася праз гарадскую браму, быў падняты.

Вартавыя брамнікі, не зводзячы вачэй з бясконцага, спрэс затопленага вадою, сівога наваколля, пераглядваліся. Да самай поўначы, праходжваючыся па гарадскіх сценах, кожныя паўгадзіны грымалі ў жалезныя біты, тым самым абвяшчаючы перапалоханым гараджанам, што паводка пакуль не прыбывае. Аднак бяссонны горад, ведаючы круты нораў свае ракі, насцярожана застыў.

Зусім змогшыся, толькі пад раніцу задрамала і Еўфрасіння: прыкрыты ласінай шкураю тапчан здаўся мяккім, як стог сена. Праўда, сон быў кароткі. Як і на старым капішчы, нечакана пачула ціхі плач, ад якога тут жа прачнулася. Доўга ляжала з прыплюшчанымі вачыма. Нарэшце зразумела, што гэта не плач, а тонкі, ледзь чутны спеў. Тады азірнулася: дрогкае сiняватае святло сыходзіла ад адзінокай зоркі, якая прыветна мігцела ў кутку келлі. Услед за зоркай у яе бяссонне зноў улілося святло анёльскіх крылаў.

* * *

— Я ведаю ўжо цябе, бачыла, адчуваю тваё дыханне, Анёле мой.

– Хай ніхто не асуджае вас за ежу, пітво, ці за якое-небудзь свята, і ў справе маладога месяца..: гэта ёсць цень будучыні, а цела — у Хрысце. Любоў сваю слухай, сястра.

*“… Дае Любоў вецер і вогань ратавальны. Сыпле снег, як попел…*

*Мацуе завалы ў брамы свае, дабраслаўляе сыноў нашых сярод неба.*

*Сцвярджае ў межах нашых спакой. Тлушчам пшаніцы корміць.*

*Пакрываае неба аслонамі. Рыхтуе зямлі спорны дождж.*

*Росціць на горах траву. Дае жывому ўсяму на зямлі пашу ягоную. О, Любоў…”*

* * *

… Аднак жа, колькі дзён ішлі ці плылі яны сюды, хаваючыся ад чумы і гвалтоўнай смерці, на чым перакінуліся праз гэтую бурную смяротную паводку? І якім дзівосным чынам змаглі перасягнуць праз высокую сцяну горада?

Спусціўшыся ўранні ў двор, яна ледзьве паверыла вачам. Пад сцяною Сафіі, акрыўшыся сплеценымі з гнуткага балотнага мірту коўдрамі і дзіравымі лахманамі, адно да аднаго туліліся некалькі дзесяткаў ушчэнт схуднелых вотракаў. Згаладнелыя ўцекачы з далёкіх весяў, страціўшы, пэўна, бацькоў, ведалі толькі адну дарогу. У Полацк.

— Як завуць цябе? – Падазвала віхрастага сінявокага мальца гадкоў трынаццаці, што пры яе з’яўленні адразу ж падняўся на ногі. Падыходзіў хістаючыся, але ўсё ж не выпускаў з рук палову вялікай кнігі.

– Галей.

– Дзе гэта ўзяў, Галей? – Паказала на кнігу.

— Бацька сказаў, каб нікому не аддаваў. \ *недаверліва ўскінуў позірк* \.

– Тады не аддавай. А прачытаць умееш?

– Бацька казаў: “ Ідзі ў Полацак да чорных клабукоў, усяму навучышся.” \ *засмяяўся па-даросламу зласліва* \

– Потым узяў і прадаў нас з сястрою прышламу. А той хутка памёр. І сястрычка памерла.

— Сам адкуль, Галей? \ *пашкроб пяцярнёю густую светлую чупрыну* \

— З Новагорада. Там усіх нас… \ кі*ўнуў на меншых* \ прадалі прышламу. \ *паказаў у іншы бок* \ — Тут і вашыя з весяў. Прысталі.

– Са мной пойдзеш, Галей?

– Мяне старэйшым выбралі. Не пакіну іх. \ *па-даросламу ссунуў густыя бровы* \

– Пашукаю вам дзе хлеба.

– То пайду.

– Чый будзеш?
– Цяпер усе паўміралі. \ *абыякава махнуў рукою* \
– Тады маім будзь.
– А яны?
– І яны.

Жменя сухіх акрыйчыкаў і вяленых уюноў, адшуканая ў паслушніцкай прыбудове, была змецена ў мірг вока. Тады, не чакаючы ігуменні, разам з Еўлампіяй сама пачала распальваць вогнішча, прымацоўваючы на трынозе вялізны жалезны чан. Заліўшы яго вадою, прынесла два пучкі дзевясілу і ліповы цвет.

* * *

– Не магу, князёўна. – Ігуменні спалохана затрэсла рукамі:
— Дарога ў Відбеск хутка будзе.
– Але ёсць жа запасы ў схаронах храмавых.
– Ёсць, князёўна, з павялення вялікага князя.
– Чаму ж тады, матухна?
– Толькі для дружыны. Ніхто без дазвалення, сястра.
– Калі гэтыя вотракі паўміраюць, матухна ігуменнія...
– Чаму ў бацькі свайго Святаслава падмогі не просіш?
— ... То не будзе каго ў дружыну браць. Не будзе каму ў рукі мечы даваць!
— Дарога, кажу, у Відбеск вось-вось... Едзь, князёўна, да бацькі.
– А хто да таго часу выжыве? Ці ж чужакі гэта, ігуменнія? Малеча адна. Згадай: “ Калі скажаш, што вуха ці вока не належаць да цела, няўжо яны не належаць яму?”
– Самі для сябе схароны не чапаем. А смердам, князёўна?...
– Усе мы адным Духам хрысціліся, ігуменнія.
– Паводка ўжо сціхае, сястра Еўфрасіння.
— ... Не будзе каму малітвы пасля спяваць, ігуменнія.
— Войска з вялікім князем далёка. А тут зямяне адны. Грэшнікі.
— Штодня па тры вазы напакаваныя вывозяць да хаўтурнікаў, ігуменнія.
– Не маю дазвалення, сястра!
– Усе мы – цела Хрыстовае! Слухай наказ тады, слухай мяне: я, князёўна Прадслава з роду Ізяслававічаў, у манастве Еўфрасіння, іменем дзеда майго праслаўнага князя Усяслава, і бацькі майго Святаслава-Ягоргія, і зроднікаў князёў вялікіх полацкіх Барыса і Рагвалода, загадваю табе, ігуменнія Бельчыцкага манастыра і чалядніца храму Сафійскага, выдаць трацiну запасаў харчовых дзеля

ратавання роду крывіцкага і мацавання веры хрысціянскай на зямлі Полацкай у імя Айца і Сына і Духа Святага.

Ужо не бачыла, як немаладая чалядніца пабялела і схапілася за грудзі.

— І прызначаю цябе першай навучальніцай у школе для дзяцей нашых, каб пачала навяртанне да веры і слова Божага з дня сённяшняга. Ад таго ўсю віну за непакорлівасць волі княжай прымаю на сябе адну. У чым і прысягаю, укленчыўшы перад абразам найсвяцейшай Маці Багародзіцы.

– Якая ж з мяне вучэльніца, князёўна?!

... Усю ёміну — вялізныя, добра напакаваныя і прасоленыя ў дубовых бочках дропы, дзяружкі высушаных тоўстых уюноў і сяляваў, кулі з бобам і гарохам, скрыні падсушанай да жаўцізны, залітай воскам дзічыны, куняў і вавёрыц, беркаўцы з цвёрдым мёдам — узяліся выносіць са скляпенняў чатыры паслушніцы і некалькі дужэйшых падлеткаў. Выкапалі з зямлі і медныя катлы з трыножнікамі. Ці не тады якраз і прыйшоў да яе са сваёй просьбаю Міхал? Схапіўшы пад паху куль бобу, знік і адсутнічаў цэлы тыдзень. Вярнуўшыся, чорны і няўцямны, ужо амаль не заўважаў нікога навокал. Сказаў, што дачку забілі. Моўчкі стаў з баярдышам у руках каля харчовых запасаў. Сам амаль нічога не еў. Адно ачоліў пры харчы варту.

...Яны выязджалі з храмавага падворка яшчэ зацемна. Спярша распальвалі паддонныя агні, потым ставілі на трыножнікі катлы і залівалі іх вадою. Вартавалі, акрамя Міхала, дужэйшыя з вотракаў з суліцамі ў руках.

Пасярод абязлюдзелай і знямелай, а некалі самай гаманлівай вуліцы адмысловых ганчароў і меднікаў, урэшце разгаралася некалькі вогнішчаў, каля якіх, памешваючы ў чанах варыва, чаргавалі агорнутыя адно ахоўнымі хусткамі маладзенькія паслушніцы.

...Тады і выходзілі, спалохана азіраючыся, ледзь прыкрытыя рызманамі, страшныя, бы прымары, уцалелыя месцічы. Дым разам з прыцягальным пахам, спярша па крутых завулках, потым па даўжэзным ахоўным рове вакол Полацка, каціўся да самых ачаротаў, і ці не адтуль у акружаны шчыльнымі ланцугамі аховы горад прасочваліся чорныя, што зямля, зямяне з двароў і весяў, каб атрымаць невялікі кавалачак распаранай дзічыны. Нарэшце, з цяжкасцю прадзіраючыся праз ахраслыя ад смуроду і сцюдзёнага дыхання блізкай паводкі лазнякі, надыходзіў вечар: вартавыя кметы, запальваючы па загаду князя Радаміра ліхтары, падкідвалі ў полымя

вогнішчаў сухі палын, спальвалі зачумленую вопратку хворых. З бруднага рыззя з адчайным піскам вылятаці вялізныя пацукі: потым бегалі яшчэ доўга каля сцен і частаколаў.

Але напрыканцы тыдня злёг памочнік лекара; потым, услед за ім, і князь Радамір, каля якога хадзіла паслушніца Крыця: праз дзень таксама захварэла.

Пачаліся крадзяжы, асабліва харчовых кладзяў. Людзі, псы, пацукі... Нападаючы на паграбы і таемныя схароны месцічаў, падмяталі ўсё да апошняй скарынкі. Гойсалі па вуліцах цэлымі зграямі. Полацк урэшце не стрымаўся. Часцей звычайнага засядаў суд, выносячы тацям-рабаўнікам няшчадны вырак: усмерценне праз павешанне. Штораніцы ўздоўж вуліц горада паўставалі віселыні. І для людзей, і для розных іншых тацяў. Павешаныя пацукі глянцавата паблісквалі поўсткаю ў дымнай смузе ажно да вечара. Віслі, даўгахвостыя, на тонкіх вяровачках да самай зямлі. І побач — псы. Аднак у Полацку нават іх ужо амаль не засталося. Ацалелыя звяркі, змеціўшы набліжэнне хаўтурнай фуры і быццам зразумеўшы жорсткасць людзей, уцякалі безвач ад судовых спраўнікаў, што вылоўлівалі хвастатых тацяў наўздзіў прытка: выконваючы загад судзі, вычэквалі ў самых нечаканых месцах. А пацукі, часцяком узбіраючыся па ножках віселыняў наверх, падалі, з нейкім хрыплаватым піскам, на мёртвых суродзічаў, упіваліся зубамі ў спіны, разрывалі жываты.

...Спынілася абцягнутая стракатым радном фура, і да Еўфрасінні, якая стаяла каля аднаго з чаноў у цёмным радняным покрыве, наблізіўся, весела пазвоньваючы бомамі, немалады скамарох:

– Помніш, як ратавала мяне, манашка?

– Кожны заўсёды каго-небудзь ратуе.

– І топіць таксама. І на віселынях...

— Бачу, не ўстрашаны ты.

– А цяпер я цябе буду ратаваць. Пакуль сам жывы. Весяліся, князёўна, жыць застанешся!

Засмяяўся, заулюлюкаў, заіграў трашчоткамі. З фуры тут жа вылецела некалькі жвавых маладзёнаў, пачалі вясёлы рэй, куляючыся і ходзячы на высозных тонкіх хадулях.

— Яны ж усе гатовы разарваць цябе, сваю дабрадайку, – старэйшы паказаў на брудных месцічаў.

— Але мусіць быці іначай сярод людзей.

– Мусіць быці?! — Зноў заёрнічаў, скрывіўся ў грымасах, зашархацеў добра надзьмутымі бычынымі, з сухім гарохам унутры, шлункамі.

— Палюбі галоднага – і накорміш. Палюбі хворага – і ацаліш...

— Ды за тваю ласку, за вось гэты харч... Ой, князёўна! Сядзяць, маўчаць, а толькі адвярніся! Дай смерду адзін кавалак, ён адразу ж запатрабуе яшчэ. Смерд толькі сілы баіцца, манашка. Для яго слова дзясяцкага страшней за чуму. Насцярожана абвёў позіркам засмечаную чорным вуголлем, трэскамі і сухімі конскімі кругдякамі вуліцу: каля смуродных вогнішчаў сядзелі і ляжалі распатланыя, з крывавымі плямамі на руках і тварах, брудныя чарналюдзіны.

... Віхрам праляцела, ледзь не зачапіўшыся за фуру, багатая карэта з хмельнымі, у шоўкам расшытых кафтанах, крыклівымі баярчукамі.

Скамарох ажно прысвіснуў:

– У Запалоцце спяшаюцца. Толькі Барыслаў на свае астравы не пускае.

– Такім быццам нічога і не страшна.

– Страшна тым, хто баіцца, князёўна!

— А ў лекара памочнікаў не хапае.

— Глядзі, каб у цябе іх сёння хапіла.

– Пра што кажаш?

– Ужо сказаў. Павартуй сваю саланіну, князёўна. Ты мне жыццё выратавала. Пазыку вяртаю. Не спі сёння. Саланіну вартуй. І чым толькі запалоцкага ўгнявіла?!

Падыйшоў Галей. Хацеў кінуць у вогнішча трэску. Але чан ужо быў пусты.

– І сёння будзем Слова Божае вучыць?

– І кожны дзень, Галей. Ідзі да Сафіі. Там дыхаць іначай.

Аб пашчэрблены дашчаны насціл вуліцы загрымела павозка. Спынілася каля нерухомай старой, што ляжала на зямлі, абшчаперыўшы кастлявымі рукамі калені. Двое хаўтурнікаў у чорных фартухах, асцярожна паздымаўшы вісельнікаў, паднялі, паклалі старую жабрачку паверх такіх жа высахлых учарнелых шкілетаў, ноькнулі на коней. Але ў апошняе імгненне, калі павозка ўжо знікала ў глухім прыцемку, старая нечакана прыўзняла галаву і ўсміхнулася Еўфрасінні страшным бяззуба-насмешлівым аскалам.

... Ночаю каля дзвярэй Сафіі прагупацела лапамі цэлая зграя ашалелых псоў-людаедаў, што не дапускалі да сябе нават узброеную варту. Потым спыніліся рыпучыя колы, і нехта крыкнуў, каб адчынялі, бо маюць пасланне да Еўфрасінні ад вялікага князя. Пачуўся шум дажджу, загрукатаў гром, падагнаны сапраўднай навальніцай. За дзвярыма зноў закрычалі. Але Міхал, не зважаючы на пратэсты Еўфрасінні, басавіта прыгразіў, што чакае пасланцоў толькі

раніцаю. У дзверы адразу ж злосна грымнулі ботамі. Міхал не паддаваўся. Навальніца тым часам прыглухла. Дождж гэтак жа раптоўна, як і пачаўся, аціхнуў; госці, быццам адно толькі і чакалі гэтай распагоджанасці, з рогатам сышлі. Міхал, прыслухаўшыся, аднак недаверліва праверыў дзвярныя завалы.

... Раніцай каля самага парожку храма ляжала бяззубая, ужо амаль аблыселая старая з цёмнымі аслізлымі плямамі на аголеным жываце. Пазірала ўверх напоўпрыкрытым чырвоным вокам, што, здаецца, цікаваў за дрогкімі, пралятаючымі над Сафіяй, вятрамі. У сэрца нябожчыцы быў убіты асінавы кол.

Чорная смерць – адступіла.

## РАЗДЗЕЛ 8.

Густое месіва ледзяной шурпы пагрозліва-нерухомай лаваю раздзяліла стольнае места з яго дварамі на доўгія тыдні. І калі нарэшце настала даўгачаканая пара і Дзвіна гэтак жа раптоўна, як вырвалася на волю, наўздзіў хутка вярнулася ў свае звыклая берагі, Полаччына яшчэ доўга і насцярожана чакала.

Веснавая распагоджанасць, аднак, брала сваё. Над весямі і гонямі засвяціла цёплае і па-весняму сліпучае сонца, з краю ў край загойсалі, зашумелі кудлатыя гаючыя вятры, распушылі яркія хвосцікі лазовых коцікаў, развеялі па берагах салодка-млосны пылок першацвету. Настаў той час абнаўлення, калі полацкі епіскап Ілля ўрэшце змог паклікаць у свой загарадны харом старшынаў полацкага веча. Асобнае запрашэнне, замацаванае пячаткаю, было прывезена і Еўфрасінні: тая, прачытаўшы пасланне і яшчэ нават не ведаючы, што ў гурце гасцей уладыкі будзе адзінаю жанчынай, трывожна задумалася. Жанчын на такія сходні звычайна не запрашалі. Адначасна адчула і палёгку: можна будзе распавесці пра свой капішчанскі відзеж. Тады яшчэ раз перачытала запрашэнне.

* * *

... У гэты даволі прасторны, але сціплы пастырскі дом Еўфрасіння прыехала загадзя. Пасля кароткай гаворкі з пісцом скіравалася ў бібліятэку. І нечакана сустрэла там дзіўнага госця. Высозны, з доўгім, спушчаным на плечы капюшонам, малады манах з Рыма, убачыўшы яе, шырока расплюшчыў вочы: відно, яшчэ мала сустракаў у краі венедаў манашак. Сумеўшыся, таропка загаварыў:

— Тыя землі, якія ўжо бачыў я, такія ўсе непадобныя. З усходняй часткі зямной запомніў толькі раўніну. Бясконцую і нямую.

Агромністая дзяржава. Хоць і няма вялікіх мораў, няма спёкі і чорных людзей, якіх таксама бачыў у свеце нямала.

З квадратным, добра паголеным, але ўсё роўна чорным падбародкам і кружком валасоў на вялізнай галаве, рымлянін нарэшце закончыў агляд бібліятэчных паліц.

— Такі адрозны гэты край ад мае радзімы, якую сонца абрала месцам свайго адпачынку.

— Але калі з гэтага канца зямлі яно пачынае свой шлях, стараючыся ў поце высокага чала, то, значыць, шлях ягоны мудра размеркаваны. У вас яно адпачывае, у нас, — Еўфрасіння ўздыхнула, — найболей працуе. І ўсе мы яму роўна патрэбны.

Манах выняў са свае кайстры добра пацёрты, ці не ў германаў набыты манускрыпт і, разгарнуўшы яго, папрасіў Еўфрасінню падысці бліжэй, паказаў невялікую мініяцюру: чатыры жаночыя постаці, схіляючыся сваімі дзяржаўнымі каронамі перад тронам свяшчэннай Рымскай імперыі, трымалі ў руках паднашэнні. У першай з дараносіц адразу ж пазнала ўвасабленне ўсяе рымскай зямлі, далей у парадку іерархічнага царкоўнага старшынства, якім бачыў яго даўні майстра, паўсталі ціхмяна Галія, Германія і Склавінія.

— У залатым рогу германаў, брат наш, не зямныя плады і шчадроты, як бачыш, а зусім іншыя каштоўнасці. Хоць і складзены яны крыжам, што азначае, пэўна, памацненне ў тым краі царквы і веры, атрыманай з рук Папы Рымскага.

— Затое ў вашай Склавініі замест кароны сцяна! Ці не ёю, як нехта тут паказаў, край ваш хоча аддзяліцца ад іншых дзяржаў?..

— Лепей убач, што ў правай руцэ нашай — сонца, а левая таксама паказвае ў неба...

—“Ettollerucem suam cotide et se quatum me...”

— Улада прыроды і свяціла яго — вось мерка моцы Боскае. А той... — ціха пераклаўшы пачутае, прадоўжыла: — “Той, хто хоча ісці за Мной, няхай адлучыць сябе ад іншага, возьме свой крыж і кожны дзень ідзе...”

Прыслухаўшыся да моцнага ветру, што далятаў сюды праз высокія, вузкія вокны, задумаўся:

— Семя ў зямлі толькі ад сонца наталяецца, сястра, а вецер і такая вялікая вада, як у вашай зямлі цяпер, адно ад помыслаў грахоўных бываюць.

— Але каянне і вера ператвораць іх на добрае...— Уздыхнула. — Варта толькі насенню Боскаму прыняцца, як ў людзях узнікае прага знішчыць яго. Хіба не зведалі і вы смерці пакутніцкія, прынятыя ад Нерона?

— Усё цела маё, і плоць тых людзей, якіх бачыў па вашых дарогах, паслаблены грахом, і душы ўстрашаны пажадамі.

Падвысіў голас, што і без таго гучна разлягаўся па зале.

— Можа, знайду я адказы ў Грыгорыя, вялікага страсцецерпца, які, кажуць, прыплыў з нашага Рыма ў Ноўгарад на вялікім камені. Цяпер пайду да яго...

У голасе госця нечакана ўчулася нешта такое, што выклікала спачуванне, аднак рымлянін ужо схамянуўся і застыў пасярод бібліятэкі — шыракаплечы, але з хвараватым і пашарэлым ад доўгага падарожжа тварам:

— Калі Пан мой дзве лепты ўдавы не адхіліў, то хіба не возьме ад нас золата пакаяння?

— А хіба змерана вышыня нябесная зямным золатам? Хіба выпрабавана, брат мой, адно пажадамі людскімі глыбіня апраметнай?

Чакаў працягу, але дзверы ў бібліятэку нечакана адчыніліся: малады дзяк, запрасіў госця ў трапезную, і той адразу ж схіліў на развітанне галаву. А дзяк, выходзячы, працягнуў ёй, каб не сумавала, новы фаліянт. Праз прачыненыя дзверы ўбачыла, што харомныя сенцы паціху запаўняюцца. Змеціла краем вока востры абрыс вялікага князя Барыса і зялёны бацькаў кафтан. Да епіскапа, як звычайна, сыходзіўся амаль увесь заможны Полацак. Але яе ўсё яшчэ не клікалі. Тады звыкла села за стол і, запаліўшы яшчэ адну свечку, раскрыла новы фаліянт. Почырк пісца, аднак, быў зусім незнаёмы.

* * *

*... Песеннікі і манахі-пісцы вялікай паўночнай дзяржавы Біярміі ўсё яшчэ згадвалі пра тое жудаснае лета, калі пасланыя каралём Олафам купцы на чале з Торэрам і Карлам паз’язджаліся ў самы буйны гандлёвы горад Гольмгард. Паспеўшы толькі пераначаваць, вялікая частка нарвегаў, аднак, ужо назаўтра раніцаю была схоплена вартай і на працягу аднаго дня абезгалоўлена гарадскімі мечнікамі-катамі. Астатнія, цудам уратаваўшыся, збеглі на свае караблі. Некаторыя з купцоў, праўда, змаглі схавацца за высокімі агароджамі полацкіх дазорных двароў пры вытоку Дзвіны і потым яшчэ доўга расказвалі тамтэйшым служылым людзям, што зямля біярмійская ўвогуле мірная і багатая, вольна гандлюе соллю, жалезам, пушнінаю, наладжвае гандлёвыя сувязі нават з камскімі балгарамі, бо мае суднаходныя рэкі і абаронена з усіх бакоў халоднымі морамі і непраходнымі лясамі. А вось працяг ад Белавозера да Пячоры, што называецца Завалоччам, край больш дзікі. Туды, праўда,*

*прасачыліся ўжо беглыя халопы і манахі-схімнікі, якія прынеслі з сабой веру Хрыстову, заклаўшы на прыбярэжных дзвінскіх погарбах невялікія манастыры. У тое страшнае лета ў Гольмгардзе нікога з прышлых — першых Божых людзей, на шчасце, не зачапілі. Аднак доўга заставалася невядомым, хто ж так жорстка паздзекаваўся з біярмійскіх нябожчыкаў, што і стала прычынай галавасеку. Раз'ятраныя пасаднікі крычалі, што адно сквапныя нарвегі маглі гэтак па-дзікунску разрабаваць і зганьбіць магілы іх продкаў, бо менавіта пасля прыбыцця каралеўскіх купцоў стары цвінтар быў зруйнаваны, а з раскапаных ямін гнюсныя рабаўнікі выграблі ўсё, што было пакінута памерлым. Перад тым, як над галовамі асуджаных гандляроў, якія ўжо нават не прасілі літасці, бліснулі вострыя сякіры, кожнага з палонных яшчэ раз перапыталі, хто скраў найбагацейшае ўпрыгожанне, знятае з каменнага Ёмелы, дзеля чаго ідалу нават ссеклі галаву? І хто выграб з яго агромністай срэбнай чашы назбіранае за ўвесь летні гандаль золата ахвяраванняў?! Адзін з вікінгаў, рассмяяўшыся, прасіпеў, што золата ўжо даўно на тым караблі, які нясе адважных Торэра і Карла да родных берага. Не паверыўшы яму і ўрэшце зразумеўшы, што пакаралі невінаватых, гольмгардскія князі яшчэ дзесяць летаў запар рассылалі па наваколлі дружыны, прабіваючыся ў пошуках скрадзенага нават да варажскага ўзмор'я і лясных нетраў жмудзі. Але тут жа адкочваліся назад: з гэтымі суровымі суседзямі, як і з солінгамі, нават сам полацкі Ізяслаў стараўся трымаць мір.*

*Гольмгард урэшце стаміўся і зняверыўся ў поспеху пошукаў. Да таго ж, зусім блізка пачалася вялікая вайна крывічоў з полаўцамі: дванаццаць тысяч паганцаў было разбіта Усяславам каля Сноўска. У тое ж лета палачанін захапіў і Ноўгарад, забраўшы званы і панікадзілы святое Сафіі. У рэшце рэшт пасадзіў на зваяваны сталец сына. Што да таямніцы Гольмгарда, то яна па-ранейшаму заставалася неразгаданай. А з цягам часу сляды зніклых скарбаў зусім сцерліся.*

...Рыпнулі, вырваўшы яе з роздуму, важкія дзверы, і заклапочаны дзяк, уляцеўшы ў бібліятэку, замахаў рукамі, запрашаючы яе ісці следам.

У шырокіх сенцах епіскапскага дома ўжо нікога не было.

* * *

— Хоць усе вы, да гэтага часу, быццам няродныя сыны... — Калі епіскап сам увёў маладую манашку ў гасцёўню — белую ад хвалявання, з вялікімі цёмнымі вачмі, у глыбіні якіх, нягледзячы на

шарасць манаскага каптура, стоена адбіваўся агонь такое моцы, што нямногія гэты позірк змаглі вытрымаць, прысутныя міжволі пераглянуліся. Барыслаў, які ачольваў найбольш заможны гурт з левага боку дубовага стала, ад нечаканасці ажно прыўзняўся: “ Даўгавалосая?!”, але гаспадар дома, дакрануўшыся да крыжа на абцягнутых корзнаю грудзях, ужо завяршаў малітву. Садзіў маладую манашку побач з вялікім князем, працягваючы тым жа роўным тонам:

— Хоць і аддаліліся вы, баяры полацкія, ад грудзей маці вашай царквы..., — паважна паказаў на святароў, што сядзелі з правага боку, — мы, выконваючы дадзены ад Бога пастырскі абавязак расплюшчваць вочы народу свайму, не можам пагарджаць бацькоўскімі наказамі! — Насцярожана падняў позірк на Барыслава і яго суседзяў, — ... бо як галава кіруе часткамі цела... — Нехта незадаволена гмыкнуў. — ... і як Эфраім звяртаўся да Юды і Самарыя да Ерузаліма...

Князь Барыслаў зноў рэзка прыўзняў над сталешніцай руку, але дзверы ў залу нечакана адчыніліся: таропка аддаўшы ўсім паклон, хуткім крокам увайшоў цівун. Перадаў епіскапу пергамінны скрутак і той, прачытаўшы першыя словы паслання, адразу ж падняўся:

— І з Божае ласкі перамовы князёў нашых з Кіевам завяршыліся мірам!

Праз гасцёўню шугануў узрушаны шум галасоў і ўсе міжволі павярнуліся да князя Барыса, што ўсміхаўся ў кароткую сівую бараду. Адно запалачанін нечакана так глыбока ўздыхнуў, што моцны кашаль затрос усё яго цела. Епіскап адразу ж узяў у рукі званочак; князь, аднак, паспеў прыгубіць кубак з мёдам і прыціх. У гасцёўні, нягледзячы на радасную вестку, панавала маўчанне, якое зноў жа, абвёўшы ўсіх вострым позіркам, парушыў гаспадар:

— Землі нашы полацкія пашыраюцца, і гэта ўжо... — зірнуў на князя Барыса, — дзякуючы сіле княскай. Але ж пашыраюцца і прасцягі для працы пастырскай. Толькі калі бярэце подаці ад тых, хто жыве па ўзмор’і варажскім, і з літвы, то чаму, валадары полацкія, не думаеце пра душы іхнія?

Скрушна ўздыхнуў:

— Хто вінаваты, скажыце, што адкупляюцца людзі ад вірнікаў, зборшчыкаў подаці вашых, не толькі вавёрыцамі, але часам... — голас уладыкі ўжо звінеў... — і наготамі сваімі!? — Суровы позірк зноў слізгануў па запалоцкім князі. — І як спытаць з тых таемных ханскіх пасланцоў, што, хаўрусуючы з адступнікамі крыўскімі, насцігаюць цэлыя весі ізгояў і, яка псы д’яблавы, жоны і дзецi іх паімаша?!

Голас епіскапа ўжо басіў і прысутныя сцішыліся, міжволі скіраваўшы позіркі на тую, што па-ранейшаму з годным маўчаннем сядзела поруч з самім вялікім князем.

А Еўфрасіння, адчуўшы на сабе недаўменныя позіркі, міжволі апусціла галаву. Аднак новае пачуццё, што ўлілося ў яе сэрца пасля пахавання бельчыцкага святара, тое бязмежнае адчуванне ўласнае сілы не паслабела. Памяць імгненна вярнула ўбачанае па дарозе з Бельчыцаў. Каля дрэваў наўсцяж гасцінца дваццаць альбо нават болей схуднелых смердаў былі прывязаны за рукі да верхніх галін: у прарэхах дзіравых сарочак чарнелі парваныя сабачыміікламі раны. Кметы з пікамі і сякеркамі не дапускалі да вінаватых у пагібелі святара нават іхніх жонак. Тады, саскочыўшы з павозкі, пабегла да пакараных бліжэй, але тут жа спынілася перад скрыжаванымі дзідамі варты.

— І ты паверыла ім, Прадслава? Хіба ж я забіваў? А ты паверыла. Толькі і я аднойчы хлусу запалоцкаму... паверыў! Ой як папла-ціўся.

Намагалася бліжэй падступіцца да клеткі, у якой сядзеў сам Кі-рык — амаль голы і ўжо з барадою да пояса. Скрывіўшыся, прашап-таў:

— Усё, чаму Даніла навучаў – хлусня, Прадслава! Міласэрнасць...Літасць... Падстаў шчаку другую...Хлусня!

– І кожнаму будзе дадзена па веры яго, Кірык. Маліся.

Слязлівыя вочы маладога вязня пазіралі адначасна з насмешкаю і такой балючай мальбою, што падняла руку і міжволі перажагнала яго. Забойцу, якім прызналі Кірыка баяры, чакала знакамітая, самая глыбокая ва ўсёй Полацкай дзяржаве, відбеская яма, адкуль яшчэ ніхто не збягаў.

Нехта з прысутных гучна кашлянуў, імгненна вяртаючы яе ў залу.

— Дзікі край перад намі прасціраецца, уладыка, — святар з Друцка схіліў цёмна-сіні клабук, — ... каля Мядзведжай Галавы, падобна ліфляндцам, абагаўляюць свяцілы нябесныя і змеяў, дазваляюць жанчынам пакланяцца Лайме і Дзякле. – Усхвалявана перадыхнуў. — Нясуць, уладыка, ахвяры свайму Вайцгінтасу, каб даў ільну на адзенне. Бо ўсё, што самі наткалі, вірнікі забіраюць. Чуў нядаўна пргаворку ад аднаго смаляніна: “Ой, блага жывеш, князь, — літвою і жмуддзю арэш…”

— Ці не ведаем таго? — Епіскап сурова глянуў на святара, і той успыхнуўшы, замаўчаў.

– Ці, можа, забылі, брацие, што кніжныя славесе падобны да рэкаў, якімі наталяецца ўвесь сусвет. Ці часта плывём па тых рэках да чужых берагоў, дзе нас так чакаюць?! Аднак жа прысніўся нам у ноч з суботы на нядзелю Анёл... Гэты пераход уладыкі да сну здаўся прысутным такім недарэчным, што ўсе міжволі скіравалі на прамоўцу здзіўленыя позіркі. А той нечакана важка падняўся і выйшаў з-за стала. Недаўменна перамаўляючыся, госці таксама стоўпіліся пасярэдзіне пакоя. Бліжэй, аднак, акрамя бацькі Святаслава, падышлі толькі вялікі князь Барыс і ваявода Вялішын са святарамі.

А Еўфрасіння ўжо стаяла побач з епіскапам, адчуваючы, што не можа варухнуць нават пальцам. Ад высокага ўкрыжавання з правага боку хлынула такая гарачая, пругкая хваля, што ледзь утрымалася на нагах. Адчула на сабе і суровыя позіркі Апосталаў з пасярэбранага абраза Тайнае Вячэры на сцяне.

— Дух Святы Божы, усюды прысутны, які ўсё накіроўвае, скарбніца радасці, дабра і ласкі, прыйдзі і жыві між нас, каб стаў дом наш Тваёй святыняю і шлях наш — Тваім шляхам.

Як праз мярэжу, бачыла, што, падняўшы руку, уладыка ўжо ўскладвае свой вялікі крыж на яе галаву:

— Тое і перадаю ўсім, пачутае ад Анёла: каб была Еўфрасіння ў Сяльцы і збудавала манастыр! Памілуй нас, Госпадзі, адвярні і Ты, Літасцівая, аблічча Сваё ад грахоў нашых, адвядзі пошасці варожыя ад Полаччыны, і захавай край наш на вякі вечныя. Каб гоні былі плодныя, крыніцы гаючыя, рэкі чыстыя...

— А што з тацямі яна хаўрусуе, — то як? – Злоснае сіпенне запалоцкага князя змусіла ўсіх уздрыгнуць, але яго адразу ж перапыніла рокатнае:

— Божа Усемагутны, благаславі Абранніцу і ахіні яе моцаю і ласкаю Духу Твайго Святага. Ды будзе імя Тваё бласлаўлёнае на полацкай Еўфрасінні. Епіскап на хвіліну прымоўк, але вось голас яго зноў уладна ўзмацніўся:

— Перадаем з жэзлам ігуменскім Еўфрасінні ва ўладанне вечнае метахію Святой Сафіі з царквою Святога Спаса ў Сяльцы. І пасля смерці мае ніхто ды не судзіцеся за мой дар гэты. Як бласлаўлёная міра, хай узыйдзе малітва Еўфрасінні да Госпада за ўсю зямлю крывіцкую. І няхай жыцце твае, агніца, прасія прад анёламі і, як вянец на галаве царскай, няхай спачывае Дух Святы на табе.

... Краем вока бачыла: услед за служылымі з гасцёўні выходзяць, міжволі прыхоўваючы здзіўленне, насцярожаныя баяры. Але яна ўсё

яшчэ працягвала маўчаць, стоячы каля сцяны. За апошнім, нарэшце, прычыніліся дзверы...

— Будуй Сяльцо, ігумення!

Запытальна падняла позірк на епіскапа: зняможаны бяссонымі начамі і бясконцымі клопатамі стары пазіраў перад сабою перапоўненымі скрухай вачмі.

— І вядзі кашару: прасі, як загадвай, але ўшчувай без страху і няверы, іначай раб чорны знойдзе нават маленькую шчыліну і ўпаўзе, калі слабасць пачуе. Уздыхнуў:

— Толькі хто ведае, чаму да святога Крыжа мы ідзем праз грахі смяротныя? — Адчуўшы ў голасе уладыкі напружаныя тоны, схіліла галаву, але ён ужо схамянуўся:

— Не зусім тое тут, што казаў. – Апусціў важкую далонь на стол, дзе ўсё яшчэ ляжала пасланне.

– І ты... Не ўсю праўду казаць сабе дазваляй! Дзеля самой жа праўды.

Незадаволена падняла галаву, але епіскап імгненна падвысіў тоны голасу:

– Вялікі князь кіеўскі Уладзімір Манамах памірае! Яшчэ колькі часу – і адмовіцца Барыс ад стальца на карысць Давыда, чацвертага з Усяславічаў.

– Са стогнам выпрастаў плечы.

– Толькі вялікая смута ідзе супроць Давыда. Моцна Барыса ўсе шануюць. Цяпер за сына ягонага Рагвалода могуць голас падаць. Вось і думай, ці надоўга закняжыць Давыд.

Уздыхнуў:

— Чакаць трэба, ігумення, разлому крывавага паміж зроднікамі: дзядзькам і братам тваім стрыечным. Аднак скажу: воля Божая – вышэй княжай! Помні пра тое. Слухай, чаго народ хоча. Вялікая сіла цяпер у руках тваіх, ігумення.

– Калі так, уладыка...

Епіскап крыху здзіўлена і насцярожана падняў на яе вочы. – Кажы, што хацела сказаць, ігумення.

— Першая мая просьба — вызваліце смердаў тых, якія на капішчы не ведалі, што дзеюць.

Скрушна, яшчэ няўпэўнена кашлянула: — І асобная просьба — за Кірыка, — у імя Госпада, чые раны адкупілі грахі нашыя.

Епіскап, паволі ківаючы галавою ці то яе словам, ці сваім патаемным думкам, нечакана падняў востры позірк:

— Аб чым просіш, неразумная?! Ці ж не ведаеш? Ледзь не загубіў ён цябе, таць той? З запалоцкім пярэваратнем хаўрусуе.

Памыслі! Смерд той злы і нікчэмны? Сэрцу, кажу, многа волі даеш! А табе, пакліканая на служэнне, слабіна тая ўжо стокроць не дазволена.

– Ці смерд, ці князь. Усе перад Госпадам роўныя. Не даведзена віна яшчэ...

– Калі за якога чалавека просіш, думай і пра тое, што за грахі ягоныя заступаешся. Будзеш весці за сабою, ігуменння, многіх. З тым анёлам, што і да мяне апрыходзіў, раду трымай. З ім – найболей. А пра людзей іначай памыслі. Не забудзі, што на кожным, як горб, і зламыснасць, і хцівасць, і ліхаімства, і немач, і чарната памысленняў.

— Прагну, уладыка, прыймаць словы твае, як зерне ў жытніцу душы, каб прыносілі плады, і па трыццаць з кожнага, і па шэсцьдзесят, і па сту. Але за Кірыка...

— Хочаш адразу ж пазнаць і цяжар служэння ігуменскага!?

Узяў у руку срэбны званочак, і ў пакой тут жа ўляцеў цівун Прошка.

— Коні гатовы?

— Як загадана было, уладыка,

— Тады едзем, сердабольная.

## РАЗДЗЕЛ 9.

*“ І скажуць табе, што зводнік і антыхрыст я, бо не вызнаю Ісуса Хрыста, што прыйшоў у плоці, — не вер. Скажуць, што ганю ісціну і супярэчу, сыплючы жвірам у вочы пакліканым, якія асвечаны Богам Айцом і ахаваныя Ісусам Хрыстом – не вер! І скажуць, быццам пракраўся я, бязбожнік, і мілату Бога нашага абарачаю ў нагоду да распусты і выракаюся адзінага Валадара Бога – не вер! ... Быццам падаю ў змусту здзірства, як Валаам, і ў зацятасці гіну, як Карэй – не вер! І прыношу што на вячэры любові хмары бязводныя, высадзіўшы бясплодныя дрэвы, двойчы памерлыя, выкарчаваныя... І як хвалі раз’юшаныя, быццам бы, з шулавіннем выкідваю на бераг людскі сваю брыду і зоркі вандроўныя, якіх прыганяе мора цемрыва, – не вер!*

*Шша-су... Не вер!*

Дождж урэшце стаміўся. Але куды яны, ледзь паспяваючы за фурманкай епіскапа, едуць, яна здагадалася толькі пасля Сарочых хмызоў. Манастырская павозка спынялася каля чатырохсценнай, складзенай з тоўстага бярвення пабудовы, у якой размяшчалася вартавая служба: гэта быў стары, збудаваны яшчэ на пачатку княжання вялікага Рагвалода, полацкі поруб. Узмахам рукі загадаўшы

цівуну застацца каля ўвахода, епіскап прапусціў наперад двух вартаўнікоў са смалякамі, падаў знак ісці следам і Еўфрасінні. Пачаў паволі спускацца ў глыбіню поруба, асцярожна ступаючы па расслізганых каменных прыступках. Часам дакранаўся рукою да асклізлых сцен. І чым глыбей яны апускаліся, тым цяжэй было дыхаць; цяжкі смурод сыходзіў, здаецца, з самога чэрава поруба. Слых злавіў нязвыклыя для вуха гукі, падобныя да агіднага бульканння хворай цемры.

Следам за епіскапам Еўфрасіння ўваходзіла ў знакамітую на ўсёй Полаччыне вязніцу. Багна загуслай даўкай плесні і кіславатай сырасці азвалася гучным роспачным енкам: якразміналі вузкі праход. Цьмяныя прамяні-водбліскі ад лучын, ушчэмленых у сцены, выхоплівалі з густога марыва чорныя дошкі бакавых клетак. У вузкія шчыліны паміж імі, раздзіраючы космы доўгіх сівых барадаў, працэджваліся тонкія, як цэўкі, ледзь бачныя рукі ўвязненых. Змеціла і хворы бляск вачэй: позіркі былі распалены адначасна нянавісцю і мальбою. Хітнулася, бо так моцна біў у грудзі цёмны грэх, які ўжо спазнаваў пакуту і слодыч пакаяння. Слых нечакана балюча крануў дзікаваты жаночы крык з глыбіні кутняе клеткі, каля якой яны ўжо спыняліся:

— Ісправ!..

Махаючы рукамі, ледзь прыкрытая спарахнелымі лахманамі, чарнавалосая, яшчэ даволі маладая жанчына выкрыквала праклёны, забіўшыся ў куток. Падалей ад таго месца, у якое Еўфрасіння ўзіралася ўсё пільней. А ўвязненая прагнула адно знікнуць, стапнець, працадзіцца праз сцяну сваёй вязніцы. Старэйшы вартаўнік, нахіліўшыся да ўладыкі, ужо шаптаў таму нешта на вуха, і Еўфрасіння міжволі адхітнулася, нарэшце зразумеўшы тую незразумелую трывогу, што сціснула сэрца пры першым жа позірку на гэтага служылага. Яшчэ раз падняла позірк і зноў сумелася. Перад епіскапам стаяў той самы заслаўскі лучнік, што так часта трывожыў яе сны начнымі жахамі. Але колішні нахаба з задаволена-ўпэўненай ухмылкай быў цяпер не ў старых дашчаных латах, а ў багатым чорным кафтане. Жанчына ў клетцы, усё яшчэ тузаючыся ў цёмным куце, не сунімалася:

— Ісправ!

Уладыка з нізка апушчанымі плячмі, стоячы перад Еўфрасінняй,, выдыхнуў:

— “І сказаў ёй цар сірыйскі Венедат: “Чаго табе, жанчына?..” І пачуў: — “Зварылі мы сына майго…”

- Увязненая затрэслася:

— …не варылі! Ісправ сам!

Епіскап, не зважаючы на енкі, працягваў:

— “… і зварылі мы сына майго, і з’елі яго…”

— Іспра!.. Усё — іспра!.. Уклаў спярша сына ў маё чэрава, а тады з’еў!..

— То колькі ж ратоў у твайго іспры было, Веранія? Не бойся, ідзі сюды. Раскажы Кажадубу. — Да жанчыны падступіўся старэйшы вартаўнік і тая, спалохаўшыся, пачала таропка ўскідваць перад сабою рукі:

— Адзін… другі… трэці!

Задаволены, Кажадуб падаў знак, і другі з вартаўнікоў, які ўвесь гэты час стаяў пры ўваходзе, прыўзняў смаляк. Тады ў бляклым хворым святле Еўфрасіння нарэшце ўбачыла тое, да чаго ўвесь час цягнуўся позірк. Хітнулася назад, але ўладыка ўжо моўчкі працягваў ёй свой, аздоблены залатымі ўзорамі, пояс. Вочы яго, пашчыпаныя едкім дымам, яшчэ болей слязіліся. Тады, схіліўшыся, паціху, каб знячэўку не зачапіць душы маленькага пакутніка, плоць якога была спажыта ў гэтым страшным месцы, яна пачала збіраць з клейкай гразкай падлогі дзіцячыя костачкі з плямінамі мяса, складваючы і ахінаючы іх святарскім поясам. Рукі гарэлі, як налітыя расплаўленым воскам. “Ойча нябесны, выбач і ўратуй…”

Як у сне, пачула Кажадуба:

— Тут і нарадзіла…

— Хто прыслаў яе?

– Князь Барыслаў з Запалоцця.

– Віна ў чым ?

– Выпусціла насуперак волі княжай таця прышлага.

— Ці не Кірыка?!

— Блудніца!

Кажадуб, схіліўшыся да епіскапа, нешта зашаптаў на вуха, і той ажно хітнуўся:

– Княжая воля!

Кажадуб ужо запабеглівa паціснуў плячмі, аднак слых Еўфрасінні абвастрыўся ад накату гневу:

— Але як трапілі сюды згубцы? Вароцечкі ж моцныя. Дзе была варта?

— Чаму ж не крычала?

— Таго не ведаю. З’ядалі немаўля ноччу.

— А хіба тут бывае дзень?

Улавіўшы ў голасе госці нечаканую пагрозу, старэйшы вартаўнік пачаў нахіляцца, каб дапамагчы, аднак Еўфрасіння пазірала толькі на жанчыну:

— Кормяць як, нябога?

Не чакаючы адказу ўвязненай, строга выпрасталася.

— Усім цяпер цяжка, — голас Кажадуба, які, здаецца, толькі цяпер пачаў пазнаваць у наведвальніцы полацкую князёўну, адразу ж прыглух.

Гнеўна падняла галаву:

— Пасылаў жа бацька ў ваш поруб цэлы воз рэпы! Якраз два дні таму. Ці скралі, можа? Тады – хто? Адказвай мне, вартаўнік старэйшы!

Кажадуб, імгненна сцёршы з аблічча ўхмылку, нешта таропка паясняў, але яна ўжо не слухала. Перадаўшы загорнутыя ў пояс костачкі епіскапу, які, адчувалася, ледзь стаяў на хворых нагах, павярнулася да наструненай, гатовай да ўсяго, жанчыны:

— Пойдзеш са мною!

Таропка соваючы каленьмі, увязненая тут жа папаўзла да выхаду — малодшы вартаўнік якраз прачыняў дзверы перад епіскапам.

Следам выходзіла і Еўфрасіння, але, павярнуўшыся, рашуча грымнула ў пазы вароцечак тоўстую жардзіну, пакінуўшы ў клетцы Кажадуба, які спачатку нават нічога не ўцяміў.

— Ты, — павярнулася да маладога, — будзеш старэйшым замест таця хлуслівага. Патрымай датуль, пакуль праўды не скажа і не пакаецца.

Толькі цяпер, зразумеўшы, што адбылося, Кажадуб бухнуўся на калені і зароў: — Уладычыца, злітуйся! Уладыка, слова скажы!

Епіскап, не азіраючыся, ужо спяшаўся ў помарак вузкага поруба. Пайшла, не зважаючы на немы крык увязненага, і яна.

Краем вока змеціла, што апошняю спяшаецца, засланяючыся ад святла, Веранія.

Нарэшце, апынуўшыся наверсе, сурова зірнула на новага старэйшыну варты:

— Ці ёсць яшчэ ў порубе дзеці?

— Толькі тыя, якіх падкінулі. Двое жывуць…

— Дзяцей падкідваюць? — Звяла бровы.

— У яме ж лепей, чым недзе псы разарвуць…

— А калі разрываюць людзі?

Схіліўшы галаву, малады вартавы ўжо забраў ад епіскапа пояс з костачкамі:

— Пахаваем з малітвамі айца Еўлампія, які прыходзіць штодня для службы Божай.

— Спраўдзіш сказанае?

— Спраўджу, уладычыца.

Ад’язджаючы, яшчэ раз азірнулася на блакітнавокага, хаця і не надта высокага, але з валявым, памечаным ямінкаю, падбародкам, вартавога поруба.

— Як завуць цябе?

— Кмет Сава, уладычыца. Варта наша за вамі ззаду паедзе.

* * *

... Яны ўжо блізіліся да Полацка, калі Еўфрасіння міжволі расплюшчыла павекі. Павозка з епіскапам рэзка спынілася: да слыху раптам данесліся пагрозлівыя выкрыкі. Дарогу перагарадзіла ўнушальная гуртоўня смердаў, і абедзьве павозкі ўмомант абляпіла неспакойная людская зборня.

Яшчэ нічога не разумеючы, Еўфрасіння зірнула на епіскапа, але той, паважна прыгорбіўшы плечы, моўчкі знерухомеў на пярэдняй павозцы.

І раптам над людзьмі прахрыпеў грозны бас:

— Праксэду хочам! Прадслава будзе! Прэч, находнікі! Ні закону Грэцкага... Ні закону Рымскага... Хочам сваю, Полацкую! Няхай яна цяпер службу служаць!

Спалохана азіралася, але некалькі дужых дзецюкоў, падступіўшыся да павозкі епіскапа, рашуча абхапілі яе з абодвух бакоў і пачалі павольна расхістваць. Цівун Прошка, грозна падняўшы бізун, зніякавела азіраўся, не насмельваючыся нават узмахнуць рукою. Змеціў, што людзей штокроць прыбывае.

Еўфрасіння разам з епіскапам ужо сышлі на зямлю і, абодва пачалі паволі адступаць. Саскочыў і цівун, пільнуючы найперш пабялелага епіскапа.

– Абарані, уладычыца! Заслані! Не гневайся! Не адступае смерць лютая. Косіць двары. — Людзі, падагнаныя бядою, наступалі на яе ўсё смялей. — Барані, уладычыца! Абвяла позіркам пярэднія, у шарых грубых світкак і злямчаных стаўбунах, шэрагі. Моцна трымаючы Евангелле, парывіста ўскінула вольную руку. Праз увесь прасцяг агромністая людская хваля неўспадзеў так рашуча, з такой нечаканай гатоўнасцю ўкленчыла, так пакорліва схілілася, упіраючыся ў гразкую раллю зношанымі лазутнямі і лычакамі, да самай зямлі, што, здавалася, пачуліся ўдары ўстрывожаных сэрцаў. Міжволі сцішылася.

– Блаславі, заступніца...

Бліжэйшыя, соваючы каленьмі па ледзяной гразюцы, падпаўзалі да самай дарогі:

– Бласла... ві...

– Бласлаўляй, ігумення.

Хрыплаваты голас епіскапа перарываўся.

– Але ж не маю…

– Служэнне табе такое цяпер даю!

– Уладыка, толькі ты…

— Блаславуляй! Іначай разнясуць! – Сіпла аддыхваўся.

– Сцвердзі, уладыка, што ў порубе нікога не ўсмерцяць.

– Не ўсмерцяць!

– І на калы не…

– Не пасадзяць! – Басіў ужо грозна і раздражнена: — Блаславуляй, ігумення!

Зняўшы з шыі свой невялікі нацельны крыжык, падняла яго высока над галавою, і бязладныя крыкі тут жа прыціхлі. З боку поруба імчала варта, ачоленая Савам, але яна, ступіўшы да людзей, зноў узнесла руку для блаславення і поле смердаў адазвалася радаснымі крыкамі. На павозцы адчайна заскуголіла Веранія. Ахінутая радном, якое заўсёды ляжала на сподзе царкоўнага вазка, раз'ятрана ўскрыкнула: — Іспра ўсё! — Але, злавіўшы косы позірк ігуменні, прымоўкла.

Праз поле са свістам праляцеў халодны вецер і людзі, азіраючыся, пачалі падымацца: адводзячы ўбок суровыя позіркі, разыходзіліся.

Нейкая маладзіца блізу дарогі ў апошне, трымаючы ў руках немаўля, падскочыла да павозкі, нечакана паднесла яго да Еўфрасінні: — Благаславі!, і тая слухмяна падняла руку, аднак у апошні момант змеціла, што дзіця — нежывое. — Уладычыца, благаславі…

— У Сяльцо!

Веранія, укленчыўшы на павозцы ў сваіх страшных падзертых лахманах, зноў заскуголіла звыклае: — Іспра ўсё… — Аднак ігумення звярталася ўжо толькі да living вознай сястры:

– У Сяльцо!

… Праз некалькі дзён у паслушніцкай прыбудове блізу Сафіі на вымытую ў вялізным, выдзеўбаным з цёмнага дубу карыце Веранію ўсклалі, каб суцішыць пажады плоці, важкую валасяніцу. Амаль не спала ў тыя дні, растрывожаная, і Еўфрасіння, толькі цяпер зразумеўшы, што будаваць манастыр давядзецца наноў: хілыя пабудовы, найбольш клеці і свірны, каля старой царквы ў Сяльцы залішне доўга служылі сховішчам для гародніны і рознай збажыны і для абіцелі не былі прыдатныя. Смылела і новая стрэмка. Уладыка пасля сустрэчы з раз'ятранымі смердамі пакрыўджана аддаліўся, пераклаўшы ўсе перамовы з ёй на плечы маладзенькага пісца.

## РАЗДЗЕЛ 10.

Жыццё пасля паводкі імкліва вярталася ў звыклыя берагі. І найбольш голасна аб гэтым праспявалі пеўні. Птушак было ўсяго толькі чатыры, альбо пяць, на ўвесь Полацк. Але, вернутыя гаспадарамі разам з іншаю птушынай і жывёлаю ў родную аселіцу, гарластыя певуны галасілі нараніцы так адчайна і так радасна, што ўсе зразумелі — гэта сапраўды цяпло. І ўсё ж на самым згоне ліпца, калі маленькая дачка каваля Рамана нечакана пачала задыхацца і ўчарнелы ад гора бацька бухнуўся на калені, падняўшы ў мальбе амаль невідушчыя вочы, ігумення зразумела, што таіцца болей не зможа. Толькі ж гэтак доўга ў глухаце келлі ўтаймоўвала яна сваё няўтольнае жаданне прыкладваць рукі да чужых хворасцяў, не ведаючы спаўна ўласнай моцы, так доўга і ўпарта зачыняла ў сабе тыя, аднойчы адкрытыя небам раны, упускаючы ў душу адно бляск зорак, што, здаецца, ужо згубіла дадзены Госпадам дар гаення. Згадала і доўгія ночы, калі, спасцігнуўшы, што жывая плоць яе невыносна балюча крышыцца ад шалу, да раніцы ткала здзертымі да сукравіцы рукамі пераплёты кніг. Дарога жыцця патрабавала новае пакуты, не даючы ні глытка спагады. Усцягвала старую валасяніцу, і тая груба шоргала па зорных крыніцах, што струменілі з неба ў яе сэрца. Сцёртае да ранаў цела доўга гаілася, і ад нясцерпнага свербу можна было звар'яцець. Тады падымала позірк вялікіх вачэй: за што, Літасцівая?

Але толькі цяпер, убачыўшы перад сабою амаль непрытомнага ад гора каваля, зразумела, што яе адверстыя раны ўжо ніколі не загрубеюць. І хаця так доўга не дазваляла рукам дакранацца да чужое хваробы, не ўпэўненая, ці сапраўды вылечвае, ці толькі прабівае ў чужой плоці шчыліну для таго злога раба, які адразу ж улазіць у душу з чорнымі капытамі, сёння аніяк не змагла вытрымаць мальбы аб ўратаванні. Але скажы, Госпадзі, як спраўдзіць напісанае: не нашкодзь чалавецам?!... Прыціскаючы немаўля да грудзей, яна ўваходзіла пад пранізаны трымтлівым святлом купал Сафіі, і малое адразу ж сцішана каўкнула. Яшчэ зусім малады святар кінуўся рыхтаваць усё неабходнае для хросту. Тады пачала малітву, адчуваючы, як сілы па кроплях пераліваюцца ў хворанькае цельца дзяўчынкі.

Нават потым, калі малую ўзялі з яе рук, яшчэ доўга не магла падняцца яна, маладая ігумення, на ногі. Хістаючыся ад стомы і трывожных думак, вярнулася ў засмужаную позням вечарам келлю.

Але раніцаю — зноў выехала ў Сяльцо. Каб тым жа вечарам вярнуцца, запытаць у Рамана пра дачку.

... Потым, стомленая, выснажаная клопатамі, яна прыляжа ў келлі на мулкі тапчан і суцішыць востры боль у сэрцы. Адно раніцаю, невядома якімі высілкамі адольваючы жаданне яшчэ хоць крыху паспаць, усё ж падымецца і спешна выедзе на будаўніцтва....

* * *

... Зоркі над Сафіяй успыхвалі так ярка, што ўжо не маглі ўтрымацца і, чыркаючы яркімі вогненнымі хвастамі прасцяг паміж небам і зямлёю, падалі на ільснiстую плыткасць Дзвіны. Ноч кацілася ўздоўж берагоў, кранаючы згнілыя леташнія качыныя гнёзды і прыхаваныя пад дзёрнам тоўстыя аерыны. Усё ў наваколлі прагла абнаўлення і ўседаравальнага спакою. Зямля, радасна парыпваючы глыбокім карэннем, разняволена выпроствалася. Усё жывілася плодным сокам і прагай выспявання.

*“А за вас, хто на любоў маю пасягнуў вуснамі пакеплівымі,*
*Хто атачыў адусюль мяне словамі нянавісці і здрады,*
*...Хто ўзбройвае супроць мяне без прычыны,*
*Хто за любоў маю ваюе супроць мяне,*
*Хто аддае мне злом за дабро, а за любоў —нянавісцю...*
*За вас, здрайцы ліхаімныя, — Малюся!”*

Сон, авалодваючы зняможаным целам ігуменні, часам перарываўся рэзкім кашлем і непадуладная памяць зноў паварочвала ў Сяльцо. Суцішваючы рэзь у жываце, што пачалася пасля таго, як разам з цеслямі і сама неяк пацягала важкія дошкі, глыбока ўдыхнула. Але думкі кіраваліся да звыклага: будаўніцтва манастыра завяршалася. Якраз напярэдадні вялікага свята Прэабражэння Хрыстовага. І хаця не хапала яшчэ дзвярэй у келлях, сцены былі тоўстыя і надзейныя. Ужо дыхалі, жылі, чакалі. У паўсне ўсміхнулася. Знізу нечакана данесліся галасы.

— А я думаю, то сапраўдны цуд. Як бы сам Гасподзь...

— Ды кмет адзін з плінфамі пастараўся!

— Гэта табе Веранія нашэптвае! Вар’ятка яна.

— А кмет — вельмі дужы! Усё вочы апускае. І нічога мне Веранія не казала.

— Усё роўна цуд! Нічога без Божай волі не дзеецца.

Выпрастаўшыся на тапчане, Еўфрасіння глыбока ўдыхнула, але гаваркія паслушніцы нечакана сышлі. Вечаровая шарасць пагусцела, і ў галубец працадзілася вечаровая свежасць. Успомніла ліст, перасланы з Турава.

Дружа Даніла пісаў, што сумуе ў адзіноце і плача штодзённа, бо грэшныя тыя, хто, маючы ўладу над простымі смердамі, неміласэрныя да рабоў сваіх: знясільваючы працаю, не даюць гаротным досыць ежы і адзення. Аднак жа, ці атрымае і яна калі-небудзь Божае прабачэнне, грэшная, неміласэрная, няўдзячная? Бо так часта змушае прасталюдзінаў з шарай раніцы ўзводзіць сцены манастыра ў Сяльцы. Зрэшты, і сама, не вытрымаўшы, часта дапамагае...

Знізу яшчэ раз прашалясцелі аддаленыя галасы паслушніц, але памяць зноў кіравала да свайго.

... Паўсюль снавалі работныя, выконваючы наказы дойліда Іаана. Адчуваючы ў сэрцы незразумелую трывогу, азіралася міжволі і сама. Нарэшце, змеціўшы сярод цесляў Кажадуба, якога, пэўна, выпусцілі з порубу, каб пасласць на гэтае будаўніцтва, адвяла позірк убок. Побач з былым старэйшым наглядчыкам порубу, што здзівіла не меней, ценілася Веранія ў работнай хламідзе.

— Без плінфаў нічога не закончым, уладычыца. — Устрывожаны рудабароды дойлід Іаан з надзеяй павярнуў голаў ў бок дарогі, на якой ужо тры дні таму павінны былі з’явіцца павозкі з плінфамі, але безнадзейна махнуў рукою.

І раптам з-за атуленага густымі вербалозамі павароту данеслася натужнае рыпенне. Усе на будаўніцтве адразу ж замерлі, шырока расплюшчыўшы вочы: замест коней у колы, што нечакана важка выпаўзлі з-за карчоў, былі ўпрэжаны ледзь прыкрытыя лахманамі смерды, якіх ачольваў малады кмет у скрываўленым кафтане. Іаан махнуў рукою, і да павозкі з плінфамі адразу ж кінуліся памагатыя.

— Нас каля порубу дагналі, уладычыца!

Загадаўшы пакласці скрываўленага кмета на падсыхаючы каля сцяны мох, шарханула рукою ў лекавай кайстры, якую заўжды насіла з сабою. Апусцілася перад параненым наўкаленцы, пачала, прамываючы раны дубовым адварам, намошчваць іх дзівасілавым зопівам. Прыслухвалася да бяссілага шэпту:

— І коней нашых забралі, уладычыца, і саміх ледзь не пакалечылі.

— Хто?

— Кажуць, Кірыкавы людзі.

Кмет, ледзь стрымліваючы стогн, сіліўся падняцца.

— Толькі ў тое не веру. Кірык у відбескім порубе, а адтуль яшчэ ніхто не збягаў. Ды і ведалі, па якой дарозе паедзем.

— За плінфы паклон усім.

— Кмет Сава я, уладычыца. Слуга твой вечны...

За спінаю нечакана так гучна і здзекліва зарагаталі, што яна імкліва азірнулася. Каля сцяны стаяў, ашчэрыўшыся, Кажадуб. Але тут жа, угнуўшы плечы ад яе суровага позірку, падаўся да сваіх цесляў і пад вечар сышоў зусім.

... Сон-успамін... Як пакута. ...Зноў апускае свае ружаватыя мярэжы, выхопліваючы з цемры і новыя сцены манастыра, і заплаканую Веранію, што, стоячы перад ёю пасярод двара, усё ніжэй нахіляе плечы:

— Злітуйся, матухна.

— Не плач, нябога.

— Кажадуб...

— Часта Кажадуба бачыш?

— У поруб ночамі возіць.

— Кажу, не трэба плакаць, Веранія.

— У лес ён мяне пасылаў, матухна.

— Гэта ты яму расказала, што мы плінфы чакаем ?

— Да запалоцкага кмета ў лес ганяў, каб сказала.

Адводзячы ўбок спалоханы позірк, Веранія ўсё яшчэ па-дзіцячы размазвае слёзы.

— Чаму ж мне ані разу...?

— Заб’е, матухна! Там і Саву бачыла. Толькі ў катавальні.

— Нашага работнага? Хто ж на такое насмеліўся?!

— На свае вочы, матухна, бачыла.

— Суцішся, Веранія, не твая ў гэтым замесе віна.

...Памяць, памяць, быццам атрутны дым. Забівае помаракам грудзі, ад чаго дыханне стае такім перарывістым, што ігумення нехаця паварочваецца на другі бок, адразу ж адчуўшы важкія глухія ўдары сціснутага сэрца.

Еўлампія, падняўшыся ў яе келлю, прыкладала да ўспацелага чала халодны ручнік, але відзежы зноў зашахалі па вачах крывавым туманам...

Праз цьмяны паўзмрок катавальні ледзь бачна, што прывязаны за рукі да крукоў кмет сплыў брудным потам і крывёй і ўжо ледзь трывае. Праз аблічча палымнеў глыбокі пачварны шнар, спасаваныя бізуном грудзі спрэс залівала сукравіцаю. Вочы ў чорных кругах не адплюшчваліся. Распухлыя ад удараў вусны ледзь варухнуліся.

– І не ведаеш, ці прыязджалі да ігуменні пасланцы ад жмудзі!?

Голас Кажадуба хрыпеў ад напругі, але Сава зноў адмоўна хітнуў галавою і застагнаў. Кажадуб грозна падняў бізун, аднак у катавальню ступіў разгневаны цівун епіскапа, што ўвесь час маўчкі сачыў за ўсім з-за прачыненых дзвярэй. Грозна кашлянуў:

— А хіба не ведаеш ты, порубнік паганы, што не смееш вачыма сваймі нахабнымі нават пазіраць на Божую абранніцу?!

— Не пазіраў я.

— Трасцу табе ў вочы і кала ў бок! — Рэзкі ўдар змусіў Саву застагнаць.

— І не памятаеш, што ў Сяльцо да Еўфрасінні прыязджаў пасланец з Кіева!? — З Кіева!?

— І не чуў, пра што гаварылі? — Цівун за валасы падымае галаву збітага, але спалоханы крык, з якім у катавальню ўбягае малады наглядчык, прымушае яго азірнуцца і нехаця апусціць руку:

— Загадана табе было!

— Але ж гэта ўладычыца!

...Сон ці ява? Ці, можа, зноў відзеж, што пякуча сціскае горла? Ледзь стрымліваючы гнеў, яна так шырока адчыніла дзверы, што тыя натужна зарыпелі, і тут жа, ступіўшы колькі рашучых крокаў у катавальню, спынілася. Падняла важкі позірк на Кажадуба:

— Якая віна работнага нашага!?

— А хіба не таць гэты, уладычыца, затрымаў цэлы воз плінфаў для твайго Сяльца!?

— Не тым пераймаешся, Кажадуб! Не хлусі мне! Ці прасіла каго з вас аб паслузе? Пашто для спраў маіх так стараецеся?

Цівун епіскапа, ужо не хаваючыся, адступіў ад сцяны:

— Нягожа і ігуменні за паганага смерда клапаціцца.

— Гэта цівуну неразумнаму ў валадарскія справы нягожа совацца. Руку адхопяць!

Паказаўшы на Саву, кінула:

— На маю павозку занясіце! І дапраўды: “ Прыстаўленыя да варот сказалі : “ … пойдзем, рабаваць будзем.”

Цівун, спалатнеўшы, памкнуўся схапіць яе за руку, каб пацалаваць, але рэзка, ужо не хаваючы гневу, павярнулася да выхаду:

— І князю запалоцкаму Барыславу, і ўсім іншым валадарам перадайце, што ігумення Сяльцова парадам мудрым заўжды радуецца, але ад гэтага дня і караць, і мілаваць сваіх работных людзей сама здолее. Час кмету Саве на службу ў поруб вяртацца!

Чыркнуўшы па катавальні косым позіркам, падняла галаву:

— І пакінь, Кажадуб, паслушніцу нашу Веранію ў послуху. Іначай — у яму назаўжды рынеш.

Яшчэ не было таго, каб памочнікі Барыслава і самога епіскапа схілялі голаў перад жанчынаю, але цяпер, у гэтай страшнай прорве, адкуль мала хто выходзіў жывым, нечакана адступілі.

... Да ілба зноў дакрануліся ласкава-халодныя далоні, ад чаго ігуменння нарэшце расплюшчыла павекі. Над тапчанам схілялася заклапочаная Еўлампія з мокрым ручніком у руках.

– Сон такі цяжкі, Еўлампія.

– Перад важнай справай, галубка наша. Цяпер пайду.

– Што рабіла б я без цябе, нянька?

– Усё жартуеш, князёўна.

– А ўжо ж такія жарты.

— Адпачні яшчэ, бо хлябы не гатовы, адпачні, матухна-ігуменння...

## РАЗДЗЕЛ 11.

– Хіба забыла ты, Еўфрасіння? Усякае дыханне – ды славіць Госпада.

— Зноў бачу побач з табою, Анёле, як прымару...

– Гэта любоў твая.

*“ Прыйшла любоў, і паўсталі супроць яе ненавіснікі.*
*Шмат уціскалі мяне з юнацтва майго, але не адолелі.*
*На хрыбце маім аралі аратыя, вялі доўгія баразны свае.*
*Але Гасподзь справядлівы. Ён рассек путы зняверпікаў.*
*Хай жа будуць, як трава на дахах, што раней,*
*чым вырвана будзе яна, засыхае; якою жнец не напоўніць*
*рукі сваёй, а хто вяжа снапы – жмені сваёй.”*

* * *

Прабач, Божа, прабач мяне, такую слабасілую і леную, жорсткую і неразумную... Прабач мяне, Божа.”

Суцішваючы хвалю жаласці і скрухі, нарэшце конча прачнулася, але тут жа насцярожылася: нехта пацíху, бы крадучыся, падымаўся наверх. Крокі нечакана памацнелі — да келлі ўжо спяшаліся бегма. Тады, не зважаючы на боль у жываце, паднялася, запаліла яшчэ адну свечку, і ў тое ж імгненне грубая тканая дзяружка, што служыла дзвярыма галубіцы, адхінулася, ад чаго міжволі адступіла назад. Але тут жа з палёгкаю ўздыхнула: на парожку стаяла Веранія, аднак

чамусьці без каптура і ўся аплеценая грываю распатланых чорных валасоў. Здзівілася. Узіраючыся ў белую, што снег, з шырока расплюшчанымі ад бяссоння і вар'яцкай рашучасці вачмі, жанчыну, міжволі звяла бровы.

— Што сталася, Веранія?

Запытала строгім і патрабавальным тонам, але паслушніца ўжо ўпадала ў гарачку, нават не разумеючы, хто перад ёй.

На дне вар'яцкага позірку віраваў пранізаны пякельнымі сполахамі, такі гарачы нутраны покліч бясцямнай жарсці, што, кранулўшы пальцамі свой ігуменскі крыж, Еўфрасіння міжволі падступіла да стала, на якім чакаў званочак. Гарачая хваля аблівала затрымцелыя калені, да якіх паслушніца прыпала вуснамі :

— Паглядзі! — Агорнутая распатланымі валасамі, начная госця крычала ўжо амаль бясцямна і Еўфрасіння адчула ў сэрцы балючы ўкол трывожнай голачкі:

— Аддай сына! Вярні … спажытага! Дзе яны, костачкі малыя?

Апускаючыся на зямлю, Веранія застагнала так жудка, што Еўфрасіння не вытрымала і падхапіла са стала званочак. У келлю тут жа ўляцела некалькі маладых сёстраў, адводзячы паслушніцу да дзвярэй, але тая, з пенаю на скрыўленых вуснах, нечакана вырвалася і, выкрыкваючы клёны, кінулася з галубца ўніз. З рогатам выбегла з Сафіі на падворак. Еўлампія з сёстрамі, шырока расплюшчыўшы вочы, зніякавела стаялі каля выхаду, але Еўфрасіння нават знакам не паказаўшы гневу, паціху зганяла з аблічча прыкрую чырвань.

— Накажыце князевым кметам, каб хворай здзеку не чынілі, бо прымем спакушаную ў Сяльцо. – Перажагналася:

— І адмолім грэх.

Паслушніцы таропка кінуліся да лесвіцы, а яна, змагаючы ліпкую задуху, стомлена апусцілася на калені. У келлю з боку ракі даляцелі крыкі Веранії. Міжволі замерла: у галубцы зрабілася нечакана глуха і цёмна, бы ў тым вузкім бяздонным калодзежы, па якім у полымя апраметнай ляцяць з крыкам душы грэшнікаў: прыход спакушанай быў толькі пачаткам. Улавіўшы смуроднае дыханне, азірнулася. У куце галубца раптам бліснуў пажадлівы позірк чырвоных вачэй: той, хто нарэшце патрапіў у яе жыллё, чакаў, стаіўшыся. Самы моцны з усіх, з кім ёй давялося сустракацца.

Сам — нябачны, бачыў усіх і ўсё. Бесцялесны, ва ўяве людской паўставаў агромністым, з пачварна крутымі рагамі. Вораг, нячутны слыху чалавечаму, сам чуў сам нават тое, як прапаўзае чарвяк у чорнай лусце зямлі, як пырхае крылом жоўты матылёк і расце волас на дзявочай галаве. Быў цяпер так блізка ад яе, што па плячах

шуганулі гарачыя мурашкі, так горача патыхаў смуродам цвілі, вызіраючы з усіх кутоў, так пажадліва набліжаўся, што праз келлю праплыла нудотная хваля. Устрывожана сцішылася. І раптам чужая сіла, палкая і млосная, сапраўды наляцела, ударыўшы спачатку па ўгнутай спіне і грудзях. Але вось ужо расцеклася па ёй усёй. Тады змецілa на сценах вогненныя водбліскі, растуліла апаленыя жарам вусны: “Ады-дзі!” Нават спрабавала адхінуцца, але гарачая пругкая цемра ўжо налятала з усіх бакоў, пакуль нарэшце не абліла яе ліпкім, як смала, ліўнем. Цела размякла і ў сярэдзіне пачаў расці такі пякучы і нязвыкла моцны покліч, што, знерухомеўшы на халоднай каменнай падлозе, абняла рукамі падцiснутыя да грудзей калені. Ахопленая адчаем, зразумела, што вораг ужо не адступіцца. І адразу ж важкая, хаця і нябачная, чужая плоць сапраўды абвалакла і сціснула, дыхаючы проста ў твар даўкай сераю і чадам. Апраметная сіла ўжо авалодала яе думкамі, абяцаючы такую незямную слодыч, што дзявочы розум замуціўся, а пад грудзі падкацiла нудота.

— Еўфрасіння!

Трывожны крык Еўлампіі настойліва клікаў. Паспрабавала варухнуцца, але ўсё было марна... Вогненна шаргануўшы вострымі кіпцюрамі па сценах, вораг, ці не сам іспра, нечакана зрабіў да яе апошні рывок і агромністая д’ябальская пашча разверзлася, схапіла, пачала сціскаць яе галаву, абпальваючы валасы. Тады, сабраўшы апошнюю волю, крыкнула:

— Ізы-дзі! — Паўтарыла: — Ізы-дзі!

Але той, што віраваў цяпер па ўсёй келлі млоснымі кругамі, зноў намогся, нават пачула, як ягоныя чрэслы спрабуюць завалодаць ёй. Тады, ледзь рухаючы сасмяглымі вуснамі, гарачкава крыкнула:

— Ратуй, ратуй мяне, злітуйся, Госпадзі. Ды свяціцца імя Тваё, ды будзе воля Твая, ды прыйдзе Царства Тваё! Ратуй мяне, Жаніх нябесны! Бо жылы курчацца і косці раскрыжаваны!.. Ратуй!.. — і так рэзка, як разрываючы путы, з такой адчайнай моцаю развінула рукі, што спіна з лёгкім хрустам выпрасталася. Прыўзняўшыся, тут жа апрытомнела ад чаканага і такога салодкага адчування хрусткай вышыні. Уплываючы ў сцюдзёна-празрысты блакіт неба, яшчэ мацней раскрыліла рукі і струменьчыкі паветра тут жа зашархацелі пёркамі. Халодная раса з блізкага воблака пырснула ў твар. Радасная, пачула сябе яшчэ вальней, даганяючы звонка-ласкавае “ко-урлы...” Ці, можа, атуленыя срабром аблачынак зоркі гэтак перагукваюцца між сабою?

“Ды свяціцца імя Тваё, ды будзе воля Твая, Госпадзі.”

Памкнулася ўбачыць Таго, хто быў паперадзе кліна, ахінаючы ўсё птаства магутнымі крыламі, але ў апошнюю хвіліну, калі голас сястры-гаспадыні зноў паклікаў, уздрыгнула і... ачуняла. Свечкі пад абразамі дагаралі. Тады, намогшыся, паднялася. І тут убачыла ў бляклым святле, што на ўскрайку акенца сядзіць белая галубка і, схіліўшы галаву, пазірае на яе сваім цёмным вочкам. А той, хто яшчэ нядаўна змагаў яе грахоўным агнём, ужо раствараўся і знікаў у вечаровым сяйве.

*“ Уратуй, Божа, бо косці мае, бы сякерай, расшчэплены на трэскі;*
*і замутнены вочы спакусамі, мацнейшымі за розум. Злітуйся,*
*бо, перамагаючы, ачышчаюся, Ойча. І небаўзношуся*
*енкамі сваймі. Схіляюся перад выглядам Тваім, Госпадзі,*
*што падобны да каменя яспісу і сардысу і смарагду вясёлкавага.”*

* * *

Павеяла струменьчыкам ладану. На хвілю прычула покліч высокіх птушак. Тады зноў паднялася думкамі. І вось ужо з вышыні Сафіі ўбачыла ўсю сваю Полацкую зямлю: яшчэ крыху часу — і пад зорным небам на шырокіх разлогах пачнецца ранішняя праца. Адусюль ад складзеных у кастры выкарчаваных смалістых пнёў да самых зорак клубіліся шэрыя ўзвівы дыму. Хутка зазвіняць сякеры і людзі, ачышчаючы ляды, зробяць новае жытло. Блізу ракі на пашу пойдзе быдла: слых, здаецца, крануў звон бомаў, якімі будуць бавіцца пастушкі. Пачула і бразгат мячоў, княжыя дружыны, пэўна, ужо збіраюцца рушыць у свой першы начны аб’езд. У тонкім спеве зорак тапнелі відзежы. Падышла да драўлянай місы з вадою, каб памыцца. Азяблая, усклала на сябе неміласэрна калючую ад нядаўна ўплеценай крапівы валасяніцу. Новая апратка была такая важкая і грубая, што адразу ж кранулася і без таго аслабелага цела, змусіўшы яе ўздрыгнуць. Выпрасталася, нечакана адчуўшы сябе амаль празрыстай. Ахінуўшы валасяніцу покрывам, узяла Евангелле і пачала спускацца да Еўлампіі. На стале каля выхаду з Сафіі ў новенькім лазовым кашы ляжалі прыкрытыя кужалем тры жоўтыя хлябы.

— З Прэабражэннем Госпаднім, маці ігумення. Хлябы гатовы.

Звонку нечакана даляцеў рогат Веранії і Еўлампія яшчэ раз зірнула на ігуменню, чакаючы наказаў, але, заўважыўшы пад покрывам валасяніцу, скрушна ўздыхнула. Як часта не могуць зразумець людзі, што ідуць пакліканыя да вялікай Ісціны ў ранах,

сягаюць праз пякельныя прорвы і збіваюць душы аб вострыя камяні грахоў смяротных? І спасцігаюць вышыню праз падзенне.

*“ Але будзь літасцівым да пакутаў рабыні Тваe і ўратуй, Госпадзі.*
*І кінь мяне, грэшную, пад сандалі Апосталаў, каб прайшлі*
*па рэбрах маіх, выціскаючы з вінаграду красы і маладосці*
*спелы сок для Тваіх каўшоў. І няхай пройдуць па ўкрыжаваным*
*шале рабыні твае з Полацку Дзевы-міраносіцы, і ссукаюць*
*з гарачых жылаў ніткі, якімі будуць сшываць крылы белых Анёлаў.*

Ноч разлягалася над зямлёю зорным покрывам

*Злітуйся, Госпадзі, аддаючы ва ўладу злога раба са смуроднай*
*сукравіцай, але ж не праганяй з-пад аслоны ценю Твайго.*
*І згарні ўздыханні мае бяссонныя, Ойча, у пялёсткі і лістоту*
*кветнікаў і садоў, у нарды і шапраны, цынамоны і лілеі,*
*побач з якімі ўчарнеюць і асыплюцца попелам жарсці грахоўныя.*
*І ўбі ў горла маё светланосныя слупы позірку Твайго,*
*каб крык мой пачулі ўсе, хто пакутуе ў цішы ад затоенага шалу.*
*Распалі ногі мае, Жаніх нябесны, да белага ззяння, каб*
*магла паўстаць да воблакаў, у якіх прагну стапнець, Ойча.*
*Апалі ж мяне светачамі вогненнымі!”*

## РАЗДЗЕЛ 12.

Адусюль павявала таямнічай начной цішынёю. Еўфрасіння нарэшце села на, павозку і валасяніца адразу пачала абдзіраць плечы. Спуджана фыркаючы, конь натужна адольваў добра бачную ў яркім месячным святле, але ўхабістую каляіну. Трымаючы ў руках лейцы, Еўлампія раз-пораз моўчкі азіралася. Павозку тузала ва ўсе бакі, і ігумення, ледзь змагаючы боль ад валасяніцы, нават не заўважала, як ад пругкага ветрыку ўзбоч шляху няўцешна гойдаюцца, адбіваючы густой лістотаю бляск зорак, высокія алешыны. Кланяюцца тонкімі галінамі адзінокай павозцы з манашкамі. Абсыпанае буйнымі зоркамі нізкае неба летняга месяца зарэня заставалася чыстым: ні воблачка, ні хмурага ценю. Данёсся вар’яцкі крык Вераніі. І хоць гэта, пэўна, зноў прычулася, у сэрца ўпаўзла атрутная згадка пра начны прыход іспры. Конь тым часам мераў дарогу да Сяльца ўсё весялей, ноч была

мяккая і ціхая, падсветленая мігатлівымі зоркамі. Але зноў — Вераніін смех…

*“Ойча літасцівы, Суцяшыцель наш, пачуй і літасць Сваю даруй. Бо прагну даўно, каб рыбакі Тваe закідвалі сеці ў вочы мае, якія стварыў такімі глыбокімі і гожымі, як Іярданскія прадонні, ахінутыя густымі ачаротамі павекаў. І няхай прыносяць, Божа, тыя сеці да ног Тваіх адно залацістых рыбін любові і шаўковыя водарасці вечнай пакуты аб Табе. І няхай плакальшчыцы Тваe, Госпадзі, збіраюць слёзы мае мройныя ў бяздонныя чаны мудрасці Тваe.*
*Бо даўно прашу я, — з Полацку ігумення Еўфрасіння: Ззлітуйся і пагаварыы, Ойча, з адчаем і болем маім на мове мудрай спагады Сваёй. Увядзі мяне ў кузню Сваю, Ойча, і сэрца распалі агнём, каб зліць з адхлання нявольніцы Тваe срэбныя званочкі для кашары Пастуха! Куды ні кінецца якая аблудная авечка — зазвініць званочак, папярэдзіўшы: “Схамяніся і вярніся да Айца!”*

Слёзы каціліся, апякаючы, па шчоках.

*“І злівай у жывот мой, Ойча, семя з дрэваў Ліданскіх, і соты згарчэлага шалу людскога, і ачысці іх, і апладні Запаветаў Сваіх гронамі, каб раіліся і нараджаліся ўва мне новыя жывыя душы, што будуць шукаць сябе ў чалавецах на зямлі Полацкай. Злітуйся, Міласэрны, і дазволь адчыніць дзверы новае кашары Тваe ў Сяльцы ключамі, што на вякі вечныя плоць зямную маю замкнуць, аддаўшы яе толькі небу!”*

Налятаў свежы, пругкі вецер. І раптам павозка так рэзка спынілася, што Евангелле ледзь не выпала з рук. Устрывожана прыслухалася: здаецца, з супроцьлеглага ад Сяльца боку выразна чулася тонкае воўчае падвыванне. Еўлампія азірнулася:

— Няўжо раннюю восень чуюць, маці ігумення? Жніво толькі кончылася. Звер не галодны. Ці, можа, зайгралі так рана?..

Неба зацягнула пёрыстая чародка бляклых лятучых воблакаў, што на нейкі момант патушылі жоўтую свечку поўні.

— Рухай! Ноч канчаецца. Не паспеем…

Еўлампія рашуча тузанула за лейцы, аднак конь застрыг вушамі і нібыта аслупянеў. Не дапамог і бізун. Тады, паціху апусціўшы ногі,

Еўфрасіння спусцілася на зямлю. Калючая валасяніца ўжо даўно нацерла ранкі.

Трымаючы ў руках Евангелле, асцярожна падалася па дарозе наперад, і конь зрушыўся з месца. У той жа момант зноў пачулася доўгае, дзікае і жаласлівае, воўчае падвыванне. Конь захроп. Але яна не спынялася.

*“Госпадзі, пачуй нявольніцу Тваю.”*

Вар’яцкі смех Веранії з бліжэйшай цёмнай сцяны кустоўя цяпер здаўся страшнейшым за ваўчынае выццё. Памкнулася расказаць Еўлампії пра начны шал і прыход нячыстай сілы, але нянька нават не павярнулася, трывожна ўзіраючыся ў зацемненую начной смугою і ценямі ад лазнякоў дарогу.

Працінаючае жахам ваўчынае выццё не супынялася.

“ У *берагавыя жылы мае і гарачыя струмені крыві, Ойча, што брыняць*
*праз цела спакутаванае, пералі людскія сны вар’яцкія, пажадныя,*
*каб патапляліся на дне. Пералі поты мае ў строму тае ракі,*
*дзе захлынацца будуць тысячаротыя, старукія пачвары бруду і хлусні!”*

Ішла, адчуваючы, як з усіх бакоў пачынае блізіцца і біць у сэрца злая смяротная пагроза, што ўжо цікавала за ёй з усіх кутоў млоснай і гарачай ночы.

— *"Госпадзі, скажы ловам Сваім, каб паставілі пасткі для пажадлівых*
*рук маіх, бо прагну ведаць толькі пяшчоту міласэрнасці Твае.*
*І зрабі сіло для вуснаў-птушанят, каб адно зерне каласістых снапоў*
*Тваіх спажываць маглі. Сыпні ж зерне мудрасці рукою шчодрай.*
*Ратуй, ратуй, Ойча. І аратыя Твае няхай засеюць два белыя пагоркі*
*грудзей дзявочых краскамі і ружоваю канюшынаю на спажыву*
*пчолам нябесным, каб услодычылі соты Боскія!”*

Спяшала, не азіраючыся: дарога бялела камякамі, што пад яе нагамі з шархаценнем рассыпаліся ў дробны пясок.

*“Каб выкасілі, скажы, касцы траву паміж белых слупоў тых,*
*што ўрастаюць у нутро маё вечным плодам жыцця і смерці,*

*каб было чым Айцу карміць асліцаў у дарозе вечнай…”*

На скроні павеяў свежы вецер: набліжалася раніца. І адразу ж — рэзка спынілася, адчуўшы, што пагроза, дзікая і смяротна небяспечная, ужо зусім блізка. Конская храпа мякка ткнулася ў спіну. Слых зноў улавіў пажадны і такі недарэчны смех, што быццам здзекаваўся.

“Чаму не хочуць зразумець людзі, што не так зямная валасяніца балючая, хоць абгрызае да крыві грудзі і плечы, але найстрашней тая, сплеценая з салодкіх цянётаў пажада, што ўліваецца ў цела з першародней крывёю і выплюхваецца з нутра млосцю?Парваўшы зямныя шнуры, ляцяць душы да тых спакусаў, што пануюць у паднебных прасторах, дзе пераплятаюцца рукамі і звіваюцца целамі нашы прымары.

Ці бачыў Ты іх, Ойча, ці не ўскіпала ад болю сэрца Тваё? Бо найстрашнейшы гэта грэх — слодыч мройных плоцезлучэнняў!"

Стаяла перад начной цемраю, у якой знікаў вузенькі, сціснуты хмызнякамі, прасцяг:

*“Зрабі з рук маіх спакушаных, Ойча, жэрдкі для мосту ад гэтай зямлі, на якой стаю, да воблака, на якім Прастол Твой, каб ляцелі па мосце да святых ног, бы коні акрыленыя, толькі ўздыхі нашы і пакаянні. Ратуй мяне, ратуй, Міласэрны.*
*І дай выпрабаванне, каб змагаць мяцяжы душы і пустаслоўе, і аблудлівасць праз доўгія леты.*
Ратуй, Госпадзі.”

Глыбока ўздыхнула, але тая дзікая звярыная сіла, якая спачатку пагражала ёй з усіх бакоў, цяпер так моцна біла ў спіну, што, наказаўшы амаль бясцямнай ад жаху Еўлампіі не выпускаць з рук лейцаў, Еўфрасіння павярнулася тварам да цемры: ноч і сапраўды быццам ажыла і імгненна азвалася грозным воўчым выццём. Зялёныя агеньчыкі, пранізваючы адлегласць, блізіліся да яе так імкліва, што не магала нават варухнуцца. Царкоўную павозку даганяла ўжо цэлая зграя, і Еўфрасіння міжволі азірнулася і нават адступіла. Спуджана заіржаўшы і ўжо не слухаючы лейцаў, конь таксама не вытрымаў. Пачула рэзкае рыпенне колаў і крык перапалоханай да смерці Еўлампіі, якая, відно, не магла нават саскочыць на зямлю і прыйсці на дапамогу. А смерць ужо імчалася да Еўфрасінні, пранізваючы трывожную ноч зялёнымі агеньчыкамі:

“Ойча, Сэрцазнаўца, няўжо час настае ?..

Падняла вочы — зоркі кружыліся над галавою шырокім зіхатлівым колам:

*“Выбач, Ойча, мяне, грахаводную, няўдзячную, нецярплівую,
аблудную, грубую, нелітасцівую, неразумную, леную, нячыстую.
І даруй, дазволіўшы хоць думкамі ўпасці пад ногі Твае,
падобныя да халкалівану.”*

Шырокія языкі пачвараў, якія імчаліся да яе па начной дарозе, матляліся, пырскаючы ў бакі пенаю густой сліны. Белыя клыкі блішчалі і здаваліся ў месячным святле пагрозліва вялізнымі. Усё яшчэ трымаючы ў руках Евангелле, падняла яго ўгору і, амаль бясцямная, рушыла наперад. Здаецца, нават пачула смуроднае дыханне распаленага гонам вялізнага звера. Але неўспадзеў наперарэз ваўчыцы, што вяла за сабою ўсю зграю, ці не з глыбіні самых густых карчоў раптам вылецела жанчына: шырока размахваючы рукамі і пусціўшы на ветры распатланыя чорныя валасы, дзіка закрычала. У той жа момант ваўчыца, мінаючы Еўфрасінню, з лёту, клацнуўшы зубамі, скочыла на ваяўнічую вар’ятку. Адразу ж сціснула вострымі клыкамі яе горла. Услед за мацёрай звярынай на ахвяру кінуліся яшчэ тры ваўкі.

Тады Еўфрасіння нарэшце пазнала Веранію...

У роспачы ўпаўшы на калені, азірнулася: па дарозе імчаў, высока падняўшы паходню, вершнік. Полымя высвеціла яго чырвоны кафтан і глыбока насунуты на бровы стаўбун. А ваўчыца, павёўшы да Еўфрасінні скрываўленай пашчай, шумна ўцягнула ў сябе паветра. Стоячы блізу яе, вялізныя маладыя ваўкі бліскалі зялёнымі злоснымі вачмі. Аднак вершнік, падлятаючы, так шырока махнуў перад сабою паходняй, так пагрозліва закрычаў, што, ашчэрыўшы іклы, ваўчыца пругка адскочыла ў густы хмызняк. Услед за ёю ў цемры тут жа знікла і ўся зграя. На дарозе з чорнай ранаю ў горле і пагрызенымі грудзьмі засталася ляжаць Веранія.

Урэшце, укленчыўшы каля нябожчыцы, Еўфрасіння пачала гарачкава шаптаць малітву і ўжо не чула, як пад’ехала павозка, з якой вылецела Еўлампія. Вершнік у чырвоным кафтане ўздыхаў:

— Дзякаваць Богу, сустрэў вас, уладычыца.

Зразумеўшы, што ігумення дасюль не ачуняла і усё яшчэ не можа пазнаць яго, схіліў галаву: — Кмет Сава я, уладычыца... — Зноў наблізіўся:

— З дазволу твайго пахаваем гаротную на могілках каля старога поруба.

— Прывязі лепш у Сяльцо.

Нахілілася, пацалаваўшы нябожчыцу ў высокі чысты лоб. У твар нечакана дыхнула навальнічная задуха. Неба было чорнае, як дзёгаць. І хоць не ўпала яшчэ ні кроплі дажджу, над галавою прагрымелі ўдары грому, а ўвесь нябесны паддон раскроіла раздвоеная, бы змяіны язык, маланка. Блізілася жнівеньская навальніца.

...Праз колькі часу, адгарнуўшы новую абалонку свайго летапісу, ігумення Еўфрасіння запісала, што быў закладзены Спаса-Прэабражэнскі манастыр у Сяльцы ноччу пасля доўгага змагання са спакусамі, з прывезенымі ёю Евангеллем і трыма даравальнымі хлябамі ў імя Айца і Сына і Святога Духа, напрыканцы месяца зарэня ў лета ад нараджэння Божага адна тысяча сто дваццаць шостае. Памяць на імгненне вярнула гнуткія вербалозы ўздоўж дарогі і зялёныя агеньчыкі пасланцоў апраметнай, што тою ночаю старажавалі і праводзілі іх павозку да самага Сяльца. Згадала і рэзкія ўдары грому пасярод сухой чорнай ночы, і адзінокую постаць вершніка з паходняй, і епіскапа, які, прыехаўшы ў Сяльцо той жа шарай раніцаю, здзівіўся, убачыўшы, што ён тут не першы госць. Міжволі прашаптала:

“Дасталася, узяўшы толькі кніг колькі, што цешылі душу, мацавалі сэрца маё. І нічога не мела болей. Толькі Цябе, Падаўцу, бо Ты ёсць Айцец убогім, За ступнік скрыўджаным, Надзея расчараваным.”

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## *Пакутай прасветлены*

### РАЗДЗЕЛ 1.

— Гэта ты, Анёле мой!?

*“... Каб не было любові з намі, паўсталі б на нас людзі, —*
*жывых бы нас яны праглынулі, калі б загарэлася ятра ў іх на нас;*
*воды патапілі б, паток бы прайшоў над душою нашаю...*
*Дабраславёны Гасподзь, які не даў нас на здабычу іхнім зубам.*
*Душа наша вылецела, як птушка з сеткі лаўцовай;*
*Сетка парвана, і мы – вызваліліся...”*

Ігумення спярша прачыніла дзверы ў шчодра асветлены поўняю манастырскі двор, потым па звычцы абышла старэнькую царкву Святога Спаса, але нечакана сутыкнулася з новай сястрой-гаспадыняй Кулінай.

— Такая пакута для мяне праз усю ноч, гэта ж не тапчан. Гэта ж ложак жалезны, на якім Хрыстовых пакутнікаў спальвалі.

Змеціўшы, што ігумення асуджальна ссунула бровы, сястра-гаспадыня тут жа змяніла тон:

— Заробак ад продажу мёду манастырскага, матухна...

Еўфрасіння не спынілася, і Куліна, такая высокая і мажная ў сваім шырокім балахоне, заспяшалася следам: ігумення кіравала да пергаміннай майстэрні, збудаванай на ўскрайку толькі што пасаджанага саду. Тоненькая, у падвязанай тканым паяском чорнай хламідзе, гаспадыня манастыра лёгка мінала ледзь бачныя ў гушчыні раніцы яшчэ невысокія дрэўцы. Задыханая, Куліна трывожна зіралася і нарэшце гучна паклікала ігуменню. Але тая не абазвалася.

... Яна пачала з цяжкасцю растуляць вусны пасля страшнай смерці бацькавых кметаў — на згоне восені ўсю Святаслававу варту ноччу пабілі дзідамі, пакінуўшы ўсіх пяцёх ляжаць пад вокнамі палаца. Полацк анямеў ад подзіву, бо як зразумець, што княжая сям’я пры гэтым ацалела? Пачуўшы страшную вестку, Еўфрасіння не сказала ні слова, але бляск, што праменіўся з яе вялікіх вачэй пасля таго, як манастыр у Сяльцы асвяціў сам уладыка, адразу ж пабляк. А яшчэ праз нейкі час, калі князя Барыса знайшлі з жоўтай пенаю на вуснах ва ўласным ложку, сцішылася зусім. Не зважаючы на холад, да

вечара праляжала тварам да зямлі пасярод двара, выцягнуўшы перад сабою рукі з вялікім жалезным крыжам. Праз увесь дзень малілася, і сцюдзёны вецер узносіў балесны шэпт да сівых лятучых воблакаў, пакуль не заззялі першыя зоркі. Усё часцей у манастыр даляталі чуткі, што забойца, няйначай, сам Кірык, які невядома з чыёй дапамогаю змог выбавіцца нават з відбескага поруба. Аднак, дзе гэты злодзей і забойца хаваецца, ніхто не ведаў.

— Хочуць купіць наша Евангелле, матухна!

Ігумення нарэшце пачула, азірнуўшыся на сваю сястру-гаспадыню.

— Цэлых дзесяць грыўнаў даюць.

— І хто?

— Не ведаю, матухна. У каптуры быў. Толькі бараду і бачыла. Сказаў, што сам аб'явіцца.

— Хлусіш мне?! — Тыя няўпэўненыя тоны, якія Еўфрасіння адразу ж вылавіла ў голасе чалядніцы, прымусілі спыніцца: Уладна перапытала:

— То хто той Божы чалавек?

— Не ведаю, матухна!

Толькі цяпер, калі Куліна, вялікая, што гара, паўстала пасярод дарогі ў сваёй важкай хламідзе, Еўфрасіння нечакана ўбачыла і зразумела, што чалядніца — цяжарная. І ўжо, відно, на апошнім месяцы. Застагнаўшы, застыла ў роздуме. Але праз хвіліну рэзка адвярнулася і зноў шырокім крокам заспяшалася праз сад. Чалядніца, не зважаючы на свой стан, важка патупала следам і яе нечаканы крык: "Матухна, не ідзі туды!" — прагучаў ледзь не за спінаю ігуменні, якая ўжо стаяла перад дзвярыма пергамінная майстэрні. Рыўком адчыніўшы дзверы, тут жа адступіла. Той, хто хаваўся ў майстэрні, цяпер стаяў перад ёю, закрыўшы твар Евангеллем. І ў гэты момант рэзкі ўскрык чалядніцы прымусіў азірнуцца. Трымаючыся за свой агромністы жывот, цяжарная асоўвалася на зямлю, і Еўфрасіння адразу ж кінулася назад. Смерд, які выскачыў з майстэрні, таксама бег следам, усё яшчэ трымаючы Евангелле ў руках. Белы, што снег, з чорнай густой барадою, вялізны месціч, у якім Еўфрасіння адразу ж пазнала Кірыка, укленчыў, прыўзняўшы галаву парадзіхі ў сваіх шырокіх, што лапаты, далонях. Невераемна здзіўленая здагадкай, азірнулася: парадзіха нават не варушылася. І раптам так пранізліва ўскрыкнула, што Кірык таропка падсунуў ёй пад галаву тоўстае Евангелле. Разгублены, запытальна бліснуў да Еўфрасінні спалоханым позіркам. І тая нарэшце адазвалася:

— Спехам у трапезную! Вада цёплая можа быць. І аўчын, ручнікоў паболей. Скажы сястры-кухарцы, што я наказала.

З надзеяй азіраючыся, чакала дапамогі, але блізка нікога не было. Кірык, важка тупаючы, бег да трапезнай.

* * *

*“А за вас, хто на любоў маю пасягнуў вуснамі пакеплівымі,*
*Хто атачыў адусюль мяне словамі нянавісці і здрады,*
*...Хто ўзбройвае супроць мяне без прычыны,*
*Хто за любоў маю ваюе супроць мяне,*
*Хто аддае мне злом за дабро, а за любоў —нянавісцю...*
*За вас, здрайцы ліхаімныя, — Малюся!”*

...Аселіцы будзіў звыклы пераразвон манастыра, сцюдзёная раніца глыбела, праз двор спяшаліся заклапочаныя сёстры, але ігумення не выходзіла. Яшчэ цёмначы перавёўшы чалядніцу ў сваю келлю, яна сядзела блізу парадзіхі на нізкім услончыку. Трымаючы ў руках Евангелле, пад абразамі сцішыўся і Кірык. Зрэдчас касіўся вірлаватымі вачмі на маленькую дачку, што ляжала ў глыбокіх, да паловы прыкрытых дзяружкаю і вавёрчынай коўдрачкаю, ночвах. За дзвярыма келлі вартавала верная Гардзіслава.

Нарэшце Еўфрасіння моўчкі паднялася і, перажагнаўшыся, зірнула на маўклівага, засяроджага Кірыка.

Падняўся і ён, і ў гэтай маленькай келлі здаўся яшчэ мажнейшым. Міжволі ссунула бровы. А ён, усё яшчэ не выпускаючы з рук Евангелля; нечакана бухнуўся на калені, таропка жагнаючыся:

— Ва ўсім вінаваты. За ўсё адкажу, Прадслава! Але не забіваў я... Не чапаў.

— Хто ж?

— Не ведаю, Прадслава! Але дазволь сказаць. — Зноў сядзеў на лаве, асцярожна трымаючы лапішчамі ўкручанае ў палатняныя анучкі дзіця:

— Тыя, што мяне з ямы вынялі, умову паставілі. Альбо назад — гніць, альбо каб бацьку твайго зарэзаў.

Яшчэ ніжэй, уздыхнуўшы, апусціў чорную хмару растрэсеных кучаравых валасоў.

— Варту вашу, князёўна, мой гурт загубіў. Каюся ў тым. Толькі бацьку твайго я, хоць і абяцаўся, — не зачапіў! Таму і бегаю цяпер, як заяц, ад тых са Смаленска. І Барыслаў, ведаю, з імі.

— Ці праўду чую?!

— Смаляне то былі, якія намаўлялі! Разам з Барыславам. Але ж хто мне паверыць?

— Ой-а… Здаўна на Полаччыне забойцы з ахвярамі хаўрусуюць.

Кірык ужо стаяў на нагах, не зводзячы з яе цёмных гарачых вачэй:

— Аднаго прашу, уратуй, літасцівая, — зірнуўшы на Куліну, ціхенька паклаў у ночвы малую.

— Маліся за іх. Дачку Даляю назаві. Як маці маю.

— Няхай Даляю будзе. Пра што яшчэ хацеў сказаць?

— Чуў, хутка сам Мсціслаў Манамах у Полацк прыйдзе. Збіраюцца з князямі палянскімі і дрыгавічамі на Лагожаск і Друцк. Моцны Мсціслаў. Хоча, каб толькі яму палачане крыж цалавалі. А ўсіх вашых, літасцівая… Веча полацкае цяпер здрадлівае, прадасць князёў сваіх.

— Ці не чуў пра змовы з чуддзю?

— Пра тое маўчалі. Але Мсціслаў усіх апярэдзіць.

Не прамовіўшы болей ні слова, зняла з пальца вялікі срэбны пярсцёнак з блакітным вочкам, матчын падарунак, працягнула Кірыку:

— Маліся, душу ратуючы, прасі літасці. А ноччу ідзі да каваля Рамана. Накажаш, каб з гэтым пярсцёнкам ехаў да бацькі-князя і ўсё, што мне расказваў, каб яму перадаў. Цяпер усе цябе пільнуюць. Іншая чума, цемра чалавечая, паўсюль распаўзлася. Запалоцкі князь Барыслаў з баярамі падымаюць меч на маладога Рагвалода.

— Такі час цяпер, Прадслава. — Скрушна устрасянуў буйнымі кучарамі.

— Іспра з пекла вылез і ўсё перавярнуў на свеце.

Куліна, крыху ачуняўшы ад пасляродавай гарачкі, ледзь варухнула асмяглымі вуснамі. Кірык, толькі зірнуўшы на яе, шэрую, што вапна, застагнаў. Моўчкі нацягнуў на самыя вочы стаўбун і, нават не развітаўшыся, выйшаў. Ваколле затапляў густы шараваты туман.

*“ Ігуменні абіцелі Сяльцовай Еўфрасінні – дазнанне ад пісара бібліятэкі епіскапскай. Сім перадаю ігуменні святлейшай дазнанне ад вірніка, ўратаванага кметамі вялікага князя на памежжы жмудзкім: “ З-за мора Варажскага ў квецені завезены ў пушчы Запалоцця тры вялікія ладдзі з рабынямі — старымі, навародкамі плоці жаночай і юніцамі — асуджанымі з-за голаду на ўсмерценне — павешанне альбо спаленне, што і выканана было тамтэйшай вартаю і торкамі пры ўдзеле кметаў князя Барыслава. І выбраў князь для дружыны свае і на работнае падвор’е з кола ўпалоненых тры дзесяткі юніц летаў дванаццаці і болей. Міласцю тваёй, ігуменя Еўфрасіння, чакаем*

*звестак аб прышлых у абіцель юніцах невядомых, панежэ многія з іх навучаны спакусам д'ябальскім і маюць намер аблуднасцю сваёй расхітваць сілу і моцу двароў нашых, баярскіх і рамесніцкіх. І смеласць маю запытаць, ці праўду даносяць,быццам ведаеш, дзе можа хавацца злодзей – тацъ жмудзінскі Кірык, аб чым нашэптваюць віжы запалоцкага князя Барыслава? У чым, ігуменння, самі мы, папраўдзе, сумняваемся.*

За сім — пісар епіскапскі, якому і належыць у камору ўладыкі адпісаць."

Ах, пісар хітрамудры... Няўжо ўсё-ткі данеслі пра Куліну? І зноў – пра віжоў запалоцкіх напісаў. Няўжо і дапраўды, цікуе Барыслаў за ёю і абіцеллю? Прыкра....

## РАЗДЗЕЛ 2.

... Рыпучая галілейская павозка так балюча муляла, што, міжволі варухнуўшыся, ігуменння павярнулася да маладой суседкі, якая ўсё яшчэ спалохана азіралася такімі ж блакітна-шэрымі, як і ў яе маці, вачмі. Пра сваю маці Даля, падгадаваная спярша ў падвор'і Такліны, а затым у сяльцовай абіцелі, яшчэ дасюль нічога не ведала. У гадоў пятнаццаць, праўда, пачала задаваць пытанні, але старэйшыя чарніцы Сяльца былі негаваркія, а малодшыя пра Куліну нават не чулі.

... Наляцеў сухі вецер і пустыня азвалася таямнічай мелодыяй пабуджаных барханаў. Асан таксама пачаў нуднаватую, нікому не вядомую мелодыю, да якой усе міжволі пачалі прыслухвацца. І раптам хмуры маўчун Міхал, уздыхнуўшы, гучна кашлянуў і нечакана моцным распеўным голасам зацягнуў: "Быў жа ў бага-га-тага ды брат Лазар, і пайшоў ён к бага-га-таму брату... А мая ж то душанька нацярпелася." Асан, усміхнуўшыся, варухнуў вуснамі, быццам хацеў падмагчы, але Міхалаў голас, наўздзіў густы і багаты, здаецца, ужо разлягаўся па ўсёй пустыні: "А сыйдзі ж ты, сквірня-а-а-вы, ды са майго двара ..." Нехта ўхвальна ўскрыкнуў, і спявак зніякавела заціх. Скасіўся ў бок узрушаных спадарожнікаў. На павозку зноў і зноў налятаў сухі вецер і наваколле адгукнулася шапаткой скаргай гарачых пяскоў. Ігуменння пазірнула на суседак: пэўна, абедзьве і дапраўды яшчэ ніколі не гаварылі пра тое, якім моцным вузлом некалі звязала іх лёсы далёкае мінулае: нават на гэтай галілейскай павозцы, такія непадобныя адна да аднае, яны ўсё роўна сядзелі ўпоплечкі. З-за жаўтаватай мярэжы паднятага пяску на дарогу, зусім блізка ад іх, вылецела некалькі конных у чорных запыленых плашчах і з чорнымі

аслонамі на тварах. Усе на павозцы, акрамя Асана, спалохана сумеліся. Але вершнікі, ні на хвілю не спыняючыся, віхрам праімчалі наперад. Быццам не змеціўшы ні гэтай вялізнай павозкі, ні цэлай грамады людзей на ёй.

– Ганцы! – паясніў Асан. Азірнуўся на барханы:

– Нядобрую вестку некаму нясуць!

Усе пачалі ажыўлена абмяркоўваць падзею, і залатавокая красуня нават пацягнулася за мечам, аднак Асан спасцярожліва-адмоўна хітнуў галавою.

— Яны не вернуцца. Ім цяпер — паспець бы! Тады, можа, і жыццё даруюць.

На павозцы зноў зацікаўлена загаманілі. Адно смуглявая і цемнавокая чалядніца Еўпраксія, бадай, самая маўклівая сярод усіх, кратаючы зубамі гожыя вусны, нават не падняла голаў, не ў стане вырынуць з глыбокага ўспаміну. Уздыхнула, забраная той далёкай, такой страшнай, салодка-грэшнай вясною, калі Полаччыну па ўсіх дварах і весях яшчэ касіла няўмольная чорная смерць. Асан, заклапочана азірнуўшыся на прытомленых і паспакайнелых падарожнікаў, крыкнуў на вала, аднак той цягнуў павозку з ранейшым нетаропкім імпэтам. Малады кніжнік, адгарнуўшы радно і паказваючы на свой пергамін, схіліўся да суседкі-красуні, нешта прамаўляючы. Нечакана так ярка зачырванеўся, што тая, скасіўшы на пергамін недаўменны позірк, адвярнулася. Кніжнік зноў аб нечым таропка зашаптаў, хілячыся ўжо да Еўпраксіі, але не адазвалася і тая, слухаючы толькі спякотную бясконцую далеч пустыні.

* * *

... Яе, сваю дачку Звеніславу, што вельмі рана заўдавела: маладога мужа заспела на паляванні шалёная страла, вялікі князь Барыс, напалохаўшыся мору, адразу ж адаслаў у манастыр. Тады і сустрэлася яна, седзячы ў карэце, што трэслася блізу дзвінскага берагу ў бок Бельчыцаў, з запалоцкім князем Барыславам, калі той разам з дружынай вяртаўся ў вотчыну з нейкага ляснога капішча, злосны і раз’ятраны. І таксама – убачыў яе, амаль юніцу яшчэ. А апоўначы ўжо звез, выкраўшы з келлі, у Запалоцце. Ледзь паспеў разам з чэляддзю і кметамі схавацца ў сваіх лукаморных нетрах ад лютых іклаў чумы. Бо раніцаю і пачалася тая страшная паводка, што надоўга адрэзала Запалоцце ад весяў, у якіх жоўтая смерць выкасіла амаль палову сем’яў.

Перад вачмі паломніцы ў залатым сяйве пустыні нечакана ўзніклі абрысы  межаў, зубчатыя вярхі далёкіх лясных лаваў, жоўтыя чубкі снапоў далёкай радзімы. І яшчэ дзіцячыя тварыкі немаўлят у лазовых калысках, якія запалоцкія маладзіцы падкідвалі потым, калі паводка ўжо сышла, пад вароты манастыра. Чалядніца застагнала, убачыўшы, як прывідна паімчалі праз морак бясконцай пустыні сытыя коні з вершнікамі ў сініх жупанах, перавязаных шаўковымі паясамі, сярод якіх у тую веснавую раніцу і ўбачыла яна, на сваё шчасце і на сваю бяду, чарнавокага запалоцкага князя Барыслава.

... Галілейскі вецер так злосна і неўспадзеў так пагрозліва шахнуў па яе гарачых вуснах, што міжволі адхітнулася:

“Злітуйся нада мною, Божа міласэрны. Не ведала, не разумела. Не здолела апрацівіцца.”

Вецер, абганяючы павозку, свістаў каля самага яе вуха, запаўзаючы пад полы гарачай хламіды.

“ А пасля? Што было пасля, Звеніслава?! ”

“ Гэта ты ў мяне пытаеш, вецер галілейскі, ты, які бачыў столькі, што зямля можа патрэскацца ад енкаў і мора высахнуць ад полымя, што з грудзей чалавечых ірвалася? Пасля!? Праўда твая, каюся. Толькі ж ці ведала, ці разумела, калі нават у Бельчыцкім манастыры прыкмячала блуд? І сама ўжо не ў стане была стрымацца. Ці дазволіш адмаліць грэх смяротны!? ”

“Нельга піць адначасна чару Гасподнюю і чару дэманскую. Ці ўнікала, любасная, служэння ідалу?”

Зноў і зноў успыхваюць перад яе вачыма чарнабровыя і блакітнавокія, такія пяшчотныя дзявочыя аблічча. Князевай пакаёўкі Веранії таксама.

“ Табе казалі – гэта  — ідалаахвярнае, а ты – ела!”

... Штовечара Веранія прыходзіла ў яе святліцу, абвівала чорнымі, як смоль, валасамі, працінала сэрца такімі ж чорнымі вачыма. І па загаду Барыслава так прагна пачынала цалаваць. Тады яшчэ такую неразумнічую князёўну. І ў вусны, і ў грудзі, і паўсюль. І лашчыць Звеніславу языком і рукамі. Усе навокал пазіралі і таксама стагналі і енчылі. А яна нікога не магла адпрэчыць. Бо ён, Барыслаў, пазіраў і смяяўся, і яму таксама было добра.. Самыя апошнія князевы слугі рагаталі. У канцы вечара князь нарэшце, смеючыся, вёў яе, амаль бясцямную ад перажытай слодычы, у свой пакой і раскладваў на ложы.

І так кожны дзень. Калі нават Веранія адсутнічала, былі іншыя, гожыя і ласкавыя, сярод якіх пазнала неяк манашку з Бельчыцаў. Усе – і маладыя кметы, і чэлядзь — усе тады бачылі.

І амаль усіх потым, калі вялікі князь Барыс разам з каморою вышуку пачаў тое грознае дазнанне, запалоцкі валадар з дружынаю грыдняў, баючыся выкрыцця, неяк ночаю пасек. У крывавую кашу. Усіх.

Якраз тады, калі Звеніслава ўжо здагадалася, хто ж па-сапраўднаму завалодаў сэрцам яе любага князя, які нават пасля гарачкавых любошчаў у прадранішніх снах неаднойчы выдаваў сваю таямніцу, выкрыкваючы: “ Прадслава!”

“ Не будзем спакушаць тымі ўспамінамі Хрыста, як некаторыя спакушалі і загінулі ад змеяў.”

“Вецер галілейскі, што ведама табе пра пакуты людскія, пашто гэткі жорсткі да мяне?”

… Доўгая, бясконцая была тая паводка для Звеніславы. Калі ўпрасіла яна князева соцкага Рымшу прынесці ёй вострый кінжал. Бо ведала, што калі-небудзь абавязкова сустрэнецца з ненавіснай стрыечнай сястрою.

Галілейская павозка ужо здавалася распаленым гарачым чэранем. Усе, відно, прагнулі хоць якога адпачынку. Малады кніжнік, паказваючы на пергамін, усё стараўся нешта давесці чалядніцы Еўпраксіі, але колы раз-пораз наязджалі на перашкоды і торгаліся, адбіваючы ў падарожнікаў жаданне перамаўляцца. Чалядніца нечакана азірнулася: на самым краі сядзела, як старажуючы сваіх палачан, сама ігуменне. Змеціўшы спагадлівы позірк сястры, усміхнулася ў адказ. Быццам высвеціла з глыбіні доўгія леты пражытага ў сяльцовых келлях. Быццам вярнула яе, Звеніславу, у тую далёкую полацкую вясну...

## РАЗДЗЕЛ 3.

...Пяшчотнае водгулле ранішняй малітвы яшчэ перапаўняла пачуцці, і Еўфрасіння па звычцы засталася ў царкве. Але ўвагу нечакана адцягнуў даволі моцны незразумелы шум на падворку. Сэрца балюча тарганулася.

З якога часу тое пачалося, мала хто памятаў, але пад вароты манастыра ўсё часцей пачалі падкідваць мёртвых. Спачатку – амаль аслізлых псоў. Потым – укручаных у радняныя пялюшкі дзяцей-навародкаў. Таксама памерлых. Ад хваробы ці голаду. Сястра-гаспадыня паехала на размову да вялікага князя, дазнаўшыся: на Полаччыне, пасля сыходу жоўтай смерці, дапраўды пачаўся такі ганебны гвалт, што чуткі пра гэта пачалі разрастацца, як снегавы

камяк. Аднак скрыўджаныя жанчыны, баючыся толькі ім вядомых гвалтаўнікоў, маўчалі. ...Падкінутых мёртвых немаўлят тым часам пачалі хаваць на адгароджанай зямлі зводдаль ад келляў.

У царкве было халаднавата: калені і плечы дарэшты азяблі, і ігуменння зноў міжволі прыслухалася, устрывожаная наўздзіў рэзкім шоргатам шматлікіх крокаў, што далятаді з-за прачыненых дзвярэй. І раптам з падворка так выяўна данесліся дзіцячы плач і немы жаночы крык, што міжволі кінулася да дзвярэй. Здзіўленая, пачула віскатлівае:

– Як прышло, так і згіне! Сказана ўсім : “ Не блудзі! ”

Падагнаная трывогай, адчыніла важкія дзверы. Выбегла і зніякавела: пасярод падворка сабралася ці не ўсё насельніцтва абіцелі, у цэнтры якога стаяла высокая, прышлая ў Сяльцо з Бельчыцкага манастыра, Звеніслава:

— Усмерцім адроддзе д’ябдава!

Убачыўшы ігуменню, усе расступіліся, утварыўшы праход да сярэдзіны, адкуль далятаў жаласлівы дзіцячы піск, перарваны дзікім жаночым енкам. Некалькі сёстраў моцна трымалі за рукі збялелую Куліну, якая выпручвалася з усіх сіл і з жахам пазірала на Звеніславу: тая, грозна падняўшы над сабой амаль голенькага навародка, ужо ледзь не захлыналася:

— Не будзе ў абіцелі святой блуду! Смерць вырадку!

Ступіўшы крок, падняла дзіця яшчэ вышай, пагражаючы грымнуць таго вобзем, і Еўфрасіння, жахнуўшыся, прахрыпела:

— Апамятайся! Ісус сказаў: пусціце дзяцей і не заважайце ім прыходзіць да мяне, бо такім належыць Царства Нябеснае.

Немаўля у руках Звеніславы закрычала яшчэ мацней, і Еўфрасіння кінулася наперад. Але не паспела: Сава, што нечакана пад’ехаў на вазку, па-звярынаму імкліва саскочыў з колаў: у мірг вока падляцеўшы да Звеніславы, выхапіўшы у тае з рук дзіця і тут жа знік за спінамі сёстраў.

– Калі не можаш быць ігуменняй, дай іншым дарогу! Ідзі княжыць, альбо сама блудзі!

Звеніслава ад нечаканасці ажно хітнулася, і вось ужо ўдарыла па Еўфрасінні поўным нянавісці позіркам.

— Бацька мой мацнейшы быў за твайго! І багаццем, і княжаннем!

З сястрынскага гурту пачуліся згодныя выкрыкі і Звеніслава яшчэ болей узвілася:

— Толькі не трэба цяпер пра анёла свайго капішчанскага! Наслухаліся. Не верым! Распуста ў абіцелі пасялілася, ігуменне! Саступі!

— Гора свету ад спакусаў, сястра, бо павінны прыйсці спакусы. І такое ў Святым Дабравесці сказана!

Еўфрасіння азірнула імгненна прыціхлы сястрынскі гурт, пасуровела:

— Але ж гора таму чалавеку, праз якога спакусы прыходзяць.

– Лепей сама адступіся!

Звеніславу ўжо калаціла, але да слыху раптам данёсся такі дзікі жаночы ўскрык, што ўсе зніякавела пераглянуліся, тут жа спалохана расступаючыся.

– Акрапі, Божа, ісопам, і ачысцімся…

Пасярод гурту на зямлі ляжала, раскінуўшы рукі і неяк жаласліва стуліўшы вусны, назаўсёды аціхлая Куліна, і першымі, глянуўшы на памерлую, ачуціліся маладзенькія паслушніцы:

— ... абмый, і болей за снег адбелімся. — Схіліўшыся над Кулінаю, смялейшая ўжо закрыла павекі нерухомых вачэй. Чарніцы, зніякавела адступаючы, міжволі азіраліся, але Звеніславы на падворку ўжо не было.

...Позна ўвечары таго ж цяжкага, перапоўненага клопатам аб пахаванні Куліны, дня праз парог ігуменскай ступіў Сава. Працягнуў Еўфрасінні ўгорнутае ў цёплую коўдру дзіця:

— Накарміў я, уладычыца. У порубе козы ёсць.

– ... душу невінаватую ратуючы...

– Слёзы твае няхай анёлы ўбачаць, уладычыца.

– Слязьмі гэтую кроплю жывую не накорміш, Сава. Што, скажы, рабіць?

— Гадаваць, ігуменне. А малако ў трапезную я буду прыносіць.

* * *

... Выбавіўшыся з тае страшнай катавальні Кажадуба і зноў вярнуўшыся ў поруб старэйшым наглядчыкам, Сава нібыта захварэў: пачаў наведвацца ў Сяльцо ці не на ўсе вечаровыя сястрынскія спевы, гадзінамі мераючы немалую дарогу ад Сарочых хмызоў. Разам з полацкімі месцічамі ўваходзіў у малельню, здымаў у парозе неглыбокі стаўбун, хітнуўшы русай чупрынаю густых валасоў, шукаў позіркам вялікіх блакітных вачэй ігуменню. Маліўся. Потым ціха выходзіў і праз увесь Полацк вяртаўся на службу. Паходы кмета, аднак, не засталіся незаўважанымі і працягваліся да таго вечара, пакуль ў Сяльцо не прыйшоў галоўны цівун уладыкі.

Убачыўшы перад свечкамі кмета з порубу, суровы служка епіскапа непрыкметна выйшаў, пасля чаго Сава неяк раптоўна і надоўга знік. Праз некалькі месяцаў адна з сёстраў, праўда, спытала: "Дзе наш Сава?!", і нехта адказаў, што кмет знайшоў новую службу. Ці то ў менскага князя Глеба, ці ў запалоцкага Барыслава, у што слаба верылася. Але калі Сава нарэшце аб'явіўся на вячэрняй службе ў полацкай Сафіі, ужо ў сівой світцы звычайнага смерда з даўнім шнаром, што пачварна расцінаў увесь твар, Еўфрасіння жахнулася: колішні асілак, які на будаўніцтве манастыра мог лёгка зрушыць з месца павозку з дошкамі, нагадваў цяпер выпетраны шкілет. Пасля службы, не зважаючы на гнеўныя позіркі святара, сама падышла да вернікаў. Успыхнуўшы блакітнымі вачмі, Сава адразу ж апусціўся на калені. Ступіла бліжэй:

— Кмет Сава?..

— Ужо не кмет я, уладычыца.

— Заўтра раніцаю прыйдзі ў Сяльцо, кмет. У пергамiннай майстэрні работнікі патрэбны, задумалі мы з Міхалам і грабарню пры новай мужчынскай абіцелі. А ў цябе рукі залатыя.

Блакітныя вочы ўспыхнулі:

— Калі буду жывы, прыйду.

— Усе мы ў ласцы Божай.

Той жа ночаю, укленчыўшы перад абразамі, да самай раніцы яна прасіла літасці і спагады, але агеньчыкі свечак нават не дрогнулі. Неба не адзывалася. Тады, праз колькі часу, паклікала Саву, загадаўшы з'ездзіць да каваля Рамана па вярыгі, і ў той жа дзень жалеза ланцугоў, нібы жывое, упілося ў скуру ланцугамі. Сціснула, упіўшыся ў кволае цела. Пачало свой бязлітасны суд.

## РАЗДЗЕЛ 4.

... Не мінула і тыдня, як перад варотамі спынілася багатая павозка, з якой выйшла некалькі баяраў начале з запалоцкім князем Барыславам і ваяводам Вялішыным. Здзіўлена і ўхвальна азірнуўшы новы будынак манастыра, барадаты ваявода ў тоўстай свіце з сіняй аблямоўкаю і залатымі закаўнерамі пачаў з галоўнага:

— Ведама ўсім, літасцівая, што пасля смерці вялікага князя Барыса, — баяры скрушна схілілі галовы ў вавёрчыных стаўбунах, — усе мы толькі князя Барыслава на стальцы бачым.

Міжволі падняла вочы, сутыкнуўшыся з пранізліва-насмешлівым позіркам запалоцкага госця. Ваявода тым часам працягваў:

— Нялюбыя нам ні Глебавічы, ні сам Рагвалод, хоць той і намерваецца… Але хіба толькі Барыслаў, ігуменне, улесціць нораў Манамаха.

— І ёсць дамова. – Запалачанін, не стрымаўшыся, выступіў наперад. Скасіўся на сёстраў, што ўжо сыходзіліся да Еўфрасінні.

— Чаго ж ад мяне чакаеце?

Ваявода, хітнуўшы вялізным жыватом, схопленым паверх сіняга кафтана багатым аксамітавым поясам, злёгку пакланіўся:

— Старэйшыны веча аб адным просяць…

Не чакаючы працягу, бліснула цёмнымі вачмі:

— Ці праўду кажуць, што, асудзіўшы зродніцу нашу Градзіславу, якая ўжо Госпаду служыць, як сястра Еўдакія, — баяры здзіўлена пераглянуліся, — то ці праўду кажуць, што і другую сястру нашу, Звеніславу, вялікі князь пад вашым прымусам змовіўся аддаць ноўгарадцу Радміру?

Нехта незадаволена кашлянуў.

— А ён, баяры полацкія, і пра гэта не толькі вы, але ўвесь край наш ведае, ужо чацвёртую жонку да смерці забіў! Звер люты, і той…

— Ці маглі мы старшынаў змусіць на такое, маці ігуменне? Маладосць твая, папракаючы нас, яшчэ сляпая.

— Маглі, ваявода! І скажу: не вачмі ў гэтай абіцелі, а сэрцам бачу. Хаця і вочы мае не паслаблі!

— Не адзін раз мы клалі гонар свой за розных зроднікаў ігуменнні. — Ваявода, як просячы выбачыць за смелую размову, усміхнуўся: — А цяпер зямля крыўская яго хоча. Памацні галіну князёў полацкіх! Менскія наступаюць. Падмажы суроднікам!.

— Няўжо сляпы такі, ваявода!? Лепей бы спыніць табе варажнечу паміж братамі нашымі. Ці, можа, зусім розум ваш размякчыўся, баяры? Не хочаце зразумець: калі толькі сілаю пасадзіце на сталец няўгоднага, не ўсцішыцца гарачы Рагвалод! І ніякая ноўгарадская падмога не пасіліць яго. — Уздыхнула. — Зноў кроў пральецца!

— Але, маці ігуменне…

— Самі ж варажнечаю паслабляеце сябе і для Мсціслава шлях мосціце.

— Не пярэч Полацку, ігуменне! Аддай Звеніславу ў Ноўгарад! Веча наша тое кажа табе! — Баяры, стоячы за спіной запалоцкага князя, пазіралі на яе з такой зацятай злосцю, што міжволі прымоўкла і задумалася. Але вось, сціснуўшы вусны, так высока паднесла срэбны крыж, што Барыслаў міжволі адступіў.

— Пра сястру нашу, паслушніцу, у Жаніха яе нябеснага запытайце. У Яго, баяры, дазволу прасіце. Бо сама яна з Бельчыцаў да нас прыйшла, і цяпер — у глыбокім посце маўчання.Болей дбае пра тое, каб рабіць цвёрдым пакліканне і не спатыкнуцца. Як навучаў святы апостал Пётра...

Запалачанін амаль задыхаўся, але пасля кароткага кашлю нечакана зрабіў да яе імклівы крок. Крыкнуў так, што, здаецца, пачулі нават смерды з весяў:

— А хто вас блуду навучыў, затворніцы?! Таксама Пётра? Які там пост маўчання!? Ды ўсе крыкам крычаць, як вы тут у любові да Хрыста свайго, — едка скрывіў вусны, – гэтага беднага жаніха без нагавіц, за іншымі нагавіцамі сочыце. І не даеце нікому праходу! Дзяцей раскідваеце паўсюль.

Ужо не памятала, як паднесла важкую, налітую гарачкай, руку, з ляскам апусціўшы яе на шчаку крыўдзіцеля. Не пазнавала і ўласнага голасу:

— Як заступаўся святы Мікола за веру хрысціянскую ўдарам па хлуслівым вуснам, так і цяпер, аблудны князь...

Усе замерлі: ашалелы запалачанін рыўком выхапіў з-за пояса сякерку. І ўжо нават махнуў ёю. Першым апамятаўся ваявода — не зважаючы на вялізны жывот, так увішна крутнуўся наперад, што адразу ж засланіў Еўфрасінню ад чырвонага, з вырачанымі ад узбуранай жоўці вачмі, зняважанага запалачаніна. Насупіў калматыя бровы:

— Не думаеш пра Полацк, ігуменне!

— Толькі пра Полацк і дбаю, ваявода! Толькі бачу, засмучаная, што мужы яго імянітыя, д'яблам спакушаныя, гатовы кроў праліць за ўладу, забываючы пра дух. — Да яе шчок усё яшчэ прыбывала гарачка перажытага:

— Крывёю братоў сваіх, касцямі іх, баяры, шлях для Мсціслава мосціце! Пакаяцца час!

Падняла крыж, але баяры, гнеўна выказваючы недаўменне, ужо спяшаліся да павозкі ўслед за Барыславам, які так і не выпусціў з рук сякеркі.

На імгненне азірнуўся, і ўсе, хто стаяў на манастырскім падворку, зразумелі, што перажытую абразу князь ужо ніколі не даруе.

Звеніслава, нядобра бліснуўшы вялікімі, поўнымі горычы, вачмі, стаяла побач з упарта падціснутымі вуснамі. Нарэшце павярнулася да трапезнай даганяць чарніц. Не вытрымала:

– Пашто за мяне адказ даеш, сястра?

– Ці не ведаеш?... Той, – Еўфрасіння ледзь выдыхнула горыч, — каму цябе хацелі аддаць, дзіка падсочанага люцейшы.

Але Звеніслава ўжо не абазвалася. Цэлы дзень і нават доўгі вечар яна была ў пергамiннай майстэрні, дзе дапамагала майстрам. Потым да канца стаяла на вячэрняй службе. Аднак раніцаю, не аб'явіўшыся на малітву, з Сяльца знікла.

*“ Ігуменні абіцелі Сяльцовай Еўфрасінні ад пісара бібліятэкі епіскапскай.*

*Сім перадаю ігуменні дазнанне ад інака Лаўры Пячэрскай Ляўрэнція, прыбылага з ладдзёю купецкай: “Князь вялікі Мсціслаў Уладзірававіч, Сын Манамахаў, укупе з баярамі Чарнігаўскімі і Пераяслаўскімі, назбіраў сіл вялікіх проці хана палавецкага Баняка Халудзяка, што, знаглеўшы, косіць смяротнымі цэпамі цэлыя весі і двары нашы, завальвае крыніцы зямянамі, гвалтам звалакае цэлымі ладдзямі паланянак на рынкі. Ці паверыш, ігумення, што зродникі твае, Рагвалод, сын Барысаў, і дзядзькі твае з кораня праслаўнага Усяслава, як паведаў інак той, на савеце вялікакняжым, не запытаўшы веча Полацкага і адно заслепленыя варожасцю адзін да аднаго, пасмелі адказаць Кіеву:*

*“ Ужо ж разбірайцеся прамеж сябе, а ў нас ёсць свае справы.” Жадаюць, недамысльныя, займець праз князя запалоцкага Барыслава мір з ханам, кідаюць худыя дружыны свае супроць суседзяў смалян і навагародцаў, кім і паваяваныя бываюць няшчадна. Аб ганебным учынку сім дасюль маўчанне было. Пакуль не прыбыла вестка. Раці кіеўскія без удзелу полацкіх здрайцаў пабілі ханскіх аспідаў і цяпер гатовы павярнуць мечы на Полацк. Вайна блізіцца!*

*Дазволь, ігуменння слаўная, завяршыць дазнанне сіе весткаю не менш сумнай. Уладыка наш Ілля, Царства яму Нябеснае, ночаю раптоўна пачыў у Бозе, запавядаючы табе, ігуменння Еўфрасіння, не забываць волі ягонае. І з прычыны тае прашу з пасланцом нашым абмовіць дапамогу сёстраў пры адпяванні і страў стала задушнага прыгатаванні.*

За сім, з паклонам — пісар Ярэмій.”

## РАЗДЗЕЛ 5.

— Ты зноў гаворыш да мяне, Анёле.

— І побач — любоў любові твая. Здрайцамі зацкаваная, зганьбаваная... У норы сэрца скрышанага загнаная...

*“ Пастаў жа над імі, Госпадзі, бязбожнага. І д’ябал хай стане праваруч*
*іх.. І малітва іхная хай стане грэхам.І хай забудуцца імёны іхныя*
*ў наступным родзе за тое, што не злітаваліся здрайцы на*
*зямлі, а гналі чалавека беднага, беднага і зламанага сэрцам...*
*Уратуй жа мяне, Госпадзі, ад здрайцаў, бо атрута іх уваходзіць,*
*як вада, у нутроту, і, як алей, у косткі. Бо апрануць мяне ў сорам,*
*быццам у вопратку, акрыюць ганьбаю, як шатамі...”*

* * *

– Не спяшайся, ігумення. Княжыя кметы вось-вось...

Еўфрасіння зноў памкнулася саскочыць з вазка, але наўздзіў пасмялелы Сава, седзячы за спінаю, нечакана моцна прытрымаў яе за плечы. Недзе каля задняга кола натужна соп вялізны манастырскі вартаўнік Агмень. Наперадзе, з-за таямнічай залаціста-зялёнай сцяны разналесся чырванелі яркія сполахі агню, чуліся дзявочыя енкі і раз’ятраны мужчынскі рогат.

*“А за вас, хто на любоў маю пасягнуў вуснамі пакеплівымі...*
*Хто атачыў адусюль мяне словамі нянавісці і здрады.*
*...Хто ўзбройвае супроць мяне без прычыны,*
*Хто за любоў маю ваюе супроць мяне,*
*Хто аддае мне злом за дабро, а за любоў —нянавісцю...*
*За вас, здрайцы ліхаімныя, — Малюся!*

З самага пачатку, як толькі манастырская падвода пад’ехала да гэтай бялявіны, Сава ткнуў паходню ў зямлю, і агонь, зашыпеўшы, патух: манастырскую павозку ахінула валогая лясная глухата. На высокім небе ярка жаўцела поўня, міма якой праплывалі рэдкія прадранішнія хмаркі. Да слыху данеслася патрэскванне смалякоў. Сава, аднак, настойваў:

— Пачакай. Мы гэтых аспідаў даўно выцікоўвалі. Блудзяць кметы княжыя, пэўна. У пушчы ночаю няпроста.

– Могуць і не прыехаць.

– Найбольшая віна мая, што нічога не магу ўтаіць ад цябе, ігумення. Прасіў жа: не едзь! Але дзе паслухаеш… Толькі ж цяпер хаця не спяшайся.

Ужо сыходзячы на зямлю, пачула нечакана рэзкі, па-даросламу роспачны дзіцячы плач, што балюча ўдарыў у сэрца. Ногі самі

пакіравалі на атрутна-жоўтае святло. Следам таропка зашоргаў і Сава:

– Не аказвайся ім, уладычыца!

Але яна ўжо не чакала, праступючы да святла. Перад вачыма разлягалася тая самая “Паляна касцей”, адкуль да гэтага часу вывозілі цэлыя крушні спарахнелых людскіх касцей і пабітых іржою мечаў. Ночамі, як казалі сівыя бывальцы, бавілася тут сваімі пачварнымі гульнямі нячыстая сіла: страшнае месца абміналі нават самыя адчайныя паляўнічыя. Аднак цяпер па ўсёй даўжыні страшнай бялявіны палалі вялізныя вогнішчы. Каля двух сярэдніх, што ўжо добра разгарэліся, высілася некалькі збітых з грубых дошак сталоў, на якіх ляжалі асвежаваныя свіныя тушы. Паблізу, каля адсечаных даўжэзных лычоў і зваленых на зямлю трыбухоў, валтузіліся адзічэлыя ад свежай крыві псы. Грыдні ў скураных фартухах, гуляючы доўгімі нажамі, наразалі і насаджвалі на бліскучыя шампуры ладныя кавалкі дзічыны. Маладзенькія слугі, падсмажыўшы мяса, тут жа бегма шнуравалі бялявіну бліжэй да краю. Неслі прысмакі князю Барыславу і маладым баярам, якія з келіхамі ў руках акружылі вялізныя гліняныя карагачы. Сава, не адступаючыся, дыхаў ледзь не за самай яе спінаю.

– Я хутка, уладычыца. Чакай тут.

Кашлянуўшы, імгненна знік у цемры, але Еўфрасіння ўжо зрабіла колькі крокаў наперад. У нос ударыла прытарнай церпкасцю медавухі. Усё яшчэ не заўважаная нікім, міжволі адступіла ад соснаў і застыла: каля самага крайняга стала, на якім ляжала ледзь прыкрытае радняным шматком немаўля, стаяла апранутая ў свой чорны манаскі покрыў, але з келіхам у руцэ, Звеніслава. Абдымаючы чырванатварага, у серабром расшытам кафтане запалоцкага князя, чарніца цалавала яго гэтак апантана, што вакол пачала збірацца, пасмейваючыся, моладзь.

Да слыху данесліся роспачныя дзявочыя ўскрыкі, што прымусілі азірнуцца. Добры дзесятак вялізных кметаў, заломваючы дворным дзеўкам рукі, шпурлялі няшчасных на зямлю і тут жа, пад агульны п’яны рогат, разам з баярчукамі хаўрусам гвалцілілі. Самых непакорных, наваліўшыся па трое, прывязвалі расхінутымі нагамі да алешын і зноў гвалцілі. Ахінуўшыся толькі шоўкавымі стужкамі і доўгімі распушчанымі валасамі, наўкруг вогнішчаў з рогатам і бессаромнымі крыкамі бегала некалькі маладзіц, і Сава адразу ж, скасіўшыся на Еўфрасінню, устрашана азваўся: “Ведзьмы!”

Тады, падняўшы вышай крыж, яна паглыбілася ў малітвы, засланяючы імі і сябе, і малое дзіцяі на хісткім стале. Завалакаючы наваколле смуродам, перад вачыма заторгаліся яркія чырвоныя кругі.

Усё навокал чадзела густой сераю і прагорклым дымам, у грудзі ўдарыла слупом разбэшчанага смеху. Замерла ў малітве, апусціўшыся на калені, зноў дакранулася ілбом да халоднага крыжа.

... Яе абудзіў рэзкі дзіцячы крык, ад якога імгненна адплюшчыліся павекі. Таропка падняўшыся, рушыла наперад, тут жа трапіўшы ў кола пякучага святла. Агаломшаныя кметы адразу ж адступілі. Не бачыла ігуменню толькі Звеніслава. Падхапіўшы голенькую Далю на рукі, з нядобрым смехам скіравалася да вогнішча.

– І мяне ў агонь кідай, Звеніслава!

Нібыта ўбачыўшы прывід, Звеніслава з жахам адступіла, але тут жа апамяталася:

— Не дзіця гэта чалавечае. Ахвяра наша.

– Ахвярай няхай стане напамін пра грахі, сястра. Бервяна ў воку сваім не бачыш.

– А што ты, чарнарызая, разумееш у любові?! Ты, баба каменная,... — Звеніслава раз’ятрана глянула на ігуменню: — ...што разумееш? Любы мне князь Барыслаў. З першага позірку любы. Толькі за яго пайду.

— Ці не ён учора хацеў цябе другому аддаць, сястра?

– Удаваў так. – Звеніслава, засмяяўшыся, зрабіла пагрозлівы крок да вогнішча.

– Ці адбеліш душу сваю Крывёй Ягняці, сястра?

– Грэх – грэхам! – Ужо ні на каго не зважаючы, грэбліва скрывіла вусны, і раптам, нечакана, пачула гучны і кплівы рогат князя. Міжволі спынілася. Маленькая Даля, якую ўжо абпальвала блізкае вогнішча, гучна заплакала, ад чаго, быццам пасмялеўшы, Звеніслава зноў рашуча выпрасталася і ступіла крок наперад. Толькі на хвілю сумелася: Еўфрасіння ўжо не адступала, краем вока змеціўшы набліжэнне баярскай моладзі:

— Чаму дзевак дворных нам, а абранніц Божых — сабе, Барыслаў!? — З боку ашалелага ад медавухі збою нечакана палыхнуў рогат да сінявы зблажэлага ад непамернага ўжывання хмельных напояў дзесяцкага Гарадзея: — Ці гэтак жа лепа дзічына манастырская? А што дружыне, князь?

Баярчукі пагрозліва зашумелі, і Барыслаў у ярасці бразнуў келіхам аб стол, змусіўшы прыпалохананага Гарадзея наўздзіў спрытна выхапіць меч. Ад нечаканасці князь нават сумеўся, але раптам, затрымцеўшы, пачаў так моцна задыхацца, так ліхаманкава тузаць рукамі за каўнер кафтана, што ўсе прымоўклі. Хрыпеў:

— Калі хочаце, усіх бярыце!

— І гэтую? – Гарадзей махнуў рукою ў бок Звеніславы і зноў узбуджана засмяяўся. Крыва ўсміхнуўшыся, Барыслаў здушана хмыкнуў, але не было ніводнага, хто не пачуў бы ягонае важкае і грознае:

— Толькі ігумення – мая!

П’яна гікаючы, да Звеніславы блізілася распусная, няўцямная зборня.

— Рабычыч запалоцкі! – Назіраючы за няўпэўненай мітуснёю князя, Звеніслава так грэбліва скрывіла вусны, што захмялелыя баярчукі ашалелі ад рогату. Князь, успыхнуўшы ад нечаканай жаночай дзёрзкасці, імкліва ступіў наперад і зноў ціха і грозна сцвердзіў:

— І гэтую! Калі хочаце! Толькі ігумення – мая!

Нехта кінуў у бок Еўфрасінні, проста ў твар, жменю сухога калючага пяску, ад якога рэзка адхітнулася. Перад вачыма агнём запалалі вялікія сонцы, у якія яна гэтак балюча і доўга — “...аддаецца суду і лютасці агню... ” — пачала падаць:

“ Сава… Дзе Сава!? Сава…” Вочы заходзіліся едкім свербам.

...Магутны, з барвовым глыбокім шнаром праз увесь твар Сава і дапраўды вынік з густога клубка дыму, як прымара, адразу ж засланіўшы яе ад Гарадзея і ўсёй хаўрусні. З ярасцю шахаючы наўкруга мядзвежым ланцугом, біў ім па ботах, але вось так пранізліва крыкнуў когутам, што Звеніслава, працягнуўшы ахрыплае дзіця Еўфрасінні, бясцямна азірнулася.

Над палянаю паляцеў яшчэ адзін дзяркаты крык, да якога, распаляючы знаглеўшую дружыну, далучыўся запалошны сабачы брэх. Затрашчаў сухастой, праз усю “ паляну касцей”, падняўшыся ва ўвесь рост, ішоў агромністы, знакаміты ва ўсёй Полаччыне, манастырскі мядзведзь Агмень, убачыўшы якога, усе пачалі з енкам разбягацца.

Сава, не выпускаючы з рук важкі ланцуг, ціха, але настойліва адштурхоўваў ігуменню да соснаў.

Азірнулася: вогнішчы, патрэскваючы смалякамі, дагаралі, і каля іх сядзелі, захінаючы калені парванымі спадніцамі, знямелыя і бясцямныя ад перажытага маладзіцы.

* * *

— ... і на абазнаных... — Шэрая, што зямля, Звеніслава, якую Сава пасадзіў на падводу побач з Еўфрасінняй, нарэшце заплакала:

– Спакушаная я, ігумення. Грэх цяжкі. Ці выбачыш?

— У Таго прасі, хто выпрабоўвае сэрцы і вантробы, і аддае кожнаму паводле ўчынкаў ягоных. У Яго прасі, сястра.

— "І на абазнаных у глыбінях сатанінскіх, — Звеніслава нечакана так горка ўсхліпнула: — … ускладзецца толькі тое, што маецца…",— так скрушна засмяялася, што азірнуўся нават Сава.

— Спакусілі мяне, Еўфрасіння! Прыйшла хвіля, і змяя сэрца ўкусіла.

– Збяры слёзы ў ў рукаво начэй сваіх бяссонных, сястра. Вылі на сцежкі здзекаў. Патрымай сэрца ў вярыгах. Пакуль не прыйдзе Ён.

— …Толькі ці не скрышуся, – усё яшчэ роспачна плакала: —… посудам гліняным ад жэзла жалезнага?" — Не магла ўжо суцішыцца. — Але хто гэтак зачараваў мяне, сястра? Быццам аслепла, аглухла. Пашто розум адабралі? Скажы. Увесь бацькаў куфэрак аднесла запалоцкаму. Столькі багацця! Вось і аддзячыў! — Яшчэ шчыльней захінула на грудзях свой прапахлы дымам манаскі покрыў.

Бяссонная д'ябальская ноч мінала.

– Але не ўсё яшчэ выпусціла з рук!

– Ці аб тым цяпер дбаеш, сястра ?

— Засталіся падвескі залатыя і бранзалеты мае сярэбраныя. У манастыр усё прынясу! Толькі злітуйся. — Апусціла галаву ў далоні. — Толькі прымі.

– Не золатам-срэбрам да Госпада прамаўляй, сястра. За сэрца беззаганнае аплаты не просяць. Не за веру срэбранікі адлічваюць.

– Яшчэ смяяўся… Што купіў быццам у нейкага нехрысця нязвычную дзівосу. Чэрап.

– Хіба мала чарапоў на Полаччыне? — Сава ажно папярхнуўся ад смяшку, але Звеніслава не пакрыўдзілася.

– Той быццам княжы. Зродніка нашага найстарэйшага. І кроў людскую з яго піў! Сама бачыла. Маладзеў і здаравеў так. Д'ябал ён, князь запалоцкі, сястра.

… Старажавы Агмень збег у пушчу і знік там, відно, назаўсёды. Маленькая, што кацяня, Даля, укручаная ў вялізны кажух, жаласна пішчала. Сава, седзячы за фурмана, устрывожана азіраўся:

– Вялікі князь сам меўся прыехаць з дружынай, уладычыца. – Уздыхнуў:

— Гнюсаў запалоцкіх даўно мы высачылі.

– Значыць, сталася нешта, Сава.

— Значыць, сталася, калі не прыехалі!

… Коні, лянiва рухаючы закляклымі за ноч нагамі, нетаропка павярнулі па ледзь бачнай праз туман дарозе ў сівую раніцу. Падвода, хутка мінаючы разнасцежаны падлесак, валюхалася да краю пушчы. Укручаная ў кажух малая на Еўфрасінніных каленях сагрэлася і пацішэла. Але зноў заскімліла, пругка ўпіраючыся ў кажух ножкамі.

Нарэшце, ад’ехаўшы да Сарочых хмызоў, Сава павесялеў і апусціў бізун. Вазок спыняўся перад невялікай чатырохсценнай пабудовай, дзе жыла старая нянька князя Васількі Такліна. Акінуўшы позіркам знаёмы падворак, Еўфрасіння ўсміхнулася. Старая квочка з маладжавым гладкім абліччам у шырокім, падноўленым скуранымі латкамі каптане, ужо бегла ад сенцаў. Слізганула цёмнымі быстрымі вочкамі па ўчарнелай ад стомленасці ігуменні, звяла бровы, але тут жа шырока ўсміхнулася і адразу ж выхапіла з кажуха ўсё яшчэ ўгорнутую ў радняную хусту дзяўчынку:

— Хэ… Так ножкамі сукае! Трэба ж, дзіця дужае!

Шапялява засмяялася, і Еўфрасіння схіліла да яе галаву:

— Выратуй, нянька! Малая, а стольki ўжо ёй…

— Калі так ножкамі пручаецца, выкачаем. А ты ж як, князёўна? Гожая, што тая галубка.

— Гняздо раблю, Такліна.

— Ці птаха якога чакаеш?

— Чакаю.

— Хто мае ключ, той адамкне. Прыязджай часцей, ладанька.

— Прыеду!

Такліна лагодна і дапытліва зірнула на Звеніславу.

– Не плач і ты, маладзічка… Той млын, — махнула рукою ў далёкі, адно ёй знаёмы, прасцяг, — усё перамеле. Хадземце, паранае малако ў мяне ёсць.

… Ужо вяртаючыся ў Сяльцо, загушканая хісткай павозкаю, Еўфрасіння ўпершыню за апошнія дні сцішана задрамала. Але тут жа, толькі пачуўшы ў сэрцы калючы боль, адплюшчыла павекі. Сава, нечакана павярнуўшыся, трывожана крыкнуў:

— Дапраўды нешта сталася, уладычыца.

Праз гразкае поле імчаў, пабліскваючы драцяною сарочкаю, вершнік без шалому. Убачыўшы бацькавага ратніка, сумелася і адразу ж уразумела: кіеўскі князь Мсціслаў усё-ткі апярэдзіў смалян. Спыніла вазок і сышла долу.

“ А хто ж збярэ статак увесь, і жываты нашы?” Пэўна, толькі цяпер, убачыўшы раскрыленую на зямлі ігуменню, і кмет Сава, і задыханы княжы пасланец, які нарэшце дагнаў павозку, і маўклівая Звеніслава, і гэтае веснавое поле з азяблымі Сарочымі хмызамі, і хмаркі, гнаныя ветрам, нарэшце зразумелі…

# ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

## Ізыдзі!

### РАЗДЗЕЛ 1.

*"…Шша-ссу… Скажуць, што зневажаю я Духа Святога, якім усе запячатаны ў дзень адкуплення, — не вер! Скажуць, што нясу ўсякае раздражненне і лютасць, і гнеў, і пакепства, што чыста і распуснік я, і любаздзірца… – не вер! Скажуць, што ўпіваюся віном, бы крывёю, і крывёю, — бы віном, – не вер!!! Не вер…"*

Засеяўшы навакольныя весі і развораныя ляды акрываўленымі ратнікамі Рагвалода, дружыны кіеўскага князя разам з хаўруснікамі, помслівымі смалянамі і навагародцамі, а таксама дрыгавічанамі і дулебамі, асадзілі крывіцкую дзяржаву з усіх бакоў і занялі аслаблены набегамі, знясілены чумою і частымі паводкамі Полацк за тыдзень, аддаўшы воям забраны край на яшчэ нечуванае, дзікае рабаванне. Гэткія ж, як і іхні князь Мсціслаў, нястомныя і бязлітасныя, прызвычаеныя начаваць толькі на зямлі, паклаўшы пад галаў кайстру са стрэламі, спажываць птушынае мяса і дзічыну, спечаную ў паходным вогнішчы, воіны з Кіева былі мужныя і бясстрашныя ў сечы. Аднак сталі цяпер, імгненна, гвалтаўнікамі і забойцамі, бо не змог перадаць князь дружыне самае галоўнае — свае абыякавасці да срэбра і золата, якое заўсёды раздаваў прыгаршчамі. Ці не гэтую, самую каштоўную якасць свайго характару кіеўскі ўладар пазней успадчыў свайму сыну Расціславу? Але ў гэтае, адна тысяча сто дваццаць дзевятае, лета ў паваяванай полацкай зямлі пераможцы выціскалі з душы адно атруту, назапашаную за доўгія леты застарэлай варажнечы паміж Кіевам і нашчадкамі Ізяслава: род полацкага першакнязя ўрэшце быў высачаны і схоплены. Не дацягнуліся рукі віжоў толькі да маладога Васількі. Зраненая, скрываўленая, анямелая, Полаччына затаілася.

* * *

— Хіба не задушылі вас голадам і паборамі!? – За вечавога на памосце, развеяўшы бараду з сівымі пасмамі і палаючы чорнымі вачмі, стаяў запалоцкі князь Барыслаў. У серабром расшытым, але расхрыстаным жупане, раз-пораз узмахваў рукамі.

Не звыклае, радаснае і шумнае, са спрэчкамі да гарлавога хрыпу, падагрэтае чаканнем застолля з півам і жалейнікамі, сёння

веча на Полаччыне. Людзі на плошчы, аточаныя ланцугамі кіеўскіх і навагародскіх вартавых, глуха шумелі, не выказваючы ні згоды, ні асуджэння, і прамоўца яшчэ болей распаліўся.

— Гэта я вам кажу, сын ключніцы! Просты, як і вы ўсе!

Чародка сёстраў у шэрых старэнькіх покрывах з нізка насунутымі на вочы каптурамі ценілася бліжэй да ігуменні. За спіною — Сава, пісар Ерамія, колькі вотракаў з манастырскай школы, вернікі. Сілком сагнаныя на плошчу перад Дзвіною, месцічы ўжо напіралі на ратнікаў смаленскага Яраполка. Але тыя адно нязлосна перасмейваліся. Увесь збой полацкіх князёў на вечавым памосце шчыльным частаколам аточвалі грыдні Рымшы, які раз-пораз запытальна касіўся на свайго запалоцкага гаспадара. З левага боку ад вечавога стаялі ваяводы, імянітыя рамеснікі і вайскоўцы, надзеленыя правам крычаць. З правага — маўклівыя, з непакрытымі галовамі, аслоненыя цяпер самымі дужымі ратнікамі, полацкія князі. Стары Давыд і каля яго Расціслаў, тут жа маладыя Барысавы Іван з Васілём, бацька Еўфрасінні Святаслаў. Каля маці Сафіі, якая ўжо ледзь стаяла на нагах, Давыдзік. Малы, нібы пачуўшы матчын жах, нават не скімліў.

– А пра што думалі яны, князі нашы, калі нагла адмаўлялі вялікаму валадару кіеўскаму?—Запалачанін ажно прыдыхнуў.

— Мовіць хачу з вамі не як князь, а як месціч просты, ваш брат, палачане.

Збой месцічаў ухвальна загудзеў, і полацкія князі на памосце трывожна пераглянуліся.

— Хіба меліся яны, мізэрныя, — нехта з плошчы ўсё ж гучна запярэчыў вечаваму, аднак запалачанін, нібыта нічога не чуючы, упэўнена працягваў:

— Хіба вартыя яны былі вялікаму Мсціславу і яго супольнікам адмовіць у паходзе на Баняка?

Павярнуўся да Мсціслававага пасланца, смаляніна Яраполка ў строгім, абшытым меднымі пласцінамі, жупане, што, не здымаючы бліскучы шалом, прытрымліваў каня блізу вечавога ўзвышэння. Нізка таму пакланіўся, і са збою палачан тут жа вырынулі гнеўныя крыкі: "Кукушон запалоцкі, не ганьбі!" Некалькі грыдняў з пярэдніх ланцугоў аховы, што аддзялялі плошчу ад вечавога памосту, кінуліся на пошукі незадаволеных, але Барыслаў зноў узняў руку.

— А хіба Баняк не наш вораг таксама? Хіба не руйнуе хан весі нашы, не забівае, забіраючы жон і вотракаў нашых!?

– Ці не ты іх сам і водзіш, княжа?

Зноў тыя самыя настырныя гарлапаны, на якіх вечавы усё яшчэ не зважаў.

– Ці, можа, не дзеля цябе, Полацак, дружыны кіеўскія і пскоўскія пралівалі кроў сваю на полі славы!?

Маўчаць месцічы. Хаця праўду цяпер сказаў запалачанін, а маўчаць. Відно, ўрэшце конча зразумелі: не полацкія валадары ўжо на ўзвышэнні, а толькі палонныя.

"Ойча міласэрны, уратуй. І прасвятлі пакутамі маймі бацькавіну родную.

І няхай плакальшчыцы Твае, Госпадзі, збіраюць слёзы нашы ў бяздонныя чаны шчодрасці Твае. Бо слёзна малюся. Госпадзі, абарані, агарні ласкай Сваёю зямлю крыўскую!"

Яраполк незадаволена бліснуў вачмі і месцічы міжволі сцішыліся, каб чуць кожнае слова. Пачыналася галоўнае. Нарэшце, па знаку запалачаніна і ўсе імянітыя рамеснікі, і баяры, што нават без спрэчак апускалі голаў, па чарзе выступалі з радчага гурту, выносячы вырак. Таропка выгуквалі адно толькі:

— Вінаватыя. Выслаць! Вінаватыя. Выслаць!

Адварочваліся, але зноў, апускаючы вочы, выгуквалі:

— Вінаватыя. Выслаць!

Плошча ад нечаканасці грозна загула:

– Здрада! Здрадзілі! Полацку... Здрадзілі!

У падмогу ахове адразу ж пабеглі бязлітасныя запалоцкія грыдні, і Еўфрасіння міжволі падалася ў бок вечавога насту, тут жа змушаная спыніцца: шчыльны ланцуг вартавых нікога не прапускаў. І раптам малы Давыдзік так гучна і жаласна ўсхліпнуў, што яна, ужо не слухаючы Еўлампію і Саву, кінулася наперад, гнеўна прабіваючыся праз шчыльную варту. Барыслаў, убачыўшы яе, ад нечаканасці сумеўся, але тут жа падаў знак прапусціць. Чуючы спіною насцярожаныя позіркі месцічаў, паволі пайшла да маці, узяла за руку малога Давыда. Працятая сотнямі позіркаў, зразумела, што мусіць цяпер спусціцца ўніз. Нават ступіла да сходаў першы крок, але ў горла нечакана ўдарыла такая вострая, пасланая з самога сэрца, сляза, што, павярнуўшыся, спыніла на Барыславе пякучы позірк.

— Кажаш, быццам любіш народ свой, князь? А ты ж яго, як арыман сызпеклы, – нянавісцю караеш. – Падняла галаву яшчэ вышай. — Чаму прадаеш зямлю родну находнікам сквапным?

Усе назіралі за вечавым з вусцішным маўчаннем. Здзіўлена ўсміхаючыся, не абзываўся і Яраполк. Але яна ўжо не спынялася:

– У грудзі сябе б'еш, кленучыся. Быццам дбаеш пра моцу і сілу дзяржаўную, а чаму ж лепшых сыноў нашых у порубе гноіш?! Чаму з

горла д'ябальскага твайго агонь знішчальны адно палыхае, князь? Чаму здраду і смерць сееш? Адкажы Полацку.

Адчула: яшчэ слова – і плошча выбухне гневам, абмыецца крывёю. Тады, сыходзячы з узвышэння, перажагналася. І ўсё ж праз імгненне, калі гучны плач Давыдзіка разнёсся над гуртам, усе на плошчы гнеўна хітнуліся наперад. Бакавыя дружыны, грымнуўшы мечамі аб шчыты, прыўзялі дзіды, адразу ж адкінуўшы назад пярэднія шэрагі. Пачуліся крыкі параненых; людская лава грозна завіравала, ужо гатовая кінуцца на дзіды.

І раптам з боку ракі азваліся такія вясёлыя звонкія бомы, што ўсе міжволі прыглухлі. Ад берага спешна падымалася вялікая скамарошая фура. Спынілася недалёка ад варты і да яе хутка пабег незадаволены Рымша. З фуры, услед за жалейнікамі, выцекла паважная сівабародая грамада. Месцічы застылі, бо яшчэ ніхто не бачыў разам столькі сівабародых баянаў з гуслямі, над струнамі якіх ужо ўзляталі імклівыя рукі: “ Слава княжая Усяславава, ой-а, ды коціцца, ой-а, ды за моры Хвалынскія...” Гуслі грымелі і ракаталі, і гэты густы баянаў спеў, што так даўка залёг над усёй плошчаю, нечакана высек слёзы. Вартавыя грыдні на памосце таропка зганялі ўпалоненых князёў у адно шчыльнае кола, але гусляры не суніманіся:

“Слава княжая Усяславава ляціць, ой-а, за ўсё мора Хвалынскае, хутчэй стралы, плыўчэй вокуня.” — Магутны акорд рассякаў важкае маўчанне варты. –“ І спраўней воўка шэрага, і ганчэй лося пушчанскага... І плытней бобра ён, Усяслаў наш. І страшны Усяслаў Полацкі для варагоў сваіх, і бацька родны Усяслаў Чарадзей усім вотракам, і як гнеўны гром – усім здрайцам ліхім...”

Смалянін, выпрастаўшы спіну, раздражнена махнуў плёткай, і Рымша, падскочыўшы да першых барадачоў, загадаў ім замаўчаць. Ссунуў бровы, грозна падзываючы ратнікаў. Гуслі славілі — разліваліся шчогатам і рыканнем, свісталі, гегалі, гарлалі, сіпелі, шархацелі дажджом і пяскамі, грымелі громам і каменнымі крушнямі, клекаталі буслінымі ранкамі, рыкалі ласінымі поўднямі.

“Прыляці, Усяслаў, громам-люценем, удар гневам сваім у находнікаў... Барані, Усяслаў, зямлю родную!”

...Струмень крыві з раззеўранага горла старца лінуў спачатку на струны. Потым зачырванелі анямелыя пальцы, пацямнела пад нагамі зямля. Запалоцкія грыдні, не зважаючы на зацятае зняменне месцічаў, не спыніліся да тае пары, пакуль на дарогу не палеглі ўсе баяны. Дзесяцкі варты кінуў палаючую паходню ў фуру, і маладзіцы з дзецьмі адразу ж выскачылі адтуль на дарогу. Фура запалала. Коні ашалела неслі вогненную павозку ўздоўж берага. Яраполк, не

чакаючы, калі полацкіх князёў павядуць у поруб, рэзка павярнуў каня. Мінаючы скрываўлены шэраг пасечаных лірнікаў, адвярнуўся: над забітымі ўжо схіляліся зажураныя сяльцовыя сёстры. Нехта з грыдняў наступіў на гуслі, з якіх узляцеў жаласны звон.

*“Увядзі мяне ў кузню Сваю, Ойча, і сэрца распалі агнём, каб зліць*
*з пакутаў нявольніцы Твае Еўфрасінні срэбныя струны літасці.*
*І збаў нас, Госпадзі, ад іклаў братазабойства, лютасці*
*чалавечае, выраджэння, здрады і, зайздрасці, бо крышыцца бачу,*
*трухлее, гіне край мой ад сухавеяў чужых, і з нутра выракаецца*
*свайго роднага, ганьбіць Слова, нішчыць славу продкаў,*
*кланяецца адвернікам, што бацькавіну нашу зненавідзелі....”*

З боку ракі да людзей кінуўся развітальны вецер, расшумеўся, кратаючы ссівелыя валасы сціснутых наўкруга вяроўкамі полацкіх князёў. Праз частакол паднятых дзідаў злавіла трывожны сустрэчны позірк бацькі. Пайшла, ужо не азіраючыся і трымаючы за руку малога Давыда, да манастырскай павозкі.

*“Маці літасцівая, Багародзіца, чаму так даўно маўчыш да нас!?*
*Пашто дазваляеш скрусе, вялікай і смяротнай, пераядаць дні нашы?*
*Хіба не бачыш вочы выплаканыя? Вазьмі іх у кузню цудаў тваіх..*
*І дыханні, якімі славім штодня імя Сына Твайго, Госпада нашага,*
*і вусны нашы – забяры! Каб сталіся вусначкамі дзяцей, што*
*народзяцца ў весях зямлі крыўскай. Жылы нашы такія моцныя,*
*што ўтрымаюць нават зоркі, і такія доўгія, як карані вольхаў*
*стагодніх, што цягнуцца ў сарцавіну зямной плоці. Забяры іх,*
*Маці Багародзіца, аддай праллям Тваім... І ссукаюць клубкі*
*ніцяў, і сплятуць з іх сарочкі для вояў нябесных.*
*Пашлі іх бараніць зямлю крыўскую! Пачуй жа і забяры грудзі мае,*
*белыя і трымтлівыя, бы срэбра расплаўленае, плечы і рукі мае,*
*і аддай кавалям воінства свайго, каб гартавалі шчыты і мячы*
*з цноты манаскай – аслоньваць людзей крывіцкіх ад смяротных стрэл.”*

Смуга засцілала позірк:

*“Ойча, ратуй зямлю нашу, ратуй, Міласэрны. І дай выпрабаванне*
*дачцы краю полацкага. Як выпрабоўваў некалі палестынскіх пакутнікаў Сваіх — постам, бяссоннем і працаю. І ўзнагародзь моцаю егіпецкіх пустэльнікаў і затворнікаў афонскіх Тваіх, каб змагаць жорсткасць крывавую і хіжую здраду, мецяжы душы і пустаслоўе, і аблудлівасць праз доўгія леты. Ратуй, Госпадзі.”*

Ужо не было куды рынуць, як толькі да старой Такліны. Бо адно яна, старая княжая нянька, і магла ў гэтыя страшныя дні дагледзець малога Давыда.

*“І зрабі з храшчоў горла майго і з вуснаў гарачых, Госпадзі, Рог для нябеснага светлакрылага птаства Твайго. І ўдыхні ў Рог. Каб спяваў гучна і грозна, даганяючы ўшчуваннем адступнікаў. Каб чутны быў Рог і ў дарозе, і на сечавым полі, і пад уласнай маёю страхой. Злітуйся, Госпадзі, над зроднікамі ўпалоненымі і ўсім княствам Полацкім, узмацні надзеямі іх і мужнасцю. Хвала Табе, Госпадзі! Хвала табе, зямля родная.”*

...Перапоўненая ўспамінамі, хаця мінула столькі доўгіх летаў, ігумення-паломніца ўспомніла тую развітальную поўнач, калі некалькі даверху нагружаных вазоў з самым неабходным для няблізкага падарожжа княжым скарбам блізіліся да ніжняй дзвінскай прыстані, дзе ўжо чакалі вялізныя княжыя ладдзі. Перагортваючы цяпер згадкі пра крывавыя бітвы за княжыя стальцы, у каторы раз спрабавала яна зразумець тую вялікую таямніцу, што тоіць у сабе д’ябальская спакуса ўлады і ўсялякая магчымасць быць мацней за іншага чалавека. І мацней настолькі, што можна нават забраць у супраціўніка дар Боскі — жыццё.

Полацкія князі-выгнаннікі тою ноччу спыніліся каля новага манастыра толькі на хвілю: асветленыя паходнямі варты, абдымаліся, развітваючыся, тут жа ў двары. Маці з бацькам, дзядзькі і стрыечныя браты-княжычы. Потым, недзе праз дзесяць гадоў, двое з іх вярнуліся з далёкіх Грэкаў дахаты. Было і вяселле, на якое ў трох ладдзях у Полацк прыбыў з Кіева двор вялікага князя. Усё было. Пазней... Але ў тую жахлівую, аблітую жоўтай месячнай слюдою ноч развітання, помніцца, яна, такая яшчэ маладая ігуменння, не хавала слёз ні ад манастырскіх сёстраў, ні ад бацькоў.

Не ведалі ўпалоненыя, аднак, таго, што на другі ж дзень пасля іх ад’езду Мсціслаў паклікаў да сябе ігуменню Еўфрасінню. Але тая не

пайшла. У вушах усё яшчэ стаяў звонкі трэск раструшчаных нагою гусляў, а перад вачыма раз-пораз паўставаў шэраг лірнікаў з апушчанымі на струны скрываўленымі рукамі. І яшчэ — шырока расплюшчаныя вочы, у якія кроплямі ўплывала важкае ледзяное неба.

“Але хто вы, кудзейнікі і гусляры, летапісцы-схімнікі, абраннікі колераў, думак валадары, браты мае юродывыя!?

Мечамі пагражаюць, — а вы ідзеце! У ямы турэмныя дружыны варожыя вас кідаюць – а вы ўзлятаеце. Бо няма кратаў для душы вольнай, хоць і забраны край чужынцам-ліхадзеем.

Ланцугамі нас абвесілі, калодкамі ногі да ранаў сцерлі. Вяроўкамі пяньковымі шыі сціснулі...

Каб — ні руху шырокага, ні ўздыху поўнага, ні слова годнага. Гэта на думках і мроях нашых, на будучыні, на дзецях-унуках – ланцугі, вяроўкі,калодкі! Час такі настаў у вотчыне... Д’яблаў час! Толькі адны вы праўду прамаўляеце, галавы сівыя перад зграяй ваўчынаю не схіліўшы... Не адступіцеся ж ад дзяцей сваіх, бессмяротныя! Не адцурайцеся, непахісныя! Не сагніцеся! Паўстаньце! Абудзіце! Вядзіце! І прачнемся! На плечах мужнасць ускрыляе, прышласцьбудучыня выспее...

Вы — і сённяшняе наша, і – шлях ранішні разняволены.

Не пакідайце ж князёўну сваю! Род свой бараніце ад смерці нявольніцкай і знямення. Гаварыце-спявайце, майстры зямлі роднай. Біце ў злачынцаў шчогатам птушыным, рэкаў плёскатам, громам парогаў дзвінскіх, гневам пушчаў няўходных. Фарбамі нябеснымі зямлю нашу прыўкрасьце! Слова – не аддавайце! Голаў – не схіляйце... Маці-вотчыны — не цурайцеся.

Дык Чые ж пасланцы вы, Майстры нашы выбітныя?! Чыё царства будуеце са слоў, плінфаў, гукаў? Хто ўкладае ў сэрцы вашы ісціны вечныя? Хто падае пэндзлі і пёры? Хто сэрцы адкрывае вам, Майстры, гнаныя па ўсіх скрыжаваннх і весях зямных, яка псы бязродны? Чыю вялікую любоў, Чыю пакуту бязмерную прамаўляеце і нясеце вы ў свет сілай неспасцігальнай? Адгукніцеся з прошласці. Адзавіцеся з будучыні. Не пакідайце дачку сваю і ўвесь край наш забраны-згвалчаны. За сабою клічце нас!”

## РАЗДЗЕЛ 2.

Гнеў Мсціслава, які так і не дачакаўся прыходу ігуменні з Сяльца, выбухнуў толькі праз тыдзень. Ноччу, асветленай не толькі поўняю, але і сполахамі пажараў з блізкіх весяў, у вароты прыціхлага

ад жаху манастыра нечакана ўдарылі разгушканым бервяном. П’яныя ратнікі, бліскаючы мячамі, гарлава загадвалі ігуменні адчыніць: “…зело лепо княжыі дшчэры есм”. Сарваныя з петляў дзверы ўрэшце бразнуліся на зямлю. Але тут жа, да вялікай радасці агніц Божых, пачуўся і звон мячоў: перад манастыром нечакана ўсчалася жорсткая бойка. Праўда, яшчэ ніхто з сёстраў не ведаў, хто насмеліўся выступіць у абарону статка Пастыра. З двара даносіліся толькі крыкі ваяроў і бразгат зброі. Нарэшце, не зважаючы на пратэсты сёстраў, ігуменне загадала адкінуць жалезную засаўку і пераступіла парог.

Поўня залівала падворак такім яркім святлом, што ўсё было відно, як удзень. Мсціслававы ратнікі, чалавек пятнаццаць, наляталі на ўзброеных толькі пікамі і сякерамі смердаў, што адбіваліся, падтрымліваючы свой ваярскі дух дружнымі крыкамі, і не адступалі. Гэта была жмудзь. Віскатлівае конскае іржанне, грубыя мужчынскія выкрыкі, бразгат зброі і енкі параненых — усё гэта перакрываў магутны бас важака абаронцаў. Вялікі, што стог, чорнабароды жмудзін кожны раз браў на сябе чацвярых, пускаючы ў ход і кулакі, не змеціўшы нават, як у падворку раптам усё сціхла. Такі ж магутны, у бліскучых латах і жалезным шаломе, да манастыра імчаў сам князь Мсціслаў. З лёту ўразаючыся ў бойку, нарэшце падступіўся да важака манастырскіх заступнікаў бліжэй. Узмахнуў булавою, і смерд, хітнуўшыся, адразу ж упаў грудзьмі на конскую грыву. Сеча замерла. Грозны кіеўлянін падняў левую руку ў жалезнай рукавіцы, сурова гмыкнуў у сівую кароткую бараду і распаленая бойкаю дружына імгненна апусціла мячы.

Стаяла і яна, быццам брамніца, каля адчыненых варотаў манастыра, аблітая яркім месячным святлом. У доўгай чорнай хламідзе. Прамаўляла малітву. Пазірала на Мсціслававых вояў цёмнымі, шырока расплюшчанымі ад гневу вачмі. Азірнуўшы нерухомую постаць маладой ігуменні, князь адно шчыльней ссунуў над гарачымі ад ваяўнічага шалу вачмі калматыя бровы. Тады паднесла галаву і зычным голасам прамовіла:

— І мір няхай стане да раці, і рацfolь – да міру.

Нарэшце падышла — і ўсе перад ёю расступаліся — да жмудзіна. Пацягнула за рукаў, і паранены паволі, чапляючыся рукамі за конскую грыву, пачаў апаўзаць на зямлю. Тады схілілася і, паклаўшы цяжкую руку воя сабе на плечы, павяла, такога важкага, з залітым крывёю аблічам, да невысокага манастырскага прытулку. Шэптам паўтарала:

— Прыйдзі да сябе, і прыйдзеш да Айца нябеснага.

Магутны князь, які толькі што ўзбуджана гікаў на разгарачанага каня, з булавою ў руцэ, акрыты бліскучымі меднымі латамі, не зводзіў з манашкі здзіўлена-захопленых вачэй. Але вось махнуў рукою ў жалезнай рукавіцы і ратнікі, азірнуўшыся, павярнулі коней прэч. У манастырскім двары засталіся толькі забітыя.

* * *

... Рана Кірыка аказалася неглыбокай, і пад наглядам сястры Еўдакіі нечаканы заступнік застаўся ляжаць у манастырскім шпіталі. Але ў гэтую шалёную ноч нікому, асабліва ігуменні, не было спакою. Добра вытаптаная сцежка праз двор у месячным ззянні зіхацела, як абсыпаная гарачым прысакам. Забітыя парадкаваліся сёстрамі да апошняга шляху, і бальшыня нябожчыкаў былі жмудзіны. Племя зусім невядомае, вольнае; зямля іх лясістая і непрыступная, куды і збіраўся пасля Новагорада той дзіўны манах з Рыма. Таямніча-грозныя пляміны крыві — і тых, хто адзічэла біў у манастырскія вароты бервяном, і тых, хто бараніў чарніц, цяпер аднолькава тлуста блішчалі на ўзлобку бясконцай ночы.

... Але які люты і злы людскі ганіцель: насцігае і мучыць, топіць і спальвае, сячэ мячом і točіць няволяй. У сваёй доўгай хламідзе ігуменння стаяла пасярод манастырскага двара, агорнутая трымтліва-дрогкім святлом поўні, не адчуваючы, як плячэй кранаюцца і тут жа саслізгваюць уніз, прабіваючы лавы дзёрну, кінутыя Ягонай рукою зоркі-знічкі. Аднак жа, які помарак вакол у жыцці, якое запусценне, якое аскудзенне. І ўсе ўратаваныя ісціны Боскія нібыта абкрадзены: “Прыйдзі ў сябе, чалавеча. Уваскрасі хоць у думках годнасць і веліч сваю. Бо Гасподзь блізка ўжо. Толькі і чакае, каб сказаў хто: “Паўстаўшы, — іду да Цябе!”

Нарэшце вярнулася ў келлю і, акрыўшы плечы вавёрчынай хламідкай, села за стол, каб супакоіцца ў працы. Звыкла раскрыла фаліянт, толькі ўчора прысланы з бібліятэкі епіскапа. Запаліўшы таўсцейшую свечку, паўзіралася ў буйныя цітлы. Гэта быў той жа расповяд пра далёкую Біярмію і гольмгардскія каралі Ёмелы. Забыў, пэўна, дзяк, што ўжо даваў ёй гэта чытаць... Незразумелая трывога сціскала грудзі. Але калі нехта ціха шкрабянуў у дзверы, нават не паспела спалохацца. А тыя ўжо адчыніліся.

Высозны, у доўгім кажусе і з глыбокім стаўбуном, які прыкрываў рану, у парозе стаяў Кірык. Убачыўшы яго, ўсміхнулася: ваяўнічы жмудзін нязвыкла хутка паздаравеў. Пэўна, і сапраўды спяшаўся і ўжо не зважаў на боль. Позірк волата свяціўся ўдзячнасцю, але хутчэй не за сябе, а за ўратаванне дачкі: маленькая Даля дасюль гадавалася

ў старой Такліны. Нарэшце ступіў да стала. Няўпэўнена, як просячы, сказаў:

— У цябе пабудзе няхай, Прадслава. — Згодна кіўнула, разумеючы, што просіць за дачку. — А калі свет стане ласкавейшым…

Чамусьці таропка азірнуўся. У маленькай келлі, асветленай адно свечкамі, было вусцішна. Кірык важка сеў насупраць яе за стол, моўчкі задумаўся. І раптам, засунуўшы вялізную руку за пазуху, пачаў выцягваць і класці на сталешніцу да глянцу зашмальцаваныя ладныя мяшэчкі. Развязаўшы праз хвілю матузкі, асцярожна пачаў высыпаць з іх сапраўднае багацце, што адразу ж адабрала вочы невераемным бляскам. Але што гэта частка таго самага біярмійскага скарбу, Еўфрасіння зразумела не адразу. Цэлай горкаю ў цьмяным святле ззялі падвескі і бранзалеты, яркія каштоўныя камяні і асабліва – каралі з вялікіх і гладкіх бурштынавых камянёў. Расхваляваная, не магла адвесці ад іх позірку. А Кірык, адно параўняўшы ссыпанае сваімі вялізнымі шырокімі далонямі па сталешніцы, паволі выйшаў з-за стала. Тады, ледзь перасіліўшы здзіўленне, таксама паднялася. У вачах суровага жмудзіна бліснулі слёзы.

— За Далю ахвяру маю прымі. Цяпер разумееш, чаму мы тут апынуліся. Везлі табе гэты скарб. А натрапілі на кіеўцаў. Цяпер у двары чацвёра нашых ляжаць. Маліся за іх! —Уздыхнуўшы, паклаў на скарб вялізны чорны кулак:

— Усё гэта не з чужое скрыні выкраў, як таць-злодзей, але ад дзеда атрымаў, а той — ад свайго. Калі ж грэх які на гэтым багацці, адмалі яго, ігумення, і няхай на добрую справу ідзе. Павер і прымі.

— І ты вазьмі. Самае дарагое, што маю. — Расчуленая, працягнула яму сваё Евангелле:

— Бо яшчэ Менандор казаў: мець кнігі лепей, чым золата, у якім няма дапамогі для душы. Помніш, казаў пра тое і майстра Даніла. — Схіліла галаў, але Кірык ужо прыхоўваў падарунак за пазухаю. Ціха дадала: — Ахвяра твая, калі зажадаў, няхай паслужыць справе кніжнай. Муж, які не мае кніг, падобны да агароджы без апораў. Падзьме на яго вецер грахоўны, і ўпадзе, калі не мае моцы славесяў кніжных. Так пісаў Яфрэм Сірын.

– Ты яшчэ ў Заслаўі кніжніцай была.

— Птушкам нябесным на тое крылы дадзены, каб цянётаў чалавечых пазбегнуць, а людзям — кнігі, бо ўсю непрыязную лесць адганяюць. Такое пісаў сам Іаан Багаслоў.

— Гэта добра, калі адганяюць. Таму і пакідаю з табою адзіную крывіну, Далю сваю. Але калі… — голас Кірыка нечакана заледзянеў:

— Але калі з дачкі хоць волас упадзе… — не закончыўшы, рэзка павярнуўся і нечакана паспешліва знік за дзвярмі, праз якія ў келлю тут жа ўхлынуў едкі смурод патухаючага на панадворку вогнішча. Праз кароткі час, прачыніўшы іх, ігуменне акінула позіркам ваколле, але Кірыка нідзе не было. Зямлю густа засыпала буйная раса. Набліжаўся час ранішняй малітвы. І ўсё ж, яшчэ раз азірнуўшы цэлую сталешніцу нечаканага багацця, яна міжволі сцішылася. Ці не Твая гэта, Маці міласэрная, ахвяра агніцам полацкім? Альбо, можа, спакуса? Не адкладваючы, тут жа паклікала сястру-гаспадыню і Саву, перадаўшы набыты скарб у вядомы толькі ім манастырскі схарон. Падалей ад чужых вачэй.

## РАЗДЗЕЛ 3.

...Шу-жжжах! – надакучлівы шоргат густа пераплеценага сасновага голля ні на хвілю не даваў спакою. Туга звязаныя за спіною рукі занямелі так балюча, што Еўфрасіння ўжо не магла нават варухнуць пальцамі. Пачала сціху азірацца, аднак вочы натыркаліся толькі на цемру. Усё цела пасля язды па выбоістай дарозе, ды яшчэ на прыкрытых адно тонкаю дзяружкаю драбінах, балюча ныла і пачынала дранцвець ад холаду і сырасці. Блізка ад вялізнага будана, куды яе кінулі на лаву лапніку, гарэла вогнішча: адчула востры пах ялаўцовага дыму і смажанай дзічыны. Даляцела і ціхая гаворка, ад якой яшчэ болей сціснулася. Старажавалі, відно, наёмнікі Шалудзяка. Чуткі пра тое, што ў навакольных пушчах Полаччыны ёсць таемныя ханскія схароны, з'явіліся даўно. Аднак нічога пэўнага ніхто не ведаў. Таемная служба вялікага князя збілася з ног: штораніцы на вуліцах горада і нават за ахоўнымі сценамі знаходзілі забітых. Найчасцей мужоў імяністых ці ў дзяржаўных справах дасведчаных. Ад Полацку крывавыя рукі забойцаў пацягнуліся і ў весі. Конная варта з ліку найбольш дужых і смелых гараджан пачала несці варту да самай раніцы, але тацяў нічога не спыняла. Ганцоў з трывожнымі весткамі пра няшчадных забойцаў паслалі нават у Кіеў і Ноўгарад.

… Яе вывелі падвечар проста з ігуменскай келлі. Гвалтоўна скруціўшы рукі, нацягнулі на галаву мяшок. Падкраліся нечакана, калі хвілю як вярнулася з капліцы і была яшчэ забраная вячэрняй малітваю – нічога вакол не чула і не прыкмячала.

Праз усю лясную дарогу, калі па плячах час ад часу шоргала сасновае голле, возныя маўчалі, як нямыя, ад чаго стала яшчэ трывожней. Гэтак жа моўчкі ўпіхнулі яе і ў гэты будан. Урэшце, крыху прызвычаіўшыся да цемры, яна разгледзела тонкія цвічкі ружаватага

святла ад вогнішча, што прабіваліся праз шчыліны ў плеценых лазовых сценах. Будан быў вялізны і даволі высокі, і да яго цяпер нехта набліжаўся – чулася гучнае шаргаценне ботаў па траве. Праз прарэху ў дзяружцы ўваходу нечакана прабілася паласа святла.

Але вось дзяружку рашуча адкінулі і ў будан ступіла двое з вялікімі яркімі паходнямі ў руках. Першы, відно, ханскі намеснік, у багатым вярблюджым чугаі адразу ж працяў яе, сваю палонніцу, вострымі, з насмешлівым прыжмурам, вачыма, нешта крыкнуў, і да Еўфрасінні таропка кінуўся слуга, хутка развязаўшы вяроўкі на руках і нагах. Другі паднёс ёй гліняную конаўку з вадой, ад якой патыхнула рачным глеем. Татарын, не зводзячы з Еўфрасінні вачэй, загаварыў, і тады наперад ступіў яшчэ адзін з прыбылых – у багатым кафтане і з бердашам у руках. Здзіўлена адхітнуўшыся, пазнала Кажадуба. Аднак каля яго ценіўся яшчэ адзін кмет у шаломе з нізка апушчанай на твар брамніцай. І толькі цяпер, убачыўшы гэтага прышлага, што, як яму здавалася, так надзейна схаваўся за брамніцай, Еўфрасіння ўрэшце па-сапраўднаму спалохалася. Татарын нешта крычаў, і Кажадуб заспяшаўся:

– Пасланец шаноўнага хана пытае, дзе скарб, прынесены табе жмудзінам недастойным? Толькі не спрабуй адгаворвацца, што нічога не ведаеш, манашка! Калі жыць хочаш. – Кажадуб, перакладаючы, ступіў наперад і той, хто стаяў з ім побач і хаваўся за брамніцаю, прыўзняў паходню, быццам хацеў прачытаць на яе твары цені таемных думак. Паволі, ледзь выпростваючы занямелую спіну, паднялася на ногі, пазіраючы проста ў вочы ханскаму пасланцу. Загаварыла ціха:

– Усё, што прыбывае ў абіцель з Боскае волі, толькі на Боскія справы пойдзе.

Татарын, нечакана груба адштурхнуўшы яе, зноў нешта крыкнуў, і Кажадуб спалохана пераклаў:

— Яшчэ раз пытаю, дзе скарб жмудзінаў? Дурніца сяльцова... – Апошняе, пэўна, дадаў ад сябе. — Кажы! Бо калі трапіш у іншыя рукі, і язык праб'юць, і вочы выкалюць, і ўвесь твой манастыр згвалцяць.

– Іншым я скарбам даўно жыву! У тым і клятву даю ў імя Айца... – яна ўжо рыхтавалася да жагнання, але раптам невераемны боль паласнуў усё цела, забіўшы гарачы ком у горла: той, хто хаваўся за брамніцай, нечакана хітнуўся наперад і ярасна ткнуў у яе паднесеную руку палыхаючую паходню. Полымя затрашчала, будан запоўніў рэзкі смурод.

– ... Айца і Сына, — невераемным намаганем кранулася апаленымі пальцамі да ілба: — ... і Святога Духа. Амінь.

Татарын зноў закрычаў, але незнаёмы, прыклаўшы кулак да грудзей, нешта таму адказаў.

– Цяпер трымайся, манашка, малі свайго Бога з усяе моцы. Іншы за цябе возьмецца. — Кажадуб прашаптаў гэта, не хаваючы жаху, але яна адвярнулася. Татарын, нечакана рассмяяўшыся, крута павярнуўся і імкліва, хітнуўшы важкаю дзяружкай выхаду, вышаў з будана. Услед за ім заспяшаліся і праважатыя: той, што хаваўся за брамніцаю, і Кажадуб.

Усё навокал затапіла глухая цемра, што адразу ж, як ні дзіўна, супакоіла яе. У будане было зноў глуха і даўка. Тады вяла апусцілася на ўтрамбаваны лапнік і прыплюшчыла павекі. Толькі цяпер адчула, што боль апечанай правіцы ўжо расцёкся па грудзях і ўсім плячы. Захінула ногі крысом хламіды і сцішылася, ледзь стрымліваючы лекаценне ўсяго цела. З цяжкасцю склаўшы апечаныя пальцы, перажагналася. Наперадзе чакала доўгая лясная ноч. За буданом ціха патрэсквала вогнішча, перамаўляліся старажы. Галаву абвалок глухі чад. Чула, як недзе зусім блізка вухкае сава. Страціўшы адчуванне часу, акутвалася глыбокім сном, у які нечакана ўляцеў рэзкі крык когута. ... На грудзі легла і пачала груба ціснуць вялізная мядзведжая лапа, што вострымі кіпцюрамі паласавала ўвесь правы бок. Асабліва пякуча торгала ў пальцах. А гарачая лапа тым часам ужо сціскала дыханне. Сон імгненна перапыніўся. Зрэшты, гэта быў зусім не сон. Той, хто так нехаця выпускаў з учэпістых пальцаў яе горла, нечакана ўпяўся ў вусны, шоргаючы па шыі калючай барадою. Тарганулася ўбок. Да слыху данёсся вар'яцкі шэпт: “ Сказаў жа, што маёй толькі будзеш!” — У галаве забухалі біты.— “Дзе скарб жмудзінаў, чарнарызая? Толькі скажы — і выпушчу!” — Пазнаўшы голас запалоцкага князя, пасілілася вызваліцца.

І раптам хіжыя абдоймы абмяклі і ўсё цела запалачаніна пачало асоўвацца.

У будане быў яшчэ нехта. Але ўжо яе абаронца. Не адчуваючы болей гвалтоўнага націску, паволі паднялася на ногі. Звонку данесліся трывожныя гарлавыя загады – да будана спяшаліся. Незнаёмы выратавальнік у лісінай масцы адразу ж гікнуў і, схапіўшы яе за руку, пабег да выхаду.

## РАЗДЗЕЛ 4.

... Яна сядзела пасярэдзіне крыху намоклай па краях мядзведжай шкуры, што была разасланая па дніўшчы шырокага рыбацкага плыта. Слухала плёскат вады. Ахінуўшы мяккім глеем донныя

лежбішчы ментузоў, заслаўшы тлустай лісцвянай коўдраю патайныя норы выдраў, рака пазірала на ранішніх гасцей цёмнымі вірамі, пасылаючы людзям свае патаемныя струменьчыкі-думкі. Наперадзе, каля самага краю багатага плыта, які хутка аддаляўся ад высокіх прыбярэжных соснаў, за якімі стоіліся наёмнікі хана, сядзеў з восцямі ў руках шыракаплечы рыбак у каструбаватай накідцы. Па спіне яго рассыпаліся буйныя залатыя колцы доўгіх валасоў.

Уздыхнуўшы, Еўфрасіння падзьмухала на знямелыя ад сцюдзёнага рачнога духу, абпаленыя пальцы, і рыбак азірнуўся:

– Яны думалі, Прадслава, што ў маім лесе будуць гаспадарыць і нішчыць людзей крывіцкіх. Забылі, касавокія, хто тут гаспадар! І князь запалоцкі забыў.

Ранішнія зоркі, высыпаўшы над ракой шырокі пояс нябесных вогнікаў, будзілі ваколле, над якім ужо шугала звонкае: “ Коур-лы...”

– Даўно не чуў адлятаючае птаства нябеснае.— Зажурана апусціў галаву:

— Хутка прыстану да берага. А там і ідзі ў сваё Сяльцо. Дарога блізкая.

– Чаму не хочаш мне памагчы, Валодша? Сам ведаеш – шмат давесці трэба, каб таця запалоцкага выкрыць. А ты не хочаш пасабіць.Чаго спалохаўся? У Данілы самы адчайны быў.

— І цяпер не баюся. З тае самай ночы, калі бацьку Вікулу кама забрала. Памятаеш? На той гарушцы. Так што змаўляйцеся між сабою самі, на тое вы і князі! А за мной кметы даўно цікуюць. Ці не па тваёй просьбе, Прадслава? Валодша засмяяўся, але так нядобра, што міжволі насцярожылася.

– Спачатку за старым ганяліся, цяпер — за мной.

Стаўшы на поўны рост блізу краю, так рэзка нахіліў плыт, што ледзь утрымалася.

– Мала табе было бацькі майго?! Хутка ж забыла, што і сама некалі ў пяруна ласкі прасіла.

Азірнуўся і, супакоены яе маўчаннем, пачаў адступаць бліжэй да сярэдзіны, выроўніваючы плыт.

— Добра робіш, што не баішся. Бо не княскай я пароды. Не здзекуюся з людзей. — Глумліва гмыкнуў:

— Ды і цяпер многія з тваіх да вогнішча перуновага прыходзяць. Удзень да цябе ў царкву, ночаю – да мяне ў лес.

Варухнулася, расціраючы занямелыя халодныя рукі.

– Толькі пашто мяне цікаваць, Прадслава? Я песні спяваю, я з птушкамі, са зверам гаманю. Каму перашкаджаю? Носіцеся, а

дагнаць – не дагоніце. А я ж, як вецер у полі. Як дождж у лесе. Хачу – і праменем стану. Я — як ноч, як дзень.

– Чаму ж тады ў сілу майго Айца не верыш, Які і дзень, і ноч стварыў?! Адзін Гасподзь у нас.

– Пярун у нас адзін!

– Ісус, Валодша! Які на крыжы грахі, усе злыбяды людскія крывёю ўласнаю адкупіў.

Устрасянуў валасамі, што золатам разляцеліся па магутных плячах. Засмяяўся:

— А ты гожаю стала. І не бачыў раней. Уздыхнуў:

– Сыходжу з Полаччыны я, Прадслава. Пара мне на Меншчыну, дзе бацька некалі пачынаў. А засовы свае ой як правярай!

– У кожнай абіцелі свае вароты.

– Не пакіне цябе запалачанін. Дужа люты!

— Столькі гвалту на Полаччыне нашай коіцца, столькі блуду. А хто вінаваты? Хто зло сее, Валодша? Чаму маўчыш? Усюды ходзіш, усе лясныя нетры табе ведамы, усё ты бачыш. І маўчыш.

– Бывай, красуня. Скарбы, скрадзенныя быццам бы, ў манастыры сваім шукай. Хітры запалачанін. Ой, хітры ліхадзей.

Змецiўшы яе здзіўленне, усміхнуўся:

— Людзям ты надта верыш, Прадслава... А дзякуй найбольш Кірыку скажы. Разумны жмудзін, любіць цябе, таму і жывая цяпер, хоць Полацак моцна яго пакрыўдзіў.

– Вось і ты нешта ад мяне тоіш, Валодша...

— Вялеса ў падмогу табе, Прадслава, ночамі чуйна спі! Тыя таці не адступяцца.

... На супроцьлеглым беразе, расцінаючы ранішнюю імглістасць, нечакана бліснуў агеньчык, пачуўся дзявочы смех, і Валодша адразу ж развярнуў у той бок свой плыт.

Ужо нават адыходзячы ад прыбярэжных ачаротаў, Еўфрасіння ўсё яшчэ чула нізкі гарлавы спеў, што разносіўся, здаецца, па ўсім узбярэжжы:

*“ Толькі абдымі мяне, лада, ночаю ці раніцай, і рукі заззяюць, як чараціны, месяцам аблітыя. Ой-а. Пачуеш, як стагну я – рака ў берагах каленяў тваіх...”*

Даляцеў тупат конскіх капытоў: з-за сцяны туману насустрач Еўфрасінні імчаў атрад кметаў, сярод якіх убачыла Саву. Збялелы ад стомленасці і хвалявання, кмет высока падымаў над сабой паходню.

– Уладычыца, таць Кірык ...

– Ніхто столькі скрухі сэрцам нашым не дадае, як блізкія суроднікі, Сава! Забудзь пра Кірыка.

– Уладычыца... Голаў сячы. Уладычыца! Скарб гольмгардскі ў нас... вінаваты... скралі скарб! — Моўчкі паціснула плячмі.

* * *

... З Кірыкам Еўфрасіння сустрэлася праз колькі месяцаў, калі намеснікі Мсціслава збіраліся ісці на непакорлівую жмудзь з агнём і мячом. Зноў было сутонне густога вечара і трывога нядобрых прадчуванняў. Выйшла за вароты: насупраць манастыра нечага спыніўся чужы вялізны воз. Не зважаючы на грозны выгляд фурманаў у доўгіх кажухах, наблізілася і, смела адгарнуўшы радно, убачыла, што на мяхі з мукою да самага верху было пакладзена шмат баявых суліцаў. Убаку, з павагаю схіліўшы галовы і быццам адгарадзіўшыся ад ігуменні густым помаракам, стаяла некалькі вазакоў. Але магутнага Кірыка ў адным з іх на гэты раз пазнала толькі па голасе:

— А ты спраўдзіла слова, любіміца Данілава. — Наблізіўся і вочы яго зіркнулі па-ранейшаму дапытліва. — За дачку Далю падзяка табе. А вось мы... — яшчэ болей прыцішыў голас, — кіеўскіх і смаленскіх ваяводаў чакаем, казалі, зноў збіраюцца ў нашы пушчы, мячы войстраць. Увесь наш абоз наперадзе. Толькі я затрымаўся.

— Столькі крыві ў апраметную з зямлі нашай плыве, братка, што нават грэшныя душы чарнеюць. Маліся лепей.

— Тады схадзі да кіеўца! — Голас Кірыка зазвінеў: — Скажы, каб не чапаў нас, бо яшчэ ніхто так не абдзіраў жмудзі, як яго вірнікі. Кажуць — па тры грыўны куняў беркаўска вошчанага з дыму!

— Бачу, твой конь такое паклажы,— кіўнула на воз, — не давязе. Але… маем аднаго маладога.

Ужо вывеўшы каня за вароты, пастаяла. Кірык зніякавела кашлянуў у вялізны кулак: — А вы як жа тут?

— З Боскаю дапамогай.

— Тады сёстрам усім паклон, — сапраўды нізка пакланіўся. — І апякуйся дачкою, літасцівая. А я… — таямніча прыглушыў голас… — за тваім гляну.

У сэрца пякуча пацэліла голачка. Пра што сказаў ён цяпер? Воз рыпуча зрушыўся з месца, і адзін з вазакоў, у глыбока насунутым на вочы каптуры, павярнуўся, махнуўшы ёй здалёку рукой. Усё забірала цемра, з нутра якой данісіліся адно рыпенне колаў і ноканне.

Раніцаю з айцом Васілём яна сапраўды пайшла да Мсціслававага намесніка і атрымала ад яго слова, што весі жмудскія, аддаленыя ад Полаччыны, больш не зачэпяць.

Але ўлетку, калі, не вытрымаўшы набегаў княжых дружын, дашчэнту спаленая і згалелая жмудзь пайшла па крывіцкіх дварах ганебна старцаваць, а вірнікі патроілі паборы з саміх палачан, увесь крывіцкі край быццам ачуняў ад цяжкага сну. Узбройваючыся косамі і сякерамі, і бліжнія двары, і дальнія пасады ледзь прыхоўвалі зацяты гнеў, чакаючы толькі знаку для выступлення. Вялікае полацкае процістаянне пачалося.

* * *

...Упачатку халоднага просінцу лета ад Нараджэння Божага адна тысяча сто трыццаць другога, яшчэ зусім шараю раніцаю ў манастырскія вароты пастукалі. Спачатку так нясмела, што стук гэты пачула толькі званарка Еўдакія. Затым ударылі драўляным молатам і, пачуўшы гэты настойлівыы стук, ад манастырскага будынка заспяшалася сама Еўфрасіння. Еўдакія, малодшая сястра ігуменні, на плячах якой ужо ляжаў амаль увесь гаспадарчы клопат манастыра, тым часам упускала на заснежаны падворак двух рамесных са скуранымі кайстрамі на плячах. У адным з іх абедзьве адразу ж пазналі прыстаўніка, майстра Іаана — быў, як і заўсёды, у вялізным, да самых пятаў, кажусе. Другога, з кароткаю светлай бародкай, Лазара Богшу, ведалі меней. Ігуменння, падыходзячы да Іаана, усміхалася. Свяціўся радасцю і той:

— Дзівішся, маці, што так рана паднялі?.. Толькі ж не маю сну ні ў адным воку!

— І нам не да сну. Маліліся за брата нашага Васільку і апекуна яго нябеснага. Часта апошнім часам пра брата думаю.

Пачуўшы пра князя, дойлід Іаан усміхнуўся, а Еўфрасіння ўжо запрашала гасцей у трапезную, ведаючы, што там заўсёды знойдзецца журавінавы напой. Па дарозе, весела азірнуўшыся на майстроў, запытала:

— То чаму ж не спіцца так дойлідам полацкім?

У трапезнай, на сценах якой віселі абразы, а пасярэдзіне стаяла некалькі сталоў з вышараванымі да жаўцізны сталешніцамі, адразу ж падсунула гасцям пачастунак — каўшы з цёплым напоем. Паўтарыла:

— То чаму не спіцца табе, майстра?

Іаан, замест адказу, глыбока засунуў у сваю скураную кайстру руку і вось ужо выцягнуў, усхвалявана кашлянуўшы, пергамін. Яшчэ

нават не ведаючы мэты іх прыходу, нечакана адчула, як у сэрца кальнула.

Дойлід, адставіўшы ўбок пустыя каўшы, якраз разгортваў пергамін, з першага погляду на які ігумення паднялася, павярнуўшыся да гасцей.

— Ужо каторую раніцу чую я, матухна, голас: “Падымайся, Іаан, і ідзі для справы Уладара Спаса.”— Уздыхнуў.—Вось такое чую, Еўфрасіння.

А яна, нетаропка абыходзячы стол, узіралася ў пергамін, на якім была змалявана высокая каменная царква.

— Ці не ты гэта клічаш мяне на будаўніцтва, ігумення?

Здзіўлена падняла бровы: — Калі нават і не я цябе наймаю, дойлід, усё роўна падпарадкоўвайся Таму, Хто заклікае цябе на гэтую работу. Скажу толькі, што часу ў майстоў мала…

Богша так паспешліва падсунуў пергамін бліжэй да сябе, што Еўфрасіння ўсміхнулася:

— За трыццаць тыдняў паспееце? Да свята Прэабражэння Спасава?

— Калі толькі на старым падмурку, уладычыца. — Заўжды асцярожлівы Лазар уступіў у гаворку наўздзіў смела.

— Драўляная царква наша, і праўда, падае.

— Затое падмурак — моцны, ігумення!

Еўдакія, якая дасюль болей маўчала, уздыхнула:

— Толькі ж плінфы цяпер дарага каштуюць! За што купляць?

— Усё ў руцэ Божай.

— І шаломы залатыя царкву нашу ўзвысяць, уладычыца. І закамары выштукуем, з Божае ласкі, трох’ярусныя…

— Толькі падлічыце выдаткі, майстры. Каб да апошняе грыўны.

…Па ўсюль уладарылі сухія марозныя тыдні, але майстры наведваліся ў Сяльцо амаль штодня. Будаўніцтва новай царквы пачалося.

## РАЗДЗЕЛ 5.

І ўсё ж, недзе напрыканцы вясны, калі новая паводка яшчэ раз паруйнавала навакольныя пасады, да вялікага кіеўскага князя Святаполка дайшлі ўпартыя чуткі, што Полаччына адкрыта загаварыла пра Васільку Святаслававіча. Ва ўсіх дварах, і дапраўды, нарастаў таемны, грозны гнеў: Святаполкавы віжы сачылі нават за манастырскай школаю сястры Еўпраксіі. Але знакаў таго, што блізіцца бунт, не знаходзілі. Пераапранутыя смердамі пасланцы

вялікага князя прашнуравалі ўвесь крывіцкі край: двары і весі, навучаныя цярплівасці, стоена маўчалі. Кіеўскі наместнік, прыехаўшы на вячэрнюю службу у Сяльцоў манастыр, меў наконт гэтага гаворку з самой ігуменняй Еўфрасінняй, аднак тая пра брата нічога не ведала. Віжы патроілі пільнасць і крывіцкае княства на цэлую вясну быццам знямела. Кіеў, урэшце, супакоіўся, нават не здагадваючыся аб тым, што тутэйшыя баяры даўно паслалі ў далёкую жмудзь да князя свайго ганца. Не ведалі віжы і таго, што вестка аб згодзе ўзмужнелага Васількі пайсці на чале збройных полацкіх атрадаў даляцела да крывіцкіх ваяводаў яшчэ ў сярэдзіне красавіка... Тады ж, болей не марудзячы, сам баярын Праслужыцкі ўпотайкі ад кіеўскага вока склікаў у свае харомы ратніцкую раду, на якую з’ехалася ажно сорак слынных мужоў з усіх куточкаў Полаччыны. Згадаўшы пра былую славу і выказваючы надзею на хуткае збавенне ад чужацкай апекі, таемная полацкая рада цягнулася да самай раніцы наступнага дня і завяршылася агульнай згодаю. Сустрэць Святаполкавых ваяводаў змовіліся на Вялікім Полі, куды свае атрады абяцаліся прывесці і сыны самога Праслужыцкага, і цівуны са Старога Горада, і ваявода Вялішын, які збіраўся прабрацца да поля сечы ад кручаў Званіцы. Нарэшце, даўшы сваё моцнае слова, ухвальна кіўнуў і ваявода Дзяменцій, галоўны апякун атрадаў, што размясціліся на клінах блізу возера Звана да самае Дрысы за бабровымі тонямі. За ваяводам намерыліся сабраць свае сілы русявыя важакі халопаў з прыбярэжных весяў, рассыпаных уздоўж Палаты. Такім чынам змовіўшыся, полацкія мужы тут жа заспяшаліся скарыстаць добрую часіну і скіравалі позірк на Васільку: паабяцаўшы цалаваць маладому князю крыж, паслалі на жмудскую зямлю пергамін з подпісамі, чакаючы ад нашчадка Ізяслававага крыла ратнага подзвігу. І чакалі, па-праўдзе, нядоўга. Наступленне было прымеркавана Васількам да дня Святога Юры, і над Полацкам ад таго часу пацягнулася нудна-шэрая, халодная нават у пагодныя дні насцярожанасць чакання.

Час набрыняў затоенай хмурасцю, але ў дзень бойкі ўсё наўздзіў памянялася...

* * *

Сонца, здаецца, закіпела з самае раніцы, абліваючы сваім залацістым воскам даволі акруглы погарб, на якім з харугвамі Святога Юры ужо стаялі і зарэчныя ваяводы, і сам Васілька, трывожна зіркаючы ў той канец, дзе, прыкрыўшыся шчытамі, застылі, купна з чарнігаўскімі і смалянскімі ратнікамі, мечнікі кіеўскага Святаполка, гатовыя імгненна выкінуць перад сабою доўгія

дзіды. Задуха чакання кацілася з краю ў край клубамі жоўтага пылу. Нецярпенне расло. Князь Васілька нарэшце азірнуў бліжэйшы край Вялікага Поля, заняты штыхамі Прыслужыцкага і Вялішына, прыўстаў у страмёнах, пеpажагнаўся і важка, павольна ўзмахнуў агромністым Князь-Рогваладавым мячом. І тады загрымеў, прыгінаючы ўсіх да конскіх грываў, баявы княжы рог, даў воям знак пачатку наступлення. Вялікае Поле з неасяжнымі прыбярэжнымі гацямі ўстрапянулася. І адразу ж ад крутога выверту ракі, як бы зусім асобна ад галоўных полацкіх сіл, але амаль упоравень з прашчнікамі Вышаты, роўнымі шыхтамі па дваццаць чалавек, насустрач ратнай славе, падганяючы сябе крыкамі, паляцелі вядомыя ўсяму Падзвінню ловы з правабярэжжа. Ужо беглі да дружыны Дабраслава, трымаючы наперавес кароткія тоўстыя пікі з жалезнымі наканечнікамі. Яшчэ цёмначы, пераскочыўшы раку на сваіх маленькіх вёрткіх чаўнах і стаіўшыся пад шатамі густа пераплеценага з хмелем вербалозу, гэтыя найлепшыя ў краі рыбакі і шчураловы заставаліся незаўважнымі да самай раніцы. Але выслалі князю Васільку ганца з весткаю, што ловы ўжо тут і чакаюць адно знаку.

І ўсё ж, калі пасля дзяркатага княжага рогу наўчольныя атрады правабярэжнікаў хлынулі, як паводка, на Вялікае Поле — у аднолькава плямістых, ладна пашытых са шчурыных шкурак, накідках, і самі падобныя да шчурынага племені, паляцелі з лукамі-самастрэламі цёмнага і светлага дрэва, князь Васілька з баярамі ўжо не маглі стрымаць радасныя крыкі ўхвалы.

Пачатак бітвы ўразіў нават бывалых вояў-кіеўцаў. А шчураловы, не прыпыняючыся, саштыхаваліся ў роўныя шэрагі так хутка, што Васілька задаволена падняў руку ў жалезнай рукавіцы. І ў тую ж хвілю з боку Вароняга хмызу, услед за “шчурамі”, рынулі важкаватыя ў безе, але такія грозныя, прыкрытыя блішчастымі меднымі латамі, сякернікі, за якімі асобнымі купкамі затрухала пасадская моладзь. Нарэшце, пакінуўшы за сабою акрываўленых пасаднікаў, новыя сілы Васількі выстраіліся перад мостам. У тую ж хвілю, апамятаўшыся, пад гучныя ўдары жалезных бітаў праз ахоўны роў на дапамогу чарнігаўскаму ваяводзе, ледзь стрымліваючы коней, паімчалася, мячамі змятаючы ў палёце полацкіх халопаў, смаленская дружына. Васілька ў трывозе падняў паліцу, але той, што сутулавата ўзвышаўся над сівым канём леваруч ад князя, той, у якім многія са смердаў радасна пазнавалі Кірыка, прыўстаўшы ў страмёнах, гайдануў дзідаю з воўчым хвастом, і з Вароняга ляска адразу ж, мінаючы хмызы, пад гучныя ўдары бубнаў наперарэз смалянам, падымаючы з зямлі клубкі жоўтага пылу, вырвалася, не паслабляючы шалёнага гону, ударыла,

раскрыліўшы за спінамі свае яркія плашчы, такая бязлітасная і дзікая ў сечы гарластая жмудзь.Тады і Васілька, і яго паплечнікі пачалі ў напружаным маўчанні назіраць за тым, як увесь гэты стракаты, агромністы збой полацкага воінства, пакліканы прагай вольніцы і ахоплены помстаю, абрынуўся на чужынцаў, сціснуўшы іх галоўныя сілы смяротнай пятлёю. І тут жа расцёкся, разгарнуўся па ўсім прасцягу бойкі. З моста зноў вылецеў новы, ужо наўгародскі атрад, але яго тут жа, ударыўшы з засады, сустрэлі вялізныя, што мядзведзі, дручакі-мечнікі, перад якім здымалі шаломы нават волаты з Відбеску.

І ці не ў гэты самы час у смяротным збоі ўпершыню затрашчалі косці, а над частаколам коп'яў і мячоў, шугануўшы навальніцаю, узбурылася крывава-брудная пена, што заліла і твары вояў, і іх латы, і харугвы, і разбэрсаныя конскія грывы.

Па аброжку Вялікага Поля ўздоўж загадзя пракапаных раўчукоў раптам ўспыхнуў невядома кім падпалены сушняк, і агонь імкліва пабег да карчоў. З бліжніх сухастоін, ратуючы задымленыя гнёзды, у сівое неба ўзняліся, несучы ў дзюбах ахопленыя агнём галінкі, вялізныя азёрныя буслы, умомант перанеслі агонь у бліжнія весі. Тыя адразу ж успыхнулі, засцілаючы хмызнякі чорным дымам, што зашыпеў, спаўзаючы гарачымі языкамі ў перапоўненыя крывёй яміны. Даўкі смурод спечанага мяса паплыў да самых вербалозін.

І вось тады ў загуслай ад тлустае гары паўдзённай спёцы, працяўшы немым крыкам і лясныя нетры Ваўчынага Логу, і рыбныя тоўшчы Званіцы і магутнай Дзвіны, скалануўшы ўсё Вяліке Поле, над воямі, ужо звар'яцелымі ад паху і салёнага прысмаку крыві, паўстаў, з хрустам наступаючы капытамі на плечы і прыкрытыя адно тонкімі шаломамі галовы ратнікаў, сам іспра. Пайшоў праз дым па сваёй смяротнай пожні, рассякаючы сякерамі, пратыкаючы стрэламі і дзідамі, раскройваючы мячамі жывыя целы да белых костак. Ішоў пад енкі і жалезны бразгат да таго часу, пакуль выцягнутая з прорвы мінулых летаў нянавісць паміж палачанамі і Кіевам не выбухнула такім крывавым, завостраным слупом, што той прашыў серабрыста раскрылены статак лятучых воблакаў, сягнуў, ударыўшы ў вышыню, падуладную толькі Анёлам. Святыя абярогі крывіцкага краю хітнуліся. Тады адразу ж, схапіўшыся за сэрца, полацкая ігумення Еўфрасіння раптоўна аслабла. Маліла перад абразом Апякункі аб літасцівым прасвятленні розуму, тут жа адчуўшы на вуснах палкі вугольчык. І зразумела, Чыя гэта… сляза.З цяжкасцю паднялася на аслаблыя ногі.

Сястра Еўдакія тым часам увяла ў келлю схуднелага грэцкага манаха з вялікім бізантыйскім крыжам на грудзях, і ігумення адразу ж ступіла насустрач.

— І запытаю ў брата нашага пра здароўе імператара і імператрыцы. Столькі мужнасці і цярпення патрабавалася, каб адолець табе цяжкі і доўгі шлях.

— Спярша быў у Кіеве, гаварыў пра неабходнасць памацнення веры хрысціянскай у вашых землях.

– Дзеля гэтага спярша трэба перапыніць нянавісць паміж стальцамі. Князі, суроднікі, гразнуць у багне сквапнасці і ўладалюбства.

— Аднак ведаем мы, сястра, пра памацненне абіцелі вашай, што мудрасцю ігуменскай наталяецца. Спазнаныя і пра несумненны ваш уплыў на волю князёў тутэйшых. Суцішваеш, святлейшая, хоць і леты твае маладыя, дух буяны многіх зроднікаў. — Пакланіўся:

— Таму, верачы ў міратворнасць духу і вернае служэнне тваё Хрысту, Госпаду нашаму, прыношу ад імператара і ўладыкі вялікую падзяку і запэўненасць у тым, што ігумення заўсёды будзе мець нашу падтрымку. Нахіліла галаў.

— Мушу паведаміць матухне пра самыя рашучыя намеры кіеўскага стальца дарэшты скарыць полацкі. Адгаворваў ад таго Кіеў, але яшчэ не знайшоў паразумення, аб чым шкадую.

— Пакуль не адбаліць, пакуль не прарве гэтая гнойная сукравіца, не ўціхаміранца князі. Але скажу — што маю зрабіць, тое спраўджу.

— Так цяжка мне, святлейшая, выканаць яшчэ адзін абавязак... Бо пасланы перадаць, што бацька твой, генерал Бізантыі, князь Полацкі Георгій, адвагаю ўславіўшы ўвесь род Ізяслававічаў у бітве з сарацынамі, быў смяротна паранены і з усімі пашанотамі, у прысутнасці імператара з імператрыцаю, пахаваны ў склепе Святога Лукі ў годзе ад Нараджэння Божага адна тысяча сто трыццатым. Пасылалі ганца да цябе, але не ведаем, ці дастаўся той да весяў вашых.

Змеціўшы стрыманасць Еўфрасінні, якая адно страшна пабялела, пасланец працягваў:

— Праз лета ў тым жа склепе пастаўлены намі і саркафаг маці тваёй, якая, нягледзячы на падтрымку і спагаду нашу, не вытрымала гора.

*"... прылучы, Госпадзі, Георгія, бацьку нашага, і маці Сафію да слугаў Сваіх, бо прайшлі шлях жыццёвы ў любові і веры. Не адкінь і апошняй ахвяры іхняй у далёкай Бізантыі, і выбач ім, грэшным, усе правіны, вольныя і нявольныя, і супакой душы іх у вечнай славе Тваёй."*

Толькі калі пасланец імператара, дапіўшы ўзвар, выйшаў, яна паволі асунулася на калені. Але ў дзверы зноў зазірнула Еўпраксія.

— Страшная бойка ідзе на Вялікім Полі, сястра. Сава ганца прывёз.

У дашчаных латах, ледзь трымаючыся на нагах ад стомленасці, праз парог ступіў цівун Трошка і, адвесіўшы паклон, хітнуўся:

— Вітанне, святлейшая, ад брата-князя Васількі, які перабыўшы ў жмудзі цяжкія леты выгнання, вярнуўся і гоніць, хвала небу, кіеўскіх, смаленскіх і навагародскіх ваяводаў ажно да ніжняй Дзвінскай прыстані. А веча полацкае пасылае мацеры Еўфрасінні просьбу ўмовіць брата свайго прыняць сталец!

– Еўдакія, скажы Саве, каб коней не выпрагаў.

— Не едзь туды, сястра. Пра нас падумай.

– І штодня... І штохвілі клапачуся...

* * *

Прыціскаючы да грудзей Евангелле, яна ішла раз поле сечы, задыхаючыся ад гары, што клубкамі падымалася ад зямлі. Спынілася, змеціўшы над сабой вогненную дзіду.

— Ізыдзі, іспра! — Праз усё сп’янелае ад крыві, жалезнага бразгату і стогнаў сечавое поле праносіліся д’ябальскія віхры, але ігумення, стоячы перад агромністай полымнай фігурай з чорнымі рагамі, зноў гучна паўтарыла:

— Ізыдзі ў прорву сваю! — Не выпускаючы з рук крыжа, ішла.

*“Уладару Нябесны, Пацяшыцелю, Духу Праўды, што ўсюды ёсць і ўсё напаўняеш, Скарбніца дабра й Жыццядацелю, прыйдзі й усяліся ў нас, ачысці нас ад усяго благога, і ратуй, Добры, душы нашы.”* — Пякучая гаркота сляпіла вочы:

— Ізыдзі, д’ябал! Пакінь зямлю крывіцкую!

Маці Нябесная, азіраючы зямныя гоні, праз крывавыя хмары над Полацкам угледзела лавы нябожчыкаў: скрушна схіліўшы галаў, працягнула да вояў руку з крыжам, і ўсе ў Полацку адразу ж змецілі, як чорны дым пачаў сплываць за пачырванелую ад крыві раку. Сеча — кончылася. Убачыла тое і ігумення.

— І сказана: “...станьце, апаясаўшы сцёгны вашыя праўдаю і апрануўшыся ў браню праведнасці.”— Стаяла на ўскрайку поля, апусціўшы галаў.

Князь Васілька разгарачана саскочыў з каня і ўпаў перад ёй на калені, апусціўшы галаву на Евангелле.

Укленчыўшы побач з братам, паклала на пругкія кучары руку.

— “... і абуўшы ногі ў гатовасць абвяшчаць мір...”

— Дапамажы, Прадслава... — Плечы маладога князя ўздрыгнулі.

– “… а найперш, — сказана: “…вазьміце шчыт веры, якім зможаце пагасіць усе распаленыя стрэлы ліхадзея.”— Абапіраючыся аб руку Васількі, нарэшце скіравалася да манастырскага вазка.

— “… і шалом ратунку вазьміце, і меч духоўны, які ёсць Слова Божае…”

— Адмалі грэх мой цяжкі, сястра.

– “… апранайцеся ў поўную зброю Божую, каб вам можна было стаць супроць віжовак д’ябальскіх…”— Ногі слізгалі па скрываўленай зямлі.

— “ …І ўсякаю малітваю і просьбаю маліцеся ў любы час духам…”

— У імя Тройцы міласэрнай, прысягаю, сястра, што мір прынясе род наш.

… Неба над Полацкам пачынала цямнець. Манастырскі вазок мінаў сечавае поле, і цэлыя лавы палеглых плячо ў плячо на гэтай вытаптанай і няшчадна скапычанай, мокрай ад крыві зямлі вояў, над якімі ўжо кружыла ненасытнае вараннё, з усіх бакоў асочвалі ігуменню і яе брата-князя сваімі нерухомымі позіркамі, чакаючы малітвы.

— Не ўсмерці болей нікога, Васілька!

## РАЗДЗЕЛ 6.

Расхістаная няроўнай галілейскай дарогаю павозка няшчадна зарыпела і моцна нахілілася. Асан, саскочыўшы на зямлю, пачаў правяраць колы. Тады ўслед за ім усе падарожнікі з радасцю ступілі на цвёрдую камяністую зямлю блізу высокай скальнай сцяны, зрашэчанай, як сотамі, мноствам вузкіх пячор. Асан папраўляючы кола, сказаў, што якраз з гэтых пячораў і пачынаўся той манастыр, куды яны едуць. Тутэйшыя пустэльнікі, аднак, ужо даўно перасяліліся на Ерыхон ці ў Ерузалім, падараваўшы свой будынак галілейскім чарніцам.

Ехаць заставалася зусім мала, і Еўфрасіння з задавальненнем праходзіла ўздоўж даўняй манаскай сцяны, нібыта хацела ўбачыць хоць бы цені тых, хто так доўга, аддаліўшыся ад жыцця будзённага, у адзіноце і малітве рыхтаваўся да сустрэчы з Ім. Дужы Міхал, зняўшы манаскую хламіду і акрыўшы плечы звычайнай світкаю, дапамагаў Асану. А яна, яшчэ не астыўшы ад успамінаў пра тую страшную бойку за Полацкам, праходзіла ўздоўж намоленых пячораў, напаўняючыся мяккім сонечным дыханнем Галілеі. Прыслухоўвалася да высокага неба і нечакана дапраўды пачула ў гэтай далёкай ад

Полаччыны Святой Зямлі надтрэснутыя галасы, што даляталі сюды, здавалася, ад колішняга, ужо зарослага травою рэчышча Дзвіны, пазначанага адно вялізным каменем, на якім сам князь Барыс высек свой крыж.

Гэтаму магутнаму поклічу тут жа азваліся і іншыя, параскіданыя па ўсім княстве каменныя вартаўнікі. Азваўся нават той варшанскі, абмыты Дняпром, зроднік скрываўленых камянёў Нямігі, што так добра помніў дзень, калі вялікі полацкі князь Усяслаў, спадзеючыся ўсталяваць мір, паверыў у клятву Яраслававічаў: Ізяслава Кіеўскага, Святаслава Чарнігаўскага, Усевалада Пераяслаўскага. А князі, таемна змовіўшыся, каб збыцца ўрэшце моцнага супраціўніка, нават знаку не падавалі аб сваіх здрадлівых намерах. Стаялі на супрацьлеглым беразе ў акружэнні верных ваяводаў і клікалі, цалуючы каменны крыж: "Плыві сюды, Чарадзей! Плыві да нас, браце."

... Палачанін урэшце паверыў, даплыў да іх і, выпіўшы вялізны коўш мядовае сыты, з гучным рогатам зваліўся на разасланае мядзведжае футра адпачыць. Прачнуўся, аднак, у глыбозным порубе з кайданамі на руках і нагах. А потым і князь Глеб, схоплены падчас ганебнага захопу Менска, таксама спазнаў Манамахаў гнеў у катавальні, дзе і памёр у скрусе і жальбе. Здавалася, што Кіеў з Полацкам ужо ніколі не сустрэнуцца другамі. Але настаў час, калі шлюб Васількавай дачкі Марыі і кіеўскага княжыча звёў нядаўніх ворагаў за адзін стол. Тады, да вялікай радасці Еўфрасінні, у Полацк з цэлай ладдзёю дароў, трыма атрадамі баяраў-дружыннікаў і кіева-пячорскімі манахамі прыбыў сам вялікі Усевалад. На вясельную вячэру, разам з кіеўскімі гасцямі, скіравалася ў княжы палац і яна. Але, доўга не заседзеўшыся за сытым сталом, ціха развіталася і выйшла ў падворак, прашалясцела хадачкамі па сцежцы, знікаючы ў глыбокай раніцы.

Перад ад'ездам кіеўскія зроднікі запрасілі палачан у адведкі, і Еўфрасіння паабяцала прыехаць: Кіеў сапраўды прыцягваў манаскай лаўраю найпадобных Антонія і Фядосія. Абяцала, што выправіцца ў госці як найхутчэй, але ў гэтым прыцягальным вялікакняжым горадзе апынулася толькі напрыканцы жыцця, зрабіўшы невялікі прыпынак перад далёкай дарогаю ў Ерузалім.

## РАЗДЗЕЛ 7.

... У Кіеве стаялі пагодныя ласкавыя дні, і перад ад'ездам з " Брачыслававага двара" Еўфрасіння надумала яшчэ раз наведаць пячоры: у суправаджэнні чарняца спусцілася да святых мошчаў. Стаіўшы дыханне, пачула

басісты манашы спеў, што далятаў сюды з верхняе царквы. Лаўра жадала палачанам Боскае спагады і Анёла-ахоўніка. А яна папрасіла ў чарняца дазволу застацца ў пячорах на адзіноце, пакінуўшы сабе толькі некалькі свечак. Апусцілася на калені, надоўга заглыбіўшыся ў малітву; ужо не заўважала, як мінаюць гадзіны.

Ад цёмнай сцяны вузкага скляпення сыходзіла ледзь улоўнае цяпло. Адкрываючы ў сэрцы патаемны востры зрок, якім яшчэ ў сваёй ігуменскай келлі заўсёды сягала ў малітве да святых таямніц, урэшце сапраўды змеціла на шурпатай сцяне выразную выяву невераемна схуднелага, аброслага доўгаю барадою і валасамі аблічча. Не была пэўная, ці сапраўды прыбачыла самога айца Лаўры, але тут жа вымаляваўся яшчэ адзін абрыс, а слых нечакана ўлавіў глухаваты шэпт: “Не дайце мяне, брація мая мілая і любая, не дайце мяне… Памілуйце, пашкадуйце маладосці мае, злітуйцеся, бо плоццю ўстрапянуўся я перад вачмі смерці. Злітуйцеся і будзеце гаспадарамі мне, а я вам — рабом. Толькі не дайце мяне. Бо, як немаўля Віфлеемскае, смерцю спавядаю Слова…” Схопленае русай бародкаю маладое аблічча прымары нагадвала аднаго з братоў-пакутнікаў, усмерценых братам Святаполкам з-за княжага стальца. Ці не сам князь Барыс гэта, ахвярны сын Уладзіміра? Той, хто змагаючы адважна язычнікаў-печанегаў, пакорліва схіліў шыю перад братавым мячом на беразе Альты, дзе заставаўся пад аховаю аднаго толькі венгра Георгія. Альбо, можа, Глеб гэта, забіты пад Смаленскам? Яна і дапраўды прыбачыла схіленага над сталом юнага княжыча з глыбока ўсаджаным у шыю кухарскім нажом: забарвяніўшы дняпроўскія хвалі, з глыбіні часу плылі патокі крыві. “Брація, брація, мая мілая і любая, крыху яшчэ мне часу дайце, адно памаліцца Богу майму…”

Нахлынулыя відзежы перапыніў голас, што, здаецца, улятаў сюды з вышыні. На сцяне яшчэ раз аб’явіўся суровы абрыс Антонія, уладыкі царства манаскага. Суровы і цвёрды воляю, як тыя камяні, з якіх складзены Бізантыйскія манастыры, дзе пабожны інак знайшоў некалі выратаванне — тую малітву пустэльніка, якую потым узносіў у неба разам з галасістым хорам кінавітаў. Перад вачмі Еўфрасінні замільгала восеньская лістота, здзьмухнутая ветрам ці не з галін полацкіх клёнаў. Узрадаваная, удыхнула так глыбока, што ледзь не закашлялася. У грудзі ўдарыла гарачая млосная хваля.

Ад нечаканасці нават адхіснулася, змеціўшы спакуслівы бляск палкіх вачэй ў куце, які пазнала адразу ж: “Літасцівы Божа, няўжо і цяпер, на сыходзе жыцця, будзеш выпрабоўваць мяне, дапусціўшы ў гэтае святое месца д’ябла, каб учарніў, зганьбіў, устрашыў, абылгаў?..” Чырвоныя вочы апраметнай ўжо гарэлі на сцяне насупраць. Жагнаючыся, не спыняла малітвы, але перад вачмі нечакана паўстаў

пачварны рагаты з бародкаю, што ўвачавідкі мяняўся і ставаў пячорнікам, якога ўбачыла… нахіленым над белай козачкаю. Трымаючыся за рожкі жывёліны, біў няшчасную ззаду сваім чрэслам, закотваючы ад асалоды пабялелыя вочы. “Ойча, Хрысце, Божа наш, злітуйся і адвядзі Духам Святым ад смяротнага граху.”

Казлападобны рассмяяўся, але яна зашаптала малітву да Багародзіцы, і пачвара пачала знікаць. Праз сцяну пячоры зноўку праступіў суровы святы абрыс: “Але не цярпі аніякага мяцяжу і славесяў марных!” Гэта быў сам Фядосі, падобны і да Яна Хрысціцеля, і да тых палестынскіх святых, якія ўсё жыццё будавалі з камянёў адзіноты і малітваў школу ратавання ад д’ябальскіх спакусаў.

Па вуснах пацягнула свежасцю; расплюшчыла павекі, змеціўшы над сабою звонкі клін серабрыстых птушак, але той ужо знікаў, губляўся ў гушчыні зорак. Тады зноў убачыла цемру: быццам жывая, паволі сціскала і яе. Зразумела, што гэта ўжо новы відзеж. Маладзенькі манах нецярпліва прыспешваў муляраў, якія нехаця закладвалі каменнем уваход у яго, і без таго вузенькую, келлю. Застаўся толькі верхні прасвет у адзін камень. Нарэшце звонку данесліся толькі галасы майстроў, якія аддаляліся. А манах, адразу ж укленчыўшы, пачаў шаптаць выратавальны трапар. Праз акенца келлі прасачыўся тонкі, бы травіна, узвіў мяккага вечаровага ветру, бліснуў ражок маладзіка: пустэльнік адпоўз у глыбіню сваёй пячоры. У вузкі манаскі поруб уляцеў неасцярожны камар, зазвінеў уедліва. А манах ужо распрануўся і пачаў нацягваць на сябе сырую авечую шкуру, што ляжала ў самым кутку. З цяжкасцю стаў на калені, ахвярна замёр, чакаючы, калі новая апратка пачне ссыхацца. Ноч мінала, і чарнец на імгненне заснуў, але ў сон яго тут жа ўступіла гожая, без аніякага покрыву, з вялікімі грудзьмі і белым гладкім жыватом, маладзіца — разлеглася, пачаўшы расхінаць калені…

“Прэч, д’яблава семя!” Полацкая ігумення ўскрыкнула гэта ў адзін голас з манахам, які нечакана заплакаў: “Паслухай, малюся за цябе, сам убогі, але ведай, што люблю толькі цела Хрыстова і цалую толькі раны Яго крывавыя. І ніколі, маці, не скіну валасяніцу сваю, і не буду спаць на рэбрах, бо адно аб крыжы сваім мрою…” Авечая шкура, ссыхаючыся, не давала дыхаць, тады застагнаў: “Ідзі адсюль, пакінь дух мой! Хіба не бачыш, як б’юся аб зямлю, д’ябла выганяючы?.. Бо я ўжо даўно вольны ад цябе, маці. Ідзі, каб аддаў я цела з-за грахоў людскіх на спажыву дзікім восам! Ідзі ад мяне. І толькі на Святы Вялікдзень з’еж хлеб, спечаны ў мёдзе і макавым алеі. А ў цяжкія дні ідзі толькі да святога Фядосія, прасі хлеб палыновы, бо

з рук яго смачнейшы за соты. І — еж, каб прыйшлі да цябе, маці, каянне і малітва!”

Аўчына на маладзенькім манаху ўжо настолькі ссохлася, што пачала трэскацца, расцінаючы цела пакутніка. Тады, не вытрымаўшы гэтага жахлівага болю, які пераліваўся і ў яе цела, Еўфрасіння апусціла галаву, згадваючы ўласныя пакуты ў Сяльцовай келлі. А манах убіваў позірк у цёмную сцяну поруба і гарачкава шаптаў:

“Божа міласэрны, пазбаў ад дэманаў, бо пераступіў я даўно зямную ўслодыч, прымаю толькі прасфору праз дзень, аддаліўшыся ад жорсткага жыцця ў гэтых чатырох локцях.”

Перад інакам бліскае, шырыцца, рассявае зыркія прамяні дзівосны воблік анёла. Тады, укленчыўшы, чарнец б’е паклоны, ажно кроў з разбітага ілба цячэ па шчоках. Толькі адкуль гэткі смурод, едкі, што сера, які не зблытаеш ні з якім іншым, адкуль гэты стогн апраметнага бяздоння?

...Яна ўжо ўбачыла падман: “Спыніся, брат мой!” Але інак, ахоплены радасцю, ніяк не можа ўгледзець пагрозу. Нарэшце, зразумеўшы, хто прыйшоў да яго, адступае ад сцяны: “ Ах, ты мяне ўсё ж спакусіў, д’ябал, ах-х, гора мне ад ілжывага бляску твайго.” Рагоча, плача, зноў смяецца, разрываючы на сабе старую вопратку, кідае яе на ланцугі вярыгаў, што ляжаць тут жа каля сцяны:

“Злітуйся, даруй, Госпадзі, і ўратуй мяне ад гардыні!” Ілжывая прымара знікла. Але зорачкі, малюючы на пячорнай сцяне яшчэ аднаго чарняца, мігцяць. “

...Агапій-лечац, які гаіў раны і вяльможным, і смердам, бо ўсе роўныя перад пакутамі і хваробамі цела, ці не ты гэта? Як жа часта ў сваім полацкім галубцы , думаючы пра святасць і грэх лекавання, малілася я табе!”

Сырасць Лаўры пачала скоўваць плечы, але, насуперак яе волі, прабіваючы цвердзі, у глыбокія сховы ўжо ўплывалі вастрадзюбыя чырвоныя чаўны, на адным з якіх паўставаў вясляр, дужы і моцны, як святы Сава.

... Памяць успыхнула так ярка, што памкнулася затуліцца ад яе густой сеткаю цемры. Тады азірнулася на трапяткое святло свечкі, што ўжо дагарала на прыступцы выхаду. Падняўшыся на здранцвелыя ногі, ступіла колькі крокаў наперад, глыбячыся ў таямніцы Лаўры.

Ракі, з якімі так доўга яна перамаўлялася, былі змешчаны ў вузкіх, высечаных у сцяне каўчэгах, акрытыя чорным простым радном, ад чаго нятленныя мошчы здаваліся амаль дзіцячымі... Расхваляваная, ішла і чула, як шалясценне, наплывы галасоў: “...калі

прадзеш воўну, псальмы спявай… і будзі негняўліва, і міласэрда, і ціха, усёй душою, усімі думкамі звяртайся адно да Госпада нашага. І ўсё аддавай Богу, і ўсяго чакай ад Бога.” Прыгледзеўшыся, убачыла над мошчамі рэдзенькае сяйво, што сыходзіла з каўчэгаў і срабрыста струменіла над ракамі, паціху запаўняючы пячору. З любасцю ступіла ў празрыстасць гэтага зіхоткага святла. Пячорныя шэпты дабраслаўлялі: “Ідзі”. Асцярожна, пачуўшы крокі звонку, заспяшалася да выхаду. Чарнец, асвятляючы прыступкі выхаду свечкай, нецярпліва пакашліваў. Убачыўшы, як важка яна падымаецца, падаў руку. Заспяшалася насустрач.

… Толькі навошта зноў прыходзіць у яе памяць той, чый воблік, здавалася, ужо даўно змыты начным заслаўскім дажджом? “ Як імя тваё?” “Кмет Сава я, уладычыца.” Але хіба пра яго варта цяпер згадваць? Ёй, ссівелай ігуменні-паломніцы? Ці пра Саву трэба было думаць каля пустэльнікаў святой Лаўры? “Чаму ж маўчыш, Маці мая нябесная, няўжо ані слова не выдыхнеш з міласэрных вуснаў Сваіх, каб збылося нарэшце маё сэрца пакутлівае віны? І таго пякучага ўспаміну.

## РАЗДЗЕЛ 8.

– Хіба забыла ты, Еўфрасіння, што Айцец сказаў ?
– “ …і будуць прарочыць і ацаляць імем Духа Святага…”
– Час настаў – пачуй голас здалёку, пачуйспеў любові свае:

*Рукі любові робяць арган над берагам Ярданскім.*
*Пальцы жарсці ладзяць псалтыр пасярод прорвы смяротнай.*
*Пахвалі ж любоў чалавечую гукам трубным.*
*Пахвалі яе струнамі і кімваламі гучнагалосымі.”*

* * *

Фурманка з рыпучым скураным верхам павольна ўплывала ў чорную ноч Заслаўя, і цемра вакол здавалася такой густой, што можна было толькі падзівіцца, як яны, выехаўшы з Полацка колькі дзён назад такім жа ўедлівым ліпучым дажджом, не збіліся з дарогі. … Выехалі сапраўды спешна, пасля нечакана гнеўнага веча. Еўфрасіння яшчэ раз праверыла, ці на месцы пасланне баяраў, і тут жа супакоілася.

Коні, натомленыя холадам і цемрай, спуджана храплі. Адно фурман Сава ў доўгім манаскім жупане і войлачнай шапцы трымаўся

ўпэўнена. Толькі зрэдку азіраўся на ігуменню. А яна пільна асочвала цёмнае наваколле, нібыта хацела ўбачыць у глыбіні ночы тое, што, здавалася, ужо даўно зблякла ў памяці. Але заслаўскі дождж усё шумеў і шумеў, вымываючы са споду глухой цемры малюнкі яе далёкага маленства ў доме старога князя. Сэрца замірала. Тое далёкае, такое цёплае і ласкавае, з высокімі пахучымі ліпамі і гарачымі арабінамі блізу княжай камяніцы, аказваецца, не забылася, а толькі ціха стаілася ў душы, і вось успыхнула: штоночы, помніцца, усцяж ахоўнай сцяны вартавыя з яе маленства палілі высокія вогнішчы…

Цяпер, пад'язджаючы да княжай сядзібы, яна ўзіралася ў цемру, чакаючы ўбачыць тыя далёкія агні, але стары валадар даўно памёр, а князь Расціслаў на даўнія звычкі ўжо не зважаў. Амаль адначасна, пасля чумы, пахаваўшы жонку і маці, Расціслаў гадаваў у Заслаўі адзіную дачку Вольгу. Але тыдзень таму быў змушаны выслаць ганца ў Полацк да Еўфрасінні. Зразумеўшы, у чым прычына такога спеху, яна, пакінуўшы манастыр на сястру Еўдакію, выехала ў той жа дзень.

Дарога была няблізкая, неба праз увесь шлях маўчала — аніводнай зоркі, ані знаку з'яўлення маладзіка. Толькі халодны дождж, такі ж важкі, як і гэтая густая ноч. Але іх — чакалі. Зусім блізка пачуліся радасныя галасы. Фурман кракtануў і азірнуўся: нават у цемры разгледзела шырокае, наўскос рассечанае глыбокім шнарам светлабародае аблічча манаха-маўчуна. Сава ўсміхнуўся і саскочыў на зямлю. Абаперлася на яго руку, сышла з абрыдлай павозкі, да якой ужо спяшаўся з бляклым ліхтаром задыханы і ажно шэры ад радасці і доўгага чакання князь:

— Гасподзь літасцівы, сястра. Дачакаліся…

Перажагнаўшыся, увайшла за ім у асветленую запаленымі перад абразамі васковымі свечкамі камяніцу. Зняла накідку. Князь тут жа знік у бакавых дзвярах. Тады агледзелася. Гэта была невялікая каплічка, куды яна прыходзіла яшчэ падчас вучобы ў Данілавай школе. Амаль пасярэдзіне яе, на засланай светлаю коўдраю шырокай лаве ляжала маладзенькая, гадоў чатырнаццаці, юніца ў доўгай светлай апратцы — княжая дачка. Здавалася — спіць. А Еўфрасіння ўжо абыходзіла капліцу, якую Глебавічы збудавалі яшчэ ў даўнія леты, прыкладвалася да абразоў. Крыху зводдаль ад хворай дзяўчынкі стаяла двое паважных, у шоўкам расшытых шатах святароў, з якімі ветліва і радасна павіталася. Было яшчэ двое ў вельмі простым адзенні, але добра ведала і іх: лекар Раман з Кіева з вучнем. Ціха перашэптваліся і пераглядваліся. Нізка пакланіўшыся, павіталіся з ёю здалёк. Значыць, усё блага.

А да яе ўжо вяртаўся з бакавых дзвярэй сам князь, з непакрытаю галавою і з чырвонымі ад бяссоння вачмі. Паднёс кубак журавінавага напою. Прычыніў за сабою важкія рыпучыя дзверы. Прыселі на прысценкавую лаву блізу самага выхаду. Яшчэ даволі малады, Расціслаў ледзь стрымліваў трымценне рук. Заспяшаўся:

— Я перадам табе, маці-ігумення, для манастыра два крыжы, залаты і сярэбраны, і яшчэ абраз Апякункі нашае. Усё аддам.

— Не мне аддаеш, князь... — годна, але з іскрынкамі здзіўлення ў вачах схіліла да Расціслава галаву.

— І яшчэ, як і пісаў, перадам у Полацк нядаўна закончаны абраз Найсвяцейшае Тройцы. Але...

— Але? — Журавінавы напой ачысціў дыханне. — Што сталася? — кіўнула на князёўну. — Чаму тут ляжыць?

— Да малітвы і святых абразоў бліжэй.

— Не варта рабіць так. Збудуй лепей для ўсіх нямоглых асобны харом лекавы, князь. — Зноў зірнула на хворую: — Ці даўно заснула?

— З вечара яшчэ. Выпіла макавы настой. Толькі апошні тыдзень прачынаецца з такімі пакутамі, сястра. Памірае.

Лекар, пачуўшы апошнія словы князя, сумна зірнуў ў іх бок, але працягваў стаяць каля князёўны. Расціслаў яшчэ больш спахмурнеў:

— Невылечную хворасць сэрца прызнаюць. І хуткую смерць.

— Усе мы ў руцэ Боскай, князь...

– Табе не казалі, што да продка нашага, Усяслава, ты надта ж падобная? І яна, — кіўнуў на дачку, — таксама! Вочы тыя ж.

– Толькі ў кожнае, бачыш, лёс інакшы, браце...

Расціслаў нічога не адказаў; тады схіліла голаў, моўчкі ўхваліўшы гэтую годную стрыманасць. А князь, не адолеўшы засмучэння, абхапіў далонямі вялікі бліскучы лоб:— Прашу, зайдзі да нас, міласэрная. Адпачні з дарогі.

Лекары і святары, якія стаялі каля ачмурэлай ад макавага зелля хворай, кідалі на полацкую госцю здзіўленыя позіркі, свечкі пад абразамі гарэлі патрэскваючы, быццам падавалі знак аб смяротнай пагрозе. Тады ўслед за князем выйшла. Але, пасля кароткага адпачынку ў маленькай бакоўцы, перамяніўшы вопратку, вярнулася ў капліцу. Расціслаў быў яшчэ тут:

— Колькі казаў ёй: не знайся з паганцамі. Ужо ў травені купаліся ў Свіслачы! А потым ... гэтыя зборні ў лесе з вогнішчамі.

— З Боскае волі, падыду да твае дачкі, брат, але не чакай цуду. Не да твару нам у такім гандлі з Госпадам рашаць яе жывот. Бо ўсё ў руках Ягоных. Вазьмі вось.

Выняўшы з шырокага рукава пергамін, аддала яго Расціславу: — Гэта табе, князь. Пасланне ад палачан. Рагвалод, пляменнік наш, усё не суцішваецца.

Зноў глянула на хворую, якая за ўвесь гэты час нават не варухнулася. Расціслаў сарваў пячатку і разгарнуў пасланне, прачытаць якое з-за слёз, што збягалі ў куточкі вачэй, не змог. Апусціў моцна аблыселую не па гадах галаву ў далоні: – Ой, сястра.

Ноч грозна шумела за сценамі каплічкі дажджом і ветрам. Свечкі пад абразамі трапяталі тонкімі язычкамі. Тады, яшчэ такая ацяжэлая пасля доўгай дарогі, полацкая ігумення паволі скіравалася да хворай і ішла так ціха, што, здавалася, ледзь рухае знямелымі нагамі. Аднак з кожным крокам усё больш выпроствалася. Наблізіўшыся да юніцы, глянула на яе белы тварык. Міжволі перавяла позірк на лекара: той адно ўздыхнуў і развёў рукамі. Замерла: праз капліцу прашапацеў глухі шэпт: — “Ойча наш...” Ужо ўшчыльную наблізілася да лавы з юніцаю. Не згаворваючыся, абодва святары і госці з Кіева, сам князь адступіліся да дзвярэй, заціхлі. Амаль не дыхалі і грыдні з княжай дружыны, што неўпрыкмет праціснуліся ў капліцу. Стаялі купкай пад вузкім, залітым празрыстай слюдою акенцам.

А полацкая госця тым часам ужо нічога не заўважала, схіліўшы голаў у сваёй бясконцай малітве. І ніхто не мог сказаць, колькі часу мінула. Падняла позірк перад сабою на вялікі абраз Выратавальніка і яшчэ на абраз Маці Божай, зноў прыкладася да ранаў Хрыстовых. Вярнулася да маладзенькай Вольгі, перапоўненая святлом укрыжавання, падняла рукі над прыспанаю паміраючай. Праз тоненькія рыскі рэбраў адчула сэрца, што білася роўна і поўна. Аднак у самой яе так моцна закалацілася ў грудзях, што застагнала. Бачыла іншыя здаровыя органы маладога цела. Шукала хваробу. І вось уздрыгнула — торкнулася рубам далоні ў пругкую заслону над ныркамі, дзе ў пухіры чарнела страшная нячыстая сіла. Затрымцелі пальцы. Адчула, як на ілбе выступіў пот; цела пакрылася ліпкай слабасцю ужо не магла адвесці рук ад гэтай чорнай смяротнай цвердзі ў нырках. Тады шчыльна склала далоні, адчуўшы, як працягам іх стае жывы вострі промень. З блаславення Апякункі, уся знерухомеўшы, пачала рассякаць плоць юніцы, пранікаючы ўсярэдзіну, але не так, як гэта робіць меч ці нож, а так, як тое здольна рабіць моца малітвы: праходзіла праз здаровыя тканкі да смяротнай д'ябальскай чарнаты. Нарэшце паціху абвалакла, як цянётамі, абхапіла пухліну нябачнымі воку пальцамі і, намогшыся, павольна і асцярожна пацягнула, стогнучы і абліваючыся жарам. Пакуль не зрушыла з месца чорную ігрушыну, што з кожным яе намаганнем усё болей святлела. Але вось яна замерла і нарэшце зрабіла той, апошні, рывок, ад якога хворая ажно войкнула і тут жа паружавела.

Усе, хто быў у каплічцы, лекары і святары, малячыся, і сам князь у акружэнні грыдняў, не наважваліся падступіцца бліжэй. Увесь час са здзіўленай радасцю і затоеным жахам пазіралі на госцю. Толькі Сава кашлянуў. Белая, што снег, Еўфрасіння перавяла позірк на лекара Рамана з Кіева:

— Хворасць вялікая, бо ўсялілася ў юніцу сіла апраметная, у нырках была. — Глянула на князя. — Але няма ўжо яе па волі Боскай. Хутка, — кіўнула на Вольгу, — прачнецца, будзе служкай Хрыстовою. Так наканавана. Толькі не прымушай і сілаю ад паганскіх ігрышчаў не адцягвай. Сама адвернецца.

Праз хвіліну ўсе разам: і абодва святары, і лекары з Кіева, і княжая чэлядзь, што выбегла з бакавых дзвярэй, і дружына ў бліскучых латах — шумна ўзрушаныя, уваходзілі ў прасторную залу да стала, застаўленага пітвом і ежаю: смажанінай і вэнджанымі вуграмі, фаршыраванымі гусінымі шыйкамі, белымі грыбамі. Яна сапраўды пасядзела крыху: з'ела мёду, што нацёк з сотаў у гліняную місу. Пакаштавала смажаныя грыбы, мочаныя яблыкі, журавінавы напой. Потым папрасіла адвесці яе ў тую ж маленькую бакоўку, дзе пажадала адпачыць. Склаўшы на грудзях рукі, прылегла. І адразу ж задрамала, уплываючы ў такі знаёмы трапяткі спеў.

*“Над рэкамі Вавілона, там, сядзела, з плачам,*
*я, любові любоў твая. Бо руйнуюць любоў ужо.*
*На вербах  павесіла я арфы свае. А тыя, што*
*мяне паланілі, песняў ды весялосці патрабавалі.*
*Як жа спяваць мне, скажы, калі ў сэрца*
*атруту здрады і хлуслівасці ўлілі?”*
*“Чулі пра любоў любові твае ў Эфраме.*
*Знайшлі любоў на палях Ярыма...*
*Святары Любові апранаюцца ў праўды праменне.”*

*“Пахвалі ж любоў чалавечую гукам трубным.*
*Пахвалі яе струнамі і кімваламі гучнагалосымі.”*

*“Каб не было любові з намі, паўсталі б на нас людзі,*
*жывых бы нас праглынулі, калі б загарэлася ятра ў іх*
*на нас; воды патапілі , паток бы прайшоў над*
*душою нашаю... Дабраславёны Гасподзь, які не даў*
*нас на здабычу іхнім зубам.*
*Душа наша вылецела, як птушка з сеткі лаўцовай;*
*Сетка парвана, і мы – вызваліліся...”*

* * *

...Яна не паддавалася аніякім угаворам і просьбам князя, і той, уздыхнуўшы, выслаў слугу да павозкі — паставіць кошык пітва і ежы ў дарогу. Асобна паклалі абразы, загорнутыя ў радно. За дзвярыма камяніцы ўсё яшчэ шалела непагадзь, ранішняя цемра перамяшалася з халодным дажджом. Але фурман Сава ўжо рыхтаваўся ў зваротны шлях. Упэўніўшыся, што Еўфрасіння сапраўды не затрымаецца, Расціслаў скіраваўся яшчэ ў адны бакавыя дзверы і тут жа вярнуўся, трымаючы ў руках вялікую скрынку: адразу ж адчыніла вечка, залюбаваўшыся на дзівосна аздобленыя золатам і серабром крыжы. Упершыню за ўвесь доўгі вечар стоена ўсміхнулася. Гэта былі тыя самыя крыжы, якія яна калі-небудзь занясе ў Святы Горад. Каля дзвярэй павярнулася да князя: — Крывёю зямлю і рукі ўмываеце, браты мае, а жыватом сваім плоцяць дзеці і душы чыстыя... — Кіўнула ў бок яшчэ нерухомай Вольгі. — Госпаду нашаму і народу ўсяму крывіцкаму хіба даспадобы, што зроднікі, князі з аднаго кораня... – уздыхнула:

— Пашто ж адзін для аднаго мячоў вы не шкадуеце?

Расціслаў дачытваў пасланне полацкага веча, якое прасіла яго прыехаць і ўмацаваць вялікі сталец.

— Міру чакаю ад цябе, князь Расціслаў. Таму і падтрымала цябе на вечы. Але не забудзь — гнеў Божы, як зброя, з абодвух бакоў вострая.

... Ноч па-ранейшаму была чорная, як дзёгаць, дарога небяспечная, але ад'язджалі, як таго і пажадала, без аховы. Заслаўе залівала дажджом. Пагрозліва блізка шалела паўнаводная Свіслач, аднак ігуменню гэта не трывожыла. Павозка мякка пагойдвалася, і яна адразу ж задрамала, не зважаючы на тое, што халодныя пальцы ранішняй сырасці ўжо адхінулі край скуранога верху і пацягнуліся да плячэй і шыі. Праз дрымоту здалося, што нехта паклікаў:

— Прадслава!.. — Голас ледзь прабіваўся праз шум дажджу, да таго ж, вецер так моцна дзьмуў, што фурманка гучна рыпела. Сава адрывіста кашлянуў. Але не спыніўся. Відно, нічога не чуў. Зрэшты, сапраўды, хто можа клікаць яе сярод гэтай пустэльнай заслаўскай шарасці?

— Прадслава! — Фурман нарэшце пачуў і ад подзіву гучна кашлянуў. Уздрыгнула і Еўфрасіння. Адразу ж спыніліся.

— Прадслава! — Раніца яшчэ не набрала моцы, але мярэжа ужо загусцела. Выглянуўшы з-за скуранога схову, міжволі адхінулася: проста ў твар ёй бліснулі ўзрушаныя вочы незнаёмага. Але праз

імгненне, здзіўленая, пазнала. Нібыта і не было за плячыма цэлага жыцця: праз кусцістыя бровы і нізка апалыя сівыя рэдкія валасы на яе ўзіраліся амаль забытыя, з крапінкамі наўкол зрэнак і шалёным бляскам вочы. Паляцелі насустрач сінімі і чорнымі стракозамі. Праз імгненне пазнала — той самы, але ўжо зусім састарэлы лучнік Кажадуб, які некалі з'яўляўся ў яе маладых снах, страшыў, цягнучы да шыі чорныя пажадлівыя пальцы, а потым, выконваючы загады запалоцкага князя Барыслава, насцігаў дробязнымі, такімі нядобрымі звягамі.

Ён чакаў іх на гэтай заслаўскай дарозе ўжо даўно: быў вымаклы да ніткі, па валасах і сівой барадзе сцякалі дажджавыя кроплі:

— Літасцівая! — Не зважаючы на пратэсты Савы, ступіла, таропка апусціўшыся з фурманкі, на зямлю. Ледзь трываючы ламату спакутаванага за бясконцую дарогу цела, наблізілася да лучніка. А таго ажно калаціла, крыкнуў: — Дай благаславенне! — Прыпаў гарачымі вуснамі да яе рукі. Адчула, што яго са-праўды моцна трасе. Але не ад холаду, а, падобна, ад вар'яцкага шалу. Здзіўленая нечаканаму напльіву трывогі, краем вока сачыла за тым, як на зямлю з фурманкі саскочыў Сава. І тут жа, сарваўшыся з месца, пабег да іх, заспяшаўся, таксама нечым устрывожаны.

Лучнік, звузіўшы вочы, хваравіта насцярожыўся. Тады адступіла ад яго, маўкліва стоячы ў тумане на заслаўскай дарозе ў чорным покрыве, здзіўлена чакала..

А Сава, у расхлістанай простай сарочцы, падбег зусім блізка і абхапіў яе, зніякавелую, дужымі рукамі, адштурхоўваючы і засланяючы, такі шыракаплечы і высокі, ад лучніка. Пачала злавацца. Аднак Сава, недаўменна азірнуўшыся сінімі вачмі, нечакана замёр, таргануўся ўсім сваім вялікім целам, гучна ўскрыкнуў і праз імгненне… пачаў адступаць. Бачыла, як ён надзвычай доўга падае, павольна паварочваецца і марудна выпростваецца на зямлі. Нарэшце, абхапіўшы дарогу шырока раскінутымі рукамі, заціх.

А яна ўсё яшчэ нічога не разумела і не звяртала ўвагі на мітуслівага лучніка, які нізка схіляўся над Савам. І толькі тады раптам убачыла, разгледзела невялікі бліскучы арэхавы тронак нажа, што тырчаў з Сававае спіны, бліскаў паміж крыламі лапатак... Падняла вочы на лучніка.: калоцячыся, той ужо нават не хаваў позірку памутнелых ад нянавісці вачэй, сіпеў:

— Ведзьма! І племя тваё — чарадзеева! Схіліўшыся ніжэй, таргануў з шырокае спіны Савы свой нож, але кроў з раны так моцна выхлюпнула, нечакана так густа заляпіла яму вочы, што забойца падхапіўся на ногі, прыходзячы да цямы, і вось ужо замахаў рукамі, пабег, пятляючы, як заяц, у бок лесу.

Толькі яна, упаўшы на калені, ужо прыкладвала рукі да скразной раны, скуль біла пякучым болем, перад якім ці не ўпершыню ў сваім жыцці яна была бяссільная. Таропка сарвала з плячэй цёплы

покрыў і, намогшыся, павярнула Саву, такога цяпер цяжкага, спінаю да зямлі. Даўкі камяк забіваў горла.

— …Паслухай. — Шэпт паміраючага ледзь прашалясцеў, блакіт вачэй быў замутнёны. Прыўзняў галаву, каб убачыць яе. Глыбокі шнар, што рассякаў твар, здаецца, разгладжваўся і пачаў знікаць. А яна, страціўшы адчуванне явы, тут жа заплюшчыла вочы, апусціўшыся ў сваю бясконцую малітву-плач, якую раптам працяла вялікая, яшчэ невядомая ёй дасюль, скруха. Гэта падала голас ваўчыца, што вырвалася з клеткі, вызірнула са свае таямніцы і загаласіла, завыла, заскуголіла па тым, каго ніколі не ведала, па кім не ссохла, не згарчэла. Гэта падала свой балесны голас жаночая плоць, што дасюль не аказвалася з глыбокай таямнічай манаскае цноты, не выяўлялася гэтак моцна.

…Толькі шапоча дождж, ад якога, нізка нахіліўшыся, яна хавае Саву.

— Міласэрная…

З боку палаца імчала варта: князь, відно, усё ж дачуўся пра вар’ята-забойцу. Рэзкі ўдар ветру са Свіслачы апёк яе, яшчэ амаль няўцямную, сваёй раз’ятранай сцюдзёнасцю.

Ранішні туман клубкамі скочваўся да настылай за дажджлівую ноч ракі, уздоўж якой плыла, пагойдваючыся на колах, дарожная фурманка. Шыракакрылыя сінія стракозы апошніх дажджын дзе-калі падалі са скуранога верху ўніз. Тады праз самотнае забыццё яна зноў паклікала і пачула далёкае: “Кмет Сава я, уладычыца…” Расплюшчыла вочы, убачыла спіну маладога фурмана, прысланага Расціславам. Сунімаючы гарачы накат роспачы, азірнулася, нібыта хацела ўбачыць на заслаўскай дарозе разгадку свайго жыцця. У твар ударыла жменяю шурпатых дажджын. “ Ведзьма!” Такіх важкіх і калючых дажджын. … Чамусьці гарачых, як пясок пустыні.

## РАЗДЗЕЛ 9.

… Галілея дыхнула такой невераемнай спрагласцю, што ігумення міжволі заплюшчыла павекі. Слых нечакана разанула вар’яцкім смехам заслаўскага забойцы. Сілы міласэрныя, як жа часта за гаенне ёй плацілі адно нянавісцю. Яна вяртала хворых да жыцця, а людзі крычалі ёй у вочы: “Ведзьма!..”

“Маці Багародзіца, хіба не пашкадуеш мяне, не абароніш хоць і на згоне жыцця, ад хлусні гэтае і людское жорсткасці Сваёю ісцінай?! Хіба адступішся ад мяне разам з абранніцамі сваімі? ”

“Пачуй жа і ты мяне, сястра Ерміона, пачуй, дачка дзяка Піліпа. Пачуй, найпадобная, што загінула ў Эфесе за слова Божае, прарочыца і лекарка. Хіба не заступішся ты, калі стану перад Судом?”

“ Хрыстова найвярнейшая, роўнаапостальная Ніна, дазволь прыпасці да ласкі твае. Няўжо, сястра, пагрэбуеш пакутамі служкі Божае з Полацка? Як і ты, у дванаццаць гадоў пераступіла я Парог. Але скажы, які наказ даваў бацька, калі пакінуў цябе малой, сыходзячы ў пустыню? І чаму навучала маці-дыяканіса? На вачах тваіх, абдараваная, вялікія апосталы Божыя змаўляліся, куды каму несці Слова. Табе дасталася Іверыя, дзе спазнала, сястра мая, вялікі цяжар і слодыч ацалення людзей — цялесаў і душаў. Ацалі ж і мяне, як сям’ю Марыяна. Выбаў з цянётаў хворае сэрца. Злітуйся і даруй духу цвёрдасць, абарані, міласэрная! Дапамажы выканаць волю Госпада нашага. Бо сказаў:

“ І будуць прарочыць і ацаляць імем Духа Святага.”

“А ты, Фёкла, першапакутніца, якая выбавіла коштам уласнага багацця з глухой цямніцы апостала Паўла? Ішла, пакліканая Айцом, збіваючы ногі да крыві на дарогах Іконі і Сялеўні. Гэткая гожая, што нейкі валадар свету нават прасіў цябе стаць жонкаю. Ты, якая пражыла амаль да ста гадоў, лекарка ўслаўленая, бо навярнула да хрысціянства столькі патрыцыянак, хіба не злітуешся, сястра, не захінеш мяне, уладарка дароў вялікіх, хіба не заслоніш ад чалавечае нянавісці? Не пагарджайце ж мною, сёстры пакліканыя! Не біце ж мяне бізунамі свайго адхлання, літасцівыя! Не праганяйце, не крычыце мне ўслед атрутныя словы.”

“А ты, Апанісся з вострава Эгіны, абдараваная, вялікая лекарка, адкрый мне вочы, каб у дарозе гэтай галілейскай убіралі ў сябе ўсё хараство, створанае рукамі Ягонымі. Бо так даўно ўжо прашу Таго, хто Сам ацаляў, падымаючы рабоў Сваіх з дамавіны. “Уцвердзь, Ойча, Сэрцазнаўца адзіны, уцвердзь пакуты мае ў семя і дазволь разнесці яго вятрам па ўсёй крывіцкай зямлі. Каб выраслі плады, і далі новае семя. Каб не застаўся люд наш без вечнай літасці і гаючых дароў.”

* * *

*“ Ах, любове... Каханне маё! Няхай прыліпне язык мой да паднябення, калі помніць цябе не буду. Бо адно калі пайду сярод нелюдзяў, ты ажывіш мяне. На ятру ворагаў маіх пашлеш руку моцную. І ўратуе тады правіца. Быццам алей каштоўны на галаве ты, які сцякае на вусны свае*

*Еўфрасінні, падае на край шатаў… Як раса Ярмонская ты, што зіхаціць на горы Сіёнскай, дзе наказаў Гасподзь дабраславенне нам і жыццё навечна. Ах, любове мая…”*

… Расхістаная камяністаю дарогаю павозка з паломнікамі паволі праязджала праз цьмянае святло іх першага вечара на Святой Зямлі.

І ра птам вечаровы прасцяг расцяў глухі ўскрык:

– Лепей бы мне тое куфі атрутнае выпіць!

Малады кніжнік, не зважаючы на ўстрывожаных спадарожнікаў, нечакана саскочыў з павозкі і пабег у бок барханаў. Пабег, нават не азіраючыся. Першым апамятаўся Асан. Мігам зляцеўшы на дарогу, рынуўся следам і вось ужо вяртаўся, прытрымліваючы кніжніка за плечы, да Еўфрасінні.

Той адразу ж упаў на калені. Усе астатнія зніякавела пасталі зводдаль.

– Спавядай мяне!

– Не маю такое…

– Споведзі прашу! Малю споведзі! Грэшны, грэшны, грэшны я, ігумення! І целам, і словам, і думкамі! Грэшны, грэшны! Як толькі ўбачыў яе! Як толькі пачуў яе! Яшчэ ў Царгорадзе, калі вы ўсе ў бібліятэку зайшлі…

– Супакойся, Коста. Гасподзь заўсёды пачуе.

– Цяпер хачу.

– І цяпер чуе, Коста. Падыміся.

– Ты мяне з Міхалам у Бізантыю паслала. Каб я вучыўся. А я ж… Не сказаў табе нічога тады!

— Цяпер скажаш, забудзь благое. Забудзь, Коста! Збяры гарошыны памяці чорнай, высып у гэты бархан, няхай зусім высахнуць.

– А цяпер за грахі жарсця гэтая. Не магу болей трываць!

— Моцны дух у цябе, Коста. Ведай пра гэта.

— Ты думаеш, у палацы імператарскім я толькі кніжкі чытаў?!

– Чытай Евангелле, Коста. Не распінай сэрца сваё на вятрысухавеі. У душы праўды пытай. Усе мы, людзі, грахамі спакушаныя. Кожны па-свойму. І пра ўсё гэта, Коста, у Запаветах Божых згадана. Зараз павернем за камяні, і жарсця твая з сэрца паплыве, як дым.

– У галаве маёй цёмны дым, ігумення.

– Вазьмі шчыт веры, захіліся і патушы ім распаленыя стрэлы.( Прыпаў да яе сухарлявай рукі, адчуўшы саланаваты след слязы):

– У роце ў мяне ад пажады горка. Плячом яе крануся, а ўсё цела гарыць. Жаданая такая яна.

– Сказана: “Любоў не бушуе, не шукае свайго, не раздражняецца, не замышляе ліха... Цешыцца з ісціны. Усё пакрывае, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё пераносіць.”

— Лепей бы мне таго куфі выпіць!

– Любоў ніколі не мінаецца, Коста.

— Не вытрымаю, ігумення. Я азіраўся і бачыў толькі пустэльню. Калі змеціў у яе вачах чужасць, так спалохаўся, пачуўся такім парожнім, як сярод поля, дзе няма ні лекара, ні мечніка, каб спынілі пакуты. Усё, што было да вашага прыходу ў бібліятэку, рассеялася, як чад. Адным яе позіркам.

– Сядай побач з Асанам, Коста. Да споведзі – ужо ў Ерузаліме.

— І не стала ні другаў для мяне, ні настаўнікаў, ні сваякоў. Адна толькі яна, гаспадыня, была. І я толькі адзін застаўся, слуга сярод слуг.

– Паперадзе сядай, Коста. Там і чытаць зможаш.

– Змагу. Там чытаць, і праўда, можна.

– І памятай: самы большы грэх – жадаць гвалтоўнай смерці.

... Які рэзкі ён, сухавей пустыні. У недасяжнай вышыні ўсё яшчэ кружыў птах, быццам падвязаны да паднеб’я пурпуровым вісонным шнурочкам. Дарога зрабіла новы паварот за скалы, і позірк адразу ж выхапіў з жоўтага марыва велічны будынак. У тую ж хвіліну ўсе на павозцы, якую няшчадна трэсла на камяністай дарозе, быццам ачомаліся. Усміхнуўся, павярнуўшыся да падарожнікаў, і возны Асан. Але прамаўчаў, ведаючы, што да блізкага, як усім здавалася, манастыра, яшчэ далекавата. Праз колькі часу зноў прыпыніліся і светлатварая красуня, саскочыўшы, шчыльней падвязала свой доўгі хітон, пачакала блізу павозкі. Кідала спасцярожлівыя позіркі на ігуменню; тая таксама сыходзіла на зямлю, пацягнуўшы за сабою астатніх.

Нарэшце ўвесь ланцужок паломнікаў з Полацка заспяшаўся ўздоўж дарогі і ліпкі пясок барханаў, асеўшы на доўгія полы хламід, зашаргацеў, зашахаў пры хадзе ( ... ш-ша ш-шах! Ш-шах! Ш-шах!) А ігумення ўжо ўзіралася ў глыбіню галілейскага вечара, быццам імкнулася разгледзець у яго сяйве запаветнае. Успомніць і разгадаць блізкае і далёкае.

Прыспешвала ходу...

# Кніга другая

*“Так будуць апошнія першымі,*
*і першыя апошнімі; бо шмат*
*пакліканых, ды мала выбраных”*

**Новы Запавет. Псалтыр. Паводле**
**Мацвея Святое Дабравесце. XX. 16. 29.**

## *ЧАСТКА ПЕРШАЯ*

## *АГНЕННІЦА*

* * *

Грозны вецер Хамсін, рассёкшы важкія, як вярблюджыя гарбы, аблокі Іудэі, упаў на Нéву: ад іскрыста-белай гары да Хеўрону панесліся шалёныя падвыванні і балючыя енкі. Нарэшце, сарваўшыся са скалістых іклаў, апантаны гончы пустыні расшпурляў па марскім узбярэжжы навесы для рыбацкіх сецяў, траскучыя дашчаныя чэравы мёртвых галеонаў, засыпаў пяском шпангоўты і патрушчаныя сірэны. Крыклівыя чайкі бачылі, як раз’ятраны віхор з ярасным скавытаннем укруціў у Тыверыяцкае возера баркі з зернем. Але вось з пранізлівым свістам узляцеў на барханы і абагнаў атрад варты, што з высока паднятымі ятаганамі суправаджала еўнуха ў дарагім халаце. Еўнух, не прыпыняючы каня, скінуў на зямлю замардаваную прыгажуню ў акрываўленым покрыве. Верхаўцы тут жа крута развярнуліся назад: з-пад капытоў танканогіх коней уздыбілася пясчаная сечка. Пакінутая пасярод пякельных пяскоў ледзь жывая рабыня горасна падняла да неба рукі, молячы аб выратаванні. А праз сэрца Хамсіна ад прагорклай даліны бяды Ахор ужо расцягнулася доўгая спружына прыгорбленых жабракоў, што кіраваліся ў Ерузалім: з-пад дзіравых лахманоў цямнелі выпетраныя рэбры, над плячмі мільгатліва ценілася дрогкае марыва. Пустыня сустракала новых паломнікаў пагрозлівым сіпеннем. Вецер крутнуўся ўбок, наляцеў на пракаветную, дарэшты вышчарбленую дарогу і адразу ж, быццам сутыкнуўшыся з нябачнай заслонай, прыстаў. З дарогі трымтліва струменіла і рассейвалася праменне ад слядоў Хрыста.

Пустыня заціхла. Хамсін з лёту прадзьмуў апостальскія пячоры і зноў пагнаў да Ярдана пясчаныя віхры, разносячы па наваколлі грозны звярыны рык і траскучыя пошчакі грымучых гадаў. Не спыняючыся, магутны віхор ударыў у белую, як херувімскія шаты, скалу, спіхнуў з яе вяршыні камень, што паляцеў на сцежку, па якой за блізкі паварот шархацела павозка з паломнікамі ў манаскіх каптурах. Глыба грымнулася аб зямлю каля задняга кола павозкі і разляцелася на вострыя аскалабкі. Самы малады з паломнікаў ад нечаканасці ўздрыгнуў і, таропка замыляўшы вуснамі, зашаптаў:

– Прэдзіўна бысць у Полотсьцэ! Бываше у ношчы туцен стояшча па вуліцем. І, яко чэловеці, рышчушча бесі. — Павозка няшчадна рыпела і вотрак заспяшаўся:

– І ашчэ хто вылазяшэ з храміны, уязвен невідзімо бывашэ ото бесов язвою. Посем не саміх, но коне іх копыціны відзэ! — Малады кніжнік падвысіў голас і азірнуўся, але яго ніхто не чуў. Усе на павозцы паглыбіліся ў зняможаную дрымоту. Зануджаны доўгай дарогай, маладзён выцягваў з памяці некалі прачытанае ў пергамінах. Вецер скуголіў пад самым яго вухам, зрываючы з кудлатай галавы тонкі каптур, аднак той нічога не заўважаў:

– І остася по следу образ змея велікаго, стояшча по небу…

Прыклаў ладонь да горла, але кашаль ужо трос усё яго вялікае кашчавае цела:

– І тако уязвляху люд Полотські.

Інак не выпускаў з рук важкага, з меднымі зашчапкамі, пергаміна: да слыху зноў данеслася тое таямнічае шаптанне, што суправаджала яго праз усё кароткае жыццё. Толькі ўзяўшы ў рукі гусінае пяро, чуў ён, здаецца, і гэты патаемны шэпт:

«Не забудзі жа, Коста, як сызмальства пагартаўшы тысячы абалонак Бібліі і хронік Амартола, шукалі ўсе, услед за вялікім старцам Нестарам, адказ на адно толькі пытанне: “… адкуль руська зямля стала і ёсць? ” Толькі ж ведаў пра тое хіба што смуцьян вялікі, бацька гісторыі Герадот, назваўшы цэлы збой земляў і плямёнаў Скіфіяй. Краем, дзе няма ні гарадоў, ні ўмацаванняў, бо ўсе толькі рышчуць, гойсаюць па разлогах польных, яко качэўнікі, вoі і лучнікі. Але ж мы здавён – сейбіты. Арачы-ворнікі мы. І прадзеды нашы, ад зямлі, займаліся таржышчам хлеба і запальвалі паходні на свята свяшчэннага плуга. Ворнікі-скалоты мы!.. Як пісалі пра тое Пліній Малодшы слаўны і Карнелі Тацыт. Дык пашто слухаць зласлівыя шэпты чужынцаў, што іншае пра нас разносяць?

А калі і праўда? Калі і праўда – з чэрава венедаў мы выпаўзлі, падпіраючы слупамі межавымі сцены германаў і сарматаў!? Кідалі

рыбацкія восці прапрадзеды мужныя і ў Рось, і ў Цясьмін. І ў Дунай нават. З готамі і гунамі стаўшы ўпоплечкі, рынулі, аброслыя рудаглеем і дзёрзкаю шчэццю, на Рым і элінаў. Запаланілі землі Балканаў. Закапалі па плечы. Выпалілі да дна вачэй. Выйшлі да цёплага мора блізу Пелапанеса, дапяўшы да Спарты... Кінуліся і ў другі бок, да каменяедаў астраўных белагаловых, насельнікаў грознай Сулы. І пакаціліся галовы. Белыя, што выпаленае сонцам жніўё. Рудыя, што падлескі восеньскія. Ах, Коста! Хіба не стыне кроў твая? Толькі ж, гартаючы начамі абалонкі старых і цяжкіх, як залатыя руны, пергамінаў, не ўцяміш часам, дзе праўда тут пасеяна, а дзе – хітрае баянава казанне. Кажуць бо чарняцы: “ Навучайся, вотрак, у Нестара, і ўведаеш пра палян і драўлян з барадамі касцюкаватымі, пра дрыгвічоў і бужан, якія птушак рукамі ірвуць. Чытай, Коста, і потым сам расказвай пра вяцічаў, улічоў, ціверцаў. Стань паслом для людзей, бо той пасол, хто прыносіць наказы. Будзі, Коста, і паслушнікам. Тым, хто слухае і — слухаецца. Слухайся Бога адно толькі. Таго, Хто прынёс нам Слова. І раскажы пра росаў – людзей з такімі агромністымі целамі, што і моцныя коні не маглі насіць іх. А ці многа чытаў ты, Коста, пра ілжывае племя расамонаў і тое, як забіў кароль Германурых жонку аднаго расамона-здрадніка Сунільду, званую Лыбідзю, з-за чаго і распачалася тая страшная вайна. Раскажы, Коста! Пра беламораў чалавекаедных і чудзь, пра весь і варагаў, якія русьсю завуць. Бо зямля наша вяліка і плодна, а парадку ўсё яшчэ няма. З таго самага часу няма, як прашчуры, вялікі прэгорды каган Асколд і находнік Рурык, што судзілі весічаў адно “ па праўдзе”, змерлі, пакінуўшы ўсіх у вялікай самоце і разладзе. Пытай і запішы ўсё, Коста. Так чарняцы кажуць, і ігумення праслаўная Полацкая, Еўфрасіння, так звячае. То будзі ж – ласка яе!”

...Залатавокая і наўздзіў белатварая красуня, ідучы блізу павозкі, міжволі азірнулася і, спыніўшы позірк на мяротным друзе за спінаю, апусціла галаву. Але тут жа ўздрыгнула ад спеўнага воклічу: “ Ой-а-а...”, падняла вочы: Хамсін мігам злавіў насцярожаны позірк, па якім пазнаў тую, каго ўжо бачыў у штармавой прорве Сярэдземнага мора. Тады шахнуў па тварах паломнікаў лёзамі гарачага пяску, ад чаго ўсе адразу ж пачалі шчыльней затуляцца ў хламіды. Адно абазнаная толькі ціха ўсміхалася. Над Галілеяй гусцеў жоўты гаркаваты надвячорак, нябесны покрыў над пустыняй ціха ачахваў.

Павозка мінала чараду прыдарожных валуноў. Тады паломніца выпрастала плечы, атуленыя накінутаю на грубы хітон драцяной сарочкаю; з асалодаю прыплюшчыла павекі. І адразу ж пачула

далёкае і ласкавае: “ Ла…да-а…!” Быццам паклікалі з-за ракі, з аеравага берага маленства. Ці, можа, адазваўся, прашугаўшы над мянескай зямлёю, вецер яе анёла, намачыў рабрыстыя крылы ў сцюдзёнай Свіслачы? Ці тая, раскрыжаваная ў галілейскай спякоце, птушка, што ўсё кідалася ўніз, навязаўшы да неба вісонным шнурочкам хісткую павозку. Да слыху паломніцы данеслася спасцярожлівае шаптанне дарогі, што спяшалася праз усю Галілею ў галоўны горад Святой зямлі. Альбо, можа, гэтак балюча сумуе па ёй Валодша, які заўсёды назірае за сваёй Вольгаю з-за празрыстых аблокаў?

— Ла…да-а…! — Рэха, абганяючы разбітую дарогай калымагу, ужо неслася да паломніцы з усіх бакоў. Але тая, забраная ўспамінамі, маўчала.

РАЗДЗЕЛ 1.

… Яна развучылася размаўляць нават з дрэвамі. Бо ўжо даўно перастала чуць іх. Слых мянескай князёўны Вольгі чуйна ўлаўліваў і крокі нянькі за дзвярамі святліцы, і глухое рыпенне ветракоў на погарбе, але дрэвы ёй ужо не адгукаліся. Праўда, яшчэ ў той заслаўскай капліцы, дзе Вольга пасля ад’езду ігуменні Еўфрасінні прачнулася з незвычайнай лёгкасцю ў целе, з-пад абразоў да яе паплылі дрогкія перашэпты свечак. Здалося, што чуе ў іх галасы маці і бабулі, якія ўзімку згарэлі ад халернай трасцы. Хваля подзіву, помніцца, скаланула аслабелае цела, і Вольга, ціха адзываючыся родным галасам, прыўзнялася на абрыдлай лаве, да якой адразу ж заспяшаліся зарэчныя чарніцы і лекар Раман. Хацела спыніць іх, але нечакана зразумела, што не можа вымавіць ні слова. Перад вачмі замітусіліся едкія зоркі. Тады, ашаломленая, зноў легла. Чарніцы ўсхвалявана пыталіся ў яе аб пачуванні, але князёўна толькі сціскала вусны. Важка падняўшыся з прысценнай лавы, князь Расціслаў таксама падыйшоў і нахіліўся да дачкі. Ад бажніцы, супакойваючы князя, даносіліся перазовы намоленай ночы. Аднак Вольга, заплюшчыўшы павекі, нікому не выдавала роспачы: ужо зразумела, што можа адказаць толькі ўласным думкам. Бацька-князь, уздыхаючы, аддаў загад сотніку, і Вольгу тут жа пачалі апранаць для пераезду ў менскі палац.

Дома, у сваёй утульнай, чыста прыбранай святлічцы, Вольга павесялела і стала хутка папраўляцца, але па-ранейшаму не гаварыла: ледзь не адразу ж пасля сустрэчы з суровай полацкай лекаркай свядомасць яе быццам завалакло шэрай воўнай. Слых не ўлаўліваў ні

патрэсквання набраклага сонечным сокам лісця, ні рыпучага пацягвання каранёў у зямлі. Ужо не чула яна і ветрыку, што любіў яе распушаныя ранічкаю валасы. Не чула шархацення птушыных крылаў над гасцінцам і шэпту свіслацкага аеру. У палацы Глебавічаў запанавала трывожная ціша. Так горка Вользе было толькі пасля раптоўнай матчынай смерці, калі ад вострага галаўнога болю цямнела ўваччу і нават зрэдзьчасу адымала мову. І хаця апошнім часам пасля таго ад'езду полацкай ігуменні пад рэбрамі стала лягчэй, Вольга разумела, што ў адчуваннях яе нешта змянілася. Змен тых, аднак, нават баялася, паглыбіўшыся ва ўласныя адчуванні і настроі. Не заўважала ўжо, што за вокнамі не прыпыняецца звыклы палёт дзён і начэй. Неяк непрыкметна адснежыла суровая зіма і прамінула вясна: час – адмысловы лекар, заружовіў шчокі князёўны водсветам здароў'я; нарэшце асмелілася выйсці нават на дзядзінец. Князь Расціслаў, які спешна выехаў з дружынаю ў Полацк і пакінуў дачку на строгую няньку і верную варту, часта высылаў у Менск сваіх віжоў. Тыя доўга трымалі ў палацы звыклы парадак, кідаючы пільныя позіркі і на вакольныя весі. І ўсё ж пасля ад'езду гаспадара смерды з халупаў каля дзядзінцу пачуліся значна вальней і часцей звычайнага пачалі наведваць капішча ў пушчы.

* * *

Дачакаўшыся летняга цяпла, пакаёўка Маўра таксама ўвачавідкі пасмялела і неяк сярэдначы ўсё ж выманіла Вольгу з палаца. Над падворкам раскашавала яркая святочная поўня. Лёгка змеціўшы ў вачах Маўры затоеныя хітрынкі, Вольга азірнулася. Перад варотамі ўжо чакаў невялікі княжы вазок. Тады, вярнуўшыся ў святліцу і загадаўшы прынесці ёй простую вопратку з хустай і звычайныя хадачкі, князёўна пераапранулася. Пасля без сумневу адолела ў двары нечаканы парыў ветру і скіравалася да варот. Маўра з запаленай паходняй заспяшалася наперад.

… Ужо ўкрытая на вазку цёплымі дзяружкамі, Вольга праз усю дарогу раз-пораз уздрыгвала ад ускрыкаў пакаёўкі, якая сядзела побач з фурманам, трымаючы над сабою паходню. Але вось на тоўстых сасновых ствалах заірдзелі водбліскі агню і вазок спыніўся. Тады, не чакаючы Маўру і адпрэчыўшы дахаты фурмана, Вольга рашуча ступіла на цвёрдую ўтаптаную бялявіну і таропка падалася ў бок вогнішча, назіраючы, як ваколле хутка запаўняецца смердамі. Але сама яна нават не падымала галаў, сцішана прымасціўшыся на горцы лапніку. Міжволі скасілася на збой смердаў і прыслухалася да

гарэзлівых спеваў пасадскай моладзі. Аднак лагоднага вуркатання прысаку, што гэтак лашчыў яе слых раней, ужо не злавіла. Быццам полацкая ігумення той восенню выняла з яе хворага цела не страшную пухліну, а нешта зусім іншае: тое, што яшчэ з маленства нябачнымі, але такімі моцнымі повязямі лучыла Вольгу з жывым духам усёй мянескай зямлі. Маўра даўно згубілася ў людскім гурце: пад нагамі распаленых начным шалам дзецюкоў патрэскваў сушняк, ад нецярплівага страху папісквалі юніцы. Урэшце Вольга ўтульней прымасцілася на лясным стальцы і знерухомела, не адрываючы вачэй ад рою іскрынак. На імгненне да скручанага паяска вопраткі дакрануўся пругкі язык балотнае вужакі, і князёўна нават праз радно спадніцы адчула яго пякучы дотык. Наўкруга клубіўся начны шоргат, праз мігатлівую сетку начных ценяў сачылася тонкае змяінае сіпенне, ад якога ў глыбіні жывата нечакана заторгаўся пабуджальны шал. Нутро, усё цела яе быццам аджывала. Тады, употайкі азірнуўшыся, ледзь стрымала спалоханы ўскрык: амаль усе смерды на бялявіне былі ў вялізных, ярка расфарбаваных драўляных масках звяр'я ці птушак. Паверх доўгіх радняных світак на плячах ільсніліся бабрыныя накідкі. Многія з падданых Хорса трымалі ў руках ваярскія шчыты і драўляныя, завостраныя касцянымі ці крэмневымі наканечнікамі, пікі. Вогнішча падшугала пад самыя вяршаліны соснаў, распырскваючы над галовамі ваяўнічага збою зіхоткі жар. Але Вольга, зачаравана назіраючы за ўвівамі агню, нават не адхілялася.

Нарэшце яна ачуцілася, убачыўшы, як з боку шчыльна схінутых соснаў да людзей ступіла мажная, у доўгай раднянай світцы, постаць. Ад рэзкага подыху траскучага вогнішча пасма валасоў у начнога госця нечакана зляцела з аблічча на плечы, адкрыўшы маску з вялізнымі ікламі. Смерды, пазнаўшы свайго вешчуна, з радаснымі крыкамі пачалі збягацца ў гурт, грозна наблізіліся да лапніка. Трывожную цішыню раз-пораз крэслілі іскрыстыя пырскі.

– Не загубіце! — Шэпт князёўны перарываўся ад затоенага жаху, але вяшчун, з распушчанымі па плячах вогненнымі валасамі, нечакана гучна зарагатаў. Выступіўшы з людскога кола, якое з непрыхаванай юрлівасцю ўсё шчыльней блізілася да князёўны, укленчыў перад ёю і, зняўшы маску, адкрыў скуластае, цёмнае аблічча. Прыпаў гарачымі вуснамі да жылкі на яе шыі:

— Ты не забыла мяне, лада?

— Не забыла, Валодша.

Навокал пагрозлівым колам стаяла насцярожаная ўзбуджаная моладзь. Але вось, пашыхаваўшы пікі пад старою ялінаю, усе апантана затупалі ў зямлю шырока растаўленымі нагамі; наўкруг

Валодшы бушавалі сляпыя карагоды капішчанскага танца. Вочы князёўны былі прыплюшчаны: разгарачаныя дзецюкі і юніцы з пацалункамі і абдоймамі пачалі шалёна зрываць адно з аднаго світкі, зліліся ў адзін шчыльны, разгушканы жарсцёю, збой. Нечыя рукі дасталіся і да яе — балюча тузанулі з плячэй каптан, развязалі, прагна залашчыўшы грудзі, матузкі блузы. Тады пачула ў сабе такую млосную нямогласць, што застагнала. Працінаючы зямлю, з глыбокіх таямнічых спратаў ночы ў цела князёўны раптам памкнула даўкае хваляванне, паплыло па дзявочых нагах разам з палкімі, жадобнымі пальцамі вешчуна. Растуліла вусны, каб паклікаць на дапамогу, але гарачая сліна замкнула мову. А вяшчун, зноў пацалаваўшы яе ў вусны, нечакана так моцна схапіў за жывот, што ўвесь ніз прашыла стралой:

— Ты не забыла мяне, лада?

Лёгка падштурхануўшы юніцу ў плечы, змусіў яе ісці да людскога кола. Сам, рашуча павярнуўшыся, знік у начной цемры. Але мянеская князёўна, забраная агульным шалам, ужо нічога не змеціла — прутка прытанцоўваючы разам з ловамі, уся пранізаная рэзкімі начнымі енкамі і агорнутая доўгімі, пушчанымі па ветры, чорнымі, як глыбіня гэтай загадкавай летняй ночы, валасамі, распачала свой танец.

Пад сасновай карой па тоўстых жылах дрэў ірванула, мкнучы ўверх, расплаўленая пажадай смала. А князёўна, не прыпыняючыся ні на імгненне, бясцямна ўкручвалася ў шчыльны людскі вір і ўжо не адчувала ног. Чырвань ударыла ёй у твар, полымя распаліла дыханне. Нарэшце, расцятая гарачай, да зацьмення ў вачах, млосцю, яна ўскрыкнула; і гэты амаль бясцямны крык паклікаў у дзявочае нутро цэлы ручай нябесных зорак. Тады растуліла вусны для малення, славячы і гэтую пракаветную, набраклую сокамі, зямлю, і магутнае неба. Пад сасновымі шатамі ў водблісках вогнішча палымнеў густа затлушчаны заечым смальцам дубовы Хорс. Пазіраў перад сабой вялікімі вырачанымі вачмі. Здаецца, усміхаўся Вользе. Узрушаная, не заўважыла, як ахоўная хусцінка нечакана паляцела з твару пад ногі. Памкнулася падняць яе, але было позна. Смерды, імгненна спыніўшы танец, кінуліся, гучна выкрыкваючы пагрозы, да пікаў, стоўпіліся на другім канцы палянкі. Прысутнасць князёўны на бялявіне пагражала ўсім лютай смерцю. Кметы з палаца, насцігаючы вешчуноў па ўсім свіслацкім наваколлі, дашчэнту руйнавалі і капішчы.

— Не забівайце мяне! — З грудзей Вольгі нечакана вырваўся спалоханы стогн: азірнуўшыся, у адчаі марна пашукала вачмі вешчуна. Нехта дзіка правухкаў савою, і ўся бялявіна імкліва

сарвалася з месца: да горла Вольгі, у якое ўжо цэліла некалькі пікаў, падкаціла нудота. І раптам, быццам спынены нябачнай вяроўкаю, разгарачаны гурт з шырока расплюшчанымі вачмі замер. Адно толькі сава азвалася з пушчы глухой пагрозаю.

... Лясны чалавек, які вылецеў, здавалася, з самай нетры і нечакана грымнуўся на зямлю перад самымі ваяўнічымі ловамі, выцягнуўся перад вогнішчам. Чорны ад капішчанскага дыму, нагадваў лясную пачвару. Доўгія, выпэцканыя густою балотнаю раскаю, валасы спрэс загарнулі аблічча і грудзі. Зусім голы, лясны прывід кашчава знерухомеў, бессаромна раставіўшы перад усімі абдзертыя, з бліскучымі каленямі, ногі. Смерды, пазнаўшы ў ляжачым свайго вешчуна, адразу ж падступіліся бліжэй, і Вольга здзіўлена адхітнулася, нечакана разгледзеўшы тое, што прыцягвала цяпер усе позіркі – вялікае і трымтлівае мужчынскае чэлеса ў пахвіне. З агідаю адвярнулася і тут жа, разам з усімі, пацягнулася рукамі да бессаромна разведзеных каленяў. Зачадзеўшы ад капішчанскага смуроду, ледзь змагла ванітаванне.

... Але чаму ўсе гэтыя ловы на паляне зусім не бачаць таго, што ўжо змеціў яе зрок? Павекі Вольгі прыплюшчваліся, аднак усё роўна згледзела ў пахвіне Валодшы каля мужчынскага чэлеса тоўстую і пажаночы прадаўгаватую распашыну. Ледзь трымаючыся на нагах і ўжо не не даючы веры ўласным вачам, хітнулася, тут жа падхопленая некім пад рукі: ужо ніхто на бялявіне не звяртаў на яе аніякай увагі, скіраваўшы позіркі ў іншы бок. І толькі адзін ён, вяшчун Валодша, нагі і безабаронны, як злучыўшы агульным дыханнем увесь людскі збой, быў цяпер тут усім. І – нічым. Усіхні і для ўсіх. Як сама, натоленая мужчынскім і жаночым семенем, зямля. Адчуванне гэтай неспасцігальнай лучнасці, гэтай агульнай для ўсіх таямнічай першаплоці нечакана перапоўніла і наталіла ўсю істоту Вольгі такой сілай і прагай уплодненасці, што грудзі імгненна набраклі жывым агнём. Азірнулася. Перад вогнішчам ярэў новы танец. Рухі танцораў сталі амаль бясцямнымі, пікі, горда паднятыя ўверх, поралі нізкае начное неба:

– Будзі! Нам будзі... Наша будзі! Наша будзі!

Танец бушаваў, і тады ўсе на капішчы пачулі ўдары вялікага сэрца, што адгукнулася аднекуль з-пад тоўстых сасновых каранёў. “ Нам будзі!... Наша – будзі!” Вяшчун, які ляжаў каля самага вогнішча, застагнаў, і яму адразу ж кінулі апранаху, чакаючы ў гурт.

... Ён падымаўся наўздзіў важка, нехаця адрываючыся ад мяккай, засланай сапрэлым шыгаллём, зямлі. Невераемна магутны ў плячах, аслоненых цэлай хмараю густых, у балотным глеі, валасоў.

Падвязаўшы даўгаполую світку вяроўчынай, радасна і белазуба ўсміхнуўся. Начная бялявіна поўнілася хрыпеннем глыбока расхінутых зямных спратаў. Урэшце, раз'ятраны спрадвечным поклічам зямное плоці, падняў вялізныя рукі. Похапкам удыхаючы густое задымленае паветра, хістаўся. Але вось ужо, лёгка схапіўшы Вольгу ў абдоймы, з рогатам кінуўся ў вірлівае кола. Яшчэ імгненне, і, радасная, змеціла навокал сябе толькі стракаты россып агеньчыкаў: ці то сполахі дагараючага вогнішча, ці то язычкі запаленых паўсюль свечак. Успыхнула бліскавіца, высвеціўшы ў цемры прадаўгаватае, атуленае белым манаскім каптуром, танкабровае аблічча і абразы на сценах старой заслаўскай капліцы.

Памяць была такой яркай, што Вольга быццам наноў адчула чэпкі позірк вялікіх цёмных вачэй ігуменні Еўфрасінні і той дзіўны стан, калі полацкая лекарка, не прыпыняючы малітвы, раптам паклала трымтлівыя рукі на яе рэбры. Пальцы былі такія гарачыя, што Вольга, помніцца, міжволі скаланулася. Невераемная моца, што сыходзіла ад гэтых рук і запаленых свечак, нябачнымі лёзамі працінала ўсю істоту, выбіраючы з яе нутра страшны боль. Яшчэ раз наноў адчуўшы той немы жах і высілкам змагаючы жаданне вырвацца з тугога карагода, з мальбою зірнула на Валодшу, але вяшчун толькі задаволена ўскрыкваў; над раз'ятраным людам шугалі бязладныя спевы: “ Ах, матухна-вiраніца. Ах, развядзі ж агні ды на маім карані! ”

Ужо ніхто ў шалёным кручэні на Вольгу нават не пазіраў. Адно вогнішча патрэсквала, цаляючы ў твар зіхоткім макам жарынак.

## РАЗДЗЕЛ 2.

... Яна прачнулася ад мужчынскага спеву Пад цёплым доўгім кажухам было па-хатняму ўтульна. Аднак варта было Вользе толькі расплюшчыць вочы, як песня заціхла.

– Яна зрабіла табе балюча? — Над ложам з прывялага кляновага і бярозавага вецця схіляўся, ахінуўшы яе распушчанымі валасамі, Валодша.

Прыўзняўшыся на локці, згодна яму кіўнула. Усё навокал патыхала духмяным водарам аеру і хвоі. Маўра збіралася адыйсці, але, азірнулася і нечакана гучна сказала:

– Тады забі яе, гаспадыня. Забі ігуменню.

– І ты гэтак парадзіш Валодша?

Вольга скасілася на вешчуна, але той абыякава адвярнуўся. Праз колькі хвілін, ужо адступіўшы ад свайго начнога ложа, яна зноў

міжволі скасілася на Валодшу: нёс пацертае голле да вогнішча. Застагнала. Усё ўнутры гарэла, быццам туды сыпанулі пасечанай крапівы:

– І заб'ю!

– Ведаеш, што яна зрабіла з табою? Выцягнула з цябе жыццё, лада! І ты ўжо забыла, як мы з табою некалі ўсё вакол старажавалі.

Валодша раскінуў рукі, быццам хацеў абняць усю бялявіну.

– І заўсёды хадзілі разам, чулі ўсё, бачылі ўсё, лада! — Гэта была праўда, і Вольга згодна кіўнула. — Памятаеш, расказваў, як бацька мой, — ды падсцеле яму Пярун мяккага лапніку!, — згарэў? – Ажно падвысіў голас:

— З-за яе. З-за Прадславы! Радасць яна з цябе выцягнула, лада.

– А, можа, едзь у Полацак, гаспадыня? І вялікі князь чакае. ...Ігуменння твая там ... Едзь, гаспадыня.

Маўра нечакана выняла з кайстры невялікую арэхавую бонку на ланцужку. Адчыніўшы вечка, Вольга зазірнула ўнутр. Убачыла зялёную гарошыну. Адхітнулася. Гэта была атрута з блёкату і жоўтай змяінай сліны. Памкнулася адвярнуцца, але Маўра, засмяяўшыся, ужо вешала бонку ёй на шыю. Унутры жывата зноў так востра і пякуча разанула, што Вольга міжволі застагнала. Нагадваючы пра начны шал, на паляне паўсюль былі раскіданы патрушчаныя маскі і паламанае галлё. Вогнішча, схапіўшы яшчэ адзін абярэмак вецця, задыхала жарам і над ім засквірчэла дзічына: Валодша, пэўна, ужо схадзіў на заечыя ловы. Недалёка ад хорса стаяла некалькі коней, сярод якіх Вольга ўзрадавана змеціла свайго мышастага Сыча. З раднянай кайстры пры сядле лашака вытыркаліся стрэлы і абцягнуты чорнаю скурай лук. Тут жа ў старых пашорганых похвах вісеў яшчэ бацькам падораны кароткі меч. Не стрымаўшыся, намерылася бегчы да каня, але Валодша спыніў яе, клікнуўшы снедаць.

Нарэшце, ужо сядаючы ў старое зручнае сядло, Вольга азірнулася; пакаёўка стаяла каля вазка і пакорліва схіляла галаву. Бліснуўшы ўсмешлівым позіркам, выпрастаўся ў сядле і Валодша. Не азіраючыся, падняў тонкую лазіну, з гікам скіраваў свайго Крутня ў бок далекаватага адсюль ляснога жытла. Сыч, не чакаючы плёткі, таксама сарваўся ў знаёмы прагал паміж малліннікам і густалессем воўчых ягад.

... У той патаемны вешчуноў схарон, дзе былі збудаваны дзве добра ўцепленыя таўстасценныя хаціны, аўчарня і загарадак для коней, Вольга ўпершыню патрапіла яшчэ да прыезду полацкай лекаркі ў Заслаўе. І амаль цэлае лета навучання ў вешчуна-воя не мінуліся марна: недзе на згоне ліпца дзёрзкая і надзвычай упартая,

яна ўжо магла пацягацца ў стральбе з лука нават з бацькавымі кметамі. Успрымаючы ваярскае захапленне дачкі, як даніну дзіцячым гульням, князь Расціслаў спачатку толькі ўхмыляўся: пасля раптоўнай смерці любай жонкі дазваляў Вользе прападаць на бялявіне цэлымі днямі. Але аднойчы, ўбачыўшы яе ў мужчынскай драцяной сарочцы з мячом у руцэ, быццам празрэў і ледзь не задыхнуўся ад гневу: адразу ж забараніў нават кароткія паездкі ў пушчу. Праўда, пасля ягонага спешнага ад'езду ў Полацак, Вольга, цяжка перажыўшы самоту пакінутасці, урэшце быццам апрытомнела. Сурова пакараўшы скуранай плёткай найбольш неслухмяных слуг, стала пачуваць сябе сапраўднай гаспадыняй палаца і ўсяго наваколля Адразу ж пасталела.

Дарога да ляснога схарону была выбоістая. Сыч, адвыкшы ад ляснога карэння, часта спатыкаўся; жывот у Вольгі неспадзеў разанула так моцна, што міжволі застагнала:

— Я загублю цябе! — Перад вачмі бліснула тонкае аблічча полацкай ігуменні і рэзь на хвіліну адпусціла. Але вось конь узбуджана захроп: лясная сцежка выцекла да знаёмай, расцятай да самых карэнняў маланкаю, сасны: зашарэлі першыя жардзяныя загарадкі для адлоўленага звера. Князёўна ўдыхнула на поўныя грудзі і ласкава паклала руку на склычаную конскую грыву. Валодша, радасна засмяяўшыся, прытрымаў Крутня. Прапусціў Вольгу наперад і ўзбуджана крыкнуў:

– Заўтра ж – на дзіка!

Замест адказу гарэзліва ўскінула чорныя бровы.

* * *

... Гучна выкрыкваючы клёны хорсу і ляскаючы наўкол драцянаю пугай, Валодша амаль поўдня выпорваў звера з непралазнай нетры; затым доўга выводзіў асочанага дзіка да краю забалаці, дзе Вольга ўжо даўно прычэквала. Як на тое, паўсюль раскашавала духмяная, лагодная вусцішнасць. Крыкі Валодшы то блізіліся, то зноў аддаляліся, і Вольга падумала, што звер урэшце здолеў адарвацца. І раптам, калі яна ўжо кранула павады, каб скіраваць Сыча на бліжэйшую паляну, да слыху данеслася пагрозлівае чмяканне балота. Зусім блізка змяціла і рэзкае хістанне травы. Рукі сталі гарача-ліпкімі. Пушчанскі дзік быў на рэдкасць громністы. З травы-разаку пляміста выблісквала шырокая лава спіны, але бакоў звера не было відаць. Падносячы рагаціну над густой травою, Вольга трымала зброю нагатове, аднак лясны волат старожка пацягнуўся ўбок, падымаючы над шапаткімі лёзамі травы брудны лыч. Балота злёгку падразала свіное чэрава. І раптам, няўдала хітнуўшыся ў сядле,

Вольга неўспадзеў так рэзка і глыбока ткнула рагацінаю пад вялізную купіну, што на паверхню з гучным сіпеннем вырваліся бурбалкі балотнага духу. Дзік ад нечаканасці ажно падскочыў. Быццам паднесены бясцямным жахам, наўздзіў прутка крутнуўся на месцы: ледзь паспела павярнуць у яго бок рагаціну. Сцяўшыся ад жаху, ужо не чула ні ўстрывожаных крыкаў Валодшы, ні змяінага сіпення балотнай атруты: пушчанскі волат, грозна бліснуўшы секачамі, ляцеў праз куп'ё да Сыча. Тады, ці не ў самы апошні момант, Вольга так моцна тузанула за павады, што конь адразу ж ускінуў пярэднія ногі. Але звер, прутка пераваньваючыся праз навароты аеравага карэння, нёсся, як віхор. Яшчэ хвіліна – і выпусціць з конскага чэрава вантробы, затопча і саму вершніцу. Ашалелы Сыч забіў па траве паднятымі капытамі і спалохана заіржаў.

... Але вяшчун паспеў: падляцеўшы на сваім гнедым Крутні, з такім ляскам пусціў драцяную пугу па шчаціністым гарбе дзіка, што той завішчаў на ўсё балота. Мінаючы хмызнякі, паляцеў якраз туды, дзе на паляне, пад скрыжаванымі жэрдкамі і ялаўцом, чакала глыбозная, яшчэ з вечара выкапаная яміна пасткі. І адразу ж, калі ўжо не стала высокай травы, Вольга ўбачыла. І роспачна закрычала: Валодша гнаў у яміну тоўстую саміцу. Паросная вепручыха ледзь трымалася на кароткіх тоўстых нагах, але, не прыпыняючыся і з рохканнем крышачы старыя пянькі, сослепу ляцела да згубнай пасткі. Імгненне – і крык Вольгі зліўся з жахлівым трэскам жэрдак і балючым віскатлівым енкам, што скалануў нават распаленае сонцам неба: грубую саміцу ад самага чэрава прапароў тоўсты завостраны кол яміны. Віскатлівы боль секануў па маладым падлеску. Адбіваючыся ад шарахаватах жылістых соснаў, працяў усю пушчанскую нетру. Выпусціўшы з рук павады, Вольга ўчапілася ў густую конскую грыву і бездапаможна азірнулася. Валодша заклапочана бегаў вакол яміны. Тады, ударыўшы Сыча плёткай, яна павярнула каня да глiністага ўзлобка, за якім пачыналася сцежка на капішчанскую бялявіну. Недзе на паўдарозе прыпынілася: вочы засцілалі слёзы.

* * *

– Я не ведаў, што яна паросная. Усё захінала трава, лада.

У вогнішчы на тоўстых дубцах смажылася дзічына, але Вольга толькі панура адварочвалася. Нарэшце Валодша сашмаргнуў смачныя кавалачкі на пляскатую гліняную талерку. Адкусіў мяса вялікімі моцнымі зубамі:

– Я, праўда, не бачыў, што яна паросная. Вазьмі.

Працягнуў Вользе бела-ружовы кавалачак, але тая, звёўшы бровы, адно бліснула вялікімі залацістымі вачмі. Цёмныя валасы былі сабраны ззаду ў тонкую ніцяную сетачку.

– Усё, што было ў яе чэраве, прагла жыць, і цяпер яна хоча аддаць нам іх сілу. Еж! Замест адказу ўспыхнула і, адвярнуўшыся, уздыхнула. А Валодша ўжо выцер ручніком цёмныя вусны і падаў ёй жбан. Ласкава кашлянуў.

Тады, падняўшы жбан з падагрэтаю за дзень вадою, таксама ўсміхнулася — лінула яму спачатку на вялікія рукі, потым на галаву і спіну. Ліла, а ён, распырскваючы ваду, задаволена смяяўся. Выцерся. І раптам, выпрастаўшыся, заціх. Такі вялізны, з хваліста раскіданымі па плячах густымі валасамі. Пацямнеў тварам. Адчуўшы нязвыклае ўзрушэнне, Вольга нават адступіла. А ён, рэзка падаўшыся наперад, нечакана схапіў яе за плечы. Бясцямна зваліў, кінуўшы на лапнік. Груба і ўладна, як палонніцу. Запрагнуў. Упершыню за гэткае доўгае сумеснае жыццё ў пушчы. Пасля, прытрымліваючы Вольгу за рамёны, заспяшаўся. Быццам адчуваў, што якраз цяпер, пасля смяротна небяспечнага палявання, абое нарэшце адчуюць моцны прыліў млосці. Вялікае цела Валодшы навальвалася на Вольгу так прагна, што, міжволі выпрастаўшыся, сама пачала расхінаць каптан. А ён так доўга цалаваў і лашчыў грудзі, чакаючы, пакуль не запалае і яна, так прагна лашчыў увесь жывот, што, паддаўшыся пяшчоце, нечакана для сябе самой, рэзка і шалёна зарухалася разам з ім: працятая салодкай стралою, апантана ўскрыкнула. З глыбіні рынуў, паліўся струмень гарачае смагі. Сцяўшыся ад магутнага поклічу, які сама ў сабе нечакана знайшла, на хвіліну супакоілася. І ўсё ж, хаця была ўсё яшчэ перапоўнена слодыччу, у нейкі момант зразумела, што мужчынскае, Валодшава, чэлеса засталося глухім. Тады адвяла ад сябе яго рукі, стуліла спеклыя ад здзіўлення вусны, згадаўшы ўбачанае на бялявіне. Закашляўшыся ад чаднага дыму, міжволі падняла позірк. І тут жа ўскочыла на ногі: ледзь прыхаваныя нізка апушчаным сасновым голлем, зусім блізка ад іх вогнішча згрудзіліся, бліскаючы палаючымі вачыма, смерды. Затупалі, выступаючы наперад, нагамі:

— Будзі нам! Будзі наша! Будзі! Будзі! Будзі наша!

Гэта было так нечакана і страшна, што Вольга залілася прыкрай чырванню. Паперадзе збою знерухомела праставалосая, што вар'ятка, у пераціснутым травяным паскам грубым покрыве Маўра. Ухмыляючыся і пагладжваючы сцёгны, разбэшчана пазірала на гаспадыню. Тады, рэзка адвярнуўшыся і ўжо не зважаючы на крыкі Валодшы, Вольга яшчэ раз азірнулася і кінулася ад лапніку ў глыбіню

пушчы. Паляцела, не разбіраючы дарогі, у чорную нетру. Імчала, пераскокваючы праз сушняк, безвач, і галлё сустрэчных дрэў бязлітасна шоргала цэўкамі, абдзіраючы ёй рукі і аблічча. Нарэшце, не ў змозе трываць боль у паколатых нагах, спынілася і падняла галаву. Перад вачмі разлягалася сцюдзёнае лясное возера. Гэта была іх з Валодшам патаемная мясціна. Недзе ў карчах звыкла чакаў човен з вяслом, і Вольга адразу ж пабегла ўздоўж берагу. Захекаўшыся ад задухі, нарэшце ўпала на засцеленае сухой травою дзнішча старога, заслоненага зверху ляшчыннікам, звярынага лагва. Расціраючы па шчоках нечаканыя слёзы, апусцілася наўкаленцы, згадваючы разбэшчаны людскі збой і Валодшу. Слёзы не суцішваліся. Ночай, падаючы ў глухі, як пячора, сон, яна ўрэшце скруцілася на мяккім лісці і ўжо ні на што не зважала. Паблізу, раструшчваючы сухастой, пралятала звяр'ё. Зрэдчас вухкала сава і даносілася грознае ваўчынае выццё. Перад самай раніцай азваўся, зароў праз усю бялявіну стары лось-адзінец. Разам з шархаценнем прыбярэжных ачаротаў памацнела і мернае плёсканне хваляў аб днішча чоўна. Але Вольга – не прачыналася.

## РАЗДЗЕЛ 3.

Ярка-чырвоны, быццам крывавы, шнарок зары імкліва расцякаўся па бліскучай слюдзе возера. Нечакана ляснуў па самай сярэдзіне, узносячы ўверх спічастыя вежы першага хрусткага прамення. З глыбіні неба вырастала, набракаючы агнём, вялізнае ранішняе сонца. Абмываючы твар па-ранішняму сцюдзёнай вадою, Вольга схілілася да чорнай яміны і адразу ж, скасіўшы позірк, убачыла прывязаны да ляшчыніны даволі вялікі човен. Пераапранутая ў сухое і ўжо абутая ў простыя хадачкі, што заўсёды чакалі яе пад лісцем зямлянкі, радасна агледзелася. Усё дыхала прастораю, выпроствалася і атрэсвалася ад сну. Урэшце, упарта адганяючы наплывы нядобрых згадак, яна заплюшчыла павекі. А калі нарэшце развінула іх, перад вачмі зрабілася спачатку чорна, потым шуснуў яркі сноп сонечных іскрынак: гэтак блізка было перад ёй Валодшава аблічча – цяпер чамусьці нязвычна выхуднелае, з шырока пастаўленымі зялёна-шэрымі вачмі. А Валодша ўжо ўзважваў на руцэ тонкія восці для рыбных ловаў. Наўздзіў наструнены, з вострымі, як абмянташанымі шорсткім ветрам, лапаткамі на прыгорбленай спіне.

Урэшце, узрадаваная ягоным, хоць і запозненым, прыходам, Вольга азірнулася. Размякчыла ў роце прынесены праснак. Недзе ў патаемных спратах спакутаванай душы спачатку нясмела, але вось

ужо больш адчувальна заторгалася адна вялізная і халодная, як гэтае лясное возера, сляза. Падняўшы вочы, сустрэлася з лагодным і сумнабалючым позіркам: пачакаўшы каля чоўна, Валодша ўжо асцярожна дапамагаў ёй пераступіць борцік і прымасціцца на днішчы. Нарэшце з упэўненай рашучасцю падняў вясло, і човен паляцеў уздоўж густа зацененага лазнякамі берага, імкліва дастаўшыся да сутокі гэтага доўгага, як п’яўка, азярца са Свіслаччу.

– Наша Лада вялікая прагне не толькі мае любові, але і ласкі ўсіхняй. Тады не скудзее семя зямное.

Не выпускаючы з рук вясла, Валодша пільна ўзіраўся ў берагі. А яна, апусціўшы ў ваду руку, рассякала даланёю пругкі імклівы рух плыні, зразумеўшы, што менавіта тут возера і ўліваецца ў Свіслач.

— І дух народзінаў уплывае ў нутро людскае, лада. Ці думала пра тое?

Над вірамі, што змяіліся ўздоўж супроцьлеглага берага, навісала круча, і пад яе жоўтым брывом разлягаўся схоплены ажыннікам бераг.

Хіба ты не наша князёўна!?

Разгублена паднесла насцярожаны позірк.

– Хіба не ў тваім нутры гроны жыццяў нашых крыўскіх маюць быці!?

У голасе Валодшы ўжо чуліся выяўна-пагрозлівыя тоны:

— Чаму ж не хочаш аддаць нам семя сваё?

Гнеўна зірнуўшы на яго з-пад насупленых броваў, адвярнулася, але Валодша не суняўся:

— Пашто Ладзе вялікай працівішся, князёўна!? Будзі з намі! Апладняйся! Залі сокам пякучым шчэлі зямныя... Норы... Гнёзды. Соты. Вунь колькі багацця мецьмеш. Слодыч захлісне. Будзі маці ўсім! Цябе выбраць хочам.

Не хавала раздражненага здзіўлення, але ён, выбіраючы найбольш прыдатныя для ловаў прыбярэжныя лазнякі, ужо нічога не заўважаў.

– Ад чаго знямела, ведаеш?

Выпрастаўшы плечы, пазірала на яго з насцярожанай цікавасцю.

— Бо і Пярун наш таксама маўклівы. І Лада. Замкнула мову табе, князёўна, каб шчэлі ўсе іншыя адамкнуць. Толькі знак падай — і ўсе будзем слугамі тваймі.

Сціснуўшы вусны, адвярнулася ў роздуме. Але нарэшце запытальна ўскінула бровы.

— А хто бацькам будзе, пытаеш? — Міжволі ўспыхнуў.

— Там, дзе Лада, — там і Пярун. І ўсе мы, князёўна. Лада... яна ўсіхняя!

Ад нечаканссці нават закашлялася і міжволі азірнулася. Добра разагнаўшы човен, Валодша ўжо кінуў яго на пясчаны язык берага і першым ступіў у ваду. Прыстаў, каб дапамагчы Вользе сысці на цвёрдае. Нахіліўся і пацалаваў яе:

– Будзі мацераю ўсім нам, князёўна!

Нарэшце, удала развярнуўшы човен пад шаты разлапістай, нахіленай над белым кіпенем рачных лілеяў, алешыны, надоўга заціх. А яна, стоячы на невысокім пяшчаным погарбе, наструнена назірала за ловамі. У чоўне пад мокраю травою ўжо трапятаў, вытыркаючы ўверх калючкі і пярэсты хвост, ладны вокунь. Вялікая рачная страказа з блакітнымі палоскамі на доўгіх крылцах села на сухі борцік. З вады, як высахлыя кульці, вытыркаліся барадаўчатыя галіны карча-тапляка. Шапацела лістота, але Вольга быццам змярцвела. Замёр і Валодша, ледзь не кранаючы вастрыём восцяў чорнае вока ракі. Упёршыся каленам у борцік, нахіліў човен амаль да самай вады. Тонкакрылая страказа імгненна ўзляцела з борціка ўверх, але засяроджаны Валодша ўжо нічога не заўважаў.

І раптам вялікі вокунь, выбіўшыся з-пад травы і ўдарыўшы пляскатым хвастом аб днішча, падскочыў і так гучна плёхнуўся з чаўна назад у раку, што Валодша адно няўклюдна махнуў рукою і ад нечаканасці страціў раўнавагу. Паляцеў галавою ў чорную, бы смала, ваду. Вызвалены човен, зачапіўшыся за тапляк і накрываючы днішчам вялікія хрусткія кветкі, пачаў імкліва паварочвацца да вірлівай стромы. Не хацела верыць вачам, аднак човен ужо знікаў за густымі карчамі. А яшчэ праз хвілю, недзе на сярэдзіне стромы, з вады вынырнула мокрая галава плыўца: толькі ўскінуўшы над хвалямі замашыстыя рукі, Валодша таропка паплыў па цячэнні. Але вось зноў рынуў назад у рачную глыбіню. Тады, ледзь прытомная, у роспачы кінулася ўздоўж берага. Аднак Валодшы, як ні азіралася, нідзе не было. Яна абмацвала пільным позіркам крутыя берагі і вербалозіны, увесь час суцяшаючы сябе тым, што Валодша заўсёды быў добрым плыўцом. Перапалоханыя чыркі, лопаючы па вадзе пругкімі крыламі, з шумам выляталі з-пад пераплеценых лазовых шатаў і праносіліся над самай яе галавою. Нягледзячы на калючыя восці ажынніку, старалася падыйсці бліжэй да ракі, аднак папераду ўвесь час паўставала высокая сцяна ачаротаў і лазняку. Падняўшы твар, злавіла дыханне свежага вечаровага ветрыку і здзіўлена зразумела, што яе марныя пошукі доўжыліся ледзь не да самага вечара. Хістаючыся, зноў заспяшала далей. І раптам, нечакана для сябе

самой, спынілася каля маленькай касы, аточанай нізкім шчацінстым сітнікам. Прыгледзелася: якраз тут было самае мелкае месца. Над ракою пачало змяркацца і з супроцьлеглага берага, быццам паклікаўшы яе да сябе, ласкава зазвінелі высокія пушчанскія сосны.

Тады, не распранаючыся і ўжо ледзь трываючы роспач, Вольга рыўком ступіла ў раку. І адразу ж апеклася сцюдзёнасцю вады, сцепанулася ўсім целам. Па спіне, здаецца, запоўзалі непрыемныя казытлівыя слімакі. Рачное дно было жвірыстае і даволі тугое. Старалася ісці хутчэй, але скураныя хадачкі, набухшы, пацяжэлі. Паднятая над вадою паветрам спадніца напнулася, але тут жа, намокшы, апусцілася і абляпіла ногі.

Яна ішла і чакала, што вось-вось сарвецца ў якую-небудзь донную яміну, дзе грозная рака зможа наваліцца і здушыць яе ўсім сваім цяжарам. Пасля, ужо нежывую і нерухомую, панясе па дне, затузае ў розныя бакі; слізкая трава пачне абмацваць адплюшчаныя мёртвыя вочы, перапляцецца з доўгімі распушчанымі валасамі. Вада і дапраўды падступіла амаль да самых Вользіных грудзей, з сэрца па кроплі выцякала жаданне ісці далей і жыць. Нешта слізкае і гідкае абкруцілася вакол каленяў, павольна папаўзло ўверх: ногі падгіналіся і дрыжалі. Над ракою са свістам праляцеў цікаўны ветрык і цемра адразу ж заляпіла ўсё ваколле. Урэшце, гатовая да ўсяго, Вольга чакала апошняга рыўка невядомай пачвары. Тады роспачна закрычала. І сама сабе здзівілася: упершыню за доўгі час яна гэтак гучна і выразна прамовіла слова. Гэта было толькі адно, вешчунова, імя. Прыслухалася, аднак навокал княжыла насцярожаная цішыня. Блізілася навальніца. Паспрабавала паклікаць Валодшу яшчэ раз, але голасу ўжо не было. На супроцьлеглым беразе нечакана бліснуў агеньчык. Яскрава ўявіла жоўты язычок вялікай свечкі пад абразамі. З начной глыбіні на яе, здаецца, зірнула сама полацкая ігуменння.

Тады, хапаючы сцюдзёныя глыточкі паветра і выцягнуўшы перад сабою рукі, Вольга адчайна кінулася наперад. Да такога жаданага і, як аказалася, блізкага берага. І адразу ж адчула, што пачынаецца дождж. Рэзкі і халодны. Над галавою Вольгі з ляскам загрукацела. Неба пачалі паласаваць кароткія, бы лёзы мячоў, бліскавіцы. Пачула моцны ўдар грому і трэск, ад якога міжволі падняла позірк. Зусім блізка ад берага ярка палала расшчэпленая маланкай сухастоіна: у твар дыхнула прыветнае цяпло і ўсё навокал павесялела. Дождж нечакана таксама адступіў і зашалясцеў у пушчу. Толькі цяпер, усвядоміўшы, што пад нагамі, нарэшце, выратавальны бераг, яна ўсцешана азірнулася. І адразу ж змеціла прыдатны для начнога адпачынку сушняк. Сасна на высокім беразе, прыцягваючы

да сябе позірк, ўсё яшчэ ярка палала. Кідала на чорную і, здавалася, нерухомую плынь ракі мігатліва-барвовыя водбліскі.

... Вольга дасталася да ляснога жытла вешчуна толькі пад раніцу. Але чамусьці, нечакана для сябе самой, не абазвалася. Не выходзячы з-за сеткі густа пераплеценых карчоў, спачатку стоена цікавала за падворкам. Суцішвала разгарачанае дыханне: слых у Валодшы ўлаўліваў нават палёт чмяля.

Тое, што ён выбраўся з ракі ацалелым, Вольга адчула яшчэ на золку блізу датляваючай чорнай сасны. Ледзь зводзіла павекі, баючыся нападу прыблуднага звера. Лавіла водгулле начных галасоў, прагнучы пачуць толькі крык Валодшы. Але той не аб'явіўся. Цяпер, назіраючы са свайго схарону за шызым дымком, што цадзіўся з дзіры ў стрэсе, Вольга з цяжкасцю стрымлівала жаданне выйсці, але патаемны ўнутраны голас астуджваў і пярэчыў: пачакай! Нарэшце і сапраўды дачакалася: з-пад густога сасновага навесу, пастаўленага за звярынымі загарадкамі, выйшаў сам Валодша. Убачыўшы яго, дужага, з распушчанымі па шырокіх плячах хвалістымі валасамі, ускрыкнула ад радасці. Але тут жа прыкусіла губу: з-пад таго ж навесу выйшла і Маўра. Шчасліва ўсміхаючыся, прыхінулася да грудзей Валодшы і пацалавала таго ў вусны. З'явіліся і іншыя ловы – з кароткімі паляўнічымі баярдышамі ў руках. Гучна смеючыся, аб нечым перамаўляліся. Тады, ледзь стрымліваючы трымценне каленяў і задуху – грудзям не хапала паветра – Вольга падалася наперад. Маўра, убачыўшы гаспадыню, адразу ж адхітнулася ад Валодшы, ловы міжволі пацясніліся ў гурт, але Вольга на іх ужо не зважала. Мінуўшы доўгі чарод акораных, лазою перацятых, жэрдак загарадзі, адвязала ад аднаго са слупоў Сыча. Увесь час чула спінаю нядобрыя позіркі. Нетаропка выняўшы са скураной прысядзельнай кайстры сваё ваярскае начынне, прымацавала да пояса шырокі пояс з мячом. Імкліва ўзляцеўшы ў сядло, узмахнула плёткай. Сыч уздыбіўся і паляцеў міма загарадкі. Смерды таропка адбеглі ад сцежкі. Валодша таксама паднёс руку і нешта крыкнуў услед. Але яна, нават не азірнуўшыся, ужо рашуча неслася з двара ў пушчу.

Праз некаторы час, мінуўшы забалаць, Вольга аб'ехала глыбокі, парослы воўчымі карчамі, роў і спынілася. Конь па звычцы вынес яе на капішчанскую бялявіну: супакойваючыся, заціхла перад хорсам. У галаве нарастала глухое гудзенне, якое пачало закладаць вушы яшчэ ноччу. Урэшце, падступіўшы бліжэй, выхапіла меч і гнеўна апусціла яго на бліскуча затлушчаную галаву пушчанскага бога: жалезнае лязо, аднак, толькі слізганула па скамянелым дрэве, што адазвалася глухім

рогатам. Тады, пракаўтнуўшы пякучыя слёзы, яна рэзка павярнула каня на даўно вядомую ёй, добра вытаптаную сцежку. Гнеўна паднесла руку: Сыч ужо галопам імчаў да паляны з нізкарослым гарбатым ялаўцом.

* * *

Шырока расчыніўшы вароты кметавай, з-за якой чуўся гучны мужчынскі рогат, Вольга ажно застыла: на стале стаяў вялізны жбан з медавухай, – пітвом, забароненым у палацы яшчэ самім князем Глебам. Дзесяцкі Вікула, бліскаючы сваімі дубовымі, з жалезнай аблямоўкай, латамі, усміхаўся. Кметы, бесклапотна пасеўшы на лаве за сталом, таксама весела шумелі. Хіба толькі на імгненне прыпыніўшыся, яна азірнула схмялелую варту палаца, але тут жа, рашуча ступіўшы да стала, так рэзка ўзмахнула плёткай, што на гліняную падлогу з плюханнем паліўся недапіты салодкі напой, зазвінелі аскабалкі разбітага жбана. А Вольга, толькі адступіўшы паўкроку, зноў падняла плётку і раз’юшана ўскрыкнула: праз успацелы твар маладога дзесяцкага Вікулы пралёг набраклы крывёю шнар. Кметы, якія пры з’яўленні князёўны нават не падняліся з лавы, цяпер узлавана паўскоквалі. Ледзь стрымліваючы трымценне вуснаў, застыў і Вікула. Аднак, зірнуўшы на князёўну, якая ўсё яшчэ трымала ў руцэ скураную плётку і грозна бліскала на яго шалёнымі вачмі, пабялеў. Пасярод кметавай, ледзь стрымліваючы гнеў, стаяла раз’ятраная дачка грознага Расціслава. Некалькі кметаў пачалі нерашуча апускацца на калені, але князёўна ўжо спяшалася ў двор. Уладным рухам паслаўшы кметаў на стайню, сама імкліва паляцела ў святліцу. Там, зняўшы з прысценнага мядзвежага кіліма крывы востры нож, схілілася над куфрам дзявоцкай вопраткі. Захрыпеўшы ад злосці, паласавала ўсё, што трапляла пад рукі. З дзвярэй палаца на вуліцу паляцелі перапалахоныя дворныя...

Калі Вольга з’явілася на ганку ў скураных ваярскіх нагавіцах і старой драцяной сарочцы з шырокімі бліскучымі наплечнікамі, верхавыя кметы ўжо чакалі. А яна, лоўка ўзляцеўшы ў сядло, пачула за спіною здзіўлены вокліч. Нехта з кметаў усё-ткі не вытрымаў: замест доўгіх чорных валасоў усе ўбачылі на галаве князёўны толькі пачварна злямчанае, кароценькае, як у смерда з порубу, пакулле. Але Вольга, безуважная да ўсяго, ужо рашуча нацягвала на галаву свой медны, падбіты тонкаю шчурынай шкуркай, шалом. Нарэшце так рашуча ўдарыла плёткаю каня, што ўзброеныя пікамі і бердышамі кметы ў мірг вока сарваліся з месца. Віхрам, ледзь паспяваючы за гаспадыняю, панесліся ў бок пушчы.

Немалы збой ловаў і смердаў, прыгнаны вартаю на капішча, згрудзіўся пасярод бялявіны, атачыўшы прычахлае, але ўсё яшчэ мігатлівае вогнішча. Усе трывожна касіліся ў бок хорса і ціха перамаўляліся. Не сыходзячы з каня, Вольга працягнула першаму з краю смерду невялікі, складзены з тонкіх кіёчкаў і перавязаны пасярэдзіне папаратнікавай цэўкай, крыж. Абсеяны па ўсім твары рабаціннем, зніякавелы дзяцюк рашуча адбег назад і нязгодна адвярнуўся.

Гнеўна бліснуўшы з-пад густых веяў залаціста-чорным агнём, князёўна сціснула вусны, і варта адразу ж сурова прыглухла. Паперадзе стаяла спалатнелая ад жаху Маўра. Узяўшы ў аднаго з кметаў крыжык, Вольга строга глянула на пакаёўку і тая міжволі адступіла: з-за дубовага хорса, скарыстаўшы замінку, нечакана выскачыў вялізны даўгавалосы смерд у воўчай масцы, рынуўся напрасткі ў пушчу. Кметы гікнулі, збіраючыся ў пагоню, але Вольга адмоўна хітнула галавой. Зноў працягнула крыж Маўры. Тая збялела і адступіла яшчэ далей. Тады, апусціўшы на плячо пакаёўкі плётку і пагардліва хітнуўшы галавою ў шаломе, князёўна азірнулася на грубага, што мядзведзь, дзесяцкага, падняла меч у бок Маўры. Дзесяцкі спачатку нічога не зразумеў, але князёўна, выпрастаўшы плечы, зноў паказала на Маўру. І кметы адразу ж узбуджана загікалі, зрываючы з сябе каптаны.

... Яны гвалцілі пакаёўку перад усімі на бялявіне, і тая здаўлена хрыпела. Нарэшце, зашахаўшы па голлях плёткамі і ўзбуджана перакрыкваючыся, усе спешыліся вакол гаспадыні. Спадылба цікуючы за нерухомаю, у парваным покрыве, Маўраю, чакалі загадаў, аднак Вольга безуважна пагладжвала густую грыву каня. І раптам, ні хвіліны не раздумваючы, выхапіла з похваў меч і з усяе сілы ўзмахнула ім перад сабою, быццам рассякала водбліскі яшчэ жывога агню. Людскі збой, стоячы на другім баку ад вогнішча, пазіраў на гаспадыню з упартай нянавісцю. А тая, здаецца, ужо нічога не бачыла. Сышла на зямлю. Гурт на бялявіне замёр: трымаючы перад сабой меч, князёўна, падступілася да самага вогнішча і нечакана, не зважаючы на агульны ўскрык подзіву, рыўком ступіла на сіваватае ад попелу вуголле: з-пад чабаткоў узвіліся язычкі тонкага сіняга дыму. Кметы імгненна спаўзлі з коней. Полымя, шугануўшы ўверх, лізнула драцяную сарочку, але князёўна, усё яшчэ з мечам у руках, не зважаючы на вогненныя плёткі, ішла наперад. Цэлыя снапы зыркіх іскраў абвівалі скураныя чабаткі і ўсю дзявочую постаць: бялявіна замерла. Старэйшы кмет нарэшце ачуціўся і кінуўся да агню. Агорнутая дымам князёўна, не аціраючы са шчок сляды-шнарочкі ад

слёз і пакідаючы за сабою вогненна-зыркі след, ужо выходзіла на парослую гарчычнікам каляіну. Над людзьмі навісла глухое зняменне. Ад скураных ботаў і нагавіцаў князёўны патыхала чадным дымам. Аднак тая, відно, не адчуваючы болю, нават не крывілася. Ушчыльную наблізілася да збою памярцвелых смердаў і нехта ў жаху выгукнуў: “Агненніца!...” Раструшчваючы вялізнымі ботамі счарнелае вуголле, дзесяцкі рынуўся да ваяўніча насцярожаных ловаў, але Вольга раптам падняла руку і пад агульны ўскрык здзіўлення так моцна ткнула перад сабою мячом, што вострае лязо з незвычайнай лёгкасцю прашыла плячо высокага чарнавалосага смерда-ворніка. Няшчасны, нават не зразумеўшы, што адбылося, імгненна заліўся крывёю. Нехта ў гурце смердаў заскавытаў і пачаў адводзіць параненага ўбок. А яна павольна выцерла аб скураныя нагавіцы меч, кінула яго ў похвы. Дарэшты ашаломленыя кметы ледзь змагалі здзіўленне і жах. Але вось ужо, грозна падаючы кожнаму на бялявіне перавязаныя папаратнікам крыжы, раз-пораз заляскалі пугамі па ўгнутых плячах, абступілі забраных з усіх бакоў, прымушаючы кленчыць. Вольга, зняўшы з пояса поўную біклагу, падняла яе, распырскала ваду па схіленых плячах, абыходзячы ўсю бялявіну:

– Маліцеся, людзі хрышчаныя.

— Ойча наш!

— Маліцеся: “ Ойча наш!”

— Маліцеся новаму Богу!!

...Вольга ачуцілася ад рэзкага конскага іржання. Азірнулася. Людзі з крыжамі ў руках кленчылі да самага краю бялявіны, аднак Валодшы сярод іх не было. Тады, падняўшы голаў, імкліва ўзляцела ў сядло. Дарэшты ўзбуджаныя, кметы ўшчыльную падступаліся да хорса. Спачатку, падпіраючы ідала жэрдкамі, доўга адрывалі таго ад зямлі. Потым, калі нехта з кметаў знайшоў у кайстры вяроўку, смялейшыя пачалі абкручваць ёй грубую блішчастую шыю і марудна расхітваць. Конча распалены няўдачай, хтосьці нават прывалок з пушчы сухастоіну, і яе тут жа раскрышылі аб драўлянае чэрава. Некалькі кметаў пачалі ў страху азірацца на Вольгу. Тады, пад’ехаўшы, рашуча ўскінула меч. Нарэшце з усяе сілы рэзка апусціла руку, і дубовы гаспадар бялявіны, хрыпла азваўшыся на ўдар траскучым рогатам, усё ж паддаўся. Зямля пад магутнымі, задымленымі нагамі з нядобрым шапаценнем пацекла некуды ў глыбокае нутро капішча: важка нахіліўшыся, вялізны ідал дрогнуў і пад гучны свіст раз’ятраных кметаў гохнуўся на зямлю. Упаў з такім гулкім стогнам, што смерды каля вогнішча роспачна закрычалі,

просячы аб літасці. Ідал, ужо скаціўшыся ў глыбокі роў, сапраўды адгукнуўся; грозна загудзеў да іх усім сваім нутром: у спіне драўлянага волата зеўрала вялізная, выедзеная шашалем, ікластая дзіра. Першымі апамяталіся і паўскоквалі на ногі, разбягаючыся, пабялелыя смерды: безвач ляцелі ў калючыя зараслі ялаўцу. З дзіры грознай хмарай выляталі вялізныя лясныя восы. Гэта была салодкая пушчанская смерць. Кметы ў жаху тузанулі за павады, з крыкамі кіруючы коней у нетру — восы ўжо джалілі людзей у шчокі, прывабленыя хмельным водарам медавухі. Ледзь стрымліваючы лекаценне, Вольга міжволі і сама хітнулася да грывы, але конь, шалёна заіржаўшы, ужо ляцеў з бялявіны.

…Яна падняла вочы толькі тады, калі Сыч спыніўся. Азірнулася. Конь стаяў перад заслаўскай капліцай. Зарыпелі дзверы: не хаваючы здзіўлення, да князёўны беглі зніякавелыя манашкі. А тая, спусціўшыся з каня на зямлю, пайшла ў капліцу. Пераступіўшы парог, змеціла ў сваіх руках драўляны, перавязаны папаратнікам, крыжык. Ад абразоў цягнула тонкім водарам свечак. У намоленай празрыстасці чуліся таямнічыя перазовы, у якіх адразу ж пазнала родныя галасы. Ледзь стрымліваючы роспач, упала на калені, і пахвы з мячом ударылі аб гліняны ток падлогі. Драцяная сарочка таксама шаргацела, але Вольга ўжо знерухомела. Нарэшце падняла вочы на абраз Маці Божай. Прыгледзелася: па светлым ліку Нябеснай Царыцы каціліся слёзы. А Вольга, здавалася, ужо не магла напоўніцу ўдыхнуць: "… наўмысныя і ненаўмысныя… Ці выбачыш правіны мае, Маці літасцівая? Грахі цяжкія…"

Паўсюль з-пад абразоў, адзываючыся да Вольгі матчыным голасам, гарэлі трымтлівыя свечкі. Тады затуліла вушы далонямі і застагнала:

" Пашто пакінула мяне, княгіня-матухна, дзеля чаго пакінула, такую няўцямную і горасную, у адзіноце? Чаму не абзываешся голасам жывым да юніцы неразумнай ні ўдзень, ні ночаю?! А ні з вады плотачкай не бліскаеш, а ні з галінкі галубкаю не ляціш, а ні траўкаю з зямлі не гойдаешся. На каго ж пакінула мяне!? "

Моцнае пачуццё вялікага жалю працінала Вользіна сэрца такой пякучаю скрухай, што, падзівіўшыся гэтай новай, такой балеснай шчымлівасці і ўжо не ў змозе трываць боль у галаве, яна выбегла ў двор. Манашкі якраз неслі Сычу цэбар з вадою. Пачакала, калі конь нап'ецца. Нарэшце, пакланіўшыся капліцы, узляцела ў сядло. Кіўнула на развітанне сёстрам. А тыя, агаломшаныя, яшчэ доўга стаялі ў сваім двары.

... Мінаючы па дарозе дадому густыя лясныя нетры, Вольга міжволі шукала позіркам знаёмую постаць. Прыслухвалася да насцярожанай шапатлівасці ветрыку ў нізка схіленым веццi і здрадлівага хрусту сушняку пад капытамі Сыча. Перад вачмі раптам бліснула скрываўленая світка на плячы параненага ёю смерда. Ужо не верыла, што магла падняць зброю на чалавека. Хітнуўшыся ў сядле, схапілася за левы бок, што ажно задзервянеў ад болю. Згадала і Валодшу, да пляча якога, шчасліва ўсміхаючыся, тулілася Маўра. Усё пераклытае нагадвала далёкі чужы сон. Тады мацней сціснула павады пальцамі:

“Я прыйшла да яго з палаца насуперак бацькавай волі. Але пашто ж забыў пра тое!? І я сама таксама забыла... што — дачка бацькі свайго! Князя вялікага Расціслава! Вольга!” Ледзь стрымліваючы роспач, зноў памкнулася прыкрыкнуць на свайго і без таго паслухмянага Сыча; рассердзелася на купчастую, перацятую каранямі дарогу: вусны ўсё яшчэ не хацелі растуляцца, агортваючы яе страшным маўчаннем. Тады няўцешна заплакала. Гэткае ж роспачнае аняменне пачало з’яўляцца ў Вольгі яшчэ пасля матчынай смерці. Весі, як расказвала нянька, адразу ж з глухім пострахам зашапацелі пра знямелую юніцу. Такіх, анямелых ці аглохлых, дзяцей даволі часта тапілі ці спальвалі на вогнішчах каля хорса. Ад страху, што пошасць маўчання навядзе на двары лютую хворасць. Аднак тут была княжая дачка...

Даведаўшыся пра новую бяду, бацька, помніцца, нават падвоіў варту і перастаў клікаць у палац жаніхоў. А яна, не зважаючы ні на спёку ні на шалёныя навальнічныя грымоты непагадзі, адно безвач насілася па наваколлі. Лётала ўзбоч дрымотнай пушчы на сваім няўтомным кані. Уцякала ад гнятлівых думак пра няспраўджанае дзявочае шчасце. У палац бацькі-князя ўжо даўно заязджалі толькі выпадковыя купцы і служылыя кметы.

## РАЗДЗЕЛ 4.

— Гэта толькі здаецца, што мы доўга едзем, Коста. А ўсё іначай.

– Але ж Вольга ...

– Ці ўсё ты, Коста, ведаеш пра людзей?

– Пра Вольгу — усё.

– Ой, дабрадзей...

Міхал з усмешкаю зірнуў на кніжніка і адвярнуўся. Галілейская дарога стала такой камяністаю, што ўсіх на павозцы няшчадна затрэсла. Будынак манастыра, здавалася, нават аддаліўся, і ўсе

незадаволена перамаўляліся прыглухлымі ад стомленасці галасамі. Маўчаў, косячыся на залатавокую Вольгу, толькі Коста.

– Ты болей за іншых стаміўся, Коста. — Міхал зноў спагадліва зірнуў на кніжніка і той, заліўшыся чырванню, заспяшаўся з адказам:

— Не тое кажаш. Я... Як і Вольга, я не стамляюся зусім.

– Патрывай. Хутка даедзем, Коста.

– Як Вольга, так і я.

Не падымаючы галавы, маладзён таропка прыхінуў да грудзей вялізны, з меднымі зашчэпкамі, пергамін. Ціха, быццам гартаючы нябачныя абалонкі, зашаптаў напамяць:

“...і ў леце даўнім, адна тысяча сто трыццаць дзевятым, калі разам з уладыкам Казьмою ў Полацк вярнуліся з Царгорада, ажно праз дзесяць летаў пасля выгнання, сыны Барысавы Рагвалод і Іван, далі яны сэрцу ігуменні і радасць ад вяртання свайго, і жаль, бо не прыцішылі, а яшчэ мацней раздзьмулі полымя сварак за валоданне стальцом вялікім. Паўстаўшы адзін супроць другога, яко вепры пушчанскія, заграззлі браты ў багне нянавісці і інтрыганства на доўгія леты. Раздрай вялікі прыйшоў на Полаччыну. Толькі ж і другая бяда гнездзілася ў сэрцы Полацкім.”

Князь Давыд азірнуўся і ціха гмыкнуў у кулак, але Коста не спыняўся:

“Нават рыбакі з далёкай Герсікі добра ведалі, як моцна памыліўся праслаўны князь Васілька, аддаўшы дачку за сына кіеўскага князя Усевалада. Супраціўнік жа ягоны Рагвалод праз удалую жаніцьбу сына выйграў, парадніўшыся з Ізяславам Мсціслававічам. Пралічыўся Васілька, князь міралюбны. Але ж хто ведаў, што якраз у леце адна тысяча сто сорак шостым паклічуць да варотаў нябесных вялікага Ольгавіча, і пасля смерці яго ўлада ў Кіеве так хутка змянілася, што Васілька ледзь паспеў збегчы ў Відзьбескую вотчыну, дзе і затаіўся надоўга.”

Так казалі яму, Косце, у імператарскай бібліятэцы. Спачатку сама Еўфрасіння-уладычыца, пасля — ігумен Міхал. Дзівіліся, што мітрапалітам Кіеўскім па тым часе не грэцкі прызначэнец стаў, а русіч з-пад Копыся Смаляціц, чарнец Зарубскі. Дастаўшыся да ігуменскае ўлады, раскалоў той Смаляціцкі скіпетр увесь рускі клір. Замяшаў у катле цэлых дзесяці летаў вялікую смуту: нядобрым цяжарам легла яна на плечы манастыроў. Казаў яшчэ сівабароды ігумен:

“І не забудзі жа распавесці, вотрак, як у тым жа часе, калі раздрай у царкве ўчыніўся, падняў іспра сваіх туценаў з прорвы. І пачаліся, косці пашчарбляючы, сукупленні жывых з наўем ды

ведзьміны шабасы, што з дамавін вылазяша ў ночы. Зачадзела паўсюль. І асабліва — у Запалоцці, дзе князь Барыслаў кроў густую піў з чэрапа чалавечага. Казалі, быццам чэрап той – ад прашчура князёў полацкіх, яшчэ ханам забітага. Толькі ці праўда яно?”

... Белатварая красуня, якая ўвайшла ў ягоную бібліятэку следам за ігуменняй, і была дачкою таго самага Расціслава Менскага, што, пакліканы вечам на вялікі сталец, смела рушыў па прыездзе сваім на пошасць, руйнуючы тацяў сызпеклых вераю хрысціянскай. І пра ўсё гэта, як і пра іншае ўсё, пры добрай памяці значыў увесь час падрабязна ў летапісе Полацкім ён, сын чарналюдзіна, прыкмечаны сярод іншых інакаў пільным вокам самой уладычыцы. Леты разгортваў, як шаты нябесныя, зоркамі абсыпаныя. Зімы халодныя прыпыняў, снегам кручы высокія завеяўшы. Бо сказана: “ І дапраўды тысяча год, як дзень учарашні!” Добра хуткую плыннасць летаў, згадваючы Нестара, спазнаў ён, служка ігуменскі Коста, у скрыпторыях. Вось толькі калі госця залатавокая ў бібліятэку зайшла, усё ў галаве ў Косты перамяшалася. Зацьміўся белы свет. Пасля, калі ўваччу ўжо крыху заяснела, слухаў ён у гэтай доўгай дарозе расповяд чарніцы Далі пра першы Вользін прыезд у абіцель. Якраз тады, калі князя Расціслава, паклікалі на сталец. Слухала Далю і сама Вольга. Пасмейвалася. Потым і Міхал дапоўніў казань. Быццам бы мячом чорныя скібкі летаў ад памяці сваёй перад Костаю адсякаў. Мовіў без продыху, прыспешваючы: “Не забудзі жа, Коста! ” Усё – пра Полацк. Пра Расціслава і Рагвалода, пра Васільку і сына ягонага. Вось толькі адна яна, князёўна менская, маўчала. Слухала, і па вачах цёмна-залацістых відна было, што нічога яшчэ не забыла.

* * *

... Тая далёкая дарога ў Полацк была настолькі пакутлівай, што Вольга, толькі на хвілю заехаўшы ў бацькаў палац і баючыся роспытаў і княжых папрокаў, адразу ж падалася ў Сяльцо. Манастыр, як і спадзявалася, сустрэў мянескую госцю вусцішна, не выпытваючы сапраўднае прычыны яе доўгай адсутнасці. Праўда, чакаючы завяршэння новага манастырскага будынка, Вольгу пасялілі не ў асобнай келлі, а ў танкасценным скрыпторыі, дзе некалькі манашак перапісвалі Наміянзіна. Такая непавага яшчэ болей пакрыўдзіла, але ігуменння нават не абзывалася, з цікавасцю назіраючы за пляменніцаю здалёк. Падчас іх кароткіх сустрэч Вольга адно пакорліва апускала вочы: ужо зразумела, што гаспадыні абіцелі пра яе капішчанскія забавы вядома значна болей, чым бацькавым віжам. Хаваючы ад сёстраў нядобрыя думкі, яна па-ранейшаму трымала ў

запаветным куфэрку і драцяную сарочку з грубымі нагавіцамі, і шалом з брамніцаю.

У скрыпторыі было холадна, таму, з нецярпеннем чакаючы завяршэння будаўніцтва, князёўна не знаходзіла сабе месца. Аднак і пасля перасялення яе ў новую келійку, нічога не змянілася: пра Вольгу зноў асабліва не рупіліся. Тым болей, ніхто не зазіраў у яе менскі ларэц, дзе па-ранейшаму ляжала атрутная гарошына, пра якую і сама яна ледзь не забыла; з шарай раніцы да вечара разам з сёстрамі праводзіла ў малітвах: усе адразу ж змецілі і ўхвалілі тонкі шчымлівы голас прышлай. Не ў змозе нават слова вымавіць, Вольга наўздзіў хораша спявала малітвы. Тая злосная рашучасць, з якой яна выязджала з Менску, у сяльцовым намоленым прытулку амаль зусім прыглухла: недзе на самым донцы сэрца часам шчымела апошняя кропля болю, аднак Вольга да яе ўжо не апрыслухвалася. Учора, праўда, калі Сяльцо завіравала падрыхтоўкаю да Пятрова свята, сярод прыезджых жмудзінскіх рыбакоў выпадкова ўбачыла яна наўздзіў вялізнага калматага смерда, які здалёк нагадаў Валодшу. У горле пякуча зашчымела, памяць кальнула пад рэбры вялікай самотаю. Ужо ночаю, у сваёй бяссоннай келлі, Вольга нарэшце зразумела, што ўсе гэтыя леты, тоячыся ад сябе самой, насіла ў душы пякучае жаданне ўбачыцца з каханым. Скруха была такой едкай, што ледзь не кінулася шукаць Валодшу сярод работных наймітаў, але насцярожаны ставокі манастыр, молячыся да самай раніцы, не спаў. Тады, хапаючы вуснамі слёзы, вярнулася ў келлю. На мулкім драўляным тапчане падцягнула да самага падбародка худую коўдрачку і пакутліва застыла. Ужо шарай раніцай, не дачакаўшыся выратавальнага сну, яна на імгненне вызірнула ў двор. Свечка бліскала толькі ў адным акенцы. У той самай келлі, дзе жыла ігуменя.

Тады ўмомант паспакайнела і нарэшце заснула.

## РАЗДЗЕЛ 5.

*“ Ігуменні святлейшай Еўфрасінні ад пісца Ерамії. У леце ад нараджэння Божага ... пяцьдзесят дзевятым, дні восьмым кветня-месяца. Дазнанне. І сказана дзесяцкім з Запалоцця Аўдзеем, што выспяваюць у Полацку здрады пагрозлівыя, бо даўно ўжо, святлейшая, не пагарджаючы подкупам, прагнуць Рагвалодаўскія баяры крыкнуць князю вялікаму Расціславу Глебавічу, як некалі і самому Рагвалоду: “Не хочам цябе!” Падымаюць супраць стальца пасады і глухія двары. Разаслаў вялікі князь па весях атрады верных кметаў, спрабуючы прыцішыць нечаканы бунт, але ж баяры*

*хлуслівыя нашапталі ўжо супроць яго нават халопнікаў-рэпаедаў і лясных памытчыкаў. Бяда такая ў княстве нашым, святлейшая.*

*Якраз цяпер, калі вы з дойлідам Іаанам штукаваць надумалі царкву Успення Багародзіцы, стрыечныя браты з абодвух каленаў княжых, зроднікі твае, за сталец кроў гатовы праліць.”*

У келлі было холадна, і Еўфрасіння, адсунуўшы пергамін, пачала паходжваць. Любіла вось так, абыходзячы сваю келлю, думаць. Устрывожаны Расціслаў, як ужо ведама ёй, памацніў ахоўную варту па ўсіх межах, але нічога не дапамагала — верных стальцу людзей амаль штодня знаходзілі з перарэзанымі горламі ажно за ахоўным ровам. Пакутуючы ад бяссоння, вялікі князь і сам тыдзень таму прыязджаў раніцаю ў Сяльцо. Спачатку распытаў у яе пра дачку, затым перайшоў да сваёй просьбы. Развітваючыся з ім, паабяцала сустрэцца з найбольш важнымі баярамі. Сказала князю сваё слова – і абяцанае спраўдзіла: сустрэча з Рагвалодам была прызначана на дзень Святога Пятра; і тое зладзіў ёй сам ваявода Вялішын. Згадзілася, бо добры дзень для замірэння. Вось толькі пра што яшчэ хацеў сказаць ёй у гэтым пасланні ўстрывожаны пісец епіскапскі?:

“ І *даносіць дзесяцкі з Запалоцця, святлейшая, што варту княжую трэба на дзень замірэння памацніць, і нават дружыну Вялішына ў Полацк заклікаць. ”*

Укінуў пісец у яе сэрца вугалёк трывогі, але болей ні слова не дадаў. Аднак жа, да важнага дню было рукою падаць! Тады нарэшце паклікала сястру-гаспадыню. Тая, выцягнуўшы з манастырскіх лёхаў мяхі з мукою і бобам, агледзеўшы цэбры мочаных ягад, цэлыя горы сухіх грыбоў і камяні воску, накіравала паляўнічых ў нетры Запалацця. Пагаварыўшы з мядовымі старастамі, прычэквала і рыбакоў-жмудзінаў. Па ўсім Полацкім краі даўно ведалі: на пачастунак сяльцовы сёстры шчодра выстаўляюць місы са смажанаю ў арэхах сялявай і дзічынай.

* * *

Падзужаная клапатліва-засяроджаным снаваннем у трапезнай і агульным святочным уздымам, урэшце не вытрымала, падрадзіўшыся дапамагаць на рыбным лавідле, і Вольга. Упершыню за доўгія леты затворніцтва насмелілася выехаць за вароты Сяльца. Праўда, назаўтра раніцаю зноў збаялася. Праца каля ракі здалася нязвыкла цяжкай. Але тут жа ўспыхнула: што гэта сталася з ёю, такою раней адчайнай і гордаю? Што сталася?! Забегаўшы па нейкіх неадкладных

справах праз падворак, нарэшце зразумела, што зноў чакае сустрэчы з Валодшам. Але таго нідзе не было. Думкі, аднак, пакіраваліся да іншага: дзень ловаў блізіўся.

… яна прыняла Палату адразу ж, як толькі з сёстрамі саскочыла з вазка на прыбярэжны дзірван. І адразу ж здзіўлена зразумела: плыткая рака, зазірнуўшы ў сэрца, нечакана адкрыла ў ёй тыя даўнейшыя, амаль забытыя, унутраныя слых і зрок. Замёршы перад грознай таямнічасцю берагоў, Вольга ахапіла позіркам велічную прастору шырокага, як скінуць вокам, вусця. Прыбачыла і сінюю, да чарнаты, глыбіню імклівай плыні, дзе пачынаўся рух магутных цячэнняў. Пасылаючы наўкруг сябе насцярожаныя позіркі з-пад прамых чорных броваў, слухала шоргат развярэджаных хваляў. Узрадавана ўздыхнула — да ракі на вялізных новых падводах набліжаліся жмудзінскія арцельнікі. Сонца ўжо збіралася ўзыходзіць на свой завоблачны сталец, усё навокал дыхала радасным чаканнем: услед за вялізным сівабародым важаком, гэткія ж шырокія ў плячах і барадатыя, прыезджыя рыбакі з воклічамі здзіўлення саскоквалі на дзірван. Залітая яркім сонечным праменнем Палата адбірала вочы светлай бязмежнасцю, выдаючы асабліва магутнай якраз пры гэтай сутоцы з Дзвіною. Агледзеўшыся, жмудзіны тут жа ажыўлена падступілі да сецяў. Недзе там, у патаемнай глыбіні Палаты, пачынала трымцець звонкая вастрадзюбая трава, наўкруг якой сігалі тонкія вёрткія шчупачкі, кідаліся стайкамі ў розныя бакі, адчуваючы трывогу рачнога мацярынскага ўлоння. Праз дробныя, нагнаныя нізавым ветрыкам, хвалі раптам ударылі першыя скураныя пугі, грозна заляскалі шырокія лёзы вёслаў, затрашчалі жардзіны загоншчыкаў, завухкалі важкія прыбярэжныя біты. Вялізны сівабароды Кірык, знерухомеўшы на самым аброжку берагавой кручы, нечакана сумна ўсміхнуўся Вользе: Палата, распіраючы ад страху берагі, балюча і горасна, як пры развітанні, ўскрыквала. На тонкія вецяркі нанізваліся колцы апошняга туману. Тады, не адрываючы вачэй ад мігатлівай вадзяной гладзі, Вольга сумелася і вусцішна замерла.

… Першаю ў сваю смяротную няволю пайшла сялява, прыгажуня з жаўтаватымі тоўстымі брушкамі і вузкімі чырвонымі плаўнікамі: пабліскваła серабром лускі, пускаючы за сабою даўжэзныя пасмы серабрыстых бурбалак. Гвалтам выпараная з дрымотных зацішкаў, пакінуўшы ўкаранёныя ў цвёрдым дне вербалозы, рачная ўладарка плыла суцэльнай тоняю, ужо не старонячыся зубастага племені агромністых зялёна-пярэстых шчупакоў, што таксама страцілі свой звыклы паляўнічы гон. Рачное воінства, павільваючы ў сустрэчных

струменях раздвоенымі хвастамі, ценілася разам з натапыранымі калючымі вокунямі бліжэй да прыбярэжнай лотаці. Тут жа, ледзь не кранаючыся бакамі, лена варочаліся і тоўстыя, як жэрдкі, самы, асочаныя ў патаемных, самых глыбокіх норах; валюхаліся таўсталобыя судакі, узбоч якіх колтамі паблісквалі пёрыстыя ўклеі і ляшчы, гналі перад сабою донны глей і зялёную сечку пашчапанага чароту. І толькі каля самага дна, падшугаўшы ўверх карычневую буру забалочаных лапін, змяіліся ўюны, але таксама былі схоплены пругкімі шырокімі сеткамі. Да вяровак надзейным грузам былі прывязаны каменныя молаты, што стрымлівалі магутны напор і супраціўленне тоні. Блізу Кірыка на крутым беразе стаялі, стоіўшы дыханне, старасты жмудзінскіх арцеляў. Кідалі ўдалеч пільныя позіркі, раз-пораз супакойваючы разгарачаных загоншчыкаў, якія ўсё яшчэ шнуравалі Палату: ляскалі доўгімі жэрдкамі па прыбярэжных зарасніках, поралі рагацінамі ў чорныя лазы пад нахіленымі вербамі. Імкліва слізгаючы між берагоў на сваіх вёрткіх чаўнах, стараліся. Паніжай крутой лабаціны, уздоўж сецяў на беразе шчыльна пасталі сёстры ў простых радняных покрывах і лазовых хадачках. Тонкія арэхавыя налобнікі трымалі над вачыма ахоўныя хусткі.

Вольга міжволі азірнулася, але Кірык не зводзіў позірку з Палаты. Праз густую лістоту вербалозу з левага боку віднелася прыстань рачнога вымалу, да таўсценных калодаў на беразе было прывязана некалькі барак і тры ладдзі з высокімі шчэгламі. Вольгу падштурхнулі наперад, паставіўшы каля самай вады і ногі адразу ж намоклі. Учапіўшыся за вяроўку трымтлівымі пальцамі, адчула купчасты ненадзейны аброжак.

І раптам пачалося невераемнае. З усяе моцы падцягваючы вяроўку, разам з усімі яна штохвіліны адчувала, як там, на другім канцы сеткі, клубіцца, віруе і тузае свой ніцяны нерат схопленае з усіх бакоў рачное жыхарства. Міжволі зірнула ў бок рыбнай заставы і вочы асляпіла бляскам — вада вакол каменных быкоў і высокіх дубовых слупоў загарадкі адлівала серабром: паверх тоняў хлынулі раз’юшаныя берзакі і плоткі-уклеі. Ледзьве трымаючыся на нагах, захліснутая невераемнай жаласцю да ўсіх гэтых забраных у палон рачных насельнікаў, Вольга ледзь не расчапіла пальцы. Але тут жа адчула спінаю недаверліва строгія позіркі сёстраў. Кірык, падстаўляючы сцюдзёнасці мужны, бы выкаваны з бронзы, твар, моўчкі ўзіраўся ў рачны прасцяг, каб не прапусціць той самы важны момант, калі ўлоў можна будзе зберагчы амаль цалкам. Вецер-вярховік са свістам прадзіраўся з супроцьлеглага берага праз шчыльна сплецены высокі ажыннік і непраходныя, вышэй чалавечага

росту, чарацяныя нетры. Нарэшце, зашорганы голлем і спэс абдзерты дзікім кустоўем, пераляцеў цераз раку. Прынёс да берагавой кручы працяглае, чутнае толькі Кірыку і яго рыбакам, падобнае да бычынага рыку, гудзенне: “У-у-у…” Гэта падавалі голас агромністыя, арагавелыя рачныя пачвары, якіх ўмелі лавіць толькі скандынавы-волаты, што яшчэ пры Усяславе прыплылі сюды з-за небакраю і рассяліліся па ўсім крывіцкім краі. Аднак час мінаў, бязлітасна вынішчаючы з рэк іх дзівосных насельнікаў. Частка скандынаваў засталася на месцы, іншыя ж сышлў ў Герсіку, з-за чаго Полаччына адразу ж абяднела.

Але вось, злавіўшы тое працяглае гудзенне пракаветнага рачнога духу, Кірык насцярожыўся: яшчэ хвіліна, і рыба, сціснутая сецямі, пачне шалець і заскача з нерату назад у раку. Жмудзіны пераглянуліся. Урэшце ўсім збоем рынулі на бераг: выстройваючыся радамі, уладна адцяснілі манашак і схапіліся за сеці, што рассякалі ўпоперак засадзе амаль усю Палату. Гучна, як змовіўшыся, ляснулі вяроўкамі па вадзе – нібыта апавясцілі ўсяму свету, што ловы пачаліся. Загоншчыкі дружна апусцілі жэрдкі на хвалі, Палата вусцішна замерла. Да берага, працінаючы раку нясцерпным болем, плыў першы серабрысты ўлоў.

* * *

… Як толькі вялізная падвода, перапоўненая да краёў скуранымі мяхамі з рыбаю, павалюхалася ад Палаты да рыбаварні, сёстры сцішыліся на беразе, чакаючы ігуменню. Аднак прыбыла чалядніца. Саскочыўшы з манастырскага вазка, падбадзёрыла ўсіх кіўком галавы і тут жа заклапочана адвяла Кірыка ўбок, аб нечым загаварыла з ім. Кірык здзіўлена адступіў і пасуровеў. Адбегшы, аб нечым заспрачаўся з сівабародым плячыстым арцельшчыкам. Аднак жа, пакінуўшы замест сябе аднаго са старастаў, грузна заспяшаўся з чарніцай да манастырскага вазка. Тады, як падзужаная нечаканай трывогаю, Вольга кінулася следам і, пакланіўшыся чалядніцы, папрасілася ў Сяльцо. Тая ад подзіву нават адхітнулася, але нечакана, змеціўшы ў вачах мянескай князёўны ўпарты бляск, дала згоду. …Яны даімчалі да Сяльца, найбольш у таямнічым маўчанні, даволі хутка; і ўсё ж Вольга, міжволі прыслухваючыся да рэдкіх перашэптаў чалядніцы з Кірыкам, паспела зразумець: нечым устрывожаная ігуменне Еўфрасіння яшчэ ўчора выехала з манахам Міхалам у Полацк да вялікага князя.

Тады, ледзь дачакаўшыся, калі вазок ускочыць у манастырскі двор, яна тут жа таропка кінулася ў келлю, з якой праз колькі хвілін выбегла ў доўгай драцяной сарочцы. Згорнутыя пад шаломам

кароценькія валасы выбіліся на скронь чорным колцам. Скураныя нагавіцы апаясваў шырокі пояс, на якім у старых похвах вісеў кароткі меч. На нагах блішчалі высокія скураныя боты. Кінуўшыся ў стайню, малады вой, не абазнаны нават зіркастай чараговай сястрой, дзёрзка вывеў у двор белую кабыліцу. Чалядніца, аддаўшы апошнія наказы кухарцы, спешна сядала з Кірыкам у вазок. Недаўменна азірнулася на дзёрзкага верхаўца з мячом, аднак той, зліўшыся з белаю конскай грывай, ужо мінаў апошнія сяльцовы двары.

... Драцяная сарочка балюча шоргала па каленях, аднак Вольга нічога не заўважала, узрушаная нечаканасцю: бонкі з атрутнай гарошынай, на звыклым месцы не было. Яна высыпала на ложак усе каштоўнасці з патаемнага ларца, перабрала кожную паасобку і залілася гарачай чырванню: бонка, падораная яшчэ ў Заслаўі Маўраю, з келлі знікла.

## РАЗДЗЕЛ 6.

Маладзенькі вой, бліскаючы шырокімі наплечнікамі паверх доўгай драцянай сарочкі, імчаў да Варотнай вежы. Нарэшце, узляцеўшы на дарогу, па якой рыпучым цугам валюхаліся гружаныя бочкамі з мочанымі журавінамі і мяхамі сушаных уюноў дрыгавіцкія вазы, вершнік спыніўся. Паказаўшы старэйшаму кмету варты ладанку з пячаткай Глебавічаў, паспешліва змяшаўся з гуртам дрыгавіцкіх пасланцоў: вазы блізіліся да Верхняга Замку. На дзядзінец старой Машні, мінаючы гародні паміж Барысаглебскай і Сафійскай вежамі, па добра ўбітым узвозе да Вялікага пасаду спяшаліся госці Полацка. Над гарадскімі дварамі і вузкімі прадмесцямі разлягаўся звон Сафіі. Плошчу, запоўнененую баярамі і стракатым натоўпам служывых і рамеснікаў, безупынна шнуравалі вартавыя кметы. Аднак вялікі князь ўсё яшчэ не выходзіў. Наперад выступілі толькі маладыя паслушніцы, выносячы на прысценныя, засланыя па ўсёй даўжыні добра празоленымі абрусамі, дубовыя сталы місы з сяляваю і дзічынай; ставілі пасярэдзіне вялізныя карагачы з хмельнымі напоямі. Але ніхто з прысутных не зрабіў да ежы ні кроку. Каля сталоў стаяла варта. Недзе на падворку з усяго маху ўдарылі ў біты і людзі на дзядзінцы замерлі.

Урачыста і грозна затрубілі ў рог, і вароты пачалі ўрачыста расчыняцца: услед за вялікім князем пад высокія спевы сяльцовых манашак на плошчу выходзілі баяры і манахі з Бельчыцаў. Еўфрасіння ў шырокіх, крыжамі абшытых, шатах ішла папераду

блакітнавокага важнага чарняца – намесніка Свята-Успенскагага манастыра Міхала.

Гурма народу на дзядзінцы, убачыўшы іх, загудзела: “Блаславі!”, і ігуменне паднесла над галавою Евангелле ў скураным акладзе: вакольны люд адразу ж апусціўся на калені. А яна спачатку асвяціла Евангеллем схіленых гараджан, потым доўга трымала яго над галовамі бельчыцкіх чарняцоў. Шлях у Бізантыю, куды ігумен Міхал з яе пасольствам ад’язджаў заўтра ўранні, быў доўгі і небяспечны. Падняўшыся з каленяў, смерды і служылыя з цікавасцю пачалі назіраць за тым, як на другой палове плошчы вялікі князь вітаецца з гасцямі. На асобныя сталы складваліся падарункі паслоў, і палачане ажыўлена абмяркоўвалі паднашэнні. Звон Сафіі ўсё яшчэ не аціхаў і да ігуменні падступіліся пасадскія. Князь, акружаны вартавымі ў чырвоных жупанах, завяршаў ганаровы абход шматлікіх гасцей, сціху абмацваючы позіркам перапоўнены дзядзінец: варта з высокімі сякірамі была нагатове. Нарэшце прывітанні кончыліся, госці змяшаліся з полацкімі баярамі і ўзрушана ступілі да сталоў. Еўфрасіння з Міхалам, акружаныя вернікамі, выбіралі спакайнейшы прытулак. Але нечакана спыніліся. З гурту збройнікаў, цудам прарваўшыся праз варту, да абодвух раптам кінуўся спрэс аброслы злямчанымі валасамі клышаногі дурнік Яміна. Узяўшы са стала келіх з мядовым напоем, юрод працягнуў яго ігуменні і тая, пад гучную ўхвалу прысутных, не згідзілася. Адшукаўшы вачмі Расціслава, павярнулася князю насустрач, падняла келіх.

…Потым, калі памагаты княжага ката задаваў пасадскім свае пытанні, ніхто ўжо не мог успомніць, адкуль вылецеў той маладзенькі вой у доўгай драцянай сарочцы з шырокімі наплечнікамі, што нечакана вырас пасярод дзядзінцу, узвіўся на сваім белым кані перад Еўфрасінняю, з пляча ўдарыў кароткім мечам па келіху. Рукі ігуменні адразу ж заліло чырвоным, што кроў, густым узварам. Натоўп гайдануўся. Спалатнелы князь грозна зірнуў на анямелую варту, але вой ужо ірвануў каня ўбок, у момант вока абмінуўшы рудыя шэрагі пасадскіх людзей. Нібы прывід, стапнеў за сцяной агромністага людскога збою. І раптам, ці не ў тое ж самае імгненне, дзядзінец зноў заледзянеў: шырокую плошчу з гіканнем запаўняла хоць і невялікая, але адчайная дружына відбескага князя Брачыслава: малады Васількавіч ляцеў на чорным кані з грозна паднятым мячом, але Расціслаў, быццам загадзя ведаючы пра напад пляменніка, рашуча махнуў рукою: грозны шэраг служылых у простым адзенні, бегма кінуўшыся да ўзбочных вазоў, пачаў выхопліваць з-пад травяных мяхоў баярдышы і баявыя пікі. Брачыслаў, не чакаючы такога

адпору, міжволі сцішыўся. Захапіць вялікага князя знячэўку не ўдавалася. Над Полацкам залегла мёртвая ціша. Усе чакалі: адзін князеў узмах мечам – і мошчаная камянямі і дубовымі круглякамі плошча абмыецца крывёю. Паветра звінела. Але тут жа, быццам адчуўшы гэтую страшную хвіліну, Еўфрасіння імкліва абмінула акружэнне вернікаў і выступіла наперад. Зычным голасам загадаўшы ўсім спыніцца, падняла над сабою вялікі пазалочаны крыж. Баяры, якія толькі што адхлынулі ад цэнтра, пачалі вяртацца. Полацк сцішыўся.

Конскае фырканне перакрыў грозны загад Расціслава:

— У поруб іх!

Але ўсе, не спяшаючыся выконваць загад, з надзеяй пазіралі толькі на ўзняты ігуменняю крыж:

– Ранамі святога Пятра прашу, будзь літасцівы да зродніка маладога, вялікі княжа. Не забі! Як нам сказаў Айцец нябесны.

Расціслаў, не хаваючы раздражнення, сурова насупіў бровы. Кметы рашуча і няўмольна цеснілі пачарнелага ад няўдачы Брачыслава да варот. І раптам усе на дзядзінцы ўбачылі, што з іншага боку, ці не ад запалоцкіх лукаў, да Верхняга Замку выступае яшчэ адна сіла – шырокая лава ўзброеных важкімі мячамі вояў Рагвалода, за спіной якога згрудзіліся баяры з веча. Ніщто не паказвала пра тое, што Рагвалод спяшаецца для замірэння. Побач на сівым кані важка ўзвышаўся плячысты намеснік вялікага кіеўскага князя: не сказаў яшчэ ні слова, не падаў ані знаку, але яго грозны выгляд выдаваў рашучыя намеры Кіева ў каторы раз памяняць уладара полацкага стальца.

... Зноў загудзеў, захрыпеў, загаласіў дзяркаты рог, змусіў ўсіх азірнуцца: ігуменння, не зважаючы на смяротную пагрозу, тут жа апусцілася на калені. Яшчэ імгненне і па ўсім прасцягу ўкленчанай плошчы зачарнелі схіленыя плечы манахаў і вернікаў. Пачалася малітва-блаславенне пасольскай місіі ў Бізантыю. І ніхто нават не змеціў, як Расціслаў пад аховай маленькага атрада прабраўся за вароты. Нарэшце, не азіраючыся, паімчаў у бок Менску. Выехаўшы на сярэдзіну дзядзінца, Рагвалод пільна агледзеў прысутных, уладным узмахам рукі зноў запрасіў усіх да сталоў. Саскочыўшы з каня, наліў і паднёс поўны келіх мядовае сыты кіеўскаму госцю, які ўсё яшчэ нерухома ўзвышаўся над сваім вялізным грудастым канём.

З шэрагу смердаў да князя з радасным енкам нечакана вылецеў няўклюдны, увесь абліты залацістымі валасамі, заслаўскі вяшчун Валодша. Натоўп адразу ж ухвальна зароў да яго. Але Рагвалод, імкліва выхапіўшы меч, ярасна праткнуў плячо няшчаснага. Пачуўся

балючы ўскрык. Аднак пасадскія і кметы ўжо нічога не чулі, накінуўшыся на місы з сялявaю і копчанымі вуграмі. Еўфрасіння падала ледзь улоўны знак сёстрам, якія адразу ж паклалі параненага на адзін з прысценных вазоў. Над вешчуном тут жа схілілася, супыняючы ручнікам кроў, чалядніца Еўпраксія.

– Я пашлю за ім! Даганю і затраўлю, акі таця!

– Рагвалод, змеціўшы знікненне Расціслава, гнеўна загрымеў на соцкага, краем вока ўбачыўшы, што Еўфрасіння ўжо наблізілася да кіеўскага намесніка. Той адразу ж сышоў з каня на зямлю, схіліўся, слухаючы.

– Хіба не памятае вялікі госць, як мянескі князь Глеб, бацька брата нашага ўлюбёнага Расціслава, пасылаў у лаўру пячорскім манахам золата і срэбра?

– Ніколі таго Кіеўская зямля не забудзе, слаўная.

Намеснік усміхнуўся, выслухваючы просьбы ігуменні. Полацкае пасольства ў Бізантыю мелася спыніцца ў Кіеве на “ Брачыслававым двары”. Паўтарыў:

– — Ніколі зямля Кіеўская не забудзе Глебавіча.

Сяльцова гаспадыня перамагала і Рагвалод, успыхнуўшы ад ярасці, нечакана рэзка павярнуўся да бельчыцкіх чарняцоў:

— Паганяў бы вас, тлустазадых, па Запалацці!

Скрыгатнуўшы зубамі, так моцна ляснуў тоўстай драцянаю пугай аб дзядзінец, што тыя адхітнуліся.

— Думаеце, калі абвесіліся абразамі і крыжамі, то і самі ўжо — святыя? Судзіць хочаце? Хочаце словам Гасподнім сваю волю тут праўдзіць? Пакуль жывы, не будзе ў Полацку таго! Прэч, племя глумлівае, сквапнае, пражорлівае!

– Ці да твару князю вялікаму з Божымі служкамі цяжбу весці?

Голас Еўфрасінні выдаваў упакорлівым.

— Калі хочаш Айцу нябеснаму сказаць тое, што ў душы гарчыць, прыедзь, княжа, сам пагавары з Айцом наадзіноце. Келлю князю знойдзем. Тады адчуеш, як нялёгка адказваць на запытанні, перад якімі паўстае душа чалавечая. Што адказваць будзеш, князь? Столькі важных спраў у Полацку цяпер, што дай Божа сілы.

Кіеўскі госць па-ранейшаму маўчаў і Рагвалод, схіліўшы перад Еўфрасінняю галаву, нарэшце пацалаваў крыж. Ледзь растуліўшы вусны, прахрыпеў:

– Як Бог хоча і як на тое воля ігуменні, няхай так і будзе.

Плошча, перапоўненая воямі і месцічамі, не шалохнулася.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## *ДА ГОРНЯГА*

### РАЗДЗЕЛ 1.

*“Шу-шша-а... Скажуць, быццам не змагу я вочы свае вырваць, каб аддаць іх сляпому... Што гадую адно плоці дзяцей — пералюбства, варожасць, звады, зайздрасць, гнеў, нянавісць, забойствы, закалоты. І спрахласць быццам бы з-за мяне чалавек пажынае... Што турбую падчас малітваў, кідаю соль і агонь у тых, хто носіць раны Ісусавыя на целе сваім... Што разбій я посуд гліняны са скарбам славы Божай і духмянасць ведаў пра Госпада засмуроджваю тхлом попельным, смалою і сераю... Быццам нашэптваю вернікам: вольнасць ваша – як змуса да таго, каб плоці дагаджаць, а любоў ваша – для таго, каб служылі толькі адно аднаму, грызліся між сабою, елі адно аднаго здрадамі і рэўнасцю, нішчылі адно аднаго спакусамі! Скажуць усё гэта пра мяне, – а ты не вер!!!*

Да самых грудзей захінуты тонкай посцілкай, Валодша ляжаў пры сцяне пад стракатымі пучкамі высахлых зёлаў. На кутавым услончыку гарэлі дзве свечкі: дзверы лекавай келлі былі прачынены і іх тонкія язычкі ўздрыгвалі ад лёгкага скразняку. З супроцьлеглай сцяны пазіралі цёмныя праніклівыя вочы Той, да Каго штоночы пасылала свае малітвы сяльцова ігумення. Услухваючыся праз гарачку трызненняў у палкія просьбы даравацъ яму ацаленне, Валодша дасюль не мог зразумець, дзеля чаго яна, цяпер такая важная гаспадыня манастыра, руліцца аб няшчасным нехрысці, навошта, падмогшы чараговай сястры, так доўга, часам да самай раніцы, стаіць наўкаленцах.

Не ведае... Не ведае, што аддаў тады ён гарошыну атрутную дурніку Яміне. Хацеў чужымі рукамі. А калі б ведала? Ці малілася тады б за яго? Пэўна – малілася б усё роўна. Ці ж не для таго, каб, вызваліўшы ягонае цела ад крывавай раны, забраць душу!? Высокая і статная, гожая і, здавалася, маладзейшая нават за юніц-паслушніц, ігумення сама мяняла павязкі на ягонай ране. Тады, здзіўлены, бачыў, як вялікія вочы поўняцца слязьмі. Увесь час адно пазірала, аніразу не абмовіўшыся да яго ні словам. Пакуль урэшце і сапраўды не атруціла гэтым даўкім маўчаннем, затапіўшы спагаднымі слязьмі ягоную душу. “Мудры Вялес, Лада магутная! І ты, Нямізя! Не дайце загінуць. Не адступіцеся ад сына.”Амаль палова ягонай грудзіны была залеплена

ўжо добра падсохлымі лістамі дзяцельніку. Над тапчанам схілялася чараговая сястра.

— Паздаравеў, маці-ігумення. Адно ўвечары надта стагнаў у сне.

Толькі пачуўшы знаёмы голас, Валодша імгненна ачуціўся, зразумеўшы, што ў келлі начная госця. Як сталася, што ён нават не адчуў яе прыходу? Заўсёды ведаў загадзя.

— І ў двары сам быў. Але ніхто не бачыў. Гоіцца рана, як на зверы лясным. Чараговая ціха ўздыхнула, але тут жа, змеціўшы ў вачах Валодшы нядобры бляск, падалася да дзвярэй.

— Пра чалавека кажаш, неразумная! — Еўфрасіння, якая ўжо стаяла каля тапчана, падвысіла голас.

— Не кладзіся сёння без пакаяння!

— Даруй, літасцівая.

Дзверы за сястрой прычыніліся, і ігумення апусцілася на ўслончык перад высокім тапчанам. Але Валодша, разгарачана шпурнуўшы да сцяны посцілку, таропка спусціў ногі ў шарых грубых нагавіцах, лёгка саскочыў на гліняны ток.

— Суцішся, Валодша, не рухайся.

Прыклаўшы руку да зацягнутай раны, госця нарэшце праяснела тварам:

— Амаль загаілася.

Памкнулася падняцца з услончыка, але здзіўлена замерла: Валодша, шырока расплюшчыўшы пачырванелыя вочы, усё яшчэ моцна прыціскаў яе руку да сваіх грудзей і няўцямна торгаў куточкамі вуснаў:

— Хіба ты не ведаеш, Прадслава, што не зёлы, не дзяцельнікі твае лечаць!?

Хмура абвёў позіркам падвешаныя пад столяю, усё яшчэ шматкаляровыя і пахучыя пучкі зёлаў і, неяк нечакана распаліўшыся, захрыпеў:

— Вось яно, маё княства... Як карона Ярылы! Як вугалле, гарачае.

Усё мацней прыціскаў яе далонь да сваіх грудзей:

— Як вусны, чырвоныя і налітыя сокам! Твае вусны, ігумення! Хіба я клікаў цябе ў сны? А ты прыходзіла! Навошта? Чаго хочаш? У Заслаўі, тады, не бачыў, а цяпер... Галаву схіляю – сячы! Атруціць хацеў. Бацьку, што вугалем у каме застаўся, не забываю. Атруціць хацеў цябе.

Зніякавеўшы, адхітнулася, але Валодшу гэта ўжо не спыніла:

— А ты ўсё молішся! Просіш за мяне. Не я... Ты мяне атруціла, ігумення.

Зноў здзіўлена паднесла зніякавелы позірк, слухаючы.

— Хіба можа кроў запаліць тлусты дзяцельнік? О-йя, ігумення! Я думаў, тут ніколі не хлусяць і не ловяць сэрцаў. Асабліва ты. Запомніў іншаю.

“ *Прыхілі да гэтага грэшнага, Госпадзі, вуха спагады Свае і пралі ў нутро яго святло міласэрнасці супакаяльнай.”*

— Кажаш, што дзікі я? І што вусны мае горкія! Хочаш выпіць? Чаму не хочаш іх выпіць?! Валодша ўжо хрыпеў і ўсё шчыльней падсоўваўся да ўслончыка, з якога ёй аніяк нельга было падняцца. Ледзь выдыхнула ёлкасць, не ў стане адвесці вочы ад ягонага, атручанага спрагласцю, позірку.

— Ты перад усімі красунямі найпершая, Прадслава! А я? Куды так доўга ішоў, запытай, з кім так біўся, што жывога лапіка на целе не знойдзеш? Глядзі!

Урэшце адняў яе далонь ад раны, прыкрытай пругкім шчытом зацвярдзелае травы, зашаптаў:

— Хіба можа так гаіць зёлка, ігумення?

Каленьмі адчувала, як увесь затрымцеў:

— Столькі разоў песціла ты рукою зраненыя грудзі мае, што ўжо захлынаюцца!

Сапраўды адчула ўнутры пякучую стрэмку.

— А дзе Ён, твой Гасподзь?! Ці ёсць у Яго мілата да лады!?

— Што ведаеш ты пра мілалюбства, няшчасны смерд?

— Не смерд я, Прадслава! Сын князя запалоцкага я. Служыла маці ў Барыслава. А пасля, гаротная, падкінула вешчуну ў будан. Каб не ўсмерцілі. Шукаў мяне князь, шукаў, каб аніякага і знаку. Усіх дзяцей сваіх забіваў, у калодзежы, у мурашнікі, у гнёзды змяіныя кідаў. А я, бачыш, выжыў! Выжыў, Прадслава!

Здзіўлена адхітнулася, зірнуўшы ў цёмныя, вялікія ад узрушэння вочы.

— А ты кажаш, не разумеюся. Гэта ты, ігумення, не разумееш даўно. Што ведама табе пра пакуты людскія? Так пераняласся нябеснымі, што не зважаеш ні на чорны люд, ні на апекуноў нашых. А яны ўсё роўна паўсюль. Пярун. Хорс. Нямізя. Даюць нам жыццё. І цяпло, і ваду, і рыбу, і немаўля... А які твой Бог? Скажы, што даў Ён табе? Дзе дзеці твае, манашка? Хоць каго дала твая плоць, красуня?

... Тое, што пасля такога высокага тону, Валодша нечакана ўткнуўся тварам у яе калені, было такім недарэчным, што здзіўлена ўзнесла бровы:

— Духам святым я жыву, Валодша! Госпадам сваім. Усемагутны Ён, Гасподзь наш, і на небе, і на зямлі. Колькі малітваў, столькі і

дзяцей у мяне. А ты, дзік пушчанскі няўдзячны, ведай: няпраўдзівы той плод, што ўзрастае на гнілой галіне. Альбо рана ўпадзе, альбо счарнее ў сарцавіне. Іншы Гасподзь мой. Магутны такі, што нават няплодную можа пасадзіць у дом мацераю.

— Горкая пыха мая, Прадслава!

Глуха застагнаўшы, пачаў паволі расхітвацца.

— Хіба не бачыш, як угінаю плечы перад табой? Толькі свае валадары ў нас! Чужыя табе.

Напяўшыся ўсім кашчавым целам, нечакана зірнуў на яе з такой незразумелай злосцю, што здзіўлена замерла:

— Хочаш, маладой зраблю цябе, ігумення!? Такой гожай, што аляніцы затанцуюць! О-йя... Праўдзівыя зёлы ёсць! Тыя, што і ноччу, і без калодзежа пояць спраглага. Толькі пачуй мяне, лада. Хоць вугельчык кінь, дай надзею. Бо так холадна, Прадслава! Такая золь акасцянелая паўсюль.

Прытуліла далонь да ягонай раны: пад асохлай скарынкай травяной павязкі сапраўды шалёна білася перапоўненае пачуццём сэрца. А Валодша, нецярпліва шахнуўшы рукою па яе шчыльна аслоненай хламідзе, так блізка прысунуўся да каленяў, што ледзь не сціскалі іх з абодвух бакоў:

— Хіба можа так будзіць чалавека трава, лада?

Той нябачны дарадчык, што так часта нашэптваў ёй знутры праўду, цяпер упарта засцерагаў. Схаладнеўшы, тут жа адчула на сваім горле лагодныя, але ўчэпістыя пальцы.

— Чаму не хочаш піць мой мёд, лада?! Хіба не твае кветкі ў нашых лугах? Хіба не твае пчолы ляцяць за маёй слодыччу, лада!? ( *Шшу-шша...)*

Прагная рука абмацвала шыю:

— Не пакідай мяне, лада. ( *Шшу-шша...)* Хіба ж Ён можа любіць цябе так, як я? Столькі разоў прыкладвала да мяне свае рукі, лада, што я ўжо сню іх. Дзеля чаго аджывіла?

Такі вялікі і дужы, Валодша ўсё яшчэ стаяў перад ёй на каленях.

І раптам, заплюшчыўшы вочы, заспяваў:

*Вочы сніў я твае цёмныя, лада, як крыніцы глыбокія... Ой-а!*
*Наталяюцца алені, ласі пушчанскія.*
*Праткні мроі мае, лада, слодыччу хмельнай Ой-а...*
*і грудзей шышачкамі,*
*Малаком няхай напояць бяссоннага.*
*Імкнуць па жылах сокі падкарэнныя.*
*Гэта любасць мая да цябе, лада! Ой-а!*

Урэшце, пабуджаная гэтым нечакана гарачкавым спевам, апусціла перапоўны слязьмі позірк: проста перад ёю чырванелі спраглыя Валодшавы вусны.

Міжволі падняла рукі, вызваляючы горла. Зноў завёў высока і распалена:

*І да аерын павекаў тваіх цягнуцца зоркі нябесныя.*
*І шчокі асмужаны пухам, лашчацца вавёрыцы. Ой-а...*
*Толькі абдымі мяне, і рукі*
*заззяюць, як чараціны, месяцам аблітыя.*
*Чуеш, як стагну я — рака , сціснутая берагамі каленяў тваіх.*
*колькі платвіц і сомаў падглінных*
*плывуць з доння майго ў строму тваю шалёную.*
*Хіба не чуеш ты вецер? Ой-а...*
*Як нясе свіст і дзяркатыя крыкі,*
*і пошчакі птаства,*
*што раняе з густапёрых крылаў слёзы любові. Ой-а...*

Голас Валодшы, такі гарлавы і глыбокі, імгненна запоўніў лекавую келійку. Але вось на імгненне перапыніўшы спеў, застагнаў:

— Як жа прагну я цябе!

Міжволі падняла рукі, спрабуючы вызваліцца.

*Адчыні трымтлівыя брамы, недасяжная,*
*іду ў шаўковы лес млосных валасоў тваіх...*
*Ляці ў пушчу маю... Ой-а-а...*
*Дзе стагнанне бабрынае, зовы гарачыя, ловы кунічныя.*
*Пачуй нетру маю, лада.*
*Стагненне лісаў там, сіпенне змеяў падкарэнных,*
*што звіваюцца ў пнішчах і бярлогах сухіх,*
*родзячы новыя клубкі.. Ой-а...*
*Вуххі савіныя. Звоны салаўіныя.*
*Рохканне і грымоты пушчанскія...*
*Б’юць капытамі дзёран лосі крутарогія,*
*равуць каля ільсністых саміц,*
*што такія ж гожыя, гарачыя і неспатольныя,*
*як і ты ў снах маіх, лада.*
*Прачыні спраты свае, развяжы вузлы нябесныя!*
*Аддай тое, з чым прыходзіла ў чар начны, варажбітка зяркатая*
.

*Палюбі мяне, лада. Ой-а!*

*Палюбі, як смерць, мяне!”*

Заплакаў, і пальцы на шыі неўспадзеў затрымцелі:

— Як жа прагну я цябе, Прадслава!

... Ці гэта напраўду нехта пастукаў у дзверы, ці Той, да Каго кленчыла думкамі, так учасна адазваўся!?

У келлю нечакана хлынула начное вільгатнаватае паветра. Падняла позірк: у прачыненых дзвярах стаяла Вольга. Валодша, бліснуўшы цёмнымі вачмі, адразу ж зніякавеў і падняўся. Пры выхадзе азірнуўся.

Але і яго, і паніклую галавою Вольгу ў даўняй ваярскай вопратцы ігумення бачыла ўжо як праз туман. Адно спеў не аціхаў у душы — перапаўняючы лекавую келлю, уліваўся з прадранішнім святлом у дыханне.

* * *

... Прашыты сонцам падлесак сустрэў іх радасным птушыным шчогатам, і Вольга, праз усю дарогу косячыся на Валодшу, ласкава пагладзіла шнар ад раны. Валодша ў адказ ўстрасянуў валасамі:

— Тут не дадуць есці, князёўна. Тут трэба самім. Ідзем. Каля ракі маю човен і восці. Усё ў будане маю. Толькі ці не распесцілася ты залішне ў келлях?

...Вогнішча на падсохлым беразе разгарэлася імгненна і нанізаная на доўгія дубчыкі рыба тут жа апетытна прывяла.

Але і пасля снедання Валодша нават не ўсміхнуўся. Нарэшце падняў на Вольгу цёмныя вочы:

— Чаго чакаеш ад мяне, лада? Пашто ідзеш за мною?

Прамаўчала, адводзячы вочы ўбок.

— Які ж слабы ён, ваш Бог, калі так лёгка забіраць жанчын ад Яго.

Гнеўна паднесла руку, але Валодша ўжо ласкава прыгортваў яе да сябе. Міжволі і сама памкнулася абняць дужыя плечы і тут жа зніякавела, сустрэўшыся з нечакана спустошаным цёмным позіркам.

– Калі думаеш, князёўна, што палюблю зноў, вяртайся назад. Не хацела Ладаю ўсіхняй стаць... Пашто ж цяпер?

Сумеўшыся, адвярнулася: навокал панавала лясная насцярожанасць. Валодша, лёгка адштурхнуўшы яе ад сябе, захіліў далонямі твар. І нечакана ціха, не хаваючы роспачы, застагнаў:

— Я не магу болей любіць цябе, лада. І нікога не змагу. Атруціла яна мяне. Упаўзла ў сэрца, уджаліла, як аса. Аздаравець мне трэба, лада. У пушчу ісці ад ігуменні вашай. Не кранайся мяне, абрыдлая.

Ужо не азіраючыся, Вольга імкліва кінулася да берага і так рашуча ўскочыла ў човен, што Валодша ўстрывожана скочыў следам. Прыціснуў да ілба сціснутыя кулакі, сачыў, як човен імкліва адплывае за вербалозы. У нейкае імгненне памкнуўся клікнуць Вольгу назад, але тонкую постаць у доўгай драцяной сарочцы ўжо засланілі надрэчныя шаты.

Над берагам падымалася трымтлівае шапаценне высокага сітніку і касачоў. Яшчэ раз азірнуўся: човен знікаў за далёкім крутым выгінам.

## РАЗДЗЕЛ 2.

*“Ігуменні, князёўне Еўфрасінні праслаўнай. Дазнанне. У дні дзесятым беразазола. І ведама мне, ігуменняя, што, дастаўшыся з забранага Рагвалодам Полацка ў Менск і дачакаўшыся лепшае пары, князь Расціслаў паклікаў соцкага вышуку. І пачуў няўцешнае: пасля ягонага ад’езду ў Полацк на княжанне Вольга, дачка ягоная, а твая зродніца, якая выехала ўслед за бацькам у абіцель сяльцовую, а пасля дня святога Пятра зусім сышла некуды, яшчэ аніразу ў палацы Менскім не аб’яўлялася. З абсягаў абіцелі, як ведаю, таксама яна знікла. Полацк, які ледзь не забіў Расціслава, адпрэчыў у невядомы край і дачку яго нямую. Паслаўшы таемных віжоў ва ўсе канцы княства і іншыя землі, чакаў Расціслаў цэлых два леты, але аніякіх звестак не атрымаў. Уздоўж межавых ірвоў Полаччыны штодня пралятаюць, як ведама табе, атрады асочвання, але пра мянескую князёўну Вольгу яшчэ ніхто не чуў. Адной табе, ігуменняя праслаўная, скажу. Бо аднойчы вьратавала ты мяне, сама таго не ведаючы, ўратавала адно кавалачкам дзічыны распаранае...*

*Скажу цяпер іншае: бачылі верныя людзі, якія ходзяць за пушнінаю і бурштынам у жмудзь, воя маладога. Хоць ні да каго не абзываецца, але страшны ў сечы. Памыслі, ігуменняя, бо хутка Расціслаў зноў у Полацк вернецца. І пра дачку, якую ты, ігуменняя, не ўтрымала, запытае. Пасылай ганцоў сваіх да Кірыка. Той – усё ведае.”*

Дазнанне невядомага зычліўцы было нечаканасцю, таму спярша недаверліва адклала яго ўбок, але праз хвілю, адчуўшы ў сэрцы халадок трывогі, дачытала:

*“Зненавідзелі ўжо Рагвалода малодшага за жорсткасць. Усталяваў у княстве з запалоцкім князем Барыславам новыя парадкі: усе зарачанскія порубы перапоўнены мяцежнікамі. Будуць, ігумення, баяры збірацца. Будуць, вер мне, міласэрная, Расціслава вяртаць. І могуць зрабіць тое хутка. Бо Рагвалод у Навагорад збіраецца. А ці вернецца дамоў вялікім князем – сама выбірай. Каго хочаш – таго і пастаў валадаром Полацкім. Веча ўсё роўна збярэцца. Паклічуць туды і цябе! Сама цяпер мыслі, ігумення.”*

Ці даваць веры папярэджанню, нават не ведала. Як не верылася ў тое, што нехта зможа падняць руку на магутнага Расціслава. Сэрца, аднак, сціснулася. Свечкі ў келлі таксама не адгукаліся. І раптам з прачыненых дзвярэй ударыла такой даўкай гараю, што імгненна вылецела ў двор: едкім чадам, як ні дзіўна, несла з боку Бельчыцаў.

* * *

“ І са слоў ігумена Міхала запісваю я, Коста, летапісец ігуменні Еўфрасінні: ноч тая пякельная ўспыхнула ў Бельчыцах такім яркім зарывам, што да мужчынскага манастыра Успення Багародзіцы з усіх ускраін адразу ж хлынулі цэлыя лавы людзей. Толькі тушыць ужо не было чаго. Страшная вестка разнеслася — у манастырскай школе за ноч згарэлі ўсе тры будынкі, у якіх жылі і вучні, і колькі чарняцоў са скрыпторыя.

Абставіўшы абгарэлыя сцены частаколам кметаў, ігумен Міхал сам паўдня пораўся каля сяльцовых сёстраў, якім выпаў цяжкі абавязак – дапамагчы скласці ў дамавіны абгарэлыя дзіцячыя костачкі. Кметы ледзь стрымлівалі напор няшчасных бацькоў. Малілі чарнічак сяльцовых, кажучы:

“ Не пускаеце ўсё!? А што ж ведама вам, ялавыя, пра боль мацярынскі? А дзе Бог ваш быў? Пашто не абараніў, пашто не засланіў? Пашто ў храміну агонь дапусціў? Калі не Пяруну моліцеся, то прэч адсюль, чарнарызыя, прэч з зямлі полацкай!”

Не ведалі, недамысльныя, што проці Расціслава ўсё коіцца. А ў сёстраў рукі былі счарнелыя ад гары і прысаку, што ўвесь час успыхваў пад пальцамі. Смылелі пасля праз усю ноч. Сказаў ігумен Міхал яшчэ, што было веча Полацкае ў травені адна тысяча трыццаць пятага лета, і адпрэчылі месцічы Рагвалода. Той жа, выказаўшы сваю нязгоду прастольнаму ўладыцы Казьме, не тоячы ярасці, кінуў раці баявыя на Менск і Заслаўе. Рухалася войска Рагвалода па мянескаму краю, як чума, спальваючы сядзібы служылых і вытоптваючы засеяныя палосы, забіваючы купцоў і непакорных ваяводаў. Нарэшце забралі соцкія ў палон маладога княжыча і, пасадзіўшы ўпалоненага ў

клетку, яка звера ляснога, вярнуліся ў Полацк пераможцамі. Толькі веча ўсё роўна пракрычала за Расціслава. Столькі крыві было праліта, што ўгневаліся і Гасподзь Хрыстос, і Нямізя з Хорсам, паслалі полымя вялікае на Полаччыну, не шкадуючы ні вояў, ні мацерак, ні дзяцей малых. Адна ўцеха – знайшоў князь Расціслаў для сэрца свайго супакаенне.

Прыбылі ў леце тым з Герсікі купцы важныя з дзесяцкім. Узяла ігуменне Еўфрасіння дзесяцкага за рукаў і, усіх імянітых баяраў і князя падзівіўшы, вывела з залі. Павезла ў Сяльцо. Мянская князёўна знайшлася!”

… З растуленых вішнёвых вуснаў вырывалася сумна працяглае: “Ма…”, але Еўфрасіння маўчала. Усё яшчэ апранутая ў ваярскую драцяную сарочку, Вольга не адымала свайго аблічча ад яе каленяў, да якіх дасталася гарачая соля слёз.

Нарэшце паднялася на ногі, але калі Еўфрасіння кіўнула на новы манаскі покрыў, што ляжаў на ўслоне, адмоўна адвярнулася. Захадзіўшы па келлі, ігумення нарэшце запытала:

— Ты хочаш быць у нашай варце?

Вольга радасна кіўнула ў знак згоды, і ігумення наблізілася:

— Слухаючы сёстраў, навучышся супакойваць гнеў і дзёрзкасць, князёўна. Калі сама па добрай волі выбрала служэнне наша, значыць, смуткаў свету гэтага ўжо не пазбегнеш. Заўтра ў лес збіраемся. Моху для будаўніцтва новай школы ў Бельчыцах надзерці. Разам з усімі будзь.

Прыгледзеўшыся пільней да зніякавелай пляменніцы, ухвальна кіўнула:

— Тады да службы рыхтуйся. Кметы нашай варты, як і сёстры, штодня моляцца.

— Ойча наш!

Вымавіўшы пачатак малітвы наўздзіў выразна і гучна, Вольга зноў схіліла галаву. Звыклым рухам праверыла, ці на месцы прытарочаная да пояса радняная кайстра, з якой вытыркалася некалькі самаробных пэндзляў. Але ігумення ўжо спяшалася да выхаду. Пасля, хуткім крокам прашнураваўшы начны падворак, ціха адчыніла дзверы новага скрыпторыя. Дзве маладзенькія перапісчыцы спалі на прысценных тапчанах. Мокры ад Вользіных слёз покрыў таркаю шаргануў па каленях; зняможана замерла пасярод скрыпторыя. На стале гарэла тоўстая свечка. Уздыхнуўшы, села насупраць яе; перагарнуўшы абалонку, узяла ў рукі сціло. Вывела на пергаміне першую буквіцу.

* * *

З-за стала ігумення паднялася толькі перад раніцай. Выйшла ў цемнаваты глухі падворак. Яшчэ спала шурпатая маладая трава, спалі затуленыя ў бутоны пялёсткі кветак. Адно зоркі над Сяльцом ледзь чутна пераразвоньваліся. Вусцішна пастаяўшы пад нябесным купалам, звыкла скіравалася ў царкву і здзіўлена змеціла ў прачыненых дзвярах водбліскі даволі яркага святла. У храме, відно, гарэла некалькі свечак. Ціха ўвайшла ўнутр царквы і адразу ж змеціла на прысценнай лаве Вольгу ў тоўстай сястрынскай хламідзе. Побач ляжала драцяная сарочка і меч паверх яе. У царкве востра пахла свежай фарбай, ад чаго крыху занудзіла. Скасілася на скрыню Богшы, што дасюль стаяла ў кутку пры выхадзе. Цяпер скрыня была адчынена: на лаве стаяла некалькі гліняных коўшыкаў з фарбамі. Тут жа на ручніку ляжалі і пэндзлі. Азірнуўшыся, міжволі адхітнулася. З шарай царкоўнай сцяны проста на яе пазірала…яна сама. Еўфрасіння… Гэта была дапраўды яна. І ўсё ж … не яна. Хаця ў той, якую змалявалі на сцяне, былі яе вочы. Яшчэ такія маладыя і зацікаўленыя. Прагныя да жыцця і зямных спраў. Толькі адкуль магла гэтая мянеская агненніца ведаць пра яе тую, яшчэ маладую ігуменню? Задыхаючыся ад наплыву гарачкі, азірнулася. І адразу ж змеціла яшчэ адну, падобную да першай, жаночую выяву. Ужо з іншым позіркам цёмных пякучых вачэй. Божа літасцівы, адкуль жа ўведала юніца гэтая пра вечнае маўчанне, той непазбыўны боль, што і дасюль яшчэ ляжыць пад бясконцым дажджом на растоўчанай заслаўскай дарозе, захінуты адно яе трапяткой памяццю?

Стапнела ўсё, растварылася ў далечы, адпакутавала.

… Падаюць слёзы, ускіпаюць, працінаючы кароткія сны, вугалем коцяцца па слядах, калі яна спяшаецца ў келлю. Адкуль жа ўведала юніца неразумная шлях той церневы і душу, спаласаваную няшчаднымі ранамі ад бясконцай бойкі з чорным анёлам. Дало неба дзяля спакусы і чорныя вочы, і вішнёва-прывабныя вусны. Толькі сіл цнотных спаўна не выдзеліла.

Акуль жа ўведала, вогненная, як адольваеш сябе штодня і ачышчаешся? Агарнула чорным покрывам, атуліла ўзмахамі свайго пэндзля белае аблічча, адценіла вялікія, што калодзежныя прорвы, вочы, наліла ў іх пакутлівага суму.

Але ці ведае, як часта плявалі ў гэтыя калодзежы і ворагі, і браты-суроднікі? Не толькі зоркі падалі ў глыбіні мае, пэндзляў валадарка! Не толькі лілеі расхіналіся…

Вольга, лежачы на прысценнай лаве, усё яшчэ сонна мыляла вуснамі. Свечкі, узіраючыся ў выявы на сцяне, насцярожана

перашэптваліся. З прачыненых дзвярэй патыхала церпкай начной свежасцю.

РАЗДЗЕЛ 3.

*— Як жа доўга не чула я цябе. Схібіла, размякчыла сэрца і веру сваю.*

*— І сказана: “Вы былі калісь цемра, а цяпер святло ў Госпадзе. Дык паводзьцеся, як дзеці святла.”*

*– Ах, не Госпаду нашаму болей служыла, а людзям. Не Духам напаўнялася...*

*– Усе мы – часткі Цела Ягонага, ад Плоці Ягонай і ад касцей Ягоных.*

*– І я, Еўфрасіння?*

... Раніца выпала мяккая і чыстая, дарога таксама была прыемна падсушана сонцам. Лясная вышыня і празрыстасць нечакана нагадалі пра той сонечны дзень, калі разам з сёстрамі ўпершыню, такой маладзенькаю ігуменняй, яна выехала неяк у лес па мох: у манастыры будаваўся новы скрыпторый. Папераздзе за конюха сядзеў кмет Сава. Колішнія мохавыя мясціны густа зараслі высокімі карчамі дзікіх ягад, і над кожным ядавіта-дрогкім воблачкам трымаўся, калыхаючыся ўваччу, багуновы туман. Яна так бы і не асмелілася прадрацца праз буяковую сетку гэтай насцярожанай пушчы, калі б не сліпучае сонца поўдня: вырваўшыся з тлустай кудзелі воблака і ўсім сваім бляскам ударыўшы па балотнай чэзласці, раптам сыпанула на шэрыя купіны жмені залатых падковак. Атрутны чад імгненна развеяўся, з куп'я вынырнулі ярка-чырвоныя і ружовыя, з фіялетавымі сярэдзінамі, грыбы. Пыжыліся парваць жылістую траву сваімі крохкімі шапачкамі. Залюбаваўшыся імі, ігуменне задаволена выпрастала плечы. Нарэшце, па-буслінаму высока падымаючы ногі, бо асцерагалася гадаўя, пакіравалася ў бок Лагвянкі і адразу ўбачыла знаёмую кручу: такую ж лабастую, як і раней, але ўжо добра палыселую і пажаўцелую. Ведала, што далей, смела ўзлазячы на плечы гэтага шырокага, аточанага норамі, погарбу, разрастаецца сасоннік, але сама там ніколі не была. За нахабным кустоўем раскашавала чадная зелянота, аплеценая бляклымі нітачкамі журавін. Мох тут яшчэ не выдзерлі і, не зважаючы на здзіўленыя позіркі сёстраў, што ведалі пра яе ранішняе недамаганне, і сама пачала выбіраць мох у разасланую посцілку. Урэшце, прысеўшы на грудок пад кручаю, уткнулася плячом у цёплую гліняную сцяну. Навокал разлягалася,

нечакана нагадаўшы пра маленства, заклапочанае чмялінае гудзенне: сюды яе вазіў яшчэ бацька-князь.

Сёстры, заглыбіўшыся ў лагвянскія нетры, гучна пераклікаліся. Але вось, невядома адкуль, ці не з-за гэтай кручы, данеслася нясмелае, яшчэ ціхае салаўінае цёхканне. Здзівілася і падумала, што здалося. Але ў тое ж імгненне да першага поклічу далучыўся цэлы птушыны хор. Ад апантанага галасу закладала вушы. Быццам упершыню ў жыцці чуючы гэткія шалёныя птушыныя спевы, міжволі азірнулася, шукаючы вачамі ўласны цень. Але за кустоўем бліснула драцянай сарочкаю Вольга. Насцярожана азіралася на сваю ігуменню. Тады, як пачуўшы нечы таемны загад, Еўфрасіння падняла галаву і ўбачыла проста над сабою, недзе на самым версе кручы, кашчавую воўчую морду. Міжволі ўціснулася плячом у цёплы погарб. Раней бы, магчыма, па-сапраўднаму спалохалася, але цяпер толькі ўздыхнула. Яшчэ раз зірнула ўверх, але на кручы ўжо нікога не было. А можа, здаліся, прысніліся ёй, ігуменні сяльцовай, і лясныя чары маленства, і далёкая, амаль забытая, утрапёнасць кмета Савы, які толькі сумна пазіраў, ціха сачыў за ёю з-пад апушчаных павекаў. Слюдзяна-чорнае, налітае да краёў лагвянскае вока, якое бачыла яшчэ яе бацьку-князя Ягоргія, гэтак жа таемна сачыла цяпер сваім дрымотным дзікім позіркам і за яго дачкою. Урэшце, навошта прыйшла яна сюды? Што хацела знайсці ў гэтым старым лесе, акрамя невыносна горкіх пякучых успамінаў?

Востры боль, што яшчэ з раніцы калоў пад левую рабрыну, раптам ударыў па ўсім целе: сутаргавымі глыткамі хапаючы густое і пякучае, як расплаўленая смала, паветра, асцярожна апусцілася на дарогу. Пад галавой і спінаю, пад усёй ёю было цяпер гнутка пераплеценае, рабрыстае карэнне. Быццам сухажылле крылаў тых ваярскіх анёлаў, што баранілі некалі зямлю крыўскую, і палеглі, абхапіўшы, сціснуўшы яе ў развітанні, крыламі. Засталіся на векі вечныя тут. Задзервянелі каранямі. З-за бліжэйшых дрэваў, пераклікаючыся, да ігуменні ўжо блізіліся ўстрывожаныя чарніцы. Тая, схапіўшыся рукамі за свой ігуменскі крыж, нарэшце ўкленчыла. Гарачкава зашаптала:

— Вось, сабрала вас у гурт, нібы авечак, каб пасвіліся вы ў запаведзях Божых. Перадыхнула, убачыўшы, як сёстры адна за адной выходзяць з-за дрэў.

— А я з радасным сэрцам рупілася вучыць, каб убачыць плён, і вучэннем на вас дождж такі паліваю. Але ж вашы нівы аднолькавыя стаяць. Не растуць, не ўздымаюцца ўгару. А год падыходзіць ужо да завяршэння, і лапата на гумне ляжыць.

Здаецца, ужо задыхалася ад гаркава-млоснага водару багульніка:

– І баюся, што калі будзе пустазелле ў вас, аддадзены будзеце агню нязгаснаму. Чуючы сардэчную калатнечу, ледзь варухнула пабялелымі вуснамі і асцярожна паднялася:

— Пастарайцеся ж, чады мае, пазбегнуць яго, і станьце пшаніцаю чыстаю, і змяліцеся ў жорнах з малітвамі і постам, каб чыстым хлебам прыўзнесціся на трапезу Хрыстову.

Над галавою ледзь бачна варушыла галізнем старая вольха. Навокал панавала таямнічая цішыня. З-пад тоўстага карэння да слыху нечакана даляцелі ледзь чутныя, падобныя да дзіцячага плачу, галасы. Гэта адзываліся тонкія белыя костачкі далёкіх продкаў, сярод якіх былі і тыя, што належалі праслаўнаму роду Торвальда. Але цяпер пад пушчанскімі нетрамі ляжалі ужо не мужчынскія ці жаночыя рэшткі, бо з кожнае костачкі наверх прабіваліся ствалы, і па іх струменіў сок, перамешаны з крывёю і пракаветным духам усёй крывіцкай зямлі. Павольна, але ўсе больш упэўнена ігумення пачала знаходзіць у сабе тое галоўнае, дзеля чаго сёння, праз столькі гадоў пасля смерці бацькоў, вярнулася да маўклівай лясной Лагвянкі, і гэтае галоўнае было нечакана простым і прынесла душы невымераную радасць. З-за блізкіх карчоў за ўсімі сяльцовымі насельніцамі цікавалі халодныя, зялёныя вочы вечнага лесу. Праз усю яе, такую цяпер прасветленую, праходзілі шчымлівыя лясныя гукі і пахі, адчуўшы якія, яна нарэшце падалася па дарозе наперад. А, можа, паклікала яе, Еўфрасінню, у гэты лес успамінаў душа Савы? Каб нарэшце паспавядацца і паспавядаць. І распытаць аб усім.

Дрэвы падыходзілі і абступалі дарогу ўсё шчыльней. Пільна ўзіраліся ў яе пражытыя гады, у яе, напоўненыя жыццём і смерцю, вочы і збалелае сэрца. Кожны лісцік трымцеў, як агеньчык над вялікаю свечкай. Тады падняла вочы і ўбачыла ў гэтым шматгалосым Божым храме сваю ціхую душу і пачула сваю новую малітву:“ Маці нябесная, ці чуеш пакуты мае і ўспаміны балючыя? Ці бачыш, як брыніць па жылах кроў? Маці нябесная, злітуйся, пералі яе з жылаў маіх у крыніцы, што натоляць плоднаю сілай ўлонні мацярок зямлі крыўскай. Злітуйся над душою зямлі мае роднай, Царыца нябесная…” Дрэвы цягнуліся ў вышыню. Да неба і памяці. І усё гэта былі іх, Еўфрасініны і сяльцовых манашак, дзеці. Яе і яшчэ нечыя ўнукі і праўнукі. Яе і яшчэ нечыя крыўды і праўды. Азірнуўшыся, змеціла блізу сябе Вольгу: не тоячы ўзрушэння, юніца-ваярка азіралася шырока расплюшчанымі вачыма. Быццам выбірала ў зялёным царстве новую сцежку.

– Усё бачнае на гэтым свеце прыгожае і слаўнае, Вольга, але хутка, як сон, мінае. Завядае, бы кветка.

Тая, аднак, нечакана адвярнулася: пільны позірк змеціў, як блізка ад дарогі, па якой ужо рухалася падвода з напакаванымі мохам ношкамі, на якіх сядзелі чарніцы, шахнула сівая здань. Адно ігумення ішла ўзбоч па высокай папараці і, паглыбленая ў свае думкі, працягвала:

— Вечнае ж і нябачнае вякі прабывае. Як у Пісанні сказана: “ Ні вока не бачыць, ні вуха не чуе, ні на сэрца чалавеку не прыдзе, што ўгатаваў Бог тым, хто любіць яго.”

Усе чакалі, калі Вольга праверыць выезд з лесу. Чалядніца нават прыкрыкнула на ленаватага каня. А Еўфрасіння ажно ўгнулася ад вострага болю з левага боку. Заплюшчыла вочы. Да слыху выразна данеслася далёкае і амаль забытае: “Прадслава!”

Павозка гучна рыпела, але ценькі голас маленства не аддаляўся. І раптам, калі рыпенне колаў і ўзрушаныя перамовы сёстраў нечакана сціхлі, як удараная трывожнай цішаю, міжволі падняла і сама. Спынілася, чуючы адно гулкія ўдары ахопленага жахам сэрца.: на лясной дарозе, грозна застыўшы перад Вольгаю, стаяла вялізная ашчэраная ваўчыца.

...Потым расказвалі ігуменні. І чалядніца Еўпраксія. І тая маладзенькая паслушніца, што гэтак неасцярожна варухнулася і ўскрыкнула. Конь, не слухаючы лейцаў, імгненна стаў на дыбкі і панёс павозку ўбок. Зрэшты, і ўласная памяць захавала момант, калі лютая звярына стралой узвілася насустрач зніякавелай Вользе, якая не паспела нават выхапіць меч. Змеціла і бліскавічную здань, што тут жа рынула з-за соснаў насустрач зверу.

... Магутныя дрэвы высіліся над людзьмі, паўстаючы з багуну і разлапістага, ледзь не да самага днішча павозкі, папаратніку. Ад лясной дарогі неслася звярынае хрыпенне і роспачныя крыкі. Праз прагалы між дрэвамі было відна, як на дарозе, сашчапіўшыся ў смяротным паядынку, змагаюцца двое. Звер і чалавек. Вольга, падняўшы меч, напружана чакала зручнага моманту. Нарэшце данёсся жахлівы хруст...

Ігумення ішла па дарозе хістаючыся. Следам гэтак жа моўчкі ценіліся разгубленыя сёстры. На ўтравелай лясной дарозе ляжаў, шырока раскінуўшы рукі, сапраўдны волат. Густыя, усё яшчэ агністага колеру валасы і сіваватая барада ляснога заступніка былі залітыя крывёю і хвалямі падалі на прыкрытыя заечай світкаю грудзі. Вочы былі заплюшчаны, у горле зеўрала смяротная глыбокая рана, з

якой біў струменьчык густой крыві. Крыху воддаль, раззявіўшы зяпу, ляжала ваўчыца з патрушчаным чэрапам. Да ігуменні, якая моўчкі пазірала на ўкленчаную перад вешчуном Вольгу, сыходзіліся сёстры. Касіліся на скрываўлены меч, што ляжаў на карэннях. З жахам пераглядваліся. Еўпраксія войкнула. Пэўна, таксама пазнала Валодшу. Але мянеская князёўна так горка плакала, што сёстры зніякавела адступілі. Злавіўшы спасцярожлівы позірк ігуменні, Еўпраксія тут жа дастала з глыбокай дарожнай кайстры малітоўнік, які заўсёды насіла з сабою. Да высокіх густых вяршалін пачала ўзносіцца пяшчотная развітальная малітва. Лес падхопліваў дзявочыя галасы переразвонам казюрак і птушыным шчогатам. Вольга, схіліўшыся над вешчуном, бясцямна шаптала горкія словы нязбытнай пяшчоты і ўвесь час паціху выцірала слёзы...

## РАЗДЗЕЛ 4.

У Сяльцо Вольга вярнулася толькі нараніцы. Падзужаная нядобрымі прадчуваннямі, спяшалася. І яшчэ здалёк змеціла, што манастырскі падворак перапоўніла цэлая гурма народу. Потым згадвала ... Пальцы, сціскаючыся на ручцы меча, закляклі. Драцяны падкаўнерык нацер шыю. Нехта спалохана выгукнуў: “ Агненнніца!” Удавала, быццам і не змеціла іх страху. Адна ігуменя паверх галоў удалеч узіраецца. Звыклы да цішыні невялікай майстэрні, Богша пры такой людской гурме не асмеліўся нават падняць вочы.

... Зніякавела азіраецца спадылба. Убачыўшы Вольгу, нарэшце рашуча ступае разам з ёю колькі крокаў наперад. Да Еўфрасінні. Нехта зноў спалохана прашаптаў: “ Агненнніца!” Адна ігуменя нічога не бачыць. Стаіць на ўзвышэнні, полы хламіды ад ветру развяваюцца і шархацяць.

– Дачакаўся люд полацкі на векі вечныя абярогу святога.

Ігуменя, задумаўшыся на хвілю, прытрымлівае Богшу за рукаво.

— Нізка кланяемся табе, майстра.

Толькі цяпер, здаецца, і змеціла Вольгу, усміхнулася. Паказаўшы ўсім бліскучасты, золатам і камянямі яркімі аздоблены, крыж, падымае яго высока над галавою:

– Назаўжды з намі крыж гэты. Асвячаць людзей сваіх, нас усіх, будзе – часцінкамі драўніны, на якой укрыжавалі Збаўцу. Святлом мошчаў святых.

... Імчыць Рымша з Запалоцця. Азіраецца на ляту, быццам хоча ўпэўніцца, што князь Барыслаў і дружына не адстаюць. Гоніць перад

сабою на плошчу жоўты клубок дарожнага пылу. Месцічы кашляюць і адступаюць.

– З якога часу прысвойвае абіцель тое, што належыць толькі князю Барыславу!?

– Гэта я запытаю ў вас! – Ігуменння, не зводзячы з заполацкага князя гнеўнага позірку, ажно пабялела:

— З чые ласкі гэта князь хоча выкрасці тое, што толькі храму Багародзіцы належыць!?

– Ці не мы цэлы гарнец срэбра пасылалі табе, Богша? Скажы.

Той, вінавата адвярнуўшыся, прашаптаў:

— Не хапала крыху, уладычыца. Пазычыў.

– А пакажы таго, Рымша, хто не ахвяраваў Полацку на крыж?

... Кметы ўжо сталі ў два рады, забразгалі мечамі ў акаваныя меддзю шчыты.

– Што наша – тое наша!

— І запісана: “ Ды не знясецца з манастыра крыж гэты! Яка ні прадаць, ні аддаць нельга яго!” – Азірнуўшы кметаў, падвысіла голас: — “... ашчэ хто прэслухае, і знясе, ці ўладыка, ці князь, ці епіскап, ці сама я, ігуменння... Акі дзярзне хто...”

Князь Барыслаў, выступіўшы наперад, грозна скіраваўся да ўзвышэння, але перад ім усё яшчэ стаяў Богша. Адна толькі ігуменная, здаецца, нічога не бачыць:

— Ды не будзе зламысніку ніколі памочнікам святы крыж наш ні ў гэты век, ні ў будучы, ды будзе скрадніку пакаранне Іуды, што Хрыста прадаў!

Запалоцкая дружына спалохана хітнулася назад.

— “ ... ды пракляты будзе тацць той...” — Да Богшы, што ні на паўкроку не адступіў перад Барыславам, бег, падымаючы дзіду, соцкі Рымша. Спяшаўся, аднак праз хвілю, трымаючыся за скрываўлены бок рукамі, здзіўлена адступіў ад малодога воя ў драцянай сарочцы:

— Агненніца, ці вартыя яны ўсе? За што?

Хістаецца, убачыўшы, што з мяча Вольгі капае кроў. Узрушаныя дружыннікі, падхапіўшы соцкага, таропка адводзяць таго да павозкі. Крычаць, гатовыя кінуцца і на Богшу, і на ігуменню, але перад пікамі зноў стаіць, падняўшы меч, маладая ваярка ў доўгай драцяной сарочцы. Здаецца, адно крутнулася на адным месцы віхрам, а дзіды патрушчаныя ўміг разляцеліся. “ Агненніца!” Адступаюць, уведаўшы незвычайнае ўмельства і дзівосную сілу...

– Развяла ў абіцелі семя д’яблава, ігуменння! – Барыслаў задыхаецца:

— Не сееце, не жнеце, дрэваў не валіце, дарог не мосціце, жорнаў не рухаеце. Звоны толькі паўсюль у абіцелі тваёй, ігумення. Мазідлы, буквіцы, пергаміны. А паміж абалонак што там? Д’ябалаў хаваеш?

Падняла крыж яшчэ вышэй.

— І сеюць, і жнуць, і дарогі мосцяць у абіцелі, князь. Толькі вось, Чые служкі яны, сейбіты і жнеі Духу?

Блішчыць пад сонцам крыж.

— То хто ж яны, скажы, хараства лаўцы, Барыслаў? Калі смелы такі.

Павяла вачмі па людскім збоі на падворку, і ўсе адразу ж да яе ўхвальна загудзелі. Прасталюдзіны і чарніцы найбольш — у войлачных каптурах, у падвязаных вяровачкамі світах, у манаскіх шатах; босыя ці ў простых хадачках.

— Кім адораныя пракрокі нашы, валадары пэндзляў і спеваў? Чые пасланцы, майстры-дойліды краю нашага, летапісцы-схімнікі, абраннікі мудрасці? Чыё царства будуюць са слоў і колераў, княжа? Хто ўкладае ў вусны іх вечныя словы!? Хто падае пёры і пэндзлі майстрам, братам і сестрам маім юродывым?

Падвысіла тоны голасу:

— Ім, гнаным па ўсіх скрыжаваннях, яка дзеці бязродныя?

Павярнула галаў да Барыслава:

— Думаеш, князь запалоцкі, уладу ўжо ўсю ў руках трымаеш? А сіла ўся – у тых, хто валодае жыццём праўдзівым, пахамі-колерамі, словамі яго, мыслямі малавечымі. Над часам, што ляціць, нас усіх у яміну сызпеклую цягнучы, уладу яны маюць. Бо ў леты глыбокія зазіраюць. І там застаюцца. Такая сіла ім дадзена. Таго нам, князь, не ўразумець. Можна і жыццё ў гаротнага забраць. А дар Боскі – як адбярэш? Не змелеш, не злушчыш, у печы не звугліш, за кратамі ў порубе не сагнеш.

Паток тых, хто прыкладваўся да крыжа, быў бясконцы і ігумення, адвярнуўшыся ад запалоцкага князя, пазірала толькі на Богшу:

— Ці хоць ведае хто-небудзь з вас, майстра, Чыю вялікую любоў і Чыю славу, Чыю пакуту бязмежную прамаўляеце і нясеце вы ў свет сваёй неспасцігальнай сілай? Як лёгка цяпер будзе нам ісці ў дарогу дарог. Да Ерузаліму. Бо ёсць ужо Крыж святы на Полаччыне.

Некалі цёмныя валасы Барыслава сталі зусім сівымі і іх даймае пругкі вецер. Стаіць перад ігуменняю, засунуўшы тронак бізуна за шырокі пояс, а тая не зводзіць вачэй з Богшы:

— Чые ж слугі і найміты, Чые браце і сёстры вы? Кім, майстры выбітныя, пакліканы?

Ці гэта воблакам і дзядзінцам, плыткай ракою і шатамі лесу, што акружыў Полацк з усіх бакоў, ці, можа, птушыным крыллем над царквою Багародзіцы, ці разгушканымі спевамі сёстраў-манашак, выдыхае:

— Спасам...

## РАЗДЗЕЛ 5.

... Галілейская павозка, здавалася, ужо зусім расхіталася, але ніхто на гэта не зважаў. Адно кніжнік, сціху азіраючыся, пачаў нешта мармытаць пад нос.

“ І сведчана мною, кніжнікам ігуменні Еўфрасінні Костаю, што прыбылі госці полацкія ў Бізантыю разам са слугою імператарскім Асанам у месяцы кветні, і прадсталі прад імператрыцаю Марыяй, няхай доўжыць Гасподзь леты яе; сядзелі пасля да поўначы ў бібліятэцы, займаліся доўга расчытваннем “Намаканона” – Зводу царкоўных і іншых законаў Бізантыйскіх, у перакладанні на мову славіянаў Кірылам і Мятодзіем.

Былі перад тым Еўпраксія-сястра, Давыд і ігуменя ў склепе Лукі святога, мяне за сабою паклікаўшы. Казала там ігуменя, быццам і дапраўды прыбачыла ў сяйве скляпення бацьку-князя Ягоргія. Казала так:

“ Не адно клопаты свае горкія ў сэрцы прынесла табе я, але — казань ад сэрца. Жывот увесь свой, княжа-бацька, я Полаччыне аддала, а да міру так і не дасталася. Хацела вочы адчыніць люду нашаму крыўскаму, а толькі яшчэ болей заплюшчыліся ад скрыўджанасці і галечы. Душы мысліла лячыць, бацька, а даводзілася раны гаіць крывавыя. Казалі ўсе – “ адступі, не пярэч, не гняві!” Забылі, балесныя: толькі перад Госпадам адступаю. Забылі, недамысльныя, што толькі волі Гасподняй паклікана не пярэчыць. І толькі Госпада ўгнявіць баюся. Кідалі зроднікі ў вочы пяском атрутным, крычалі ўхваліць хцівасць і ліхаімства, што край наш скукожылі. Рычалі супастаты: адчыні спраты манастырскія, аддай золата-серабра! Грызліся між сабою, забываючы – сваё багацце ёсць у душы манаскай — воля і ласка Госпада нашага. Ганцоў з мечамі і агнём пасылалі да мяне, бацька-князь: то, маўляў, не пярэч князю вялікаму, калі дружыну ў паход збірае, то — не гняві баяраў. Што да таго табе, калі засякаюць насмерць дворных, гвалцяць юніц, бэсцяць атракавіц, разворваюць нарогамі помсты чыстае поле зямлі крыўскай! І, каюся,

адступала, адварочвалася. Так часта дазваляла. Ці прабачыш мяне, няўдалую, бацька-княжа!?”

Так і казала. Толькі ж не праўдзівае тое, што нагаворвала на сябе ігуменння.

Бо пярэчыў пасля Міхал сівабароды, мне дыхтуючы:

“Блаславёны Гасподзь, Бог Аўраамаў, Бог Ісаакаў, не мёртвых Бог, але жывых. Бо праведнікі навекі жывуць, як пісаў Саламон у свіх прытчах, і ад Госпада мзда іх, і патраенне іх ад Усявышняга; таму і прыймаюць яны вянкі з рук Госпада. Збярыцеся ж усе, хто жыве падобна анёлам у пустынях і горах: старыя — адрынуўшы немач сваю, вотракі – скачучы, яка алені. Прыдзіце ўсе. Бо хачу прапанаваць вам трапезу, якая ўзвесяліць душу і ўмацуе розум на подзвігі дабрачыннасцей. І, адкрыўшы вушы свае і ўмякчыўшы нівы сэрцаў, прыміце ў іх семя шматлікаратавальнага жыцця ігуменні гэтай, подзвігаў і працы, і любові яе да Бога.”

Так казаў мне ігумен Міхал. А сама Еўфрасіння, перабываючы ў Царгорадзе, шмат што ўпадабала. Палац імператарскі з партрэтамі ў блішчастых рамах — Алексіса першага, Базыліюса, Раймонда – прынца Антыёхіі. Царкву Сафіі Святой – высокую, з калонамі наверсе; а ў самім купале ажно сорак зашклёных колерамі рознымі акенцаў. Помнік велічны імператару Юспініяну, пра што казала пры сустрэчы самой імператрыцы і патрыярху Бізантыйскаму і Канстанцінопальскаму Хрысавергу. А мне, Косце, прызналася яшчэ ігуменння, што найбліжэй сэрцу яе — лілеі бізантыйскія, дзівосна белыя і вялікія ў вазах прысценных, на якія адусюль падае святло ад абразоў. І яшчэ – кандалябра залатая з васьмі свечкамі. Паведаў тады Міхал-ігумен у зацішку пергамінаў:

“Пішы, Коста: “...прыяла Еўфрасіння падзвіжніцкі подзвіг посніцкі — пачала кнігі пісаць уласнаручна, ды толькі прыбытак атрыманы раздавала гаротным. І заснавала каморы лекавыя для слабасільных немачных, і школкі для малечы полацкай.”

Тады сказаў князь Давыд, у бібліятэку зазірнуўшы, быццам імператрыца ігуменню кліча. Дапраўды, усё было б добра тады ў палацы, бо мудрасцю ігуменні полацкай усе захапляліся. З самой імператрыцаю і дочкамі ейнымі прынцэсамі Ганнай і Марыяй, яна добрую мову займела. Прынца Алексія на руках патрымала. Усё было б добра, калі б не Андронікус, старэйшы брат імператара. Па-праўдзе, яму-то і належала быць на троне, Андронікусу. Толькі ж бацька Іаан, ухваліўшы нораў высакародны і ваярскі дух малодшага з сыноў, аддаў уладу Мануілу, у якога, да таго ж, сапраўдны спадчыннік хутка нарадзіўся. Не ў лёгкую пару гадавацца мусіў. Бо пакінуў якраз

Мануіл і дзяржаву, і імператрыцу з навародкам, спадзеючыся толькі на ласку Божую і генерала варты, які аніяк не хацеў сварыцца з зайздроснікамі — двума іншымі прынцамі крыві каралеўскай. Сышоў Мануіл на уграў, і грэх было не скарыстаць такі зручны момант. Сам я, Коста, седзячы тады ночаю разам з ігуменняю Еўфрасінняю ў бібліятэцы, бачыў, як праз залю ценню прашалясцеў у сваім начным плашчы адзін з прынцаў. Здзівіўся, бо ніводнага з іх дасюль у бібліятэцы так позна не бачыў. Пасля і пачаўся ў палацы той галас. Нават палачан абвінавачвалі. Быццам бы хацелі маленькага нашчадка імператарскага Алексіса скрасці. Але там іншыя таці рупіліся. Не ўдалося! Дыктаваў мне, Косце, тады, калі ўжо імператрыца сама за гасцей, гнеўна зіркаючы на Андронікуса, заступілася. Дыктаваў тады мне ігумен Міхал:

“І ўбачыла Еўфрасіння вялікі статак агніц, ёю сабраных; старэйшых вучыла цярпенню і ўстрыманню, юніцаў навучала чысціні душэўнай і скудзіне цялеснай, дабранраўнаму пасту, упакорліваму поступу, замірэннаму голасу, дабрачыннаму слову, бязмоўнай трапезе, каб пры старэйшых – маўчаць, мудрэйшых слухацца, быць упакорлівымі, аб любові да роўных і ніжэйшых гаварыць мала, а многа разумець. Быў Госпадам дадзены ігуменні гэтай дар: калі хто-небудзь пытаў парады – то яна яму адказвала, чаму трэба навучацца, і хто тых парадаў слухаўся – паварочвалася з ім усё на добрае. ”

Пасля таго начнога перапалоху ігуменння полацкая яшчэ доўга не магла ацяміцца. Аднак, гэткія ўжо ў палацах нашых парадкі...

Вось, якраз, і ўвайшла ў бібліятэку тады яна. Вольга. Залатавокая і ўсмешлівая, ні на каго не падобная князёўна менская. І назаўсёды забрала ў мяне сэрца. Быццам у тумане яшчэ быў, калі пісаў на пергаміне за ігуменам Міхалам:

“...якой моваю, брацція, годна ўславіць светазарную нявехну Хрыстову Еўфрасінню. Бо ёсць яна памочніцаю скрыўджаным, скрушным – уцехаю, нагім – адзежаю, хворым – лекаваннем, а папросту кажучы — для ўсіх ўсё яна.”

Спяшаўся ігумен казаць, бо прадчуваў блізкае завяршэнне шляху. Спяшаўся сам, і мяне, неслухмянага, прыспешваў, адрываючы ад мрояў пра залатавокую. Казаў пісаць:

“Еўфрасіння сэрца сваё наталяе прамудрасцю Божай, яка няўвядальны квет саду райскага. Яка арол небаўзносны яна, крылы расхінуўшы з захаду да ўсходу, яка промень сонечны, прасіяўшы ўсю зямлю Полацкую...”

Спяшаўся ігумен дыктаваць, быццам ведаў дапраўды, што нядоўга яму застаецца. Але пра тое мала тады я думаў, заняты толькі

залатавокаю. Ці не з-за яе, падумае нехта, і цяпер пакіраваўся ў гэтую подараж у Ерузалім? Але ж, не! Каюся, Госпадзі, і думаю цяпер толькі пра сустрэчу з Табою, вырываючы з душы церне спаскусы. Атручаны я. Забраны, зацемнены пакутаю млоснай і пякучай. ... Каюся, Госпадзі.”

Галілейская павозка, натужна ўздыхнуўшы, нарэшце спынілася. Валы стаялі перад самым манастыром, і Вольга, злавіўшы патрабавальны позірк ігуменні, падступілася да варотаў. Нямоцна пастукалася. Але ніхто не адказваў. Паломнікі, сыходзячы на зямлю, з надзеяй пазіралі на Асана. Адно ігумення нетаропка адышлася да камянёў і адкрыла Евангелле. Услед за ёю адразу ж укленчылі і іншыя.

... Вароты пачалі адчыняцца, калі малітва ўжо завяршалася: усе, сасмягшы, міжволі кінуліся да ўваходу ў абіцель. Але тут жа, шырока расплюшчыўшы вочы, адступілі назад. Тыя, што сустракалі іх, былі наўздзіў цёмнымі, цёмнымі, як ноч, дзевамі-галілейкамі. З суровымі позіркамі глыбокіх, насцярожаных вачэй, ацененых наўздзіў бялюткімі і хрусткімі каптурамі.

## КНІГА ТРЭЦЯЯ ( ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА)

*“ Дзецi мае, — я зноў дзеля вас у пакутах народзiнаў,*
*пакуль вобраз Хрыста не аб’явiцца ў вас!”*

**Новы Запавет. Псалтыр.**
**Пасланне Апостала Паўла да Галятаў. 1V. 19.**

ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### ЗМІЙ ГАЛААДСКІ

РАЗДЗЕЛ 1.

…Цемнаскурая, з тоўстымі вуснамі і схопленымі на лобе раменьчыкам кучаравымі валасамі старэйшая дзева манастыра, што ўжо выходзіла з гурту сёстраў, насустрач, годна прыняла ад полацкіх паломнікаў залаты крыжык. І адразу ж адправіла ўсіх з чараговаю сястрой да купальні. Затым, ціха перамовіўшыся з Асанам і хітнуўшы складкамі шырокага балахона, па гулкім калідоры прывяла Еўфрасінню ў даволі прасторную гасцёўню. Не прыпыняючы гаворкі, што распачалася яшчэ па дарозе, прапанавала гасцям сесці на мяккія бізантыйскія пуфікі наўкруг засланага аксамітам нізкага стала. Наліла ў піялы казінае малако.

– Бойцеся пустыні, ігумення.

– Усё жыццё наша, як пустыня, сястра. Ідзем і бясконца абдзіраемся да крыві. А я?.. Я ўжо такая перабытая… Чаго мне баяцца ў гэтых пясках? <*Падняла галаву ў выпаленым сухавеямі каптуры*>.

– Хіба ігуменні нагадаць?: “Тады Ісус быў зведзены Духам у пустыню, на спакушэнне ад д’ябла…”

– Я адолела амаль усе свае дарогі, сястра, ад Полацка да магіл у склепе святога Лукі. І даўно ўжо старэйшая за сваю маці, якая так і не вярнулася з Царгорада, куды з бацькам была выслана… <*Задумалася*>. Але ж гэта было так даўно. Зрэшты, у вас бываюць адтуль госці?

– З Царгорада? Вядома. Чулі нават пра вашу зямлю…— Дзева ўздыхнула. — Толькі быццам вельмі дзікая яна. Людзі, як звяры.

– Звер – той, хто шукае сабе нару ў людскіх душах, як пісаў Васіль Кесарыйскі.

– Людзі заўжды асуджаюць іншых залішне паспешліва. Без роздуму, без спачування. Асабліва калі маюць у руках уладу і багацце.

– Слава зямная – прах і попел. Знікае, як падманная пара. І горш павуціння абблытвае людзей. Слабасці плоці часам мацней за сілу духу.

– А колькі такіх, што асуджаюць бліжняга думаючы толькі пра ўласныя, перажытыя з-за некага, пакуты. Ужо забылі пра Ягоныя раны.

– Я даўно зразумела <*скрушна хітнуўшы галавою*>: той, хто толькі асуджае, ніколі не спасцігне провіду Боскага. Але скажы, сястра, з іменем Чыім так хутка мяняецца свет !? <Падвысіўшы тон>. Так будуецца Рым. Так падымаюцца германы!

– Храмы там, і праўда, высокія <*скептычна*>. Шмат бляску! Але да бляску хінуцца толькі найміты веры!.. Тыя, што многа гавораць пра Госпада. О, як многа гавораць. Аднак аплаты за сваю любоў не цураюцца. І чым вышэйшы сан і болей бляску, тым большая аплата патрабуецца <*ціхі смех абедзвюх*>.

– — Але ж на каго падае гэты бляск, шаноўная? На Хрыста? На Яго крывавыя раны? Ці дзеля такога, ігумення, наш Уладыка пайшоў на ўкрыжаванне?!

– Любоў дзяцей да Айца павінна быць дарункам сціплае душы. Вы гэта мне хацелі сказаць? А, можа, асабліва гордыя рабы, акружыўшы сябе тым бляскам, пра які сястра мне гаворыць, хочуць упадобіцца Боскім прарокам? Каб узвысіцца над іншымі людзьмі.

— А, значыць, хочуць настаўляць і судзіць іншых? Сама цяжка бачыць, як годныя, здавалася, вернікі пускаюць у душу атрутных чарвей… непамерную пыху і хцівасць, што выпіваюць з плоці агонь жыцця.

— Не будзем такімі суровымі, сястра. Усе мы – Ягоныя дзеці.

– І ўсё ж асцерагайцеся нашых вятроў, ігумення! Я таксама баюся іх пясчаных прывідаў.

– Пясок жыцця выядае вочы. Гэта праўда. <*Самотна*>. Але калі ідзеш да ўкрыжавання, думаеш ужо пра іншы край пустыні. А вы яшчэ такая маладая. <*Заплюшчвае павекі*>. Вам думаць пра тое рана…

Асан пачаў цярпліва ператлумачваць усё, што Еўфрасіння расказвала пра свой край і манастыр у Сяльцы, і галілейка, такая важная ў сваім белым покрыве, толькі здзіўлена падымала бровы і прасіла гасцей падліваць у піялы казінае малако. Сама сядзела блізу

вялікага цісовага ўкрыжавання з высока паднятай галавою. І Еўфрасіння міжволі змеціла, што пры такім суседстве старэйшая дзева гэтага сястрынскага прытулку таксама была быццам агорнута тым бляскам, пра які яны толькі што гаварылі. І, пэўна, пачувае сябе тут ледзь не галоўнай Хрыстовай абранніцай. Міжволі хаваючы ўсмешку, паднялася і зрабіла колькі крокаў па гасцёўні, спынілася перад фаліянтамі на высокім абчосаным камені. “Хронікі” Яна Малалы і Георгія Амартола былі і ў яе полацкіх зборах. Над перапісваннем тапаграфіі Касмы прасядзела амаль цэлую вясну. Змеціла Яна Сінайскага; былі на гэтай каменнай паліцы “Фізіялог” і, на першым месцы, “Шасцідзённы” Італа. Запытальна зірнула на гаспадыню: хіба забыла шаноўная, што гэты верны вучань Псёла пакланяўся адно Платону? Дзева ўсміхнулася:

— А хто яшчэ так адкрыта асуджаў дэспатаў? Толькі дзёрзкі Італ! — Еўфрасіння схіліла галаву, чакаючы завяршэння Асанавага перакладу, і дзева ветлівым жэстам запрасіла вярнуцца да стала. Слухала.

– Паднесеных гардыняю, сястра наша, мала хвалюе святое пакліканне, ад якога адышоў Юда.

— Але Юдзе сёння моляцца болей, чым Сыну Божаму, ігуменні! І трымаюць нагатове тыя цвікі, што беззаконнікі выцягнулі са святых ранаў.

– Здаўна так. Ёсць птушкі, што сягаюць у неба, і ёсць тыя, што шукаюць для спажывы толькі падліну.

— Страсць садомская зацьміла нават Галілею! Усе пра тое ведаюць, але маўчаць. У святых пячорах пасяляюцца па двое ці з рагатай жывёлінай. Але ж не для таго, каб маліцца! Зямля разбэшчана, і ўсялякая плоць схібіла шлях свой на ёй.

Зноў пачалі гаварыць пра далёкую Полаччыну, і дзева нарэшце прапанавала, праўда, не вельмі ахвотна, наведаць іх шпіталь. Еўфрасіння адразу ж згадзілася, хаця не зразумела ні стрыманасці дзевы, ні настойлівасці Асана, які адразу ж пачаў адгаворваць яе ад наведвання. Пасланец Камніна амаль у адчаі паўтараў адно слова, сэнс якога Еўфрасіння так і не зразумела. Урэшце, старэйшая дзева настаяла на тым, каб госця спярша адпачыла, і Еўфрасіння згадзілася, падаўшыся за вартаўніцай да купальні.

... Ужо ў келлі, як толькі галава кранулася мяккай травяной падушкі, яна нарэшце задаволена парухала знямелымі за доўгі дзень нагамі. Пасля халаднаватай вады купальні з асалодаю выпрасталася на прыкрытай толькі тонкай коўдрачкай, цыноўцы. Памяць перад сном вяртала то полацкія малюнкі, то жахлівыя згадкі пра шторм. З

якой радасцю ўсе яны адчулі ўрэшце, што гойданка Сяродземнага мора відочна слабее. І хаця хвалі яшчэ бушавалі, усе заставаліся на палубе пасярод моцнай, яшчэ неўтаймаванай калатнечы: перад вачмі то ўзнікалі, то зноў ляцелі ўніз цэлыя статкі калматых дзіваў з пачварнымі клыкамі і рожкамі над кучаравай пенаю. Вушы закладала ад рэзкага посвісту ветру; у бруднай каламуці раз-пораз успыхвалі, па-блазенску падміргваючы, чырвоныя вочкі пасланцоў апраметнай. Тады шчыльней тулілася да пляча дужага Давыда, пазірала на засяроджаную, укленчаную поруч Ксію. Шторм не хацеў адступаць і здавалася, што смерць ужо так блізка. Але цяпер, у гэтым ціхім галілейскім прытулку марское здарэнне бачылася Еўфрасінні крыху іначай. Недзе побач пасля сціплага пачастунку спалі яе выпетраныя дарогай спадарожнікі. Праз дрымоту згадак, прыслухаўшыся, можна было ўлавіць тонкія перазовы блізкіх адсюль пясчаных дзюнаў. “Не давярайце пустыні, ігуменя!”Міжволі пацiснула плячмі, адчуўшы, наколькі моцна яна змаглася. У прапахлай загусцелым цяплом і пажухлымі травамі келлі блымаў тонкі агеньчык свяцільніка. Каля цыноўкі на каменным століку, засланым шырокім вінаградным лісцем, стаяла піяла з малаком і ляжала некалькі фінікаў. Нават у забыцці ўсцешылася думкай, што разам з усімі нарэшце прычакала Святое Зямлі. Тады супакоілася і, прыплюшчыўшы вочы, паплыла ў даўгачаканы сон.

* * *

... Еўфрасіння прахапілася раптоўна, ад нядобрага адчування, што зусім блізка стаіць, чакаючы дапамогі, спакутаваны бяссонем чалавек. Падняўшыся, таропка адхінула тонкую засцілку дзвярэй, выйшла ў калідор. Сэрца спалохана калатнулася. Насупраць келлі сапраўды нехта стаяў. Нарэшце прышлая павярнулася, і Еўфрасіння з палёгкай уздыхнула. Перад дзвярыма была Вольга – цяпер у простым галілейскім покрыве, забраным на сцёгнах тым жа, але ўжо без мяча, поясам. Сэрца, аднак, па-ранейшаму трывожна сціскалася: вочы Вольгі, здавалася, нічога не бачаць:

— Ты не можаш заснуць? — Вольга скрушна кіўнула галавою.

— Даруй ігуменню сваю. Збіралася ўжо сама прыйсці да вас.

Вольга тут жа прыклала да шчакі ладонь, паказаўшы, што ўсе спяць.

– Тады ўваходзь.

Яны з Вольгаю ўжо стаялі на каленях, рыхтуючыся да малітвы, і Святая Зямля тут жа адгукнулася з-за манастыскіх сцен ціхім перашэптам пясчаных прымараў. Але слых ігуменні нечакана ўлавіў

мерны плёскат рачных хваляў, і да любасці знаёмыя гукі імгненна вярнулі яе ў жоўты полацкі поўдзень да поўнаводнай Палаты. Хвалі зноў і зноў плёскаліся, падганяючы шапаценне густых чаротаў. Відзежы памяці ставалі амаль відочнымі. Родная вотчына не адпускала.

Побач нясмела варухнулася Вольга. Тады, адно зірнуўшы ў яе спалоханыя вочы, уздыхнула:

– Калі мы яшчэ на зямлі, Вольга, то ўсе такія малыя. І ўсё добра бачым, добра чуем. Так нам здаецца. Але хіба не час усім здагадацца, што чалавек пачынае па-сапраўднаму бачыць і чуць толькі тады, калі слых і зрок падымаюцца да горніх вяршыняў? Я так даўно ўжо хачу, каб твае вочы і слых расчыніліся. І спасцігнулі святло. І зразумелі кірунак слядоў Ягоных. Але такая далёкая дарога яшчэ наперадзе.

Вольга, апусціўшы голаў, нечакана гучна, выразна пачала:

— Ойча наш...

– Ах, Вольга... – Вусны ігуменні ледзь выдыхнулі прыглухлы стогн:

— Ах, гаротніца наша...

Пасля малітвы, ужо збіраючыся ісці ў сваю келлю, Вольга нечакана таропка зняла пояс. Затым, расшнураваўшы яго яшчэ і збоку, выцягнула знутры пергамін. Аддала.

— Ты цяпер толькі ўбачыла гэта, Вольга?

Еўфрасіння пазірала на начную госцю даволі сурова, але тая адмоўна пахітала галавою.

– Табе гэта перад самым нашым ад’ездам перадалі?

Вольга нечакана заплакала і зноў адвярнулася, паказваючы, што не хоча нават ведаць, што ў пергаміне.

— Ідзі, сястра, адпачні лепей. Заўтра – караван прыбывае.

*“Ігуменні Еўфрасінні праслаўнай дазнанне ад пісца Ерамії. Сэрца вызваляючы, пішу табе, прасветлая. Яшчэ тыдзень таму ўсё ведаў, але не змог распавесці. І цяпер дазвалення не маю. Але пішу перад дарогаю тваёю ў Зямлю Святую, дзе, можа, і мой грэх адмоліш. І дазналіся мы, ігуменння найслаўнейшая, ад Рымшы, соцкага з Запалоцця, перад скананнем ягоным, бо рана страшная ад стралы ханскай прабіла грудзіну. І сказаў Рымша ў гарачцы, што ёсць між паломнікамі тваймі той, што скарб біярмійскі некалі скраў з абіцелі Сяльцовай. Доўга быццам бы тады вышуквалі і найміты біярмійскія, і ханскія паслугачы той скарб. Бо каралі святыя, каштоўнейшыя за ўсё іншае, там ёсць. Шукаў яго сам Барыслаў, прапануючы узамен чэрап-чашу, з якое віно з крывёю піў. Бо то – чэрап, быццам бы, першакнязя вашага, якога яшчэ хан забіў. Ведаў Барыслаў – усё*

*багацце князі полацкія аддадуць, каб той чэрап займець і пахаваць па-хрысціянскі, адводзячы нячысціка ад вотчны. Толькі быццам бы нічога тады не ўдалося Барыславу. Адно перад ад'ездам вашым князь шапнуў, што з вамі недзе скарб той. Прагаварыўся. Якраз перад тым, як сышоўся ён на мячах з Кірыкам. Не даравай жмудзін Алму князю. Не даравай! Праткнуў горла Барыславу. Аднак і сам ляжыць цяпер хворы на ложы смяротным.*

*Памаліся за яго, ігуменння. Бо паспеў запалоцкі аспід кінуць у супраціўніка нож атручаны. Забіць – не забіў. Толькі не падымаецца жмудзін тыдзень ажно... І не пісаў бы я, жыватом рызыкуючы, табе дазнанне гэтае, але памыслі, ігуменння: ведаюць пра скарб і ханскія янычары, і віжы біярмійскія. Усе такія няшчадныя і жорсткія. Выбачай мяне, маламысльнага, калі надакучыў табе. Але ж асцерагайся. Асцерагайся! Боскае літасці табе ў дарозе, ігуменння прасветлая. Памаліся і за мяне. Бо адчуваю апошнім часам млосць вялікую ў нагах. І рукі трымцяць ад летаў халодных старасці мае.*

*За сім – пісец епіскапскі Ерамія."*

РАЗДЗЕЛ 2.

*— Як даўно я не чула цябе...*

*– Сказаў Адзіны:"... тым, што ўверуюць, дадзены будуць гэтыя азнакі: імем Маім будуць выганяць нячыстых, будуць гаварыць новымі мовамі."*

*– Пашто кажаш мне? Сама ведаю – вера мая нямоцная. Нячыстых выганяла рэдка. Слова Божае ў сэрца закідвала нячаста.*

*– Сказаў Адзіны:"... і будуць браць змей: і калі што смерцяноснае вып'юць, не зашкодзіць ім."*

*— Так мала сэрца свайго людзям я аддала.*

*—" ..і ўскладуць рукі на хворых, і яны будуць здаровыя."*

*— Ці выбачыць Гасподзь правіны мае цяжкія?*

*– Памятаеш? — напісана: " Уратуй Сябе Самога і сыйдзі з крыжа ."*

Тонкая посцілка расхінулася, і ў келлю зазірнула старэйшая дзева манастыра. Запрасіла да выхаду. Акружаны смакоўніцамі галілейскі манастыр поўніўся тонкім стракатаннем тысячаў не бачных нават птушкам казюрак, і Еўфрасіння адразу ж заспяшалася следам за маўклівай гаспадыняй абіцелі. У двары міжволі азірнулася. Складзены з белага кменю будынак манастыра быў акружаны даволі высокай тоўстай сцяною з варотамі. Нарэшце абедзьве – гаспадыня і

госця, не пабудзіўшы Асана, перасеклі двор і Еўфрасіння пасля адпачынку ўжо ледзь не абганяла галілейку. А тая павярнула чамусьці не да бліжэйшай купкі смакоўніц, дзе ўзвышаліся збудаванні з шэрага туфу, а ў бок вялізных, бязладна раскіданых каля чырвонай скалы валуноў. Шпіталь і сапраўды размяшчаўся пад зямлёю ў даволі глыбокай каменяломні: спусціцца туды можна было па вузкіх, высечаных у скале прыступках. Патыхала вапнаю і глыбокай цемрай. Да таго ж, увесь час трэба было трымацца за шурпатую сцяну. Спускаючыся ўслед за дзеваю, якая асвятляла шлях запаленаю свечкай, Еўфрасіння раптам спынілася: пад горла падкаціла такая даўкасць, што абаперлася аплячмі аб каменны выступ. Дзева, змеціўшы нядобры стан госці, таксама прыпынілася. А Еўфрасіння міжволі знерухомела. Неўспадзеў змеціўшы пажадлівы бляск чырвоных вачэй у трэшчынах цёмнай сцяны, гарачкава зашаптала малітву: чорная сіла ўжо біла з тых дзвярэй, да якіх яе так неахвотна вяла старэйшая дзева.

...Памяшканне галілейскага шпіталя асвятлялася толькі запаленымі ўздоўж сцен глінянымі свяцільнікамі; пасярэдзіне, пабліскваючы ў помараку, узвышаўся невысокі, высечаны з серабрыстага мармуру, крыж. У глыбіні, каля невялікага вогнішча, сядзела чараговая дзева ў шырокім балахоне. Здзівіла іншае. У гэтым прасторным, на першы погляд, шпіталі, дзе было каля трыццаці, альбо нават больш, жанчын, не чулася нават слабых стогнаў ці крыкаў. Не было і ўсхліпаў. Еўфрасіння ажно закашлялася ад дыму, якім моцна пацягнула ад вогнішча, і ўжо хацела запытаць, ці не лепей было б размясціць хворых наверсе. Але тлумача Асана з імі не было. Тады, не падаўшы і знаку незадаволенасці, моўчкі абвяла позіркам хворых, больш уважліва прыгледзелася да той, якая ляжала першаю каля ўвахода, — немаладой, прыкрытай вярблюджаю коўдрай, жанчыны. Рукі яе, тонкія, як цэўкі, і забінтаваныя ў жоўтыя анучы, былі спрэс з’едзены шэра-фіялетавымі пранцаватымі плямамі. І Еўфрасіння жахнулася такой яскравай выяве страшнай хваробы. Побач на цыноўцы ляжала яшчэ адна, даволі маладая жанчына з такімі ж пачварнымі плямамі на шыі. Маладзейшая раптам спадылба зірнула на Еўфрасінню і нечакана так моцна, так па-дзікунску жудасна крыкнула, што ўсе ў шпіталі патрывожана зірнулі ў іх бок: да госці ўжо бегла, махаючы рукамі, чараговая сястра. Апантаная, відно, сама напалохаўшыся, таропка пацягнула на сябе коўдру, але зноў у нейкі момант зіркнула на Еўфрасінню. І ў яе позірку было столькі зняверанай пакуты і жаху, перамешанага з нейкай віруючай у сярэдзіне апантанай жрсцёю, што Еўфрасіння павярнулася да старэйшай дзевы, знакамі паказала, што

яшчэ застанецца ў шпіталі адна. Тая адразу ж зразумела, згодна пакланілася і пачала падымацца да верхняга выхаду. Апантаная зноў жудасна захрыпела: цёмнае, амаль не прыкрытае вопраткай выпетранае цела забілася ў корчах, на вусны хлынула пена, і Еўфрасіння ўжо ўбачыла яе галоўную хворасць. Тады ўкленчыла тут жа, на шурпатыя камяні шпіталю, сціснула пальцы пранцаватай у сваіх моцна сашчэпленых руках з крыжыкам унутры. І амаль адразу ж праз тонкую скуру ладоняў пачула гулкія, спалоханыя ўдары чужога сэрца: позірк гаротніцы працяў яе такім болем і мальбою, што адначасна пачула яшчэ адзін гук, які заўсёды суправаджаўся патокам неверагмна асляпляльнага і гарачага святла. Прамяністы бляск пранікаў у кожную жылку, затапляў і паглынаў цалкам. Гэта было прадчуванне і набліжэнне малітвы. Самай моцнай за ўвесь гэты дзень. Тады яшчэ ніжэй схіліла галаву. Але чым болей Еўфрасіння малілася, тым цяжэй станавілася дыхаць. Дзева шпіталя, якая стаяла побач, пацiху абцірала яе лоб шурпатым ручнікам, аднак Еўфрасіння ўжо амаль задыхалася ад спёкі: апантаная нечакана прахрыпела ў забыцці: “Ал…ма!” Гэта было добра, — тое, што хворая імкнулася вымавіць сваё імя. Значыць, душа вызвалялася. Але той, хто быў унутры яе плоці, зноў скруціў хворую корчамі, а жывот так пуката ўздуўся, што здавалася, гэта цяжарная. Жудасна ўскрыкнуўшы, Алма зноў распасцёрлася на падлозе; усё цела яе нечакана напружылася і Еўфрасіння падняла вочы на дзеву: тая з разуменнем абышла хворую з другога боку. А Еўфрасіння ужо накладвала свае рукі з паломніцкім крыжыкам на ўздуты жывот няшчаснай. Пачала малітву, гатовая да ўдараў. Яе і сапраўды ў той жа момант пранізала неверагмна рэзкім, вострым, як шыла, болем, ад якога ў роце, здаецца, закіпала сліна. Ледзь не задыхнуўшыся, адразу ж стала такой чуйнай да ўсіх пахаў і гукаў, быццам стаяла тут, укленчыўшы, нават без скуры і была такой безабароннай у сваёй жахлівай адчыненасці, што нават учула смурод, які сыходзіў з аскаленага роту хворай. Тады, схіліўшыся да ўспучанага жывата, да гэтага напятага бубна, рэзка і ўладна сказала:

— Ізыдзі! — Апантаная дзіка ўскрыкнула і чараговая дзева моцна прыціснула яе плечы да падлогі.

— Ізыдзі!

Апантаную пачало трэсці, але Еўфрасіння не адступала. …Яна ведала, Каго трэба прасіць аб дапамозе, і ўзрадавалася, калі моца малітвы нарэшце пачала ўзносіць яе позірк да падножжа Боскае велічы. Але так ярка біла тое нябеснае святло ў вочы, так моцна сляпіла, што ігуменння не адразу зразумела, дзе знаходзіцца найсвятлейшая Апякунка: не прыпыняючы малітвы, звыкла схіліла ў

просьбе галаву. Рукі з крыжам, што таксама зрабіўся нясцерпна гарачым, паслабелі і расшчапіліся. Хворая яшчэ раз, ці не ў апошне, ускрыкнула. А Еўфрасіння, апрытомнеўшы, развінула плечы і ўрэшце змагла глянуць на спакутаваны, але ўжо спакойны твар хворай. Жывот апантанай апаў, вусны скламіся ў мяккую ўсмешку. Шызых плямаў на шыі не было. На шпітальнай цыноўцы ляжала маладжавая, з тонкімі рысамі смуглявага твару прыгожая жанчына. Еўфрасіння паклікала яе, але вызваленая спала. Тады азвалася ссохлая ў ніціну старая, што ляжала побач, і Еўфрасіння ўжо не мела моцы вызваліць сваю руку з яе ўчэпістых пальцаў. А пранцаватая, падобная на жывы, як абцягнуты жоўтым міткалем, шкілет, прашаптала: “Ал…ма…” Буйныя слёзы перапаўнялі глыбіню яе вачніц. Гэта была маці Алмы. І сама – Алма.

— Адкуль ты?

Еўфрасіння запытала, ужо ўсвядоміўшы, што гэтая ссівелая хворая зусім не галілейка, і адразу ж ўбачыла на яе руках яшчэ адно сведчанне пакутаў — спрэс абсеяныя жоўта-зялёнымі гнайнікамі ўмяціны ад ланцугоў. Перад Еўфрасінняй была аслабелая ад запушчанай хваробы паланянка. Яшчэ раз глыбока выдыхнула, як прабіваючы захраслы ў горле камяк спачування, перапытала:

— Акуль ты, сястра?

Вочы, поўныя мальбы і, адначасна, невераемнай радасці, наліваліся слязьмі. Вусны ледзь растуліліся: “Я… ад-туль, скуль і ты.” Тады, наблізіўшыся, Еўфрасіння яшчэ ніжэй схіліла галаву і мякка, павольна, але ўпэўнена і без страху налажыла свае рукі на яе развярэджаныя жоўта-крывавыя гнайнікі. Перад пачаткам малітвы, азірнулася. І ў той жа момант галілейскі шпіталь пачаў напаўняцца гукамі — стогнамі і ўсхліпамі. З розных куткоў на Еўфрасінню пазіралі вялікія, цёмныя, пякучыя ад болю і мальбы, вочы. Тады ўбачыла ўвесь шпіталь — усіх гэтых, жыццём і людзьмі адрынутых, дзяцей Божых. Тут жа адчула пад далонямі гарачыя штуршкі ад гнайнікоў паланянкі, яшчэ раз прыплюшчыла вочы. Пачала малітву і моцная гарачая сіла пайшла з яе далоняў у чужыя раны. Захацелася хоць на хвіліну адняць свае рукі ад хворай, каб астудзіць ахопленыя полымем пальцы, але цяпер гэтага рабіць не выпадала. Важкая, як іртуць, стомленасць пачала расцякацца па ўсёй спіне, але яна ўсё малілася і малілася…

Увесь шпіталь у напружаным маўчанні сачыў за кожным рухам незвычайнай госці, якая нават не заўважала, як вакол яе ў шчыльны круг збіраецца даволі стракатая грамадка. І толькі калі ўсе жанчыны, такія хворыя і знясіленыя ад штодзённага чакання смерці, моцна

ўзяўшыся за рукі, стварылі жывое кола адчаю, ад якога сыходзіла хваля жудаснага болю, Еўфрасіння ў нейкае імгненне пачула гэты немы крык аб выратаванні і здзіўлена азірнулася. Замерла ў роздуме, але вось абвяла ўсіх позіркам і кіўнула галавою.

І тады ўсе разам, праз слёзы і сцішаныя стогны, пачалі яшчэ раз: “Ойча наш…”

* * *

…Прачнуўшыся сярэдначы ад застаялай задухі, што ціснула на грудзі, Еўфрасіння з асалодаю ацерла шурпатым ручніком твар, прыгубіла гаркавае казінае малако, з’ела жменьку смокваў і фінікаў. Келля, куды яна вярнулася са шпіталю, была зусім цеснай. Часу амаль не заставалася. Першым, каб упэўніцца, што месца, аплочанае ў караване, сапраўды надзейнае, меўся падняцца і сустрэць бедуінаў Асан. А яна, прыкрыўшыся доўгім, купленым у качэўніка, баваўняным плашчом, нарэшце выцягнула ўсцяж цела рукі і заплюшчыла вочы. Чакала соннага забыцця, але ў твар зноў ударылі важкія салёныя пырскі нядаўняга шторму. Тады зразумела: усё, што адбывалася з ёю за гэты бясконца доўгі час, ужо не адступіцца. Цяпер, пасярод мірнай галілейскай ночы, цяжка было паверыць, што яшчэ ўчора яна зусім не ведала, ці дастанецца да жаданага берагу. Але трэба было абавязкова даплысці і ступіць на цвёрдую дарогу ёй, ужо такой немаладой Хрыстовай служанцы, каб прайсці апошні жыццёвы круг па слядах Госпада. Каб ісці як з заплюшчанымі вачмі, але — відушчаю, ісці і згадваць пра добра вядомае, думаць пра перажытае, вяртаючыся ў такое доўгае сваё жыццё, але — ісці… Думаць аб заўтрашняй сустрэчы і загойваць у сваёй душы раны сустрэчаў колішніх. Заглядваць у вочы хуткай будучыні і азірацца ў такую блізкую яшчэ сваю маладосць. Слых нечакана узнавіў прыглухлае: “ Я адтуль, скуль і ты…” Выпітыя хваробаю бляклыя вочы хворай паланянкі зноў трывожылі. У паўсне пачула, як праз перапоўненую шапатлівымі гукамі галілейскую ноч працадзіўся зусім іншы, не падобны да цыкадаў, моцны гук. Аднак жа хутчэй шум. Глухі і працяглы шум, што нагадваў шугаценне дажджу, які далятаў, здаецца, з самога Полацку. Бо час настаў…

Нешта, відно, перавярнулася ў яе душы на гэтай зямлі. Нешта вельмі важнае здарылася пасля наведвання галілейскага шпіталю (Я адтуль… скуль і ты.”). Нешта скруціла яе сярэдзіну, змушаючы зноў і зноў вяртаць думкі ў мінулае. І калі малюнкі перажытага сапраўды сталі такімі выразнымі і яркімі, такімі балюча-жывымі, якімі бываюць толькі калі надыходзіць завяршэнне, тады сапраўды паверыла, што

Час — настае. Міжволі расплюшчыла павекі: да келлі спяшаліся. Караван, няйначай, прыбыў раней часу і манастыр імгненна абудзіўся. Праз калідор неслася водгулле таропкіх крокаў. Посцілка, якою засланілі ўваход у келлю, нечакана варухнулася. Блізу келлі ўжо стаялі ўсе яе палачане-паломнікі. Гатовыя да самай важнай дарогі, трывожна чакалі.

... Месца, купленае Асанам, было ў сярэдзіне каравана, да таго ж, суседам князя Давыда быў немалады мараніт, які крыху разумеў па сербску і гэта азначала, што ў далёкай дарозе цераз пустыню палачанам будзе з кім перамовіцца хоць бы словам. Шлях, які пачынаўся ў галілейскім манастыры, абяцаў жаданую сустрэчу, і Еўфрасіння, развітваючыся са старэйшай дзевай манастыра, усміхалася. Тая, аднак, нечакана апусціла твар у далоні і заплакала, ад чаго полацкія паломнікі сцішана апусцілі вочы. Але праз хвіліну пачуўся патрабавальна-заклапочаны голас старэйшага пагоншчыка. Асан, правяраючы паклажу, таксама прыспешваў.

РАЗДЗЕЛ 3.

*— І скажуць, светаўпраўца цемры я, але ты не вер. Што кайданы надзяваю на пасольства, якому дадзена абвяшчаць таямніцы Звеставання — не вер. Што чарвяком упаўзаю ў чыстае і неспатыкнёнае, нішчу плод праведны..., што стаю не за веру Дабравесця..., што ёсць я знак пагібелі. Што выйшаў я з упарцістага разбэшчанага роду і шукаю адно свайго, а не таго, што даспадобы Ісусу Хрысту... – Не вер! Што ўзлакнуў я Крыві Ягонае, укусіўшы зямное і нябеснае, што мёртвы я ў грахах, што ашукваю вас сваёй удаванай пакораю і ўрываюся ў тое, чаго не бачыў, неразважліва надзімаючыся плоцкім розумам сваім... Не вер! Што насычаю зямныя цялесы людскія – распусту, нечысць, юр, ліхую хцівасць, любаздзірства ідаласлужэння. Не вер!!! Не вер.*

Пясок пустыні патлусцеў і густа наліп на шырокія полы паломніцкай хламіды. Некалькі пластоў шурпатага, як кара старога дрэва, пяску — і полы зрабіліся такімі цвёрдымі, важкімі, так моцна шорхалі пры хадзе, што гэтых здарожаных паломнікаў з далёкага крывіцкага краю, якія амаль у непрытомнасці і нават без ахоўнага атраду і праваднiка адольвалі бясконцы хвалісты грэбень Іудзейскай пустыні, пачулі. Як некалі пачулі ў пясках Фарана цяжкі пераход іудзеяў з Егіпта ў Ханаанскую зямлю, калі месія вёў свой народ

уздоўж згарчэлага ад солі Мёртвага мора і Ерыхона. Але гэтыя спакутаваныя падарожнікі яшчэ нават не здагадваліся, што ўжо збіліся з дарогі, заблудзілі і, самі таго не жадаючы, таксама блізіліся да берагоў, на якіх напачатку ўсіх часоў стаялі Садом і Гамора. Яркае сонца расцеклася па сшэрхлым ад спёкі небе і цяпер балюча біла проста ў вочы. Зусім блізка ад Еўфрасінні з рабрыстага бархана нечакана ўзвіўся доўгі, бліскучы і надвычай пруткі гад, заслізгаў, торгаючыся па аброжку крутой пясчанай касы, і тут жа знік, нібыта растварыўся ў пясках. Шшу–шах.

Ша–шах. Шах–ша.

... Шурхаценне наліплага на хламіду пяску ўжо стала голасам самой пустыні, і падарожнікаў зноў пачулі. Ігумення, якая звыкла ішла папарадзе, спынілася і прыслухалася. З–пад самых ног яе, абутых у сандалі і ледзь прыкрытых доўгімі поламі хітону, нечакана ўзвіхрылася пяшчаная пазёмка. Калюча ўедлівыя клубкі, засцілаючы вочы і забіваючы дыханне, падняліся цэлай лаваю бялеса-рудаватага пылу, але дарога вяла ў даўкую, як высахлая і размеленая Хамсінам Хрыстовая кроў, бясконцасць. Вецер жаласна заскуголіў. Тады ўсе міжволі прыпыніліся і, нагнуўшыся, Еўфрасіння, папраўіла палатняныя паскі, якімі туга, пад самыя калені, былі абматаны зашорганыя ногі; шчыльней насунула на твар затлушчаную алеем хусціну. Але вось зноў пайшла наперад. За ёй, падняўшы да самых вачэй такія ж ахоўныя анучкі, амаль след у след рушылі іншыя паломнікі — высокі Коста і цемнавокая, падобная да самой Еўфрасінні, ужо таксама немаладая чалядніца Еўпраксія, альбо Ксія, як звалі яе ў Полацку. І мала хто памятаў ужо яе дзявовочае імя – Звеніслава. Следам, не здымаючы ваярскага пояса з мячом, прыспешвала крок Вольга. Дзіўна, але нават сонца пустыні не здолела хоць бы крыху асмужыць па-ранейшаму светлае і пяшчотнае аблічча гэтай маладой, але з сурова зведзенымі бровамі мянескай князёўны. Вочы Вольгі пачыналі слязіцца і яна раз-пораз закрывала іх рукамі, засланяючыся ад рэзкага бляску пяску. Апошнім няспешна ішоў Міхал — стары бельчыцкі ігумен з абложыстай барадою. Захінуў аблічча радняным шматком, схопленым па лобе скураным раменьчыкам. Быў ужо ў простай сялянскай вопратцы, з-пад манаскага вастраверхага стаўбуна на галаве выслізнулі сівыя касмечыкі рэдкіх валасоў. На руцэ Міхала пабліскваў сярэбраны баярскі вобруч. За ўсю доўгую дарогу ад Акры чарнец сказаў толькі некалькі слоў, заняты няпростым клопатам, які пасля смерці слуг ўсклаў на сябе: сачыў разам з Костаю за іх няхітрай гаспадаркай, што размяшчалася на муле і восліку. Вецер даганяў і нагадваў пра сабе

лёгкімі штуршкамі ў спіну. Коста таропка зашаптаў: « І бысць бура веліка, яко жэ не была ніколі, і разносі хоромы і товар, і клеці, і жыта з гумен, і проста рэшчы, яко раць узяла, і потопляша бороне у балоцех... У леце шэсць тысячаў шэцьсот пяцьдзесят другім!”

Шшу–шах. Ша–шша! Здаецца, і не было тут арабійскага гада, не прапаўзаў і не страшыў, падымаючы сваю доўгую пляскатую галаву над расплаўленым пяском.

Яны ішлі ў чырвонай і густой сцяне пылу так доўга, што Еўфрасіння балюча закашлялася, нават падняла рукі, сутаргава зрываючы з горла вераўчаныя жгуты спёкі. Нарэшце выдыхнула крывавую кроплю ў ліпкую ладонь. Не пераставала шаптаць, ледзь растуляючы вусны, малітву.

— Напэўна, хутка Аронта, сястра. Вільгаці шмат. Пясок цяжкі.

Ксія, задыхаўшыся, параўнялася і падыйшла бліжэй да Косты, нахіліла галаву.

Даўгавалосы кніжнік з даверліва-дзіцячым поглядам шырока расплюшчаных шэрых вачэй па-ранейшаму не адставаў ад Вольгі, але тая, здавалася, была безуважная да ўсяго.

— Ты не стаміўся, Коста? — Змеціўшы запеклую бурую кроў на ягоных нагах, Еўфрасіння звярнулася да Ксіі:

— Яшчэ хіба не застаўся бальсам галаадскі? — Тая адмоўна хітнула галавою.

— Няўжо ні кроплі? – Ксія зноў адно ўздыхнула, паправіўшы на твары ахоўную хусціну. Трывожна азірнулася, закашлялася і Вольга.

У які момант яны збіліся з дарогі? Напэўна, адразу ж, як адышлі ад каравана, што рэзка змяніў свой маршрут і скіраваўся ў Суэзы пасля вымушанага перапынку. Хто прынёс у караван чорную воспу – было невядома. Але за тыдзень памерла адразу трынаццаць чалавек, сярод якіх – двое ахоўнікаў, пасланых з палачанамі дзеваю манастыра. Князя Давыда разам з Даляю і іншымі хворымі спешна адправілі ў лекавы лагер ажно пад Акру. Але ігуменне, не зважаючы на перасцярогі і адгаворы, рушыла ў дарогу. Старэйшы пагоншчык на развітанне паказаў, куды трэба ісці, каб патрапіць у Ерузалім, да якога было падаць рукою, гарачкова раіў не збочваць. Але яны так спяшаліся, што нават не змецілі, як страцілі накірунак. Мул і вослік, падараваныя суседам маранітам, ужо хісталіся ад стомы, хаця паклажы на іх не былі цяжкімі: дзве невялікія торбы з курдзючным салам, сушанай рыбаю і бабамі, скураныя пляшкі з алеем, бурдзюкі з вадой, і яшчэ тое, што ацалела ад Полацка: вопратка, апошнія пары скураных лычкаў, драўляны і алавяны посуд, сагайдак з лукам і стрэламі. Праўда, на муле была яшчэ скрынка з падарункамі —

набытае ў Візантыйскай Сафіі залатое кадзіла, два полацкія, аздобленыя чырвоным золатам і серабром, крыжы з моранага дубу, ладны сувой ільнянога палатна для Ерузалімскіх манастыроў і самае лепшае, самой Еўфрасінняю перапісанае Евангелле ў скураных вокладках. Уласнымі рукамі вырабляла яна і тоўсты пераплёт. Апусціўшы галовы, мул і вослік з наладаванымі паклажамі звыкла цягнуліся за ўнураным у сябе Міхалам. Коста усё яшчэ трымаўся бліжэй да Вольгі і, змеціўшы, як ігумення скасіла трывожны позірк на яго зашорганыя ногі, паспешліва супакоіў:

— Вытрываю. Гэта не раны, уладычыца... А вось у цябе... Гаіць трэба.

— Ідзем, Коста. Хіба маем мы час?

* * *

Ша–шша... Прастора па-ранейшаму здавалася пагрозліва бясконцай, але Еўфрасіння ўжо адчула, што ўся агромністая Іудзейская пустыня быццам пахілілася. Тады падала знак, і падбадзёраныя паломнікі, адчуўшы, што пачалі спускацца, заспяшаліся. Міжволі прыспешыла хаду і сама, аднак неспадзеўкі зачапілася за калючы выдзерыкуст і, не ўтрымаўшыся, зарылася каленьмі ў пясок. Расплаўленае сонца пякельнымі слупамі ўдарыла ёй у галаву, і так нясцерпна балюча зудзела паміж лапаткамі. Пустыня нечакана захрыпела, але вось пачуўся тонкі, як ад палёту тысячаў нябачных стрэлаў, свіст, і гэты балючы енк гарача-вільготных барханаў адразу ж падхапіў вецер. Змушаная затуліць вушы, Еўфрасіння нават прыплюшчыла вочы. Здаецца, на кароткую хвілю задрамала. Усё яшчэ ўкленчаная, слухала спрадвечную крыўду парушаных пяскоў. Але вось паднялася на ногі: свіст адразу ж прыпыніўся, паўсюль панавала велічная цішыня. Падзьмуў свяжэйшы ветрык, і яго цёплы язык мякка лізнуў з'едзеныя спёкаю трэшчыны на лытках. Уздыхнула на поўныя грудзі, дрогнула: па нагах нечакана слізганула нешта халоднае і гідкае. Краем вока змеціла бліскучы кончык змяінага хваста. Змогшы агіду і страх, здзівілася, што кубло арабійскага гада усё яшчэ не адступае. Аднак стракаты пасак ужо згубіўся ў пясках.Тады, пачуўшы ва ўсім целе вялікую слабасць, прылегла набок, закашлялася. Выдыхнула на хламіду скрываўлены пыл.

І тут, падняўшы вочы, уздрыгнула — уперлася позіркам у самую глыбіню нёба. Нават сцішыла дыханне. Укленчана прыўзнялася. Гэта была цёмная глыбіня велізарнай пашчы арагавелай, скручанай колцамі пачвары, што, аказваецца, увесь гэты час не адступала, сачыла за кожным іх крокам і цяпер паднялася, упершыся хвастом у

зямлю, грозна застыла перад Еўфрасінняй, як жывая тоўстая спружына, гатовая ў любы момант выпрастацца. Сонца пустыні аблівала жоўтым алеем бліскучую прадаўгаватую галаву гада, па баках вялізнай ружавата-чорнай пашчы бялелі вострыя іклы і паміж імі выслізгваў, біў наперад бліскучы язык. Язык пустыні цягнуўся да самых вуснаў манашкі, і яна рэзка паднесла руку, каб захінуцца, але смяротныя кольцы бліскавічна выпрасталіся і ўдарылі: змій-забойца ўпіўся ў падушачку ладоні. І адразу ж — адпаў, пачаў уцякаць, рассякаючы пяскі. А яна ўскочыла ад жаху і болю на ногі, захісталася. Коста, зірнуўшы на Ксію, паклікаў:

— Сястра! — Але тая працягвала ісці, апусціўшы галаву ў свае глыбокія, усё яшчэ, пэўна, полацкія, думкі.

І раптам Вольга, імгненна падляцеўшы да Еўфрасінні, прыпала вуснамі да глыбокай, быццам скуру разадрала страла, раны. Высмактаўшы, паспрабавала выплюнуць атруту. Жоўтыя смяротныя кроплі выцекшы ёй на бараду, адразу ж высахлі.

— Ксія! — Еўфрасіння паклікала гучней, і сястра нарэшце азірнулася. Кінулася да іх з Вольгаю. Аблепленыя згуслым пяском важкія полы яе хламіды шырока разляталіся ў бакі. Вярталася замашыстымі шырокімі крокамі, на бягу шоргаючы рукою ў радняной торбе. У нейкае імгненне прыпынілася. Акругліла ад радасці вочы, падняла руку з чорнай глінянай банькай:

— Знайшоўся! Бальсам...

— Вользе на вусны!

Але вось ужо, імкліва намасціўшы бальсамам Вользіны вусны, Ксія тут жа перавязала і Еўфрасінню, перацягнуўшы руку грубым, яшчэ полацкім ручніком. Перад вачмі ў тае кружылі яркія сонечныя абады, у скроні бухалі гарачыя молаты. Рука, здаецца анямела да самага пляча, ад чаго ігумення міжволі застагнала. Коста шмаргануў носам.

— Спыніцца трэба, Ксія, я ўладычыцу панясу...

– Не трэба, Коста, міласэрны. Калі ў першую хвілю выжыла, значыць, Боская воля на тое. Спяшаць трэба. Ідзем!

— Але ж, маці-ігумення.

Коста, пабялеўшы, разгублена азіраўся. Быццам упершыню ўбачыў гэтыя безнадзейна бясконцыя барханы. Выдыхнуў, хаця і нязгодна:

— Хадземце...

Смяротная пагроза ў пясках зноў неспадзявана бліснула. Зазмяілася, здаецца, зусім блізка, і Еўфрасіння зразумела: пустыня ўсё яшчэ не адступіла, але высочвала цяпер не яе ці Ксію, а самага

малодшага з паломнікаў – не па летах начытанага, вусцішнага Косту. Усю прастору завалакло лятучым попелам пясчанай буры, у якой нечакана ўзнікла фігура вершніка, што, махнуўшы свайму ахоўнаму атраду рукою, чамусьці павярнуў назад. Імгненна знік за барханамі, пацягнуўшы за сабою пяшчаныя клубкі. Бура, і дапраўды, аціхла. Але хіба можна было верыць у такой каламуці вачам?

Як пачуўшы яе думкі, між пяскоў зноў бліснуў, хоць і не так блізка, арабійскі гад – нязвыкла спакойна ляжаў на бархане. Над пяском з уедліва тонкім, скразным свістам пачало падымацца трымітліва-плыткае марыва; Еўфрасіння нават затуліла вочы рукамі, гледзячы толькі праз шчыліну між пальцамі. Прыпынілася. Бліскучы змяіны пасак, што ўсё яшчэ нерухома ляжаў на пяску, раптам пачаў большаць, і вось ужо настолькі разбух, так выяўна акругліўся, што ў мірг вока стаў падобным на чалавечае цела. Прымара разварушанай гарачым ветрам пустыні адразу ж стала выяўнай: гэта была жанчына, якая нават павярнулася набок, бліснуўшы пад сонцам чорнымі акруглымі сцёгнамі. У гарачым сяйве рэзка змаляваліся вытыркнутыя ўверх вялікія грудзі з вострымі саскамі і выразны профіль жаночага твару. Але ні Ксія з Вольгаю, ні Міхал, здаецца, нічога не бачылі. Толькі Коста спыніўся, як укопаны. Уся пустыня была цяпер як залатое ложа для гэтага пажадліва раскінутага цела, з рэзкім шархаценнем рухаючы наўкруга жаночае плоці свае зыбучыя глыбы. Коста разгублена азіраўся, з мальбою ў вачах звяртаючыся найперш да Міхала, але сівабароды манах, унураны толькі ў свае думкі, паранейшаму нічога не заўважаў.

— І ачышчэнне Духам Святым, Коста!

Еўфрасіння ласкава зірнула на зніякавелага кнігара, прыпала вуснамі да свайго дарожнага крыжыка. Вочы заслаў іншы малюнак. Богша ў доўгай палатнянай сарочцы, з толькі што закончаным, дзівоснага хараства, крыжам у руках стаіць пасярод іхняга падворка перад свежа пабеленай каменнай царквою Святога Спаса. Абліты яркім полымем надвячорку, усміхаецца небу.

Вецер нечакана так з’едліва прысвіснуў, што, згубіўшы полацкі малюнак, ігумення спалохана азірнулася. Пустыня пачала адлівацъ блішчастай чырванню. Напружыўшы зрок, змеціла, як цемнаскурая жанчына на пясчаным хрыбце, уся пакрытая крывавымі пісягамі ад бізуна, прыўзнялася. На пяску, недалёка ад яе, ляжаў шыты золатам скрываўлены покрыў. Няшчадна збітая і кінутая на пагібель сярод пяскоў пустыні, незнаёмая падняла руку, паклікала на дапамогу. Але тут жа, непрытомная, упала. І ўжо не было часу разважаць, хто яна, дзеля чаго і кім тут пакінута.

Да барханаў адразу ж заспяшаўся Коста. Аднак галілейка ўжо ачуцілася і паднялася, таропка захінаючыся ў скрываўлены міткалевы покрыў.

* * *

... Адпіўшы па глытку вады са скуранай пляшкі, паломнікі нарэшце супакоіліся, распачаўшы звыклы рух. Пустыня паспела змяніцца: паўсюль была рассыпана такая безліч дробных камянёў, што ўсе раз-пораз збівалі аб іх без таго натруджаныя ногі. Дзень прыкметна ачахваў: спыніліся на прыпынак і Міхал падышоў да Косты, пільна паўзіраўся ў галілейку. Даведаўшыся, што імя незнаёмай Шахіра, вярнуўся да мула, паправіў паклажу. Вольга, адвязаўшы са свайго пояса скураную бутэльку, яшчэ раз працягнула яе галілейцы, і тая ад радасці шырока расплюшчыла вялізныя, бы ўтопленыя ў прорвах, цёмныя вочы. Ксія, асачыўшы Еўфрасінін позірк у бок выяўна акрэсленых у далечыні пагоркаў, рашуча падалася туды першаю, павёўшы за сабой астатніх. Пясок там і сапраўды нашмат патанеў. Усё часцей сустракаліся адзінокія калючыя кусты інават зялёныя языкі травы. Яшчэ ніхто з палачан дакладна не ведаў, куды яны ўрэшце трапілі, але Еўфрасінню не пакідала пачуццё, што выйсце недзе зусім блізка. Ледзь бачная дарога і сапраўды хутка аб'явілася. Адразу ж, як толькі яны падыйшлі да грады бліскучых скалаў каля нешматлікай купкі лістоўніц: блізка знайшлася і глыбокая, абкладзеная абчасанымі каменымі квадратамі, студня. Спусціўся ў яе Коста: пачаў напаўняць і падаваць наверх скуранае вядро з жаўтаватай вадою. Паілі найперш мула з вослікам, якія адшукалі тут сабе і лапікі чэзлай травы. Гэта была даўно пакінутая людзьмі вёска з яшчэ моцнымі сценамі і старымі дрэвамі. Спыніліся каля адной з пашчэрбленых пяшчаным ветрам камянюкі, укленчылі для малітвы. Назапашаная за ўсе гэтыя дні стома стала такой важкай, што Еўфрасіння адчула нясцерпную ламату ва ўсім целе. Зусім блізка пад лістоўніцай на тонкай пасцілцы ляжала Шахіра, і Ксія лёгкімі рухамі пачала масціць яе зраненую спіну яшчэ полацкім, настоеным на дзівасіле, алеем. Пісягі між лапаткамі галілейкі сталі амаль чорнымі, але ніхто не пачуў ад яе ані стогну. Коста, падняўшыся са студні, маўчаў. Раз-пораз паглядваў на Міхала: стары манах завіхаўся каля мула і восліка, абціраючы палатнянай анучаю бакі жывёлін.

Адчуваўся блізкі вечар і паломнікі, урэшце пакінуўшы мёртвыя сцены, пацягнуліся ўздоўж прахалодных скал. Галілейка, прыкрыўшыся сваім тонкім доўгім хітонам, ужо была абута ў мяккія

лазовыя хадачкі. З шыі звісаў залаты ланцужок са змейкай. Запясце левай рукі было схоплена залатым бранзалетам, упрыгожаным каштоўнымі камянямі. Таксама ў выглядзе змейкі. Той, хто падняў біч на гэтую красуню і потым пакінуў яе ў пясках пустыні, быў, пэўна, нябедны.

І ўсё ж, што не дазволіла яму зняць з прыніжанай і пакінутай на пагібель жанчыны такія каштоўныя рэчы?

## РАЗДЗЕЛ 4.

Пасля лекаў Ксіі і кароткага адпачынку Шахіра ішла ўпэўнена, употай кідаючы зацікаўленыя позіркі на сваіх выратавальнікаў. Ці не ад празмернай стомленасці, Еўфрасіння яшчэ ні разу не зазірнула ў яе вочы, адчуўшы ў галілейцы толькі чарнату пакуты, што сыходзіла, пэўна, ад збітай і збалелай плоці. У ружовым небе раскрыліўся каршук, шырокімі кругамі спускаў з нябёсаў чаканую прахалоду: пачало дапраўды свяжэць. Тады ўсе міжволі заспяшаліся, без цяжкасці знайшоўшы ў скалах пячору нанач — даволі прасторную, з мяккім пяском пад самымі сценамі. Глухавата-цёплы прытулак, каля якога так блізка праходзіў шлях караванаў, пэўна, ужо неаднойчы служыў падарожнікам: па цэнтры невялікага, выпаленага да чорнага чэраня, круга, ляжаў сухі трыснёг. Каля яго — горка пасечанага ветрам вярблюджага памёту і амаль цэлая, высахлая да белай косткі, выдраная з карэннем, смакоўніца. Высакаватая столя пячоры паблісквала белымі жылкамі. Было прасторна і гулка.

Разаслаўшы паверх намеценага каля сцен пяску дарожныя посцілкі, усе спешна ўладкаваліся нанач. Коста, патрушчыўшы галіны смакоўніцы, заклапочана схіліўся над імі з крэсівам і агонь тут жа раскінуў па сценах вясёлыя сполахі. Дым адшукаў у каменнай столі шчыліну, пячора напаўнялася зыбкім святлом. Міхал застаўся блізу выхаду, прылёгшы каля сваіх жывёлін. Ксія, асцярожна наліўшы ў драўляную міску вады, высыпала туды жменю бобу. Вольга, адклаўшы ўбок пояс з мячом, звыкла маўчала. Маўчала і Еўфрасіння. Слухала сябе, мякчыла языком і цёплаю слінаю сухую саранчу, што была тут калісь адзінаю ежаю Яна-Хрысціцеля. Варта было толькі заплюшчыць павекі, як яна зноў ішла праз рабрыстыя барханы, адчуваючы, як зудзяць пасечаныя гарачым пяском ногі. Паспрабавала выпрастаць іх на дзяружцы. Ціха застагнала ад пякучага болю ў руцэ. Падзужаная ўстрывожаным позіркам Ксіі, выпіла задухмянены сухою ажынай кіпень і адчула набліжэнне сну...

Пасля малітвы і кароткай вячэры ўсе адразу ж павесялелі, але змагацца са стомленасцю ўжо не было сіл. Коста запаліў ад вогнішча адну з галін смакоўніцы і пайшоў углыб пячоры. Аднак хутка вярнуўся. Сказаў, што ў скалу ўрэзаўся вузкі патаемны праход; на ўсялякі выпадак нават лёг каля ўваходу ў яго, але адразу ж заснуў. Звонку, напалохаўшы палачан, даляцела глухое вухканне савы, зазвінелі цыкады, якіх паломнікі ўжо чулі праз дрымоту…

Не спала толькі адна Еўфрасіння. Ляжала зусім блізка ад выхада. Чула хрыплаватае дыханне мула. Вялікія, жоўтыя, як восы, зоркі, нават не адбіваючы святла, паціху сцягваліся з вышыні ў іх пячору. Свежая ліпучасць мякка краналася шчок. Нечакана ў сне гучна ўскрыкнула Ксія. Але ніхто нават не павярнуў да яе галавы. Толькі Міхал уздыхнуў. Пэўна, таксама не спаў. А Еўфрасіння ўжо кленчыла, з цяжкасцю растуліўшы сасмяглыя вусны: — Ойча наш… — Адчуўшы каленьмі пласт зляжалага пяску пад шурпатай посцілкай, з намаганнем выпрастала плечы. Пачала маліцца і малілася так доўга, што пачула подступы забыцця: вострае жоўтае святло ад вогнішча раптам расцяло перад ёю сцяну пячоры і так лёгка цяпер пасоўвала цвердзь, што, узрушаная нечаканым відзежам, яна ўбачыла ў цёмна-жоўтым святле Шлях. Гэта была засыпаная шурпата-вострымі камянямі дарога па Кальварыі, якую з усіх бакоў абступіла цэлая гурма неспакойнага народу. Былі сярод яго і вершнікі ў святочных плашчах, і легіянеры з коп'ямі. Бліскалі шчытамі на грудзях. Пад самымі конскімі храпамі згрудзіліся натоўпы жабракоў. У цяньку ад навесаў важна перамаўляліся гараджане ў новых халатах і халдзеі. Так многа было паўсюль празнага мітуслівага люду, што многія пачалі нават штурхацца і з пажадлівай цікаўнасцю сачылі за Тым, хто ішоў па Шляху, не падымаючы галавы ў церневым вянку. Убачыла вельмі выразна Яго і сама. Такі высокі і схуднелы, нёс, угнуўшы плечы, агромністы Крыж. Раптам хітнуўся пад яго цяжарам; на нейкую хвіліну падняў галаву і нечакана зірнуў на Еўфрасінню. Пазіраў проста ў вочы. Але колькі часу доўжыўся той, невымернае глыбіні і пакуты, позірк? І што хацеў сказаць Ты мне, Госпадзі? Не здужала нават падняць рук, каб ацерці з твару слёзы. Побач стагнала галілейка: у сэрца ігуменніадразу ж уліўся і пачаў разрастацца боль.

…Запаўняючыся бляклым святлом вогнішча, ўся пячора нечакана быццам расхінулася і, ахопленая сяйвам гэтага новага відзежу, Еўфрасіння ўрэшце ступіла ў прасторную залу. Уздоўж высечаных у скале, добра адшліфаваных сцен гарэлі паходні. Пасярэдзіне пачварна ўзвышалася вялізнае драўлянае кола. Але толькі змеціўшы, што са столі звісае некалькі вяровак з крукамі, яна з жахам

здагадалася, што гэта не зала, а катавальня. І адразу ж убачыла двух катаў. У глухім куце ляжалі і замардаваныя ахвяры – дзве ледзь прыкрытыя скрываўленымі лахманамі цемнавалосыя жанчыны. Пасярэдзіне памяшкання стаяла трэцяя, якую толькі што, прачыніўшы важкія дзверы, упіхнулі сюды. Светлавокая і светлакосая, у схопленым на сцёгнах залатым паскам белым хітоне, зусім маладзенькая хрысціянка была босая і цяпер азіралася шырока расплюшчанымі вачыма. Адзін з катаў, ухмыляючыся, наблізіўся да яе, але з глыбокага, цёмнага кутка катавальні раптам выйшаў высокі чалавек з чорнымі, ажно смольнымі, кучарамі, што рассыпаліся па прыкрытых чырвоным плашчом суддзі плячах. Дзяўчына адразу ж стала такой белай, што пажадлівы кат, схіліўшы галаву перад суддзёю, рэзка адступіў, незнарок крануўшы спушчаныя зверху крукі: вострыя іклы смуроднай катавальні загойдаліся на бліскучых, сплеценых з валовіных жылаў, вяроўках.

— Адрачыся!

Высокі, у чырвоным плашчы, працягнуў руку да патрыцыянкі, і тая спасцярожліва адступіла. Аднак суддзя зноў наблізіўся, і ў той жа момант Еўфрасіння адчула, што ён, працягнуўшы руку, балюча торкае доўгімі пальцамі ў грудзі. Але ўжо ў яе, Еўфрасінніны, грудзі. Ліпкая нямогласць завалакла ўсё цела: бачыла маладзенькую пакутніцу як бы з адлегласці, але пякуча адчувала ўсё, што адбывалася. Той, у чырвоным, зноў наблізіўся:

— Адрачыся!

Гарачы камень захраснуў у горле, і Еўфрасіння роспачна растуліла вусны. На языку засаланела ад крыві. У сярэдзіне галавы пякуча свярдзёліла няўмольнае: “ Адрачыся! Адрачыся... Адрачы...”

— І дапраўды кажуць: “ Той, хто не мог зрабіць сабе нават сандалі, суддзёю стаў!”

Грубым рыўком сарваўшы з тонкай шыі патрыцыянкі алавяны крыжык, суддзя гэтак груба сцягнуў у вялізную жменю яе залатыя валасы, што адкінулася галавою назад. Скрываўленая накідка паляцела на падлогу.

— І дапраўды смех забыты, і не аддаляецца смерць. “... І не аддаляецца смерць...”

Еўфрасіння ўжо амаль бяцямна паўтарала ўслед за патрыцыянкаю кожнае слова: худзенькае цела тае было барвовым ад udараў. Пышная светлая хваля валасоў падала на грудзі, але суддзя, хітнуўшы чырвоным плашчом, ужо сурова зірнуў на катаў і важка пратупаў праз усю катавальню. Спыніўшыся каля дзвярэй, грозна паўтарыў:

— Адрачыся...

— Няма болей чалавека дня. Сэрца яго жорсткае.

“ Сэрца яго жорсткае...” Збітая да рабаватай сінявы дзяўчына нават не выдавала на жывую, нібыта шчыльна абцягнутая ці то палоскамі цёмнага пергаміну, ці то худымі рыбацкімі сецямі. Адно вочы ліхаманкава блішчалі. “... Няма болей чалавека дня...”

Але ж як баляць, як гараць распухлыя ад удараў вусны! “ Адрачы...”

— Хіба не ведаеш ты, няшчасны? Той, хто павесіў зямлю на вадзе, быў павешаны на драўніне. Той, хто распасцёр нябёсы, быў на крыжы распасцёрты. Але ж Ён выратаваў цябе! — Голас юніцы быў наўздзіў моцны і гулка разлягаўся па ўсёй катавальні.

Суддзя, які ўжо цягнуўся рукою да дзвярэй, азірнуўся:

— А цябе Ён — выратуе?

— Ты ведаеш наша Слова.

— Хіба ў вас яно ёсць?!

— Тое, што прамаўляецца на зямлі, – прах і тленне, бо належыць толькі зямному.

Маладзенькая патрыцыянка выдавала ўжо старэйшаю нават за гэтага важнага суддзю.

— Але адкуль табе ведаць, недамысльны, што людзі пачынаюць разумець Словы толькі тады, калі пакліканым будзе дазволена наблізіцца да горняга!

Ледзь падняўшы з зямлі заплямлены крывёю покрыў, ахінула ім плечы.

— Што ты ведаеш пра Ягонае Слова, няшчасны? — Прыплюшчыла вочы: — Жывое навекі яно! Хаця з некім і было забіта! А з некім было на чужыне!, а з некім ратавалася ўцёкамі, а яшчэ з некім — плыло на караблі.

Суддзя ажно зарагатаў, але юніца не моўкла:

— І цярпела спакусы… А з некім было прададзена!

Па шчоках яе нечакана пацеклі слёзы:

— І цярпела голад і смагу! І было аддадзена на здзекі і катаванні!

— Тады гэтае слова — Смерць!

Суддзя ўрэшце падаў апошні знак катам і грукнуў дзвярыма.

Адна з пакутніц, што ляжала ў цёмным куце катавальні, глуха застагнала і маладзенькая хрысціянка, абхапіўшы плечы рукамі, міжволі азірнулася. Таропка зашаптала малітву, ужо не зважаючы на набіжэнне ка́таў ў доўгіх фартухах.

Падступіўшыся, адзін з іх акінуў верніцу грэблівым позіркам і, не чакаючы завяршэння малітвы, моцным ударам кулака збіў яе з ног. Другі, умела падцягнуўшы тоўстыя вяроўкі бліжэй і

прынаравіўшыся, кінуў нерухомае дзявочае цела на вострыя жалезныя крукі. Забегаў навокал, закрычаў да памочніка, патрабуючы ўдзелу, чамусьці таропка памацаў грозныя крукі. І вось ужо праткнуў імі дзявочыя грудкі.

... так глыбока ўпіліся, што юніца здаўлена ўскрыкнула: на вопратку, што хвалiста ляжала на падлозе, закапала кроў, запаўняючы барвовым туманам усё смуроднае памяшканне.

... Пастаўшы побач, круцяць абодва каты вялізнае кола, і жалезныя крукі ўсё глыбей упіваюццца ў маленькія грудзі верніцы. Нарэшце праткнулі іх наскрозь.

...Полымя шугае перад вачыма. Закіпае алей, рэдзенька выцякае з вялізнага чана зверху; аплывае растопленым воскам па плячах і спіне, нібы здзірае з Еўфрасінні скуру.

– Ці пазнала ты мяне, ігумення?

Здзіўлена паднесла позірк і праз помарак катавальні і густога болю нечакана разгледзела абрыс знаёмага аблічча. Ці не Сава?

– Хто ты?

Маўчыць той прымараю, засмяяўшыся.

— Адкуль ты?

– Пазнала, думаеш?Ах, ігумення наймудрэйшая. І пазнала, Еўфрасіння. І памылілася. Не я гэта, а грэх твой колішні! Думаеш — пекла смаляное далёка і глыбака? Там недзе?

Тоны голасу ставалі ўсё болей здзеклівымі.

— Спадзяешся мінуць яго?

Мажны кат у брудным скураным фартуху, з цёмнымі злепленымі валасамі па ўсіх плячах паказаў некуды ўбок рукою:

— А яна, апраметная, з намі ўсімі на зямлі, ігумення! У кожнага свая, і на ўсіх аднолькавая. Кат з такім знаёмым абліччам зноў лінуў ёй на грудзі расплаўленага воску, ад чаго пераняло дыханне.

— Колішняе я тваё, ігумення! Думаеш, адраклася ад пражытага? Адкаснулася — і нічога не было?

...Полымя зноў... і алей, рэдзенька, закіпае, цячэ... па грудзях...

– Ці пазнала ты мяне?

Боль быў такім нясцерпным, што Еўфрасіння, здавалася, не вытрывае. Аднак з другога кутка катавальні ўжо блізіўся яшчэ адзін. Таксама тоўсты, у блішчастым ад крывавых плямін доўгім халаце.

– І мяне не пазнала?! Ой-а, ігумення...

Засунуў руку у зашмальцаваную кішэню, выцягваючы адтуль цэлую жменю срэбных бранзалетаў і яркіх караляў:

— А я — цяперашняе тваё, манашка. Прамяняла Госпада на скарб гэты?

Але ж як магла яна хоць на хвілю прыбачыць у гэтым страшным каце Саву?

– Не прамяняла, кат! Ізыдзі!

– Кажаш, не прамяняла... — Здзекліва, гучна зарагатаў:

— ... а скарбу біярмійскаму ўзрадавалася.

Гарачы вецер нечакана ўдарыў па шчоках і апаліў бровы.

— Хочаш раю цяпер выпрасіць? А рай ты сабе на зямлі наладзіла. У славе ігуменскай лепей, чым ва ўладзе княскай, купалася.

Таропка адступіла.

— Не грашыла, кажаш, уцехамі плоцкімі?

Неслухмяныя вусны ўжо нават не растуляліся.

— А чаму тады цнотай кічылася? Не спажывала мёду салодкага, кажаш, ігуменння? А згадай, колькі думак салодкіх і грэшных песціла ў сабе! Глянь, якая гняўлівая была, як абражала і бэсціла тых, каго толькі Гасподзь пакараць меўся. Зірні, як нястыманасцю сваёй любоў людскую труціла. Каменне ў рукі працягнутыя клала.

Затуліла ладонямі полымнае аблічча, але прывід ужо цягнуў да яе чорныя прыгаршчы, з якіх у нябачную прорву пачалі слізгаць, звіваючыся, тлустыя доўгія пачвары.

– Вось яны, думкі вашы патаемныя, вось запаветнае ваша, служкі храмавы! Похацццю абраслі, пыхай, гардыняй заброснелі, прымарамі юрлівымі аслізлі. Казалі – рукі маеце чыстыя, сэрцы адкрытыя, думкі любасныя. Свяцейшыя, як у Госпада, можа? Спрабавала адхітнуцца, і прывід, разам з ёю, таксама важка хітнуўся:

—Болькамі сваімі захлыналіся.

Зноў спалохана памкнулася хоць на хвілю перапыніць яго...

— ... Енчылі ад укусу камарынага!

... але вусны не адчыняліся.

— А пра Ягоны боль – забылі?!

Плечы, сціснутыя гарачым покрывам, задрыжалі.

— Песцілі, верніцы, свае пакуты, а пра Ягоныя ці згадвалі? Не Госпаду служылі, а сіле іншай! То жыватам уласным, то князям ды каралям зямным. Іх валадарства згубнае літасцю Боскай прыкрывалі! Іх волю вышэй Божай ставілі. Не аднеквайся, ігуменння! Не апраўдвайся. Кажаш, не ўгіналася?.., не кланялася, не труціла сэрца любошчамі і багаццем зямным? Не ставіла, кажаш, срэбра вышэй чалавека?

Падняўшы рукі, чорны, як абсыпаны сажаю, кат....

— То, можа, і праўда, Госпада цяпер цнатлівей?

у зашмальцаваным халаце... раптам шпурнуў у яе жменю тлустай, звітай у клубкі нечысці:

— Глядзі! Глядзі! Расплюшчы вочы свае. Адчыні сэрца.

Ужо наблізіўся амаль ушчыльную, ледзь не кранаючыся яе сваім вялізным, пад зашчэпленым на ўсе гузікі брудным халатам, жыватом

— Вось я – цяперашняе тваё. Усё, чым акружыла сябе.

Дыхнуў у твар такім гарачым смуродам, што адразу ж выпрастала плечы.

– Ізыдзі!

Выпрастаўшы плечы, падняла на пачвару грозны позірк:

— Пазнала цябе. Ізыдзі! Ізыдзі, іспра! Ізыдзі, д'ябал. Пазнала цябе! Ізыдзі...

* * *

*— І сэрца ўсцешана, бо цябе зноў чую.*

*– Ідзем са мною.*

*— Хіба не ідзем мы?...*

*– А на гэты раз адкладзіце ўсё: гнеў, лютасць, ліхаслоўе, кляцьбу з вуснаў вашых. Не хлусьце адно аднаму, бо вы распранулі з сябе старога чалавека з дзеямі ягонымі.*

*– Ці да ўсіх прамаўляеш, ці да мяне толькі?*

*— Для адной – як для ўсіх. Для ўсіх – як для аднае.*

*— Злітуйся.*

*— ... бо апрануўся кожны ўжо ў новага чалавека, які абнаўляецца ў пазнанні паводле вобраза Стваральніка.*

*– Хіба ж не абнавіліся?*

*— Ідзем, Еўфрасіння.*

... Яна апрытомнела ад уласнага стогну. Жоўты помарак катавальні бляклымі ценямі плыў на скрываўленае цела замардаванай патрыцыянкі, клубкамі ахутваў вялікае кола і звіслыя са столі вяроўкі з крукамі. І каля іх — двух мажных катаў. Усё хутка зацягвалася атрутна-жоўтым дымам. І раптам у вочы ўдарыла такое сліпучае праменне ад запаленай паходні, што конча прачнулася. І хоць плечы і ногі былі быццам зашорганыя полымем, з радасцю пазнавала блішчастыя сцены пячоры, дзе ніхто, акрамя ачахлага вогнішча, не бачыў яе пакутаў. Задоўжаная ноч звінела цыкадамі, на якія павярнула галаву толькі Ксія. І тут жа сонна адвярнулася, нават не паказала выгляду, што ўжо даўно не спіць. Ледзь стрымлівала ўздыхі, баючыся напалохаць ігуменню. Сціскала, каб суняць трымценне ўнутры, вусны. Чакала, калі старэйшая манашка заплюшчыць вочы і ўрэшце засне.

... Ах, ігумення! Так і не ведае дасюль, што ў дзявоцтве яшчэ, калі бацька— вялікі князь Барыс паслаў яе, юніцу Звеніславу, разам з вернымі людзьмі ажно пад самае мора ў замак Эльблонг да лекара Тазіта, лекаваў той яе, такую неслухмяную і неразумную, штодня. Абкладваў цягучым зялёна-чорным глеем, ад якога патыхала незнаёмымі, не падобнымі да рачных, водарасцямі. Пачала пасля таго смуроднага глею, і праўда, спакайнець: ужо не крычала па начах, не вырывалася з рук нянькі, не бегала везвач па наўколлі. Здаравела. Потым завялі ў капліцу з вузкімі каляровымі вакенцамі, якраз у левым крыле камяніцы. Прыйшоў, услед за Тазітам, чалавек у золатам расшытай хламідзе з крапідлам у руцэ. Сказаў, што цяпер, пасля хрышчэння, мае яна яшчэ адно імя. Сапраўднае. Тарэза. Толькі ў Полацку пра тое зусім не варта распавядаць.

Вось тады, калі ўжо вярнулася Звеніслава паздаравелаю з таго Эльблонга дахаты і коратка перамовілася з бацькам, які тут жа адправіў карэту ў Бельчыцы, вось тады і сустрэла яна па дарозе ў манастыр князя Барыслава.

Але нават князь, якога кахала Звеніслава ў тыя маладыя леты бясцямна, так і не дазнаўся пра яе Тарэзу. Зрэшты, і сама ўжо амаль забыла пра тую паездку ў Эльблонг. Не прызнавалася самой сабе. Выкідвала Тэрэзу нават з памяці. Асабліва пасля таго, як прыняла пострыг і стала чарніцай Еўпраксіяй. Не сказала ні слова. Ні святару, ні самой Еўфрасінні. Быццам назаўжды пахавала ў душы далёкую і чужую Тарэзу.

Толькі ад лёсу што схаваеш? Ад Госпада што ўтоіш? У першае ж імгненне, як толькі кранулася нага гэтай галілейскай дарогі, Тарэза аб'явілася ў Звеніславе сама:

— І не зможаш ты болей цурацца мяне!

— Не цуралася, але ж хіба не ты змушала мяне, — памятаеш? — класціся без любасці побач з многімі і цалаваць... Чаму змушала, Тэрэза, рабіць тое, душу руйнуючы?

– Не хлусі! Гэта яны, Пярун з Ладаю, у ложкі цябе розныя кідалі. А я... Даўно ведаеш. Моца я твая. Сіла я твая! Розум я твой, што сэрцам слабавольным рухае. І імя маё, другое імя тваё, Тэрэза, – не забыта.

— Але ж я – Ксія! Еўпраксія.

– Няўжо і дапраўды так думаеш, Звеніслава? Тады скажы: хто яна ў табе — Ксія? Хіба не да Барыслава няўдзячнага штурхнула? Хіба не абдоймамі і пацалункамі ягонымі атруціла? Абрабаваў дарэшты, згвалціў, наздзекаваўся князь з укаханасці твае. Вось такая заўсёды яна — Ксія. Даверлівая па-дурному, Добрая, як ягня

неразумнае. У праўду людскую верыць. Усё пра іншых дбае. Нават псу беспрытульнаму акраец апошні аддасць. Слабасць яна вялікая твая — Ксія!

— А ты, Тэрэза?! Хіба не слабая? Перад бляскам золата-серабра асабліва. Уцягнула мяне ў той скарб біярмійскі. Апляла па руках-нагах.

– Пашто ганьбіш?

— Ксія затое – іншая... Ні хцівасці, ні ліхаімства, ні аблуднасці ў ёй.

– Але ж хіба не тузае яна сэрца тваё пакутамі і сумненнямі? Хіба не з-за яе, Ксіі, ты, Звеніслава, адступаешся перад гвалтам, падманам, жорсткасцю?

Зажурылася ціха ў адказ, ведаючы — не адступіць Тэрэза: тая, і праўда, адазвалася ў тое ж імгненне:

— Я рукі твае ў кулакі сціскаю, я грудзі бронямі захінаю! Бо яна, Ксія, — адно мроі атрутныя ў сэрцы тваім. Толькі я адна пра сапраўднае думаю. Каб заўтра ўсё ў цябе было. І серабро звонкае, якім папракаеш, і – хлеб штодзённы!

– Маўчы. Не руш мяне.

— А яна? Ударацъ — шчаку левую падстаўляе! І не бачыць: б'юць жа адразу па абедзьвюм!

– Адкасніся, Тэрэза! Паказаў Гасподзь усім лепту ўдавы. Сказаў: “Дабрашчасны чалавек, які стрывае спакусу, бо пасля выпрабавання атрымае вянок жыцця, які абяцаў тым, хто любіць Яго.” — Ужо нават заплакала:

— Кланяюся ў мальбе: не ўзірайся ні на Косту-кніжніка. Ні на Шахіру гожую прышлую, ні на грэка цемнатварага. Не спакушай нікога. Не спакушайся. Пакінь, ізыдзі з мяне, Тэрэза!

– Не вольная ты правіць мною, Ксія! Не вольны ўжо ніхто нада мною!

– Ізыдзі, Тарэза! Не атручвай душу маю грахом. Збаў мяне ад сябе.

ЧАСТКА ДРУГАЯ

## ***АБРАННЕ***

### РАЗДЗЕЛ 1.

*— І скажуць, што зміем упаўзаю ў плод праведны, бо ёсць я знак пагібелі і супраціўляюся таму, што даспадобы Ісусу Хрысту… Што ўзлакнуў я Крыві Ягонае, укусіўшы зямное і нябеснае. Што мёртвы я ў грахах і ашукваю вас, неразважліва надзімаючыся плоцкім розумам сваім… Не вер таму! Што насычаю зямныя цялесы людскія распустай, нечысцю, юрам, ліхой хцівасцю, любаздзірствам ідаласлужэння, — не вер. Нікому… Не вер!*

Калі ў пячору даляцеў лёгкі перазвон, Еўфрасіння ўжо закончыла малітвы. Не спаў і Міхал. Але спаў Коста, і яшчэ нават не варухнуліся, прыкрытыя лёгкай коўдрачкай, набытай у Акры, Вольга з Ксіяю. Звон, які гучаў усё грамчэй, пачула адно галілейка, пазіраючы на праём выхаду агромністымі ад жаху вачмі: у пячору нечакана даляцеў ахрыплы мужчынскі спеў:

Карабель наш праслаўны з малітвай імчаў:
Дзевы палкай Сыцылі — красы незямной…
Амаратаў іх секлі мы ў бойках з пляча…
Але руськая панначка грэбуе мной!

З глыбіні жоўтага марыва да пячоры блізіліся незнаёмыя людзі. Першыя, што сустрэліся ім у гэтай бясконцай пустыні. Узрадаваная, Еўфрасіння ўжо намерылася выйсці з пячоры, але нехта моцна тузануў яе за рукаво. Азірнулася, адразу ж сустрэўшы замаль вар'яцкі позірк Шахіры: усім сваім напружаным выглядам паказвала, што там, звонку, чакае бяда. Мілагучны звон тым часам усё не сціхаў, але Міхал, змеціўшы незразумелы жах у позірку галілейкі, таксама сумеўся. Спявалі, пэўна, чалавек трыццаць.

Нарэшце, не зважаючы на Шахіру, Еўфрасіння выйшла на дарогу і адразу ж быццам аслепла. Усё навокал было абліта яркім сонечным святлом. Насустрач зноў паляцела урачыста-сумнае:

У палоне гібелі рабы і цары.
Мы паілі мячы нашы элем з крывёй,
Столькі ўцехаў спазнаў мой баярдыш стары.
Але руськая панначка грэбуе мной!

Асіплы хор бязладна падцягваў надакучлівы матыў, аднак Шахіра, белая, што смерць, зноў моцна тузанула Еўфрасінню за рукаво. Спеў пабудзіў і Ксію з Вольгаю.

Падымай галаву, Дронтгермейскі народ.
Дзе руно — залатое, там кроў, нібы гной.
З важкім скарбам дахаты вярнуўся Гарольд.
Але руськая панначка грэбуе мной!

Гэта хрыпелі спечаныя і перамешаныя з глінаю пяскі. З боку пакінутай вёскі, дзе яны толькі ўчора адпачывалі, рухалася даволі стракатая працэсія ледзь прыкрытых лахманамі жанчын і мужчын з высахлымі пальмавымі галінкамі ў руках. На грудзях у некаторых гойдаліся маленькія званочкі: “дзын.., дзын!” Людзі былі ад пячоры так блізка, што Еўфрасіння, змеціўшы ў дзіўным шэразе знаёмае аблічча, ускрыкнула: прышлыя ўжо спыняліся каля самай пячоры, і апошняю сапраўды была тая самая, але без пранцаватых плямаў на шыі, маладая паланянка па імені Алма. Не падымаючы вачэй, ішла ўслед за высокім сівабародым старым, які ўвесь час круціў галавою, нібыта ўзіраючыся ў наваколле сваімі бяльматымі сляпымі вачыма.

— Алма!

Гэта вырвалася ў Еўфрасінні міжволі, але ўсе адразу ж павярнуліся ў яе бок і спыніліся. Цемнаскуры, прыкрыты, нягледзячы на няшчадную спёку, капітанскім кафтанам сапрэла-чырвонага колеру, грэк рэзка махнуў рукою, падаўшы ўсім знак, Шахіра, спалатнеўшы, зноў нешта роспачна загаварыла спачатку Еўфрасінні, потым Косце, паказваючы на свае шчокі і шыю.

— Ксія… — Ігумення звярнулася да сястры амаль шэптам, але падарожнікі, — і хто ўжо сеў на зямлю, і хто яшчэ стаяў блізу скалы, — разам павярнуліся ў яе бок. Тады і сама зірнула на кожнага, змеціўшы, што амаль усе прышлыя абуты ў хліпкія зношаныя сандалі. Ледзь прыкрытыя дзіравымі лахманамі, бліскалі на палачан нядобрымі позіркамі пачырванелых вачэй. Адрынутыя жыццём і людзьмі, гэтыя дзеці Божыя ішлі, пэўна, туды ж, куды і палачане; Еўфрасіння патрабавальна зірнула на Ксію, і сястра-чалядніца адразу, хаця і не вельмі спяшаючыся, вынесла з пячоры міску назапашаных яшчэ ў Доры фінікаў. Ежай без мітусні распарадзіўся грэк, раздаўшы ўсім пароўну. Палачанам застаўся толькі звараны ўвечары падсохлы боб. Галілянка зноў пачала тузаць Еўфрасінню за рукаво. Аднак, убачыўшы, што яе не слухаюць, крутнулася назад: праз кароткі час вылецела, трымаючы ў руках свае залатыя колты.

Высока падняла іх, як разглядваючы багатае ўпрыгожанне ў яркіх сонечных праменнях. Але вось падыйшла да грэка і нешта ціха сказала таму на вуха. Укінула колты ў вялізную скураную торбу. Коста, зразумеўшы, што гэта аплата за дазвол ісці разам, сумна ўсміхнуўся Міхалу; той якраз падганяў з боку пакінутай вёскі мула і восліка. Відно, добра напоеных і накормленых. Бурдзюкі на іх спінах таксама былі напоўнены вадою.

А Еўфрасіння ўсё яшчэ абводзіла позіркам грамадку незнаёмых людзей, да канца не спасцігнуўшы новага выпрабавання. Нечакана ўздрыгнула: нехта мякка крануўся складак яе покрыву.

— Алма?!

Вогнішча перад пячораю дагарэла ў момант, і ўсе з незадаволеным крактаннем пачалі падымацца. Старэйшына, паправіўшы на плячы кайстру, зноў зацягнуў сваё нуднае:

Я з Нарвегіі Верхняй, я ўдалы ганец,
Выдзіраўся і з пекла, і з прорвы зямной.
Вось нарэшце здабыў гэты царскі вянец!
Але руськая панначка грэбуе мной.

Працэсія, выстройваючыся ў доўгі шэраг, бязладна загудзела, паўтараючы: “Але руськая панначка грэбуе мной…”, зашоргала за сваім павадыром: палачане прысталі да чароду ў самым канцы, і Міхал з Костам асабліва пільна прыглядвалі за жывёлай: на мула і восліка ўжо хціва касіліся. Але тут жа адводзілі позіркі, збаяўшыся нават выгляду магутнага, з сівой разложыстай барадою, волата. Паломніцкі збой ішоў праз пустыню не перамаўляючыся, і ішоў гэтак доўга, што ад бясконцага “…Але руськая панначка грэбуе мной…”, Еўфрасінню пачало нудзіць. Сціху азіралася, увесь час ловячы на сабе бліскавічныя позіркі Шахіры. Коста ішоў блізу Вольгі, па стомленым позірку якой было відно, што гэты шлях здаецца ёй невымерна бясконцым. Высокі нябесны купал адліваў атрутна-жоўтым бляскам, і прывязаная да яго праменьчыкам шырокакрылая птушка бясконца кружыла над купкаю худых смакоўніц, каля якіх паломнікі нарэшце зноў спыніліся.

Адчуўшы, як аслабела лекацяць натомленыя ногі, Еўфрасіння апусцілася на калені і сцішыла задыханасць. Назірала, як людзі ашчадна дапіваюць ваду. Адкрыла Вечную Кнігу. Грэк усё яшчэ цягнуў сваё нуднае: “Я з Нарвегіі Верхняй, — я ўслаўлены сын…”, але ніхто правужатаму ўжо не падцягваў.

“…лапата Ягоная ў руцэ ў Яго, і Ён ачысціць гумно Сваё, і збярэ пшаніцу Сваю ў засекі, і салому спаліць агнем непагасным…”

Сонца пустыні стаяла ў самым зеніце і так няшчадна пекла, што смакоўніцы амаль не давалі ценю. Паўсюль былі раскіданы акруглыя камяні, на якіх, падаслаўшы світкі, можна было прымасціцца. У кожнага з паломнікаў да пояса была прывязаны скураныя пляшкі з вадою. Міхал заклапочана накрываў восліка і мула пасцілкамі.

— Старэйшына кажа, што да раніцы, ігумення, зможам мы дайсці да Чырвонай грады. І там ёсць калодзеж і запас тлустых вярблюджых скураў.

Алма, скарыстаўшы перапынак, ужо абышла ўсіх паломнікаў, і цяпер укленчыла каля Еўфрасінні: тая схілялася над Евангеллем.

— Хутка Ярдан будзе, ігумення, калі грэк не змыляецца. Толькі здаецца мне, — ад страху ў голасе Алмы з’явілася нядобрая хрыпатца, — шаноўная, што да Мёртвага мора мы хілімся.

Не адказаўшы, ігумення перагарнула старонку, зашаптала:

“…І, ахрысціўшыся, Ісус выйшаў адразу з вады; і вось адчыніліся яму нябёсы, — і убачыў Ян Духа Божага, Які сыходзіў, як голуб, і апускаўся на Яго. І вось голас з нябёсаў прамовіў: гэты ёсць Сын Мой любасны, Якога Я ўпадабаў.”

Нечаканы ўзвіў калючага, як растоўчанае шкло, пяску шаснуў па вачах: міжволі азірнулася. Коста сядзеў пад смокваю і аб нечым перамаўляўся са старым сляпцом. Каля іх прымасцілася і Вольга, да якой паволі набліжалася Шахіра. І раптам Алма, ускочыўшы на ногі, кінулася той наперарэз, нешта рэзка і так адрывіста выкрыкнула, што галілейка адразу ж адвярнулася, крутнуўшыся да Міхала, які дзіравай анучай ласкава пагладжваў рабрыстыя бакі схуднелых жывёлін. Старэйшына-грэк, незадаволена махнуў кулаком і прыкрыкнуў на Алму. Здзіўленая, запытальна зірнула на яе і Еўфрасіння: перад вачмі раптам пырснулі жарынкі, ад чаго ледзь не страціла прытомнасць, але Алма нечакана пачала рассказваць пра маці, прымушаючы ігуменню падняць вочы і слухаць. ... Рассказвала, як аднойчы цёмнаю раніцаю маці Алмы, прыгажуня-жмудзінка, была выкрадзена ад ляснога вогнішча, проста з-пад мяккай вавёрчынай коўдры. Самы ўдалы ва ўсёй жмудзі паляўнічы і лучнік, бацька яе, Кірык, пачуўшы, колькі пушніны трэба было для выкупу, у адчаі разаслаў ганцоў да ўсіх другаў, і пушніна ўрэшце была сабрана. Але варагі-находнікі ніколі не ўмелі чакаць. Тады яшчэ ніхто не ведаў, што маладая паланянка цяжарная. Не перапыняючыся, Алма ўвесь час кідала папераджальныя позіркі на Шахіру, але тут жа адводзіла вочы ўбок. Прызналася, што сапраўды сустракала галілейку ў гарэме

сторога Аль-Ашрама. І болей – ні слова. Але ігуменння ўжо зноў перагарнула абалонку Евангелля. Сонца па-ранейшаму было няшчадным. Сама блізка да Еўфрасінні сядзеў стары паломнік з белай анучаю на аблыселым чэрапе. Нечакана заенчыўшы, стары адкінуў убок чырвоную пяшчаную яшчарачку. Тады, прыпыніўшы чытанне, ігумення насцярожана азірнулася. Вольга, паклаўшы галаву Косце на плячо, здаецца, драмала. Жаўтаватая скура яе мела нездаровы выгляд, рукі былі скрыжаваны на грудзях.

... Але нешта здарылася у наваколлі, нешта змянілася. Ад нечаканай млосці Еўфрасіння схіліла плечы. Тады Міхал неспадзеўкі падышоў ззаду і загадаў ёй адпіць з пляшкі хоць глыток вады. Паслухала яго, і сапраўды пачулася лепей, пільна ловячы пагрозлівыя гукі гэтай бясконцай пусткі, што зноў рухала пясчанымі лавамі. Усё навокал шапацела, шоргала, шумела. Важкі чырванаваты поўдзень узіраўся ў цёмныя, павільгатнелыя ад стомы, вочы манашкі са спагадаю, мякка абвяваў твар лёгкім дыханнем. Нехта зноў замармытаў “Але руськая паннaчка грэбуе мной…” І раптам Міхал, седзячы каля мула, нечакана моцным распеўным голасам зацягнуў добра вядомы ўсім палачанам матыў: “Быў жа ў багатага ды брат Лазар, і пайшоў ён к багатаму брату… А мая ж то душанька нацярпелася…” Вольга, усміхнуўшыся, варухнула вуснамі, тонка падцягваючы старому, але Міхалаў голас, такі па-маладому густы і багаты, ужо разлягаўся, здавалася, па ўсёй пустыні: “А сыйдзі ж ты, сквірнявы, ды з майго двара …” Нехтааднак ухвальна ўскрыкнуў, і Міхал адразу ж апамятаўся. Злавіўшы на сабе захопленыя позіркі, заціх. Слыху паломнікаў тут жа крануўся яшчэ адзін — ахрыплы, падобны да гудзення, спеў. Гэта адазваўся сляпы, які сядзеў у паўкроку ад Міхала. Ужо ледзве растуляў вусны, хапаючы перад сабою пальцамі гарачае паветра:

… Карабель наш ірвецца ў раз’юшаны шторм,
Колькі вёсен грымотных спылo за спіной!
Ды, счарпаўшы ваду, – зноў ляцім у прастор…
Але руськая паннaчка грэбуе мной!

Хамсін падшугаў да расхінутых над Галілеяй кучавых воблакаў, і над утравелымі барагамі Ярдана, над саванамі і пячорамі галілейскіх пустэльнікаў разнеслася яго ахрыплае гудзенне. Аднак вышэй, туды, дзе пачынала свой горні шлях апошняя дарога, ні адзін вецер яшчэ не падымаўся. Бо нават блізіцца да празрыстых прыступак дарогі, што вяла да Варотаў, не дазволена было ні сухавейным вятрам, ні

скучаным дажджавым хмарам, ні марскім брызам. Толькі шэпт малітваў і салодкае біццё чыстых сэрцаў нябачна працэджваліся праз крохкія соты пад шапаценне бліскучага лісця вечнага саду, да якога праз блакітную мярэжу рэхам даносіўся хор натруджаных галасоў:

Вось на сушу ўзышлі мы бліз кратару гор,
Што смалою плюецца, як юнга слінай,
І малітвай далі таму пеклу адпор,
Але руськая панначка грэбуе мной.

... Каля Варот стаяла новая варта – у празора хвалістых шатах з доўгімі серабрыстымі мячамі, якімі херувімы так лёгка адсякалі брудныя патокі чалавечае жарсці і глеістыя, разварушаныя чарвямі, смярдзячыя гарбы смяротных грахоў. Тыя адразу ж сцякалі праз шчыліны цёмных нетраў у нябачныя глыбіні апраметнага агню. Хамсін ужо прадзьмуў сабе дарогу праз воблокі: кідаўся, насіўся над пустыняй і Сяродземным морам; спяваў спрадвечную песню над зажуранымі смоквамі і Ерузалімскімі камянямі, што рассейвалі навокал сябе зыркасць дотыкаў Сына Божага.

... Вечны горад яшчэ не прачнуўся, але ўжо і не сніў нічога. Цэлымі радамі перад Варотамі размяшчаліся крамкі з хецкімі залатымі ўпрыгожаннямі. Густабародыя і доўгавалосыя, з сівымі касіцамі качэўнікі басавіта прапаноўвалі пакупнікам маладых ахвярных баранчыкаў; адусюль чулася здаўленае бляянне. Каля прасторных лазовых клетак з птушкамі на высокіх латках пабліскваді бронзавыя падносы з вінаграднымі гронкамі, фінікамі і віном у тонкіх, з доўгімі шыйкамі, жбанах, і іх уладальнікі ўвесь час імкнуліся перакрычаць адно аднаго.

Не зважаючы на няшчадную спёку, да горада блізілася доўгая чарада спакутаваных паломнікаў, да якіх Хамсін нават звык. Амаль апошняю, побач з ужо барадатым маладым кніжнікам, ішла тая залатавокая, што заўсёды сустракала павевы ветру белазубай усмешкай, лёгка падбіваючы пры хадзе полы сваіх доўгіх, абсечаных пяском, шатаў.

Хамсін з лёгкім свістам узляцеў яшчэ вышэй, але тут жа падагнуў крылы, нечакана змеціўшы, як у бок падарожнікаў праз рассохлыя шчыліны высокіх скал пачынаюць змяіцца чорныя тлуставатыя ўзвівы яшчэ аднаго, але значна мацнейшага за ўсе іншыя, горкага сухавею. Зразумеўшы, як блізка знаходзяцца гэтыя людзі ад свае смерці, вецер устрывожана заскуголіў. Паломнікі, яшчэ не ведаючы, што вось-вось уступяць у страшнае кола, бесклапотна

цягнулі сваё нуднае “але руськая панначка...” Азіраліся, пазвоньваючы, “дзын-дзын”, сваімі дарожнымі званочкамі, схілялі галаў, услухоўваючыся ў нецярплівае і таямніча-роспачнае падвыванне грознай пустыні. І толькі немаладая ігуменя, прыціскаючы да грудзей Евангелле, нечакана схапілася за горла і апусцілася на калені. Адразу ж адкрыла Евангелле, уткнуўшыся ілбом у разгорнутыя абалонкі.

Але калі аддалены гул страшнага смерчу нарэшце пачуўся даволі выяўна і ўсе пачалі спалохана азірацца, разам з усімі і сама здзіўлена змеціла, што ўвесь гэты час, аказваецца, яны хадзілі кругамі: праз жоўтае марыва праглядваўся няроўны абрыс знаёмых скалаў з пячорамі. Моцны парыў сухавею так грозна падняў уверх жоўтую гарачую сечку, што падарожнікі, ужо не зважаючы на незадаволены крык важака-грэка, кінуліся да ігуменні. І першаю была Еўпраксія. Наблізілася, і Еўфрасіння абняла, захінула сястру ад пяску шатай свайго покрыву. Спагадліва прашаптала:

– Не бойся, Ксія. Усё ў руцэ Гасподняй. Не бойся.

Тая, у нейкае імгненне падняўшы няўцямны позірк, яшчэ мацней прытулілася да ігуменні. З-за небакраю ў бок паломнікаў агромністым жоўта-чырвоным слупом імчаў сапраўдны смерч...

## РАЗДЗЕЛ 2.

Ах, ігуменя, сястра мая Еўфрасіння! Як жа сказаць, як прызнацца, што ў тым далёкім Эльблонзе, калі лекар Тазіт сказаў, што яна, Звеніслава, ужо стала Тарэзаю, дадаў ён і тое, што настане дзень, калі прыбудуць у Полацк ганцы, якіх трэба будзе сустрэць і прывеціць. І ва ўсім слухацца. Бо вялікая місія ўскладзена Тазітам на яе, Тэрэзу. Адну з нямногіх. І найперш, каб была лепшай, разумнейшай, хітрэйшай, багацейшай за іншых. Дзень той і даправўды настаў. Аб’явіліся ганцы. Перад самым іхнім сыходам з Полацку ў паломніцтва. Сказалі:

– Не прыходзь да Госпада ў зрэб’і, Тэрэза. Не прадставай прад вачмі Ягонымі ані прыніжанай, ані гордай, каб ведаў, што, славу зямную здабыўшы, да Яго усё набытае ў канцы жыцця нясеш.

Памятае, як сумелася тады, здзіўлена падняўшы позірк. Але госці ўжо зачыніліся ў кутавой келлі, сказаўшы, што зашыюць біярмійскі скарб у яе доўгую безрукаўку. Дзівілася толькі: адкуль уведалі, з такой далечы прыбыўшы, што хавала скарб, па падказцы Барыслава, — ды будзе зямля яму пухам! — на самым відным месцы. У келлі хавала. Паставіўшы на ларэц дубовае ўкрыжаванне.

— Людзьмі, думкамі, мроямі іх авалодвай, Тэрэза, сэрцы слабыя крышы, не адкрывайся перад неразумнымі, бо хлусні болей праўды верацьь; падавай бліскаўкі марных надзеяў тым, хто ад бляску пустога аслепнуць гатовы. Чалавека зваюй – і Светам авалодаеш.

Не бачылі, як пабялела тады, навучалі далей:

– Нясі Госпаду гэты скарб. Ад усіх нас. Памятаеш, пра што Тазіт найпадобны казаў?

Нічога не адказала. Бо даўно ўжо схавала ў душы таямніцу, у якую з цягам часу перастала верыць і сама. Да таго самага моманту, пакуль не прыйшлі манахі з Тальзіту.

І адразу ж аб’явіліся ў ёй, Звеніславе, яны абедзьве. І Тэрэза. І Ксія. Неадлучныя адна ад аднае. Неад’емныя. Як дзве палавінкі яе душы. І цела. Палавінкі...

... Навокал зазмяіўся такі віхор, што ўсе, каго непагадзь сагнала ў адно кола да Еўфрасінні, схапіліся за рукі, але вецер нечакана пачаў так моцна віраваць, так упарта расшчапляць кола паломнікаў, што праз імгненне Ксіі знемаглося нават дыхнуць: нечакана апынулася побач з Шахірай, якая тут жа ўвішна падскочыла і, моцна ўчапіўшыся ў яе рукаво, імкнулася сцягнуць з плячэй хламіду. Наўздзіў сквапна, аблудна ўсміхалася.

* * *

... Яны не саступалі адна адной ні паўкроку, і Ксія ўжо зразумела, чаго тая прагла. Дзеля чаго, урэшце, апынулася на іх дарозе. Злосна, з усяе сілы, ударыла галілейку ў грудзі, і Шахіра адляцела так далёка, што згубілася ў жоўтай кудасе. Вецер адразу ж шаргануў Ксію па аблічччы, схапіў тысячамі пальцаў за хламіду. Засвістаў, заенчыў. Але ўжо не сваім сіпеннем, а роспачнымі, прыглушанымі ад жаху галасамі:

– Краніся нас, Звеніслава. Аблудных і вясёлых! Ідзі і прасі у Госпада літасці да пастухоў і пастушак Лотавых. Ці не ў госці сюды прыйшла?

— Прынясі тады хоць крыху свежай вады нам, сасмяглым, што ўсё жыццё сваё толькі віно салодкае і густое спажывалі.

Сумеўшыся, у пострасу азірнулася: рудаватыя клубкі насіліся вакол яе звар’яцелым круценем.

— Вады крынічнай прынясі нам, Ксія сердабольная, каб смагу прабіць, і каб не слязьмі толькі мылі ногі свае.

— Хлеба прынясі нам, далёкая. Сэрцы падмацаваць.

— І вазьмі алею, і цялятка пяшчотнае прыгатуй. Гэта ўжо цябе, Тэрэза, просім.

Пахітнулася, затуляючыся рукамі ад енкаў: “Памятаеш, памятаеш, памятаеш?”

– Што памятаць мушу?

— “ І праліў Гасподзь на Садом і Гамору дажджом серу і агонь ад Госпада з неба, і нізвергнуў гарады тыя, і ўсю ваколіцу, і ўсіх жыхароў, і ўсю расліннасць вакольную...”

Ці гэта смерч, ці дапраўды за полы хламіды ўчапіліся, тузаючы, разбэшчаныя пастухі Лота, што ставілі калісь шатры свае па ўсёй Ярданскай зямлі да Садома. Яшчэ да тае ночы, як Гасподзь праліў гнеўна на горад сукупленняў грэшных агонь нябесны. Горасна цяпер плачуць:

— Ах, не паслухалі тады слова Ягонага, не ішлі за гаспадаром ў Сігор, не пакінулі статкі, не ратавалі душаў сваіх, паленаваліся падняцца на гару. Ах, пральсціліся беззаконнем і грахом смяротным.

— Але ты — не пакідай нас! Не забудзь грэшнікаў.

— Адмалі, Ксія. Пакляніся ў тым свяшчэннымі сасудамі.

Ужо рагаталі ў постраху:

— Адмалі і ты нас, Тэрэза.

— Адмаліце нас абедзьве.

Зноў затузанулі за рукаво, ад чаго Звеніслава міжволі азірнулася. Цёмная, быццам гэты смерч, Шахіра, няўцямна бліскаючы шырока расплюшчанымі вачмі, зноў ярасна ўчапілася ў яе хламіду, імкнучыся нарэшце дастацца да безрукаўкі з моцнага, добра прашытага, палатна, якую Ксія не здымала праз увесь доўгі бязлітасны шлях.

— Аддай тое, што не тваё.

– Але ж і не тваё, Шахіра.

– Аддай скарб біярмійскі — і жыць будзеш!

Зваліўшы Ксію на зямлю, галілейка ўжо ўздымала над яе галавою вялізны камень. Шалёны парыў ветру так ярасна закруціўся навокал, што каля абедзьвух нечакана апынуўся Коста. Змеціўшы камень у руках Шахіры, спружынай ірвануўся наперад. Ні хвіліны не вагаючыся, апусціў важкі пергамін, які ніколі не выпускаў з рук, на патыліцу галілейкі, і тая адразу ж апаўзла на зямлю. Віхор, падымаючы на добрую вышыню абярэймы дробнага камення, заенчыў, кінуўшыся ў бок крыху аддаленых скал, завалок усё пясчанай жарствой.

* * *

Да вялізнага валуна, на якім, з кашлем выдыхаючы гарачы пясок і абхапіўшы рукамі плечы, сядзела Вольга, блізіўся высокі жылісты сляпец. Ледзь падняўшыся на ногі, памкнулася ступіць да нямоглага сляпога, што заўсёды валокся ў паломніцкім збоі самым апошнім, але тоўсты і слізкі жгут смерчу не дазваляў нават зрушыцца з месца, сціскаў грудзі. Тады закрычала. І стары, як ні дзіўна, пачуў, працягнуў да яе рукі. І тут жа ўпаў на калені, затуляючы локцямі нізка схіленую галаву. Рэдкія сівыя валасы закубліліся, сарочка пузыром уздулася над сухім, дугою ўгнутым, хрыбетнікам. І тут жа знік з вачэй, забраны чорнай глыбокай варонкай.

...Ён, князь і прарок беламорскі Ерыней, сляпы ўжо трыццаць сем летаў, доўгіх і бясконцых у пакуце, і дасюль не забыў. І дасюль памятае. Як прасіў тады сабачнікаў багатых і імяністых: не шкадуйце рыбы ні дзецям, ні старым, ні жанчынам. Мінецца пара ліхая. Будзе ўсяго досыць. Пушніна будзе. Тлустыя марскія звяры на бераг самі павыскокваюць. Алені статкамі збяруцца. Але адказалі іншае. Не чакаў такога Ерыней, аднак зусім адваротнае сказалі:

— Хочаш над намі князем быці, Ерыней малады, хочаш, каб пракорам цябе лічылі? Хочаш юхты на ногі мяккія, футра цёплае, кадоўбы тлушчу? А сані шырокія, прыкрытыя коўдрамі з пуху гагар — таксама хочаш? Тады слухай, малады, што скажам: загадай варце... Каб усіх лішніх... прэч, і дзяцей таксама, князь! Не спрачайся! Не даводзь. Падумай: хіба ж не выраступь дзеці, хіба не закрычаць даць ім рыбы?! І жонак меней нам трэба. Каб на ўсіх пароўну. Астатніх — у каменяломні тыя, што за Мядзвежай гарою. Толькі сам асачы, каб вывезлі. І пракорам застанешся, і князем. А праз тыдзень пасля таго, як іх усіх адвязуць —правер. Абавязкова правер!

... Ён аслеп адразу ж. Пасля першай жа таемнай, нават без варты і цёплага футра, паездкі ў касцяныя пячоры за Мядзвежай гарой. У тое ж імгненне, калі, нечакана ступіў на заледзянелае немаўля, пачуўшы жахлівы хруст пад нагой. Па вачах так моцна ўдарыла, недзе ўнутры галавы так ярка і балюча бліснула, што ледзь не ўпаў. Па-праўдзе-то ўпаў, укленчыўшы. Завадзіў вакол сябе рукамі. Так моцна крыкнуў, што водгулле трывае ўнутры галавы і цяпер. З усіх, каго па ягонаму загаду тады вывезлі за Бел-мора, выжыла толькі адна кабета. Сабраўшы лахманы ў адзін хатуль, узяла яго, сляпога, за руку, павяла. Праз лясы і рэкі, праз ачароты непралазныя, што абдзіралі яму рукі і аблічча да крыві. Праз каменныя скляпенні і пякучыя барханы.

Ішлі... Ішлі і трэсліся абое на колах, плылі і потым зноў ішлі. Памерла Неганіла, як звалі тую, што не пакінула яго праз усе доўгія леты, у Акры. Добрыя людзі пахавалі. Яго узялі з сабою.

... Свірэпы вецер, вырываючы старга з успамінаў, так балюча ўдарыў па галаве, што той ўпаў на калені. Але тут жа ўпёрся рукамі ў дарогу. І адразу ж пачуў:

— Падымайся. Ідзі, сляпец. Ідзі, Ерыней! І маліся за мяне, за Лота з Садому. Бо і я пакінуў грэшнікаў смярдзячых. Попелам развеяліся з-за грахоў страшных, бо заслужылі. І былі спалены. А ты ідзі, і маліся за мяне, за Лота з Садому. Пакінуў тады іх. Як толькі ўзыйшла зара, Анёлы пачалі прыспешваць:

“ Падымайся, вазьмі жонку сваю і двух дочак, каб не загінулі за беззаконне горада.”

І павёў. А гараджан астатніх пакінуў...

Казаў тады адзін Анёл:

“ Ратуй душу сваю: не азірайся, Лоце, назад і нідзе не спыняйся ў мясцовасці гэтай... Ратуйся на гары, каб не загінуць... бо знішчым горад гэты, таму што вялікі ўскрык на жыхароў ягоных да Госпада...”

— Але ж я, князь і прарок Ерыней, сам звёз у пячоры касцяныя сваіх суродзічаў.

– ... азіраюся ўсё цяпер... Быццам і дапраўды чую, што клічуць, енчаць з агню і серы, просяць аб літасці мяне, Лота, месцічы пакараныя:

— Ай-а, Лот, ратуй... Ратуй!

Азіраюся і чую галас іх жахлівы, бачу смерч вогненны.

– Але ж я таксама. Сам... у ільды касцяныя... Сам адправіў! Невінаватых. І дзяцей з мацерамі, і старых.

– Не ты гэта звозіў іх, а голад, Ерыней!

– Не будзе літасці мне. Аднаго у Госпада прашу. Снегу сабе паболей. Ільдоў аслізлых.

Шурпаты віхор так моцна ўдарыў па галаве жменяю камянёў, што па ілбе старога адразу ж распаўзліся крывавыя плямы. Аднак нават не застагнаў.

– Ідзі, сляпец! Маліся за мяне. За Лота гаротнага. За пастухоў нашых і пастушак...

– А за мяне хто памоліцца?

– Тая, што вядзе. Ігумення з Полацка. Яна за ўсіх памоліцца. Усіх вас адмоліць.

РАЗДЗЕЛ 3.

Вецер укручваў у сваё жарало ўсіх, хто яшчэ не паспеў схапіцца за хламіду суседа. Перад вачмі ігуменні нечакана пранеслася злямчаная торба, за лейку якой трымаўся амаль бясцямны праваднік. Але тут жа, упаўшы на зямлю, асланіў галаву далонямі.

Азірнулася, шукаючы хоць каго-небудзь на падмогу, але вецер нечакана так злосна шарганўў па вачах, што задыхнулася ад болю. Чула адно густое даўкае сіпенне, што ўжо аддалялася за груваскія валуны. Каля крайняга, укленчыўшы, пахітваўся пакінуты цяпер спадарожнікамі важак-праваднік.

— Усе кажуць, што ты грэк!?

– Што табе з таго, вецер? Хіба не забіваў сам, не высушваў косці яшчэ жывых іянітаў і тампліераў? Не разносіў хіба па засеяных палосах полымя, не напаўняў крылле арлоў-падальшчыкаў, што не баяліся нават пошчаку маіх грозных барабанных палачак? А я ж так грымеў. Так стараўся, што, здавалася, вось-вось рухнуць жоўтыя сцены крэпасці, адкрыюць тоўстыя вароты перад ім – каралеўскім лучнікам, што прыхапіў мяне, сірату галодную, на дарозе, узяўшы з сабою ў паход.

– Але ж ты нарадзіўся ў Трыпалі, і пасля ішоў барабаншчыкам гаспітальераў, з яркім шоўкавым крыжам, нашытым на чорным камзоле, да самай Эдэсы. А потым быў Дамашак. Памятаеш?

– А што ты памятаеш, сухавей? Як даганяў нас, крыжаносцаў, па ўсіх дарогах? Як выпіваў калодзежы?

– А вы? Хіба не закідвалі вы тыя самыя калодзежы нябожчыкамі, рассякаючы іх, смярдзячых, на кавалкі? Бліскалі мечамі і шчытамі. Шшу. Шшах...

— Ці тое памятаеш, сухавей?

– Як пацеў і ванітаваў ты, маларослы, калі бачыў, як да чорнага попелу выпальваюць твае праслаўныя апекуны-храмоўнікі ўсё жывое. Не толькі жыллё прасталюдзінаў, але і сэрцы іх. І як гвалцяць юніц, памаліўшыся Богу. Памятаеш? Як Хрысту памаліўшыся, кідаюць у вогнішча першы кавалак мяса. Не простага мяса, грэк, а чалавечыны. Цябе ванітавала, і ўсе смяяліся, называючы малога барабаншчыка нягеглым смуродам.

– Не смурод я маларослы. Многае магу, многае цяпер умею!

— Усё жыццё крычаў ты пра свае геройства, крыжакоў барабаншчык, так гучна крычаў, быццам маглі пачуць не толькі жывыя, што ўсё роўна насміхаліся над табою, але і яны. Тыя, што ўжо

даўно не прасілі цябе пракрымець адбой. Пераканаў урэшце. Усім давёў сваё! Стаў, як і бацька твой некалі, каралеўскім меднікам. Шша-ша...

— Стаў. Дапраўды — стаў!

— Толькі слёзы у цябе па-ранейшаму горка-салёныя, барабаншчык. І ногі, якія ледзь перастаўляў ты, калі ішоў, памятаеш?, па вуліцах Ерузалімскіх, валокся па калені ў крыві, ногі твае і дасюль яшчэ нямеюць падчас непагадзі. Слухай жа. Гэта яны, твае храмоўнікі, твае трампліеры, твае начальнікі паходныя. З крыжамі на грудзях і спінгах. Слу-хай жа. Шша-Шша...

— Памаліся за нас! Выбачай нас.

Віхор ужо ўкруціў у сваю глыбокую варонку цэлыя лавы дробных і большых камянёў, раз'ятрана сыпануўшы іх на выпетранага, амаль голага чалавека, які нават не азваўся. Быццам прыслухваўся да такіх знаёмых, далёкіх і блізкіх, галасоў:

— Барабаншчык-юнец, памаліся за нас.

— Прабач нас, барабаншчык...

– Памалюся.

– Шшу-шша...

## РАЗДЗЕЛ 4.

Страшная варонка сухавею, стаяком празмяіўшыся праз усю Галілею і ўрэшце кінуўшы ўцалелых людзей на барханы, паволі суцішвала свой скразны, паміж небам і зямлёю, страшны палёт. ... Яны кленчылі перад уваходам у тую самую пячору, дзе яшчэ раніцаю адпачывалі. Здалёк, цягнучыся следам за вослікам і мулам, блізіўся Міхал. Спакойны і па-ранейшаму засяроджаны толькі на малітве. Пад ружаватым паднебным парасонам усё яшчэ кружыў шыракакрылы птах, быццам не верачы ў тое, што бачыць на зямлі Галілеі столькі жывых людзей. Гэтыя, што ўцалелі, былі тыя самыя. Яшчэ з імператарскага карабля, са шторму. Тыя, што прыйшлі сюды з невядомай Хамсіну далёкай полацкай зямлі.

... Імклівы пошчак добра падкаваных капытоў па камяністай дарозе яны пачулі адразу ж. За Шахіраю, з абматанай скрываўленым шоўкавым шалем галавою, імчала некалькі вершнікаў. З другога боку, яшчэ далёкавата, праўда, наперарэз янычарам спяшалася трое. За Асанам з цяжкасцю паспяваў князь Давыд, пазаду якога на нізкарослым кані сядзела Даля ў чужым чырвоным сарафане.

– У пячору! — Імгненна выхапіўшы з похваў свой меч... – У пячору! — Вольга паўтарыла загад ігуменні так уладна, што Ксія нават не паспела нешта сказаць, каб урэшце прызнацца.

Аднак ігумення, паказаўшы рукою на яе безрукаўку, апярэдзіла:

— У Ерузалім скарб гэты біярмійскі занясем. Калі воля Божая будзе.

– Ты ведала, Еўфрасіння?..

– У сваёй абіцелі ўсё ведала я, Ксія.

Імклівы пошчак добра падкаваных капытоў блізіўся штохвілінна, і старэйшая манашка зноў пасуровела:

— У пячору! – Азірнулася, дзівячыся, як імгненна скарачаецца адлегласць паміж палачанамі і коннымі рабаўнікамі. Адно Вольга, не разгубіўшыся і не зважаючы на пярэчанні ігуменні, ужо ўштурхнула спадарожнікаў у нутро пячоры і, выхапіўшы меч, на імгненне застыла перад уваходам, сустракаючы верхаўцаў Шахіры. Аднак іх было ажно шасцёра...

... Ужо не выпускаючы з рук свой кароткі меч, Вольга нават не змеціла, як яе шырокі левы наплечнік прабіла вострая піка. Пахітнулася, і з нутра пячоры, якую яна дасюль засланяла сабою, адразу ж выскачылі Ксія з Костаю. Шахіра, нешта крыкнуўшы, зноў паказала на чалядніцу Ксію, і чарнабароды нізкарослы важак, імкліва ўзмахнуўшы ятаганам, імгненна рассек на той доўгую безрукаўку. З шырокай прарэхі на пясок пасыпалася важкае акруглае каменне. Гэта была рачная галька. Зніякавела зароўшы, важак азірнуўся і з усяго маху паласнуў шабляю па Шахіры. З пячоры, падняўшы крыж, ужо выходзіла ігумення.

Некалькі рабаўнікоў гарлава-грозна зарычалі, але да іх зноў ступіла Вольга.

... Бацька, князь Расціслаў, высока падняўшы яе над сабою, смяецца, казыча барадою тварык малой, перадае яе ў рукі княгіні, і маці нясе, нясе маленькую Вольку праз шырокі падворак у палац.

– Ойча наш! Ойча наш...

Ужо не блізу палаца яна, а на добра знаёмым манастырскім падворку. Шэпча ўслед за ігуменняю, лёгка растуляе спеклыя вусны, прамаўляючы словы малітвы чыста і без запінкі.

Зноў – то сонца на ўзлеску, то цянёк пад ялінамі, то вясёлая гульня вогнішча на бялявіне. ...Валодша, белазуба ўсміхаючыся, трымае яе за руку. І вось ужо разам прадзіраюцца праз пушчу, а яна ўсё нешта гаворыць, не спыняючыся. Гаворыць яму з любасцю. Даўно

ўжо так, лёгка і распеўна, не гаварыла ні з кім. Спыняюца на беразе агромністага, зіхоткага ляснога возера.

*Пачуй пушчу маю, лада.*
*Стагненне лісаў і сіпенне змеяў падкарэнных,Ой-а!*
*што звіваюцца ў пнішчах, родзячы новыя клубкі. Ой-а...*
*Вуххі савіныя... Звоны салаўіныя...*
*Рохканне і грымоты пушчанскія тут... Ой-а!*
*Б'юць капытамі дзёран лосі крутарогія,*
*равуць каля ільсністых саміц сваіх,*
*што такія ж гожыя, гарачыя і неспатольныя,*
*як ты ў снах маіх, лада! Ой-а...*

... Хіжа, весела, грозна бліснулі ятаганы. Агромністыя рабаўнікі падступаюцца ўсё бліжэй і бліжэй. Коста, засланяючы сваю залатавокую красуню, грудзі якой ужо заліты крывёю, кідаецца наперад. Падае, не выпускаючы з рук вялізны пергамін. Крывы ятаган з усяго маху апускаецца на тоўстую вокладку і тая, расцятая напал, разлятаецца ў бакі пасечанымі абалонкамі летапісу. На зямлю, звіваючыся, падаюць каралі... Каралі Ёмелы.

– Я не ведаў, уладычыца. Не ведаў! Яшчэ ў Царгорадзе пергамін мой гарталі! Не сказалі пра скарб...

З прабітага горла кніжніка бурыць крывавая пена....

Чалядніца Еўпраксія пазірае на гальку шырока расплюшчанымі вачыма. Вусцішна, глыбака на душы...

Ведае – няма болей у ёй Тэрэзы. Зліліся палавінкі. Палавінкі душы, Тэрэза і Ксія. І цела палавінкі — злучаны. Мінулася бяда. Вызваленне...

– Памажы, Ксія. – Ігумення Еўфрасіння ўжо ўкленчыла перад кніжнікам.

... Янычары, схапіўшы з пяску ажно пабурэлыя каралі, з гарлава-грознымі крыкамі аддаляюцца, знікаюць у памутнелай, усё яшчэ ўзвіхранай, пустыні.

— І прымі, Госпадзі, душу ўпакорлівых рабоў Тваіх.

Да ігуменні, што ўжо сцягвала з Вольгі скрываўленую драцяную срочку: – ... як жа цяжанька табе было... — імчыцца Давыд. Зляцеўшы з каня, падтрымлівае ігуменню за локаць. Міхал, падганяючы сваіх жывёл, спяшаецца. Даля, азіраючыся, паволі апускаецца на калені побач з Еўпраксіяй, збірае з зямлі рассечаныя старонкі пергаміну, складвае іх у кайстру.

РАЗДЗЕЛ 5.

*– Ашчэ хто ходзіць у ношчы, патыкнецца, яко несць святла ў ім.*

*— Радуюся, пачуўшы цябе зноў.*

*– Ашчэ хто ходзіць у дне, не патыкнецца, сястра, яко святло свету гэтага бачыць.*

*— Радуюся, убачыўшы цябе.*

*– Чакаюць ужо.*

… На высокім ложы перад Галгофай, да самага падбародка аслоненая хаўтурным хітонам з вышытымі крыжамі, ляжала паломніца з заплюшчанымі вачмі. Каля ложа стаяў рослы князь, у якім яшчэ ценілася нядаўна перажытая страшная хвароба: усё аблічча маладога воя было ўзрыта слядамі чорнай воспы.

Хамсін, праслізнуўшы праз шчыліны высокіх сцен, уздрыгнуў, пазнаўшы ў нябожчыцы тую, з кім так часта апошнім часам сустракаўся на галілейскіх дарогах. Гэта была маладая прыгажуня з прамымі чорнымі бровамі. Але цяпер праз увесь твар красуні палымнеў глыбокі шнар ад ятагана. Павекі былі заплюшчаны так шчыльна, што Хамсін толькі скрушна ўзвыў. У рукі яе нехта ўклаў бліпчасты меч, на якім ляжаў невялікі крыж. Побач, укленчыўшы, малілася ігумення:

— Хутка і я! Прашу цябе, Госпадзі! Пакліч… Дазволь.

Яшчэ не бачыла таго, што змеціў, устрасянуўшыся, вецер: над усім горадам і яго манастырамі, рассяваючы паўсюль блакітнае зарыва, хваліста трымцела Амафора.

Пэўна, змецілі гэты покрыў Мацеры-Багародзіцы і сівабародыя насельнікі абіцелі святога Фядосія: ужо абкурвалі дамавіны фіміямам, спяваючы развітальныя псальмы. У адной з дамавін ляжаў малады кніжнік са складзенымі паверх рассечанага пергаміна рукамі.

Маўклівая, усё яшчэ з шырока расплюшчанымі ад недаўмення вачмі, Даля не адступалася ад чалядніцы. Даляцеў лёгкі шэпт:

— Ксія…

– Я тут, Еўфрасіння.

– І заўжды будзь з усімі. Ідзі і навучай Слову Божаму. І напішы ўсё.

– Апавітая ланцугамі грахоў я. Хіба не ведаеш, ігумення?

Выцірае слязу.

— Столькі спакусаў спазнаўшы, столькі чорных камянёў у аблічча Ягонае кінуўшы, як магу?!

– Ідзі і навучай. Дадзена ўбачыць было страсці пякельныя, якія распазнаеш ужо. І скруціш галовы змяіныя, і станеш настаўніцай вялікай. Адпакутавала! Вяртайся ў Полацк! Да дзяцей веры нашай.

– Ой-жа, моцна чапляюцца вяроўкі, ігумення. Варушацца ўспаміны і скрухі, вісяць на нагах, не даюць кроку ступіць.

– Пасілься, Ксія. Засведчы перамогу над тым, хто джалам упіваецца ў сэрца Хрыстова. Скажы Міхалу і Давыду – няхай бароняць. Бо хутка ўжо не будзе тут мяне.

– Але ж не ведаю ўжо – хто я цяпер!?

– Ідзі, Ксія, нясі навуку ўкрыжавання свайго. Бо сказана было:

“ ... няма ўжо Юдэя, ні язычніка; няма раба, ні вольніка, няма мужчынскага полу, няма жаночага, бо ўсе вы адно ў Хрысце Ісусе.”

... Над Ерузалімам шчыльным покрывам, узіраючыся ў белае, што сцяна манастыра, аблічча, агорнутае пяшчотнымі складкамі каптура, несліся начныя хмары. Перад Галгофай ляжала тая, што гэтак доўга ішла пустыняй, выводзячы сваіх спадарожнікаў да Святой гары.

З невымернай далечыні ў Ерузалім раптам данёсся бразгат мячоў. Над нязнанаю тут крывіцкай зямлёю, пакрытай густымі пушчамі і спаласаванай глыбокімі рэкамі і крыніцамі, не зважаючы на ўкаранёныя ў кручы цэрквы і не баючся Божага гневу, у смяротнай бойцы зноў сыходзіліся нашчадкі княжай дынастыі. Напэўна, пачула гэты смяротны бразгат і хворая ігумення, бо яшчэ мацней сціснула ў руках свечку:

– Даруй ім, братам маім, Уладыка нябесны, даруй, Маці спагадная, правіны наўмысныя і ненаўмысныя…

Падазвала Далю.

– Шукай Алму, сястру сваю. Вяртайцеся дадому. Нясіце Веру Хрыстову.

Тонкі спеў сяльцовых манашак, даносячыся з далечы, усё яшчэ прасіў у Царыцы нябеснай літасці і заступніцтва для полацкіх паломнікаў. Па шчоках ігуменні, пакідаючы сляды-шнарочкі, каціліся ўспаміны, на вуснах ценілася ўсмешка сустрэчы.

Полацкае пасольства блізілася да горніх разлогаў, і Хамсін, здалёку паслаўшы ігуменні песню Іудзейскай пустыні, кінуўся назад да берагоў, упаў на цёплае Сяродземнае мора.

— Як жа доўга ішла ты да Нас, дачка.

— Як жа хутка дасталася я да краю зямнога...

...Душа падступалася да Варотаў пад аховаю вяршніцы ў доўгай драцяной сарочцы з шырокімі наплечнікамі; боты ваяркі абвівала празрыстае мігатлівае полымя. З-пад шалома выбіліся і хваляй развеяліся ў нябесных віхрах густыя цёмныя валасы. Не адстаючы ад свае ігуменні, светлалікая агненніца ледзь кранала павады, і конь, нават не падносячы тонкіх ног с зацістымі падковамі, ляцеў разам з анёламі яшчэ вышэй, плыў у трапяткіх струменях горняй вышыні, спасцярожліва абмінаючы шырока расхіленыя крылы нябеснага жыхарства, сярод якога — ці не хлусяць вочы?, можна было лёгка прызнаць юнага кніжніка. Летапісец трымаў, развінуўшы крылы, ледзь бачнае пяро, запісваў на пергамінах белых аблачын ісціну, што ўсё напісанае дзеля славы Божае ніколі не знікае. Імкнуў разам з ігуменняй у тую бязмежнасць, з якой лілося, убіраючы ў сябе нават нябесныя зоркі, магутнае святло.

1998- 07.01.2006 г.г.

*Гістарычны дадатак*

862 Згодна гістарычным крыніцам чатыры усходне-славянскія племені, у тым ліку і полацкія "крывічы" запрасілі на княжанне Рурыка з дружынаю варагаў-русі.

867 Адзін з ваначальнікаў Рурыка захапіў Кіеў. Заваладаў таксама Полацкам, пакінуўшы яму адміністратыўную самастойнасць.

975 Легендарны валадар полацкіх земляў князь Рагвалод ( Рангвальд) у процістаянні паміж ноўгарадскім князем – рабычычам ( сынам рабыні Малушы) Уладзімірам Святаслававічам і яго зводным братам Яраполкам падтрымаў апошняга, аддаючы яму ў жонкі і сваю дачку Рагнеду. Аднак Уладзімір, тады яшчэ паганец-язычнік, заваяваўшы Полацк, знішчае прадстаўнікоў мясцовай няжай дынастыі і гвалтам бярэ ў жонкі Рагнеду Рагвалодаўну, вядомую псля пад сваім славянскім іменем Гарыслава.

975 – 978 Нараджаюцца сыны Рагнеды і Уладзіміра Ізяслаў і Яраслаў. Пазней Рагнедаю будуць народжаны і іншыя дзеці – Усевалад, Мсціслаў, Прамíслава, Прадслава.

980 Уладзімір Святаслававіч пры падтрымцы варагаў, палачан і наўгародцаў авалодвае сталіцаю старажытнай Русі Кіевам. Падаслаўшы да брата Яраполка наёмных забойцаў, жэніцца на ўдаве, грачанцы Анне. Сын Анны Святаполк будзе названы апасля Акаянным. Уладзімір, зваяваўшы такім чынам кіеўскі сталец, займае яго ажно трыццаць пяць гадоў.

988 Паводле летапісных сведчанняў вялікі князь Уладзімір Святаслававіч ( у народзе" чырвонае сонейка"), развітаўшыся з мнагажэнствам, прымае святое хрышчэнне з іменем Васілій. Тады ж, а, магчыма, і раней, становяцца вернікамі-хрысціянамі Рагнеда з сынам Ізяславам. Прыняўшы хрысціянства, князь Уладзімір раздае вотчыны сынам. Прычым, Ізяслаў вяртаецца на радзіму, дакладней, у Ізяслаў-горад ( сучаснае Заслаўе), успадчаны апасля, разам з усім полацкім княствам ягоным сынам Брачыславам.

992 У Полацку заснавана епархія начале з епіскапам, пасланым кіеўскім мітрапалітам Міхаілам. Паводле меркавання даследчыкаў, у тым ліку Аляксея Мельнікава, тамтэйшая хрысціянская абшчына, магчыма, узнікла яшчэ падчас духоўнай дзейнасці раўнаапостальнай княгіні Вольгі: ускосным сведчаннем таго могуць лічыцца рэшткі – знойдзеныя пасля пажара 975 года – драўлянага храма, на месцы якога быў узведзены каменны Сафійскі сабор X11 стагоддзя. Аб першых этапах станаўлення хрысціянства ў

Полацку апавядае адно са скандынаўскіх гістарычных паданняў. Галоўны герой гэтай " Сагі пра хрышчэнне – святы Торвальд, у 1000 годзе прынёс веру хрысціянскую ў ісландскія землі, пасля чаго здзейсніў паломніцтва ў Канстанцінопаль і Ерузалім, вяртаючыся адкуль праз Кіеў, супачыў блізу Полацка, дзе ўжо існаваў храм у імя святога Іаана Прадцечы. На месцы тым ужо ў Х11 ст. узнік манастыр.

1000 Закончылася жыццё Рагнеды-Гарыславы, якая прыняла ў Ізяслаўскім манастыры пострыг у манаства пад іменем Анастасія. Праз колькі месяцаў памірае і яе сын Ізяслаў Уладзіміравіч (у 25 гадоў), пакінуўшы на Полацкім стальцы сыноў Брачыслава і Усяслава І; апошні памірае ў малалецтве.

1005 Рускі мітрапаліт Нікіфар рукапалажыў у епіскапы полацкага свяціцеля Міну, прылучанага да асяродку беларускіх святых.

1101 Смерць Усяслава ІІ (15 красавіка.)

1007 Пачатак адбудовы Полацка і перанясення ў старую царкву Нараджэння Багародзіцы рэліквій, ікон, святых мошчаў Торнвальда, Рагнеды-Анастасіі. Ізяслава, Усяслава І.

1008 У Кіева-Пячэрскай лаўры пабудавана трапезная, куды князь Мінскі Глеб даў 600 грывен серабра і 500 грывен золата.

1015 Канчына святога раўнаапостальнага Уладзіміра і пачатак міжусобных дынастыйных войнаў, у якіх князь полацкі Брачыслаў удзелу не прыймае.

1021 Вяртанне князю Брачыславу гг. Віцебск і Усвяты. Згодна той жа дамове паміж Брачыславам і яго кіеўскім дзядзькам вялікім князем Яраславам, у Кіеве створана Полацкае падвор'е-консульства "Брачыславаў двор."

1028 Нараджэнне Усяслава ІІ, званага ў народзе Чарадзеем, з чыім іменем звязаны асаблівы, для развіцця дзяржаўнасці іхрысціянства на полацкіх землях, перыяд.Усяслаў ІІ., паводле летапісных сведчанняў, быў позьнім дзіцем князя Брачыслава і адной з яго жонак з плямені водзь, за якім вадзілася слава валхвоў. Нараджэнне Усяслава ІІ лічылася цудамяшчэ і па той прычыне, што на галаве дзіцяці існавала "язвеня".

1044 Смерць Полацкага князя Брачыслава і ўступленне на на сталец ягонага сына князя Усяслава ІІ ( Чарадзея"), які сустрэў смерць бацькі ў пару сталага паўналецця, што і дазволіла яму ўрэшце распачаць рэалізацыю стваральнага парыву – пачаць узвядзенне ў Полацку Сафійскага сабора. ( 1067) З канца 1065-66 гг. Імя князя ўжо не сыходзіць са старонак тагачасных летапісаў:

Няўтомны палачанін здзяйсняе шэраг паходаў на Пскоў і Ноўгарад, вывезшы з Ноўгарада ў Полацк панікадзілы і званы.

1066 (зіма) Вялікі кіеўскі князь Ізяслаў Яраслававіч з братамі Святаславам і Усеваладам раўняюць з зямлёю Менск, а 10 сакавіка разбіваюць войска палачан на Нямізе, у выніку чаго Усяслаў з сынамі просіць міру і прыязджае для заключэння ўмоў капітуляцыі ў памежную Оршу. Але яго з двумя сынамі кідаюць у поруб" Брачыславага двара".

1068 Полаўцы разбіваюць войска Яраславічаў на р. Альце; кіеўляне, падняўшы бунт, ставяць вялікім князем, вызваліўшы з порубу, Усяслава Чарадзея (княжыў 14 месяцаў). Аднак Ізяслаў бяжыць за дапамогаю Польшчу,і праз сем месяцаў прывёўшы войска. Полацкі князь – зноў спехам вяртаецца на радзіму маці ў Полацк, дзе княжыць кіеўскі Святаполк (сын Ізяслава). Наступныя гады – перыяд змагання Усяслава за дзяржаўную незалежнасць Полаччыны, асабліва падчас войнаў з суседзямі – Смаленскім княствам і ноўгарадцамі. ( княжанне Усяслава трывае да 1069 г)

1092 У Полацку страшная эпідэмія чумы, жах якой спазналі таксама такія плямёны, як семігалы, куроны, лівы, літоўцы, у нізоўях Заходняй Дзвіны, месцічы гарадоў-калоній Герцыке, Кулейня.

1094 Уладзімір Манамах выдае сваю дачку князёўну Сафію за віцебскага князя Святаслава-Георгія (бацькі найпадобнай Еўфрасінні).

1101 Смерць Усяслава Чарадзея. Сыны: Рагвалод-Барыс, Раман, Глеб, Давыд, Расціслаў, Святаслаў- Георгій.

1104(?) Нараджэнне ў Святаслава-Георгія дачкі Прадславы. Іншыя дзеці – Васілька, Градзіслава, Вячаслаў, Давыд (?).

1105 Рускі мітрапаліт Нікіфар рукапалажыў у епіскапы полацкага свяціцеля Міну, прылучанага да асяродку беларускіх святых.

1101 Смерць Усяслава II ( 14 красавіка), які, на думку пісьменніка І. Буніна напрыканцы жыцця прыняў схіму.

1116 Прыход князёўны Прадславы ў Заслаўскі манастыр. Пострыг князёўны пад іменем Еўфрасіння.

(28 лютага)

1116 Уладзімір Манамах у змове з чарнігаўцамі і, магчыма, некаторымі полацкімі князямі, у тым ліку Святаславам-Георгіем, наносіць паразу Глебу Мінскаму.

1119 Мінскі валадар Глеб Усяслававіч робіць няўдалую спробу зваяваць Смаленск: Мінск і вакольныя, у тым ліку заслаўскія,

пасяленні руйнуюцца, што змушае манашку шукаць прытулак у Полацкай Сафіі.

1125-26 Смерць вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Манамаха і перыяд палітычнай нестабільнасці.

1126 Перадача епіскапам Іллёю Еўфрасінні метахіі ў Сяльцы. (19 жніўня). Заснаванне жаночага манастыра Святога Спаса. (блізу 1125-1150) Еўфрасіння бярэ ў манастыр на навуку малодшую сястру Гардзіславу (Еўдакію).

1126 Пасля смерці ў Кіеве Уладзіміра Манамаха вялікі полацкі князь Барыс адракаецца ад стальца на карысць брата Давыда, аднак палачане, праз год, абіраюць на сталец Рагвалода Барысавіча.

1128 Паміраe князь Барыс Усяслававіч. Міжусобіца. У манастыры — стрыечная сястара Еўфрасінні Звеніслава (Еўпраксія).

1129 Паход вялікага кіеўскага князя Усяслава Уладзіміравіча на палавецкага хана Баняка.

1129 Высылка у Царгорад полацкіх валадароў, сярод якіх — князі Давыд, Расціслаў, Святаслаў-Георгій, а таксама Равалод, Васіль, Іааан.

1132 У Полацку князь Святаполк Мсціслававіч. Княжы сталец займае брат Еўфрасінні Васілька. Будаўніцтва манастыра і царквы Спаса.

1139 Вяртанне ў Полацк з Візантыі дзяцей Рагвалада-Барыса Васіля і Івана, прыезд з Грэцыі святара Казьмы, які праз колькі гадоў стае полацкім епіскапам.

1146 Паміраe вялікі кіеўскі князь Усевалод Ольгавіч. На вялікім прастоле Ізяслаў Мсціслававіч.

1148 Смута ў Кіеўскай метраполіі.

1147 Паміраe кіеўскі смітрапаліт Міхаіл. Новы рускі іерарх – Клімент Смаляціч, манах Зарубскага (пад Копысем) манастыра.

1151-57 Полацкае веча перыядычна запрашае на сталец Рагвалада і Расціслава Глебавіча.

1157 Асвячэнне царквы ў імя Успення Багародзіцы. Закладанне Свята-Успенскага мужчынскага манастыра.

Пасольства ў Канстацінапаль намесніка Свята-Успенскага манастыра Міхаіла.

1159 Замах на Расціслава Глебавіча ў дзень Святога Пятра.

1160 Жнівень – вяртанне пасольства ў Полацк.

1161 На Полацкім стальцы пляменнік Еўфрасінні Усяслаў Васількавіч. Стварэнне манахам Успенскага манастыра Лазарам Свята-уздзвіжанскага крыжа. ЦарькваСвятога Спаса атрымлівае ад Еўфрасінні знакаміты крыж.

1167 Паломніцтва ў Ерузалім ( зіма-вясна).

23-24 мая Канчына святой найпадобнай Еўфрасінні Полацкай.

**ЗМЕСТ**

*“ Любоў – шата твая з правай рукі твае.*
*Удзень сонца не заб’е цябе, ані месяц – уночы.*
*Любоў будзе ахоўвацьТвой выхад і ўваход. Ад сёння і вечна.*
*Пахвалі ж любоў чалавечую гукам трубным.*
*Пахвалі яе струнамі і кімваламі гучнагалосьымі.”*

*“ Хваляць любоў на зямлі вялікія рыбы і ўсе прадонні,*
*Агонь і град, снег і туман, буйны вецер, які напаўняе*
*Слова Господняе. Хваляць горы і ўсе пагоркі, дрэвы*
*плодныя і ўсе кедры,звяры і ўсялякая жывёла, паўзуны*
*і птушкі крылатыя. Цары магутныя і ўсе народы*
*князі і суддзі зямныя, вотракі і юніцы, старцы*
*і падлеткі.. Хваляць усе любоў...”*

*І закоўвала любоў мяне ў путы жалезныя. І меч двухсечны — у руцэ любові.*

*І заціскала, пяшчотнае, у кайданы сэрца маё, і клявала, вастрадзюбае,*

*пячонку маю. І хваляць любоў усе анёлы. Хваляць усе войскі Госпада.*

*Хваляць нябёсы нябёсаў, і воды, якія вышэй за неба....”*

*“ Над рэкамі Вавілона, там, сядзела, з плачам, любові любоў.*
*Бо руйнуюць любоў ужо. На вебах павесіла я арфы свае.*
*А тыя, што мяне паланілі, і песняў, і весялосці патрабавалі.*
*Як жа спяваць мне,скажы, калі ў сэрца атруту здрады і*
*хлуслівасці ўлілі?*
*Няхай жа прыліпне язык мой да нёба,*
*калі помніць цябе не буду...Калі ж пайду сярод нелюдзяў,*
*Ты ажывіш мяне, пашлеш на здрайцаў руку моцную.*
*І ўратуе мяне правіца...*

*Чулі пра Любоў у Эфраме.*
*Знайшлі яе на палях Ярыма...Святары Любові твае*
*Апранаюццаў праўды праменне.”*
*“Кідае на мяне град свой каханне кавалкамі.*
*Перад марозам яго хто выстаіць? О, любове!*
*Пашле слова сваё любоў на зямлю,— так хутка цячэ*
*слова агністае.*
*Вочы любові сустракаюць ранішнюю варту,*
*глыбляцца ў слова Господняе.”*

*“ О, любове! Апрамень рабыню тваю святлом аблічча свайго...*

*О, любове, ты маё покрыва і шчыт мой, на слова тваё спадзяюся.*

*Падтрымай мяне, любове, і ўратуюся і ў прорве пякельнай.*

*Умацуй мяне Словам, і буду жыць. Не пасаромі мяне ў надзеі маёй.”*

*“ Без любові як хваля ты, якую вецер*
*гоніць, распырсквае. Без любові*
*спакушана будзеш страсцю-пажадаю,*
*а пажада, зачаўшы, родзіць грэх.*
*Ці на неба чалавек узыйдзе – і там любоў.*
*І ў апраметную рыне – любоў знойдзе.*
*Ці возьмеш крылы зары і пераселішся на край неба*
*– любоў сустрэнеш там.*
*Уладжана любоў і ў вантробы твае.*
*Выткала любоў цябе ў чэраве маці тваёй.*
*Зародак чалавечы бачылі вочы любові.*
*Не схаваны былі ад любові косткі*
*чалавечыя, калі іх у таямніцы стваралі,*
*калі складалі іх з глыбіні нутрыны.”*

*“ Сколькі жыццяў, любове, апладняеш ты!*
*Ці ж палічыць можна, калі болей іх,*
*чым лістоты ў ліпцавым кветніку;*
*Ці ж палічыць можна, калі болей іх,*
*чым пясчынак у жвіры хаўтурным...”*
*“ Без любові як хваля ты, якую вецер*
*гоніць, распырсквае. Без любові*
*спакушана будзеш страсцю-пажадаю,*
*а пажада, зачаўшы, родзіць грэх.*
*Ці на неба чалавек узыйдзе – і там любоў.*
*І ў апраметную рыне – любоў знойдзе.*
*Ці возьмеш крылы зары і пераселішся на край неба*
*– любоў сустрэнеш там.*
*Уладжана любоў і ў вантробы твае.*
*Выткала любоў цябе ў чэраве маці тваёй.*
*Зародак чалавечы бачылі вочы любові.*
*Не схаваны былі ад любові косткі*
*чалавечыя, калі іх у таямніцы стваралі,*
*калі складалі іх з глыбіні нутрыны.”*

*“ Сколькі жыццяў, любове, апладняеш ты!*
*Ці ж палічыць можна, калі болей іх,*
*чым лістоты ў ліпцавым кветніку;*
*Ці ж палічыць можна, калі болей іх,*
*чым пясчынак у жвіры хаўтурным...”*
*“ Уратуй, Божа, бо косці мае, бы сякерай, расшчэплены на трэскі;*
*і замутнены вочы спакусамі, мацнейшымі за розум. Злітуйся,*
*бо, перамагаючы, ачышчаюся, Ойча. І небаўзношуся*
*енкамі сваймі. Схіляюся перад выглядам Тваім, Госпадзі,*
*што падобны да каменя яспісу і сардысу і смарагду вясёлкавага.”*
*“ Але будзь літасцівым да пакутаў рабыні Твае і ўратуй, Госпадзі.*
*І кінь мяне, грэшную, пад сандалі Апосталаў, каб прайшлі*
*па рэбрах маіх, выціскаючы з вінаграду красы і маладосці*
*спелы сок для Тваіх каўшоў. І няхай пройдуць па ўкрыжаваным*
*шале рабыні твае з Полацку Дзевы-мiраносіцы, і ссукаюць*
*з гарачых жылаў ніткі, якімі будуць сшываць крылы белых Анёлаў.*

Ноч разлягалася над зямлёю зорным покрывам

*Злітуйся, Госпадзі, аддаючы ва ўладу злога раба са смуроднай*
*сукравіцай, але ж не праганяй з-пад аслоны ценю Твайго.*
*І згарні ўздыханні мае бяссонныя, Ойча, у пялёсткі і лістоту*
*кветнікаў і садоў, у нарды і шапраны, цынамоны і лілеі,*
*побач з якімі ўчарнеюць і асыплюцца попелам жарсці грахоўныя.*
*І ўбі ў горла маё светланосныя слупы позірку Твайго,*
*каб крык мой пачулі ўсе, хто пакутуе ў цішы ад затоенага шалу.*
*Распалі ногі мае, Жаніх нябесны, да белага ззяння, каб*
*магла паўстаць да воблакаў, у якіх прагну стапнець, Ойча.*
*Апалі ж мяне светачамі вогненнымі!”*
*“Ойча літасцівы, Суцяшыцель наш, пачуй і літасць Сваю даруй.*
*Бо прагну даўно, каб рыбакі Твае закідвалі сеці ў вочы мае,*
*якія стварыў такімі глыбокімі і гожымі, як Іярданскія прадонні,*
*ахінутыя густымі ачаротамі павекаў. І няхай прыносяць, Божа,*
*тыя сеці да ног Тваіх адно залацістых рыбін любові і шаўковыя*
*водарасці вечнай пакуты аб Табе. І няхай плакальшчыцы Твае,*

*Госпадзі, збіраюць слёзы мае мройныя ў бяздонныя чаны*
*мудрасці Твае.*
*Бо даўно прашу я, — з Полацку ігумення Еўфрасіння:*
*Ззлітуйся і пагавары, Ойча, з адчаем і болем маім на мове*
*мудрай спагады Сваёй. Увядзі мяне ў кузню Сваю, Ойча,*
*і сэрца распалі агнём, каб зліць з адхлання нявольніцы Твае*
*срэбныя званочкі для кашары Пастуха! Куды ні кінецца якая*
*аблудная авечка — зазвініць званочак, папярэдзіўшы:*
*"Схамяніся і вярніся да Айца!"*

Слёзы каціліся, апякаючы, па шчоках.

" *У берагавыя жылы мае і гарачыя струмені крыві, Ойча, што брыняць*
*праз цела спакутаванае, пералі людскія сны вар'яцкія, пажадныя,*
*каб патапляліся на дне. Пералі поты мае ў строму тае ракі,*
*дзе захлынацца будуць тысячаротыя, старукія пачвары бруду і хлусні!"*

Ішла, адчуваючы, як з усіх бакоў пачынае блізіцца і біць у сэрца злая смяротная пагроза, што ўжо цікавала за ёй з усіх кутоў млоснай і гарачай ночы.

— *"Госпадзі, скажы ловам Сваім, каб паставілі пасткі для пажадлівых*
*рук маіх, бо прагну ведаць толькі пяшчоту міласэрнасці Твае.*
*І зрабі сіло для вуснаў-птушанят, каб адно зерне каласістых снапоў*
*Тваіх спажываць маглі. Сыпні ж зерне мудрасці рукою шчодрай.*
*Ратуй, ратуй, Ойча. І аратыя Твае няхай засеюць два белыя пагоркі*
*грудзей дзявочых краскамі і ружоваю канюшынаю на спажыву*
*пчолам нябесным, каб услодычылі соты Боскія!"*

Спяшала, не азіраючыся: дарога бялела камякамі, што пад яе нагамі з шархаценнем рассыпаліся ў дробны пясок.

*"Каб выкасілі, скажы, касцы траву паміж белых слупоў тых,*
*што ўрастаюць у нутро маё вечным плодам жыцця і смерці,*
*каб было чым Айцу карміць асліцаў у дарозе вечнай…"*

На скроні павеяў свежы вецер: набліжалася раніца. І адразу ж — рэзка спынілася, адчуўшы, што пагроза, дзікая і смяротна небяспечная, ужо зусім блізка. Конская храпа мякка ткнулася ў спіну. Слых зноў улавіў пажадны і такі недарэчны смех, што быццам здзекаваўся.

“Чаму не хочуць зразумець людзі, што не так зямная валасяніца балючая, хоць абгрызае да крыві грудзі і плечы, але найстрашней тая, сплеценая з салодкіх цянётаў пажада, што ўліваецца ў цела з першародной крывёю і выплюхваецца з нутра млосцю?Парваўшы зямныя шнуры, ляцяць душы да тых спакусаў, што пануюць у паднебных прасторах, дзе пераплятаюцца рукамі і зліваюцца целамі нашы прымары.

Ці бачыў Ты іх, Ойча, ці не ўскіпала ад болю сэрца Тваё? Бо найстрашнейшы гэта грэх — слодыч мройных плоцезлучэнняў!"

Стаяла перад начной цемраю, у якой знікаў вузенькі, сціснуты хмызнякамі, прасцяг:

*“Зрабі з рук маіх спакушаных, Ойча, жэрдкі для масту ад гэтай зямлі, на якой стаю, да воблака, на якім Прастол Твой, каб ляцелі па масце да святых ног, бы коні акрыленыя, толькі ўздыхі нашы і пакаянні. Ратуй мяне, ратуй, Міласэрны.*
*І дай выпрабаванне, каб змагаць мяцяжы душы і пустаслоўе, і аблудлівасць праз доўгія леты.*